


Беларускі інстытут навукі й мастацтва




**Бібліятэка Бацькаўшчыны**

Міжнароднае грамадскае аб’яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 28

**НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА, ЛЯВОН ЮРЭВІЧ**

# РАДА БНР 1982-1997

## ПАДЗЕІ. ДАКУМЕНТЫ. АСОБЫ

Мінск
«Кнігазбор»
2015

# *Раздзел I*
# РАДА БНР ПРЫ ЯЗЭПЕ САЖЫЧУ
*Гістарычны нарыс*

## ПЕРАЕМНІК

Папярэднія перыяды пасляваеннай гісторыі Рады БНР засведчылі выключную важнасць асобы яе старшыні. Пры выразнай абмежаванасці кадравага патэнцыялу праца кіраўніка часта і складала асноўны змест дзейнасці (або прычыну бяздзейнасці) Рады. І перыяд старшынёўства Язэпа Сажыча не стаў выключэннем.

Нагадаем, новы старшыня быў абраны на пасаду 27 лістапада 1982 г. на 17-й сесіі Рады БНР, калі Вінцэнт Жук-Грышкевіч з прычыны ўзросту і слабога здароўя склаў з сябе паўнамоцтвы. У выніку пакутлівага пошуку новага кандыдата і галасавання без уліку самаадводаў новым старшынёй нечакана шмат для каго, асабліва для папярэдняга кіраўніка, стаў ранейшы сакратар спраў ветэранаў Язэп Сажыч.

Каб зразумець згаданы выбар радных варта звярнуцца да біяграфіі дзеяча. Язэп Сажыч нарадзіўся 5 верасня 1917 г. і на момант абрання меў 65 гадоў і статус пенсіянера, што давала дадатковыя плюсы для грамадскай актыўнасці.

Паходзіў новы старшыня з вёскі Гарадзечна (сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобласці) і быў земляком шмат каго з радных БНР. Стары дзеяч Аляксандр Стагановіч паўжартам казаў пра своеасаблівую «навагрудскую мафію» ў Радзе БНР. І сапраўды, на пачатку 1980-х сярод радных нараджэнцамі былога Навагрудскага ваяводства былі: Барыс Данілюк, Янка Жучка, Янка Запруднік, Васіль Кендыш, Кастусь Мерляк, Уладзімір Набагез, Міхась Наўмовіч, Аляксандр і Наталля Орсы, Ала Орса-Рамана, Васіль Пляскач, Барыс і Людміла Рагулі, Васіль, Галіна і Уладзімір Русакі, Аляксандр Стагановіч, Лявон Трусевіч і некаторыя іншыя. Шмат з кім з землякоў, асабліва з Барысам Рагулем, Уладзімірам Набагезам ды Васілём Плескачом, Язэп Сажыч быў блізка знаёмы яшчэ з даваеннага часу.

Будучы старшыня Рады БНР згадваў пра тое, што сям’я яго была вельмі бедная. Бацька рана памёр і сын мусіў узяць на сябе гаспадарчыя клопаты. Але дзякуючы нечаканай дапамозе ад войта Язэп Сажыч змог пайсці вучыцца: *«Пасьля таго як зачынілі беларускую гімназію, перайшоў у навагрудзкую польскую гімназію, плаціў толькі 25 працэнтаў ад сумы. Я быў*

*найбяднейшы з усіх хлопцаў. За гады навучаньня ў гімназіях не знайшоў магчымасьці купіць аніводнай кнігі — пазычаў у багацейшых сяброў. Гімназія мела лінгвістычную скіраванасьць, шмат вучылі на памяць. Я перапісваў на паперку і, ідучы дадому (дзесяць кілямэтраў штодня), вучыў на памяць. І цяпер шмат лацінскамоўных твораў памятаю. Здараецца, як пачнем з Набагезам дэкляраваць па чарзе…»*[1].

Калі пачалася Другая сусветная вайна, Язэп Сажыч апынуўся з польскім войскам на фронце, быў паранены і трапіў у нямецкі палон. Пасля лячэння ў Лодзі і вызвалення з палону ён вярнуўся на радзіму, дзе не застаўся надоўга, папярэджаны знаёмым пра небяспеку ад мясцовай савецкай улады. Скіраваўся ў Львоў, паступіў на ўлікова-эканамічны факультэт мясцовага ўніверсітэта і паспеў паспяхова правучыцца тры семестры. Праз гады дзеяч згадваў: *«…нацыяналістам я стаў менавіта ў Львове. Калі жылі пад палякамі, пра незалежнасьць і ня марылі: нейкія правы, аўтаномія і ўсё. А ў сяле пад Львовам бачу: дзяўчаты выцягваюць з-пад куфраў нацыянальныя “жоўта-блакітныя” сьцягі, усе сьпяваюць, сьвяткуюць — нацыянальны ўздым калясальны. Божа, думаю, а ў нас што?.. Украінцы мяне пытаюць, якія сьцяг і гімн у Беларусі, а я чырванею — ня ведаю… Нават вусаты селянін-украінец, калі пачуў адказ, адкуль я прыехаў, сказаў: “Дык ты ж ліцьвін!” Гэта мяне страшэнна ўзварушыла»*[2].

У часе нямецкай акупацыі Язэп Сажыч вярнуўся на Наваградчыну, дзе ў хуткім часе з падачы Барыса Рагулі стаў займацца рэалізацыяй ідэі стварэння беларускага войска. Быў прызначаны камандзірам падафіцэрскай школы Самааховы ў Наваградку, потым стварыў чыгуначны батальён у Лідзе, навучаў жаўнераў, што пазней ахоўвалі станцыі. Пра сваю дзейнасць у тыя часы Язэп Сажыч згадваў: *«Мяне накіроўвалі з аднаго месца ў другое: Маладзечна, Стоўбцы… У кожным я меў па 200–300 хлопцаў для вучобы. У суме я перашколіў каля 2500 жаўнераў. […] Гадаваў іх у патрыятычным рэчышчы, рабіў заклікі хапаць зброю і бараніць Бацькаўшчыну. Мала хто ведае, што я зьяўляюся аўтарам некалькіх знакамітых вайсковых песень, падбіраў да іх мэлёдыі. Пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, з “Пагонямі” мае хлопцы маршыравалі і сьпявалі патрыятычныя песьні. Лішнім будзе казаць, што размаўлялі мы толькі па-беларуску»*[3]. Той імпэт працы з вайскоўцамі Язэп Сажыч захаваў і пасля выезду з Беларусі ў 1944 г. У Берліне, Усходняй Прусіі, Баварыі ён займаўся вайсковымі справамі па скіраваннях Беларускай цэнтральнай рады. Дый пазней, ужо ў ЗША, следам за ранейшай цікавасцю дзеяч узяў на сябе ветэранскую працу ў Радзе БНР.

---

[1] Адзінец, Аляксандр. Беларуская эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. Мінск, 2007. С. 345–346.

[2] Адзінец, Аляксандр. Беларуская эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. С. 348.

[3] Адзінец, Аляксандр. Беларуская эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. С. 350.

Яшчэ ў нямецкім Марбургу Язэп Сажыч скончыў медыцынскі факультэт. У 1950-я перабраўся разам з жонкай Барбарай Мазурай у ЗША і ў Дэтройце да пенсіі працаваў анестэзіёлагам.

Ад самага прыезду ў ЗША Язэп Сажыч стаў займацца грамадскай дзейнасцю, быў актывістам Беларуска-амерыканскага задзіночання, адным са стваральнікаў парафіі Святога Духа БАПЦ у Дэтройце. На момант абрання на пасаду старшыні Рады БНР дзеяч быў вядомы як кіраўнік былых беларускіх вайскоўцаў у Амерыцы. На яго рахунку — дзясяткі праведзеных мерапрыемстваў. Варта згадаць, што ў часы Вінцэнта Жук-Грышкевіча ветэранскі кірунак у Радзе быў хіба не адзіным стабільна дзейным.

Такім чынам, абранне Язэпа Сажыча на пасаду старшыні Рады БНР стала вынікам ягонай ініцыятыўнасці і актыўнасці на пасадзе сакратара ветэранскіх спраў. Да таго ж ён не быў гэтак моцна перагружаны грамадскай працай, як Янка Запруднік ці Антон Шукелойць. На абранне старшынёю Рады БНР Язэп Сажыч згадзіўся, разумеючы ганаровасць і складанасць місіі. Значна пазней ён згадваў: *«Шчыра кажучы, я не зьбіраўся займацца палітыкай. Аднак у 1982 г. мяне нечакана абралі на пасаду старшыні Рады БНР. Хоць былы старшыня Вінцэнт Жук-Грышкевіч мяне не любіў, галасы за мяне падалі 70 % дэлегатаў. Раней Жук-Грышкевіч зрабіў мяне сакратаром па справах вэтэранаў, заўсёды казаў, што палітычна я — няграматны»*[4].

Сапраўды, Язэп Сажыч і паводле характару, і паводле адукацыі, і паводле стылю дзейнасці адрозніваўся ад сваіх папярэднікаў. Ён не быў «кніжнікам», не быў дыпламатам. Новы старшыня — чалавек даволі просты, прагматычны — скіроўваў сваю актыўнасць у традыцыйным для сябе рэчышчы — рэпрэзентацыйнай дзейнасці не вельмі высокага ўзроўню, з якой ён даваў рады найбольш удала яшчэ займаючыся ветэранскімі справамі.

Язэп Сажыч атрымаў у спадчыну ад папярэдніка Раду з наладжанай сувяззю з сектарамі, адносна стабільным, хоць і невялікім фінансаваннем за кошт сяброўскіх складак і ахвяраванняў, але з сур’ёзнымі праблемамі ў цэнтральным кіраўніцтве, найперш — кадравымі. Ад іх вырашэння залежыла перспектыва або захавання традыцыі, калі старшыня бярэ на сябе амаль усю працу Прэзідыума, або пераадолення гэтай практыкі і стварэння эфектыўнага апарату. Зямляцкія сувязі тэарэтычна маглі дапамагчы Язэпу Сажычу ў развязанні кадравых пытанняў. Але гэткія разлікі, калі яны ў некага і былі, разбіліся аб жорсткую рэчаіснасць беларускага эміграцыйнага жыцця 1980-х гг. з яго сур’ёзнымі нутранымі праблемамі.

---

[4] Адзінец, Аляксандр. Беларуская эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. С. 353.

# ПЕРШАЯ КАДЭНЦЫЯ 1982–1988 ГГ.

## Асаблівасці эміграцыйнага жыцця і іх уплыў на нутраныя справы Рады

### *Царкоўны раскол*

Пачатак 1980-х гг. быў адзначаны для беларускай эміграцыі на Захадзе бурлівымі падзеямі ў рэлігійным жыцці. Іх водгукі можна заўважыць ужо на 17-й сесіі Рады БНР 1982 г., калі разам з выбарамі новага старшыні на парадак дня было высунутае пытанне стаўлення Рады да падзей у БАПЦ. Радныя падзяліліся на тых, хто (на чале з былым старшынёй Вінцэнтам Жук-Грышкевічам) лічыў, што не варта мяшацца ў царкоўныя справы, і тых, хто лічыў, што Рада БНР павінна зрабіць усё магчымае, каб перадухіліць царкоўны раскол. Апошнія перамаглі і была прынятая пастанова з вельмі абагульненым сэнсам:

*«1. Рада БНР выражае глыбокае прызнаньне для БАПЦ як праўдзівай і галоўнай апоры рэлігійнага і грамадзкага жыцьця беларусаў на эміграцыі і дэкляруе Ёй поўную падтрымку ў Яе сучасным цяжкім змаганьні за існаваньне.*

*2. Рада БНР заклікае і загадвае ўсім радным БНР захаваць у сучасным канфлікце поўную ляяльнасьць да легітымных уладаў БАПЦ і ў меру сваіх магчымасьцяў памагаць Яе легітымным герархам і сьвятарству ды спыніць усякую помач бунтаўшчыкам і адшчэпнікам.*

*3. Рада БНР уважае ўсякае шкодніцтва ў БАПЦ, бунт супраць кіраўніцтва БАПЦ і адшчэпніцтва ад БАПЦ як здраду Беларускаму Народу. Радныя БНР, якія прынялі актыўны ўдзел у такіх забурэньнях, падлягаюць завешаньню ў правох на год часу, а калі ня спыняць свае разбуральнае дзейнасьці, аўтаматычна губляюць правы раднага БНР»*[5].

Праблема была ў тым, што якраз пытанне легітымнага кіраўніцтва і выходзіла ў БАПЦ на першы план, а сярод радных, як і сярод іншых беларускіх праваслаўных вернікаў на эміграцыі, паступова афармляўся падзел па пытанні вызнання аднаго з двух першаіерархаў БАПЦ.

Гісторыя расколу ў БАПЦ у 1980-я гг. на сёння застаецца недаследаванай і яе вывучэнне не ўваходзіць у нашыя задачы. Аднак для разумення сітуацыі ў Радзе БНР, якая фактычна стала на адзін з бакоў канфлікту, варта тут падаць хоць бы агульную храналогію падзей. Дакументальнымі крыніцамі для яе аднаўлення стануць успаміны Кастуся Мерляка, дзе падзеі расколу пададзеныя даволі падрабязна, а таксама публікацыі на старонках газеты

---

5 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы. Мінск, 2014. С. 217.

«Беларус». Варта зазначыць, што і згаданыя ўспаміны, і допісы ў газеце не пазбаўленыя пэўнай ступені суб'ектыўнасці, бо паходзілі фактычна ад саміх удзельнікаў канфлікту. Аднак успаміны Кастуся Мерляка больш-менш поўна падаюць храналогію, на якую мы і будзем абапірацца.

Перадумовы расколу палягалі, відавочна, у персанальным антаганізме двух кіраўнікоў БАПЦ: архіепіскапа Андрэя (Крыта) і епіскапа Мікалая (Мацукевіча). Гэтыя іерархі атрымалі найвышэйшыя свячэнні амаль адначасова ў 1968 г. у Адэлаідзе з рук тагачаснага першаіерарха БАПЦ уладыкі Сяргея (Ахатэнкі). Праз чатыры гады, у 1972 г., на Другім саборы БАПЦ у Гайленд-Парку (Нью-Джэрсі) пасля смерці ўладыкі Васіля (Тамашчыка) епіскап Андрэй стаў першаіерархам БАПЦ, а епіскап Мікалай — кіраўніком Канадска-Еўрапейскай епархіі БАПЦ. У наступныя гады занятыя кожны сваімі справамі (архіепіскап Андрэй больш апекаваўся беларускімі парафіямі ў ЗША) царкоўныя іерархі працавалі даволі мірна. Праўда, першаіерарху не вельмі падабалася заўважная самастойнасць Мікалая ў царкоўнай дзейнасці. Да таго ж дзеячы мелі розныя погляды на ролю і месца БАПЦ у нацыянальным жыцці беларускай эміграцыі. Епіскап Мікалай, следам за ранейшым уладыкам Васілём, меў шчыльныя кантакты з Радай БНР (хоць і не быў сам радным) і лічыў важным захаванне гістарычнай сувязі БАПЦ з Радай. Уладыка Андрэй быў праціўнікам свецкага ўмяшання ў царкоўныя справы, у тым ліку і з боку Рады БНР (нягледзячы на гісторыю пасляваеннага аднаўлення БАПЦ менавіта пры дапамозе Рады). Безумоўна, гэтая розніца ў поглядах не была адзінай прычынай наступнага канфлікту, але яна, відавочна, адыграла ў ім сваю ролю.

Напружанне ў адносінах царкоўных іерархаў стала нарастаць на мяжы 1970–1980-х гг. Так, 26 жніўня 1979 г. у царкве Святога Духа ў Дэтройце епіскап Мікалай высвяціў на святарства дыякана Івана Бруцкага. Гэтая падзея выклікала незадавальненне з боку ўладыкі Андрэя, які сам раней ужо высвяціў таго самага Бруцкага на святара.

Крыўда першаіерарха вылілася на прыхільніка Мікалая айца Аляксандра Яноўскага, настаяцеля прыхода БАПЦ у Гайленд-Парку. Уладыка Андрэй вырашыў 25 лютага 1980 г. перавесці святара ў іншы прыход у Кліўлендзе, а на яго месца прызначыць таго самага а. Івана Бруцкага. Аднак гэтаму кроку запярэчылі вернікі. Вось як апісвае наступныя падзеі Кастусь Мерляк:

*«4 травеня 1980 году прыхажане з а. Яноўскім заблякавалі ўваход у царкву й ня ўпусьцілі а. Бруцкага маліцца. На сходзе гэтага дня прынялі рэзалюцыю прасіць архіяпіскапа Мікалая, каб ён узяў іхны прыход пад сваю апеку. Ул. Мікалай лістом з 9 травеня назначыў Яноўскага быць надалей настаяцелям.*

*Гэтым дзеяньнем а. Яноўскі не падпарадкаваўся свайму правячаму япіскапу мітр. Андрэю, хаця ён меў справядлівыя апраўданьні, каб надалей аставацца ў Гайленд Парку. Затое Ул. Мікалай, прымаючы прыход з Гайленд Парку пад сваю апеку, парушыў каноны й Статут БАПЦ, адначасна не падпарадкаваўся свайму першаіерарху, парушаючы хрысьціянскую мараль — пакоры.*

*Мітрапаліт Андрэй, прасьледаваны маніяй вялікасьці, ня ўзяў пад увагу людзкіх патрэбаў, ды што гэта Амэрыка, а не царская Расея, адным сказам, аднаго сьвятара перавез, а другога прывез, не зважаючы на ніякія абставіны. Мала таго, мітр. Андрэй лістом з 13 жнівеня 1980 году забараніў служыць й выкрэсьліў з сьпіску БАПЦ з верасьня а. А. Яноўскага»*[6].

Так, прыход БАПЦ у Гайленд-Парку стаў аб'ектам не толькі кананічнай, але і маёмаснай спрэчкі паміж а. Іванам Бруцкім (і ўладыкам Андрэем), з аднага боку, і а. Аляксандрам Яноўскім (а з ім і ўладыкам Мікалаем), з другога боку. Справа з ініцыятывы Бруцкага і яго адваката Валянціна Гарошкі была вынесеная ў Вярхоўны суд штата Нью-Джэрсі. 14–16 кастрычніка 1980 г. адбываўся судовы працэс, вынікам якога стала фактычная адмова суддзі развязаць спрэчку царкоўных іерархаў. Справа засталася нявырашанай[7].

У хуткім часе ўладыка Андрэй пастрыг а. Івана Бруцкага ў манаства, 7 лістапада 1980 г. надаў яму сан архімандрыта, а ўжо 22 лютага 1981 г. — сан епіскапа з імем Ізяслаў. Незадоўга да таго прыхаджане сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне таксама абвясцілі пра сваё жаданне перайсці ў падпарадкаванне ўладыку Мікалаю. Святар Васіль Кендыш (прыхільнік Андрэя) падаў у суд, які зноў нічога не вырашыў[8].

У сакавіку 1981 г. уладыка Андрэй склікаў сабор епіскапаў з удзелам епіскапа Ізяслава, а. Васіля Кендыша, а. Расціслава Войтанкі і адваката Валянціна Гарошкі. На саборы мітрапаліт Андрэй запатрабаваў ад архіепіскапа Мікалая *«пакаяньня і прызнаньня сваіх грахоў»*. А ўжо 16 траўня таго самага года ўладыка Андрэй адлучыў уладыку Мікалая ад царквы[9]. Лішне казаць, што апошні пастанове не падпарадкаваўся, тым болей што меў даволі істотную падтрымку ад вернікаў. У гэты ж час у розных амерыканскіх парафіях БАПЦ (у Дораці, Кліўлендзе, Брукліне) сталі паўставаць канфлікты паміж вернікамі і святарамі па пытанні прыхільнасці да аднаго з уладыкаў. Канфлікты пераносіліся ў суды, якія пераважна не прымалі канчатковых рашэнняў[10].

Раскол не спыніла і смерць ўладыкі Андрэя 21 траўня 1983 г. Наадварот, канфлікт канчаткова аформіўся як змаганне ўладыкі Ізяслава і ўладыкі Мікалая. Цягам траўня — ліпеня 1983 г. у Кліўлендзе і Брукліне адбыліся два надзвычайныя саборы БАПЦ. Першы з іх абвясціў першаіерархам ўладыку Мікалая, другі — уладыку Ізяслава. Праз год, 23–24 траўня 1984 г. паралельна ў Гайленд-Парку і Манчэстэры адбыліся два Трэція саборы БАПЦ, якія гэтаксама вызналі кожны сваё кіраўніцтва БАПЦ. Сабор у Гайленд-Парку

---

[6] Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Праніклівасьць і практычны падыход. Нью Ёрк, 1992. С. 359–360.

[7] Пляскач, В. Крызіс у БАПЦ: што далей? // Беларус. № 301–302. Чырвень – ліпень 1982. С. 4.

[8] Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі… С. 361.

[9] Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі… С. 361.

[10] Мітрапаліт Андрэй далей судзіцца // Беларус. № 301–302. Чырвень – ліпень 1982. С. 5.

абраў Раду БАПЦ на чале з архіепіскапам Мікалаем[11], а сабор у Манчэстэры надаў Ізяславу сан мітрапаліта (на што, як казалі супернікі, не меў паўнамоцтваў) і абраў яго на кіраўніка Рады БАПЦ[12].

Разбіральніцтвы ў свецкіх судах на гэтым не спыніліся. Кастусь Мерляк адзначаў:

*«За восем гадоў япіскапы БАПЦ прычыніліся да фармальных і нефармальных (праслухоўваньне сьведкаў) 31 судовых расправаў. Суды у Амэрыцы вельмі дарагія, нягледзячы на тое, што яны дзяржаўныя. Адвакаты за прысутнасьць на судзе, за падрыхтоўку справы й розыскі патрабуюць неімаверныя сумы. У лісьце да В. Гарошкі Ул. Мікалай падае, што да 1986 году ўжо выдалі 150 000.00 даляраў. Гэтая сума зьяўляецца сьціплай і нерэальнай, аб чым сцьвярджае адв. Гарошка ў зацемцы пад загалоўкам "У парафіі Сьв. Духа ў Дэтройце", зьмешчанай у "Беларускім часе" № 60 за лістапад 1988 г. "Апэляцыя найбольш зможа адцягнуць выкананьне судовай пастановы на нядоўгі час, і гэтае адцягваньне будзе каштаваць адшчапенцам больш за 10 000.00 даляраў". Суды БАПЦ япіскапа Мікалая каштавалі ў суме больш-менш 250 000.00 даляраў, а БАПЦ япіскапа Ізяслава каштавала ня менш, толькі з той розьніцай, што адвакат Гарошка, прынамсі, на палову сумы яшчэ чакае нагоды, каб атрымаць. Ён свой рахунак ужо даўно прадставіў сакратару кансысторыі а. В. Кендышу.*

*Сьвецкія суды БАПЦ можна падзяліць на тры катэгорыі:*

*1. Непадпарадкаваньне сьвятара правячаму япіскапу.*

*2. Пасяг аднаго япіскапа на тэрыторыю другога.*

*3. Каму або да якое епархіі належыць маёмасьць БАПЦ.*

*У першай і другой катэгорыі, судзьдзі ня выносілі канкрэтных пастановаў. Але пасьля сьмерці мітрапаліта Андрэя й пасьля двух сабораў сытуацыя зьмянілася на карысьць мітрапаліта Ізяслава»*[13].

Архіепіскап Мікалай перыядычна выступаў з прапановамі аб мірных перамовах з Ізяславам і пошуку кампрамісу. Так, у 1987 г. газета «Беларус» пісала:

*«Бюлетэнь БАПЦ "Царкоўныя навіны" (№ 5/36, Таронта, Каляды 1987) падаў, што на судзе 24 лістапада 1987 г. Архіепіскап Мікалай выставіў гэткую прапанову:*

*"1. Архіепіскап Мікалай можа прызнаць Бруцкага епіскапам БАПЦ. 2. Ніхто з двух ня ёсьць першым гіерархам. 3. Арх. Мікалай затрымае за сабой парафіі, якія цяпер да яго належаць, а Бруцкі свае. 4. Раду БАПЦ стварыць з удзелам шасьці асобаў з аднаго й шасьці з другога боку. Гэта была-б інстытуцыя, дзе абодва бакі маглі-б дагаварыцца паміж сабой.*

---

[11] Надзвычайны Сабор БАПЦ [Кліўленд] // Беларус. № 311. Чырвень – ліпень 1983. С. 1.

[12] Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі… С. 365.

[13] Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі… С. 366.

*5. Маёмасьць нельга прадаваць бяз згоды абодвух бакоў. 6. Найпазьней за тры гады склікаць Сабор БАПЦ”.*

*“Пасьля паўторнае нарады з Бруцкім, — піша бюлетэнь, — адвакат В. Гарошка адкінуў прапанову архіепіскапа Мікалая…”*

*“Судзьдзя прысудзіў, каб парафія Гайленд-Парку перапісала ўсю рухомую й нярухомую маёмасьць на БАПЦ. І судзьдзя сказаў: “А хто з вас БАПЦ, я ня маю права рашаць. Рашайце самі…” Бюлетэнь выказаў меркаваньне, што «Гарошка надалей будзе судзіцца”»*[14].

Яшчэ праз сем гадоў сітуацыя паўтарылася: *«Бюлетэнь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы “Царкоўныя навіны” (№ 1, Вялікдзень 1995)… піша: “Наша Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква поўнасьцю адасобнена ад Праваслаўнай Царквы, ад усяленскасьці”. “Наша Царква падзелена, нам усімі сіламі абавязкова трэба шукаць шлях да аб’яднаньня і то не марудзіць”. “Архіяпіскап Мікалай згодны на перамовы. Ён будзе ў Гайленд-Парку 21 травеня 1995 г. і просіць Ізяслава, Першага Ярарха другой часткі БАПЦ навязаць лучнасьць на першыя перамовы пра аб’яднаньне. Архіяпіскап Мікалай кажа, што ён ня мае адрасу Ізяслава”.*

*“Пасьля аб’яднаньня, магчыма, і нам прыдзецца ўвайсьці ў малітоўнае саслужэньне з Канстантынопальскім Патрыярхатам”»*[15].

Фактычна раскол трываў да самай смерці ўладыкі Мікалая 20 чэрвеня 2002 г. Толькі пасля таго новы Сабор БАПЦ вызнаў ужо адзіным першаіерархам мітрапаліта Ізяслава.

Цягам усіх згаданых падзей Рада БНР падтрымлівала архіепіскапа Мікалая ў канфлікце. Зразумела, гэта было звязана і з яго ўласнай схільнасцю да кантактаў з Радай, і з наяўнасцю шчыльных асабістых сувязяў паміж уладыкам і кіраўніцтвам БНР. Так, шматгадовае супрацоўніцтва ў заснаванай Мікалаем парафіі Св. Духа ў Дэтройце звязвала яго з новым старшынёй Рады БНР Язэпам Сажычам[16]. Апека над канадскімі беларусамі забяспечыла ўладыку і іх падтрымку ў канфлікце. Былі ў яго прыхільнікі і сярод радных з Нью-Ёрка, Нью-Джэрсі, Кліўленда. Радныя з Еўропы і Аўстраліі таксама пераважна падтрымоўвалі Мікалая, хоць вернікі і парафіі мясцовыя часцей дэкларавалі прыхільнасць да Ізяслава.

Афіцыйная падтрымка Радай БНР уладыкі Мікалая выклікала адыход з яе шэрагу радных, што былі на баку Ізяслава. Так, ужо да сярэдзіны 1980-х гг. спынілі актыўнасць у Радзе а. Васіль Кендыш, Пётра Манькоўскі, Расціслаў Гарошка, Мікола Войтанка, Уладзімір Курыла ды іншыя. Выразна стаўшы на адзін з бакоў канфлікту, Рада БНР, такім чынам, не толькі не змагла выканаць ролю міратворцы, пра якую казалі некаторыя радныя, але, хутчэй, паспрыяла актывізацыі супрацьстаяння і паглыбленню падзелу ў эміграцыйнай грамадзе.

---

14 БАПЦ: прапанова прымірэньня // Беларус. № 343. Студзень 1988. С. 6.

15 БАПЦ: Заклік да яднаньня // Беларус. № 423. Красавік 1995. С. 6.

16 В. А. Дваццацігодзьдзе парафіі ў Дэтройце // Беларус. № 335. Травень 1987. С. 4.

Аналагічна на пазіцыях падтрымкі ўладыкі Мікалая стаяла і газета «Беларус», дзе цягам 1980–1990-х гг. публікаваліся матэрыялы пра падзеі расколу, пададзеныя менавіта бокам Мікалая, яго віншавальныя калядныя і велікодныя пасланні, яго казанні.

Царкоўны раскол, шматлікія судовыя разбіральніцтвы і чарговая ідэйна-рэлігійная палярызацыя беларускай эміграцыйнай грамады негатыўна паўплывалі на грамадскае жыццё беларусаў на Захадзе наогул і на актыўнасць у Радзе ў прыватнасці. Да пашырэння апатыі і насцярожанасці ў асяроддзі суродзічаў спрычынілася і сумнавядомая «справа Лофтуса».

### *«Справа» Джона Лофтуса*

Пачатак 1980-х гг. для амерыканскіх беларусаў акрамя царкоўнага расколу вызначыўся і яшчэ адной непрыемнай, а ў нечым і трагічнай з'явай — абвінавачаннямі беларускіх дзеячаў у супрацоўніцтве з нацыстамі ў час Другой сусветнай вайны. Ініцыятарам абмеркавання гэтай тэмы і распачатых высвятленняў стаў малады амерыканскі юрыст, колішні супрацоўнік Упраўлення спецыяльных расследаванняў аддзела крымінальных спраў Дэпартамента юстыцыі ЗША Джон Лофтус (нар. 1950). У часе сваёй працы ва Упраўленні ён меў дачыненне да матэрыялаў, звязаных з нацысцкімі злачынствамі і «прыйшоў да высновы», што беларусы як нацыя найбольш, у параўнанні з іншымі, спрыялі Халакосту, а амерыканскія спецслужбы пасля вайны незаконна далі прытулак у ЗША тром сотням беларускіх вайсковых злачынцаў-калабарантаў.

Упершыню гэтая інфармацыя была прадстаўленая ў тэлевізійнай перадачы «60 хвілінаў» на канале CBS, што выйшла 16 траўня 1982 г. у ЗША, а на наступны дзень транслявалася ў Канадзе, і зрабіла сенсацыю ў амерыканскім і канадскім грамадстве[17]. Вельмі хутка агучаныя па тэлебачанні звесткі перадрукавалі дзясяткі амерыканскіх, канадскіх, брытанскіх і іншых газет і часопісаў, у тым ліку і такія буйныя, як *«Washington Post», «New York Times», «Daily News», «Toronto Star», «The Gardian», «The Times», «Daily Telegraph»* і шмат іншых. Розгалас пайшоў даволі шырока[18]. Зразумела, што і ў Савецкім Саюзе на старонках перыёдыкаў сталі з'яўляцца паведамленні пра абвінавачанні Лофтуса.

У верасні сюжэт пра «беларускіх нацыстаў» быў зноў паказаны па тэлебачанні, праўда, у крыху карэктаваным выглядзе, з крытычным каментарам ад Дэпартамента юстыцыі[19]. Следам у кастрычніку 1982 г. пабачыла свет кніга Джона Лофтуса «Беларускі сакрэт» (*«Belarus Secret»*), дзе паслядоўна выкладалася яго «тэорыя беларуска-амерыканскай змовы» і пашыраліся аб-

---

[17] Паклёп на беларусаў ЗША // Беларус. № 300. Травень 1982. С. 2.

[18] Editor. «The Nazi connection»: Press coverage // Беларус. № 301–302. Чырвень – ліпень 1982. С. 8; № 303–304. Жнівень – верасень 1982. С. 8.

[19] Rebroadcast of «The nazi connection» // Беларус. № 303–304. Жнівень – верасень 1982. С. 8.

вінавачанні[20]. Кніга мела вялікую папулярнасць, перавыдавалася, як у ЗША, гэтак і ў Вялікабрытаніі (дзе ў тэкст былі адмыслова дададзеныя звесткі пра Скарынаўскую бібліятэку як сховішча нацысцкай прапагандысцкай літаратуры), а таксама ў Францыі пад назвай «Жудасны сакрэт»[21]. У 1985 г. па кнізе быў зняты фільм «Беларускі файл (дасье)», які яшчэ больш пашырыў тэму беларускіх вайсковых злачынцаў у ЗША[22]. Сам Джон Лофтус цягам колькіх гадоў выступаў на канферэнцыях і розных імпрэзах, папулярызуючы свае тэзы[23].

Розгалас пачаў згасаць, калі, вычарпаўшы «беларускую тэму», аўтар стаў шукаць сенсацыі ў іншых галінах, апублікаваўшы кнігі пра змову Ватыкана з нацыстамі, ЦРУ — з іранскімі спецслужбамі ды арабскімі тэрарыстамі. На гэткіх публікацыях ён зрабіў сабе і кар’еру, і бізнес.

Мы не будзем падрабязна спыняцца на аналізе неабгрунтаваных абвінавачанняў, высунутых Джонам Лофтусам у бок беларусаў. Дастаткова сур’ёзныя рэцэнзіі-рэакцыі на яго кнігу былі зроблены Джымам Дынглі[24], Віталём Зайкам[25], аповед пра змест «справы» Лофтуса можна знайсці і ў кнізе Алега Гардзіенкі «Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі»[26]. Спынімся тут пераважна на тым, як закранула сітуацыя менавіта Раду БНР.

Сярод канкрэтных асобаў, што фігуравалі ў кнізе «Беларускі сакрэт» у якасці памагатых нацыстаў, былі колішні прэзідэнт БНР Мікола Абрамчык, радныя Антон Адамовіч, Наталля Арсеннева, Станіслаў Грынкевіч, Аўген Калубовіч, Францішак Кушаль, Станіслаў і Зіна Станкевічы, Вітаўт Тумаш[27]. Намі не выяўлена афіцыйных заяваў ад імя Рады БНР у сувязі са «справай» Джона Лофтуса, хоць пра рэакцыю беларускай грамады і згадваецца ў пратаколе 17-й сесіі[28]. Разам з тым паасобныя дзеячы, у тым ліку і на старонках газеты «Беларус», якую рэдагаваў сябра Прэзідыума Рады БНР Янка Запруднік, выказваліся наконт адрасаваных беларусам закідаў.

Паколькі абвінавачанні Лофтуса былі скіраваныя супраць беларускіх дзеячаў без увагі на іх прыналежнасць да лагера Рады БНР ці БЦР, то і абарона ад згаданых нападак стала агульнай справай амерыканскіх (і не толькі)

---

[20] Loftus, John. Belarus Secret. New York, 1982.

[21] Зайка, Віталь. Стары знаёмы: Яшчэ раз пра фальсіфікацыі Лофтуса // Беларус. № 556. http://belarus8.tripod.com/litvaki/Loftus.htm.

[22] Запруднік, Янка. «Беларуская папка» на тэлеэкране // Беларус. № 326. Люты 1985. С. 4.

[23] Гл.: Дж. Лофтус «інфармуе» // Беларус. № 313. Кастрычнік 1983. С. 6.

[24] Dingley James. Book Review // The Journal of Byelorussian Studies. T. V. № 3–4. Years XIX–XX. P. 58–64. Беларускі пераклад: http://archive.is/c4TF3 .

[25] Зайка, Віталь. Стары знаёмы: Яшчэ раз пра фальсіфікацыі Лофтуса.

[26] Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА). Смаленск, 2009. С. 212–217.

[27] Loftus, John. Belarus Secret.

[28] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970–1982)… С. 210.

беларусаў па лініі бадай усіх найбольш значных грамадскіх арганізацый. Ужо выхад тэлепраграмы «60 хвілінаў», дзе было выкарыстанае скажонае інтэрв'ю раднага БНР Антона Адамовіча, справакавала кампанію пісьмовых зваротаў-пратэстаў ад імя Беларуска-амерыканскага задзіночання, Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, Згуртавання беларусаў Канады, Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады да Дэпартамента юстыцыі ЗША, тэлеканала *CBS* і іншых установаў і сродкаў масавай інфармацыі, што транслявалі абвінавачанні, сфармуляваныя Джонам Лофтусам. Цягам лета 1982 г. ад імя БАЗА былі разасланыя абвяргальныя матэрыялы больш як на 250 адрасоў[29].

Вынікам заяў, агучаных па тэлебачанні і ў кнізе «Беларускі сакрэт», стала правядзенне расследаванняў спецыяльнымі службамі, а таксама юрыдычным аддзелам Кангрэса ЗША. І ўжо ў кастрычніку 1982 г. дырэктар таго самага Упраўлення спецыяльных расследаванняў Дэпартамента юстыцыі ЗША Алан Раян афіцыйна абвясціў, што пададзеныя Джонам Лофтусам факты не пацвярджаюцца, што ўстанова не мае ніякага дачынення да зробленых яго былым супрацоўнікам абвінавачанняў. Аднак паўплываць на СМІ міністэрства не магло[30].

У той жа час лонданскі адвакат і сябра Англа-беларускага таварыства Гай Пікарда звярнуўся з адмысловым запытам да згаданага ў «Беларускім сакрэце» знакамітага выкрывальніка нацысцкіх злачынцаў дырэктара габрэйскага Цэнтра дакументацыі ў Вене Сімона Візенталя (1908–2005) з просьбай пракаментаваць абвінавачанні, агучаныя Джонам Лофтусам. Візенталь адказаў, што не мае дакументаў, у якіх фігуравалі б канкрэтныя прозвішчы асобаў беларусаў-калабарантаў[31].

Закіды, сфармуляваныя Лофтусам, былі арыентаваныя менавіта на заходняе грамадства, дзе падазрэнні ў супрацоўніцтве з нацыстамі заўсёды атрымоўвалі вялікі розгалас. Да таго ж вельмі папулярныя былі сярод насельніцтва розныя варыянты тэорыі змовы, і таму лёгка ўспрымалася і разыходзілася інфармацыя пра здрадніцкую дзейнасць, напрыклад, амерыканскіх спецслужбаў. Таму менавіта на гэтае грамадства была скіраваная найперш зваротная рэакцыя беларускай грамады. Нават на старонках газеты «Беларус» значная частка звязаных са «справай» Лофтуса матэрыялаў друкавалася ў англійскай мове. Праўда, і ўласна беларуская грамада патрабавала інфармацыі пра падзеі, у тым ліку і пра неабгрунтаванасць закідаў да яе былых і цяперашніх лідараў. Так, 29 студзеня 1983 г. на пасяджэнні БІНіМа др. Янка Запруднік прачытаў рэферат на тэму «Дакумэнтацыя падзеяў Другой сусьветнай вайны на Беларусі», які наўпрост быў звязаны

[29] Zaprudnik, Jan. Justice Department finds no Evidens to support J. Loftus' Allegations // Беларус. № 305. Кастрычнік 1982. С. 6.

[30] Zaprudnik, Jan. Justice Department finds no Evidens to support J. Loftus' Allegations…

[31] Ня маем дакумэнтаў // Беларус. № 308–309. Студзень – люты 1983. С. 8.

з кнігай «Беларускі сакрэт». Як паведамляла газета «Беларус», *«дакладчык прааналізаваў бальшыню дакумэнтаў, на якія спасылаецца Лофтус у сваёй кнізе, і паказаў, што Лофтус прадстаўляе падзеі ў хвальшывым сьвятле дзеля незнаёмасьці з матар'яламі, неразуменьня мовы арыгіналаў ды проста дзеля злое волі й намаганьня прадставіць падзеі паводля надуманае схэмы»*[32]. Аналагічны выступ Янка Запруднік зрабіў праз месяц, 26 лютага, у Беларускім грамадскім цэнтры ў Нью-Брансвіку на запрашэнне Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў[33].

Беларуская эміграцыйная грамада, перажыўшы шок ад абвінавачанняў, мусіла з'яднацца яшчэ больш. Аднак складана сцвердзіць, што гэта сапраўды адбылося. Больш за тое, агучаныя Джонам Лофтусам закіды нават выкарыстоўваліся ў згаданым вышэй царкоўным змаганні. Так, Зінаіда Станкевіч, жонка памерлага Станіслава Станкевіча, што стаў адным з галоўных аб'ектаў увагі аўтара кнігі «Беларускі сакрэт», ужо ў жніўні 1982 г. пісала ў рэдакцыю газеты «Беларус»:

*«Мне балюча перажываць і пісаць гэтыя словы, усё-ж вырашыла падаць да агульнага ведама наступнае:*

*Із звароту Архіепіскапа Мікалая да вернікаў (18.VII.82) выявілася, што сьветкі па баку Мітрап. Андрэя, аа. Кендыша і Бруцкага, выкарыстоўваючы паклёпніцкія абвінавачаньні Дж. Лофтусам сьв. пам. Станіслава Станкевіча, цьвердзяць, што Архіепіскапа Мікалая падтрымвае, быццам-бы, група ''нацыстаў'', якую ачольваў Ст. Станкевіч»*[34].

Такім чынам, «справа» Лофтуса была выкарыстаная і ва ўнутрыбеларускім супрацьстаянні, гэтым разам не па лініі Рады БНР–БЦР (бо лідараў апошняй абвінавачвалі ў калабаранцтве не менш, як першай), а ў расколе БАПЦ.

Акрамя справакаванай працы па рэабілітацыі беларускай грамады ў ЗША наогул, актыўнасць аўтара «Беларускага сакрэту» выклікала неабходнасць прайсці праз шматгадзінныя размовы з прадстаўнікамі амерыканскіх спецслужбаў і міграцыйных службаў канкрэтных згаданых у кнізе і яшчэ жывых асобаў. Адной з першых ахвяраў стаў радны БНР і старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва Вітаўт Тумаш, які ў першыя месяцы нямецкай акупацыі Беларусі выконваў абавязкі мінскага бургамістра. Працяглы допыт апісаў ва ўспамінах Вітаўт Кіпель, што выконваў функцыю перакладчыка Тумаша. І хоць следчыя не спасылаліся канкрэтна на Джона Лофтуса як крыніцу кампраметуючай інфармацыі, тое, што падзеі адбываліся напрыканцы 1981 г., наводзіць на думку, што падставай былі менавіта яго яшчэ не агучаныя шырокай публіцы матэрыялы. Вынікам допыта стала зняцце з кіраўніка

[32] Пра дакумэнтацыю падзеяў вайны // Беларус. № 310. Сакавік – травень 1983. С. 5.

[33] Пра дакумэнтацыю падзеяў вайны…

[34] Станкевіч, Зінаіда. У рэдакцыю газэты «Беларусь» // Беларус. № 303–304. Жнівень – верасень 1982. С. 5.

БІНіМа абвінавачанняў, але не толькі. Вітаўт Кіпель выказвае меркаванне, што менавіта перажыты ў сувязі з тым расследаваннем стрэс справакаваў у Вітаўта Тумаша інсульт на пачатку 1982 г., які, прыкуўшы дзеяча да ложка, да канца жыцця выкрасліў яго з грамадскай і навуковай актыўнасці[35].

Цалкам верагодна, што і падзеі вакол Антона Адамовіча, яго сумнавядомага, скамечанага інтэрв'ю, паказанага ў праграме «60 хвілінаў», і таксама працяглых допытаў, уздзейнічалі на здароўе раднага і на яго грамадскую актыўнасць[36]. У 1980-я мы ўжо амаль не сустракаем яго імя ў дакументах, звязаных з дзейнасцю Рады БНР.

«Справа» Джона Лофтуса прыпала на канец кіравання Радай БНР Вінцэнта Жук-Грышкевіча і пачаткі старшынёўства Язэпа Сажыча. Магчыма, менавіта таму, што гэта быў своеасаблівы пераходны перыяд, Рада БНР непасрэдна не заангажавалася ў дзейнасць па супрацьстаянні абвінавачанням. Тым не менш праз гады Язэп Сажыч згадваў гэтую сітуацыю як крытычную: *«А былі вельмі крытычныя мамэнты, развалу яе (Рады) і з боку ўнутраных палітыкаў, і з боку жыдоў і кніжкі Лофтуса пра калябарацыю з немцамі»*[37]. Праўда, потым былы старшыня дадаваў: *«А мяне не чапалі і я не баяўся, бо за часоў нямецкай акупацыі я толькі займаўся арганізацыяй беларускага войска, што можна было вырваць з нямецкіх зубоў»* [38]. І ў іншым месцы: *«Ніколі ня лічыў сябе калябарантам, гаворачы заўсёды, што "з чортам ці бесам падпісваў бы кантракт", дзе было б дазволена мне ўжываць сваю каманду, насіць сваю эмблему, сьпяваць свае патрыятычныя песьні, вучыцца па-беларуску ў школах і т. д., і т. д.»* [39]. Як бы там ні было, але імя Язэпа Сажыча сапраўды не фігуравала ў кнізе Джона Лофтуса.

Такім чынам, «справа» Джона Лофтуса на некалькі гадоў зрабіла беларускай грамадзе негатыўную рэкламу ў заходнім грамадстве. Яна спрычынілася да пэўнай актывізацыі знешняй дзейнасці грамадскіх арганізацый, у якую былі заангажаваныя і найбольш актыўныя радныя БНР: Раіса Жук-Грышкевіч, Івонка Сурвіла, Янка Запруднік і інш. Разам з тым агульная небяспека не ліквідавала нутраны раскол у эміграцыйным асяроддзі, працягнулі самастойнае існаванне і змаганне прыхільнікі БЦР, не спыніў абароты і канфлікт у БАПЦ.

---

[35] Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. Успаміны. Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2015. С. 318.

[36] Гл.: Юрэвіч, Лявон. Сакрэт Антона Адамовіча // Урачыстасць у садзе. Драматургія беларускай эміграцыі XX ст. Мінск, 2007. С. 283–310.

[37] Ліст Я. Сажыча да А. Лецкі ад 25.01.2003. Захоўваецца ў БДАМЛМ. Ф. 356. Воп. 1. Спр. 80.

[38] Ліст Я. Сажыча да А. Лецкі ад 25.01.2003.

[39] Ліст Я. Сажыча да А. Лецкі ад 01.02.2004. Захоўваецца ў БДАМЛМ. Ф. 356. Воп. 1. Спр. 80.

Магчыма, заангажаваўшыся менавіта як дзяржаўная інстытуцыя ў кампанію абароны сваіх грамадзянаў перад абвінавачаннямі Джона Лофтуса, Рада БНР падвысіла б уласны аўтарытэт у беларускім эміграцыйным асяроддзі, а таксама стала б больш заўважнай для замежных дзяржаўных, грамадскіх, медыйных установаў і арганізацый. Паколькі гэтага не адбылося, можна толькі канстатаваць, што Рада пацярпела ад «справы» Лофтуса, як і беларуская грамада наогул, перажыўшы вялікі стрэс і страціўшы ў актыўнасці радных. Зрэшты, да апошняй з’явы спрычыніліся і натуральныя прычыны.

## Унутраная дзейнасць Рады БНР і праблема змены пакаленняў

Ад першага перыяду старшынёўства Язэпа Сажыча засталося небагата дакументальных сведчанняў: некалькі пратаколаў, камунікатаў, справаздачаў старшыні, некаторае ліставанне. З наяўных матэрыялаў складана скласці поўную карціну дзейнасці Рады, і не таму, што гэтай дзейнасці не было, але яна, магчыма, проста мала дакументавалася. Сам старшыня пазней сцвярджаў, што не стараўся фіксаваць інфармацыю пра ўсе свае дзеянні, а памочнікаў было вобмаль. Тым не менш мы пастараемся на падставе наяўных крыніц адзначыць асноўныя напрамкі працы новага кіраўніцтва.

Найперш трэба зазначыць, што працэс перадачы ўлады ў Радзе БНР гэтым разам зацягнуўся. Калі Вінцэнт Жук-Грышкевіч фактычна пачаў кіраўнічую працу яшчэ да смерці Міколы Абрамчыка, то абраны ў лістападзе 1982 г. Язэп Сажыч толькі 10 красавіка 1983 г. здолеў спаткацца з сваім папярэднікам, каб атрымаць ад яго неабходныя для дзейнасці старшыні дакументы, спіс і адрасы радных, афіцыйныя бланкі, пячатку. Такім чынам, першыя паўгода Рада амаль не дзейнічала. Старшыня толькі прысутнічаў на колькіх беларускіх мерапрыемствах. Зрэшты, і надалей гэткая рэпрэзентацыйная дзейнасць і ўспрымалася Язэпам Сажычам як асноўная яго задача.

Невялікая актыўнасць радных была звязаная і з іх фізічным старэннем і адыходам. Скарбнік Віталь Кажан тлумачыў сітуацыю так: *«Зразумела, што праўдзе трэба глядзець у вочы. Праца Рады БНР, зразумела, не вядзецца так, як, магчыма, трэба было-б. На гэта ёсьць і прычыны, а адна зь іх гэта век радных, бо ў бальшыні гэта ўжо старэйшыя або зусім старыя людзі»*[40].

Сапраўды, працэс адыходу радных цягам 1980-х гг. яшчэ больш паскорыўся. У 1982–1985 гг. памерлі Язэп Малецкі, Аўгіння Каранеўская, Аркадзь Качан, Пётра Мікуліч, Парфіры Трысмакоў, а. Аўген Смаршчок, пазней, у 1988 г., — Пётра Гайдзель, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Аляксандр Стагановіч. Царкоўны закалот і «справа» Лофтуса таксама паўплывалі на адыход раней актыўных дзеячаў. У выніку перад старшынёй Рады БНР ад самага пачатку паўстала пытанне пошуку і заахвочвання да прыняцця прысягі новых, пажадана больш маладых беларусаў, якія б сваімі складкамі і актыўнасцю падтрымалі дзейнасць дзяржаўнага прадстаўніцтва ў выгнанні.

---

[40] Ліст В. Кажана да Л. Трусевіча ад 25.06.1983. Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

У гэтай галіне можна адзначыць пэўныя дасягненні. На 18-й надзвычайнай сесіі Рады БНР, што адбывалася 30 жніўня 1986 г. у кліўлендскім «Полацку» падчас чарговай Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, у шэрагі радных увайшлі як маладыя, гэтак і старыя беларусы: Янка Ханенка, Ірэна Каляда, Таццяна Кананчук, Віктар Касцюкевіч (адноўлены ў сяброўстве), Уладзімір Целеш, Арсень Монід, Адольф Субота[41]. На наступнай сесіі ў 1988 г. да іх далучыліся дзеці беларускіх грамадскіх дзеячаў Раіса Станкевіч, Юрка Азарка і Віктар Тур[42]. Прымаліся новыя сябры ў Раду і паміж сесіямі. У Камунікаце за 1985 г. паведамлялася, што сектар Рады БНР у Аўстраліі прыняў новых чатырох радных (Сіднэй — 1, Адэлаіда — 1 і Перт — 2)[43]. Акрамя таго, *«на нарадзе сяброў Рады, што адбылася ў часе Сустрэчы Беларусаў у верасьні 84 г. урачыста прыняў прысягу новы сябра Рады з Канады, а ў часе сьвяткаваньня 67-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка ў Клівэляндзе, ЗША былі прынятыя два новыя сябры Рады з гэтага беларускага асяродка, пры гэтым адзін зь іх зьяўляецца наймалодшым Радным, маючы толькі 35 гадоў»*[44]. Такім чынам, цягам першай кадэнцыі Язэпа Сажыча новымі раднымі сталі мінімум 17 асобаў. Праўда, фактычная актыўнасць на сесіях ад гэтага не павялічылася. У 1986 г. у Кліўлендзе з 92 радных вочна і завочна ў сесіі ўдзельнічалі 47 чалавек, 31 з іх асабіста[45], што значна больш, як на папярэдняй сесіі (23 былі асабіста[46]). У 1988 г. у Нью-Ёрку на сесію хоць і заангажавалася 49 радных, аднак толькі 20 з іх прысутнічалі асабіста[47]. Відавочна, значная колькасць радных у Кліўлендзе тлумачыцца якраз сумяшчэннем сесіі з падзеямі Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі.

Разам з папаўненнем шэрагаў радных Язэп Сажыч намагаўся ажывіць працу ў сектарах. Ужо на пачатку сваёй першай кадэнцыі ён адведаў сектары ў ЗША, Канадзе, у 1983 г. меў нараду з прадстаўнікамі еўрапейскіх сектараў у Лондане. Як сцвярджалася ў справаздачы, *«старшыня Рады прысьвяціў больш увагі й часу на ажыўленьне дзейнасьці і арганізацыйную структуру Сэктараў Рады, асабліва ў ЗША й Канадзе. Асабіста склікаў паседжаньні й прысутнічаў на іх у Чыкага, Нью-Джэрзі, Нью-Ёрку, Клівэлянд-Дэтройту*

---

[41] Пратакол 18-й чарговай Сэсіі Рады БНР, якая адбылася 30 жніўня 1986 г. у Беларускім селішчы «Полацак» каля Кліўленду ў штаце Агаё, ЗША. Публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[42] Пратакол 19-й звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 28 травеня 1988 г. у памешканьні Фундацыі імя П. Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Нью-Ёрк, ЗША. Публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[43] Справа сяброўства // Камунікат Рады БНР. № 2/15. Жнівень 1985.

[44] Справа сяброўства // Камунікат Рады БНР. № 2/15. Жнівень 1985.

[45] Пратакол 18-й чарговай Сэсіі Рады БНР…

[46] Пратакол 17-ай звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г. у будынку Фундацыі імя П. Крэчэўскага // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970–1982)… С. 203.

[47] Пратакол 19-й звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР…

*і Таронта. У кожным з гэтых сэктараў былі выбраныя новыя ўправы з надзеяй на лепшае супрацоўніцтва з Прэзыдыюмам»*[48].

Тым не менш ажывіць працу самога Прэзідыума Язэпу Сажычу не ўдалося. Папаўненне шэрагаў радных новымі сіламі не прывяло да абнаўлення цэнтральнага кіраўніцтва, яно заставалася тым самым цягам 1980-х. Фактычна, па-ранейшаму дзейнымі былі толькі сакратар інфармацыі Янка Запруднік, што адначасова быў галоўным рэдактарам газеты «Беларус», ды сакратар фінансаў Віталь Кажан. Асноўную ж працу традыцыйна для Рады мусіў выконваць сам старшыня — так, як мог і разумеў. Ён ездзіў па асяродках, выступаў на святкаваннях, забяспечваў выданне «Камунікатаў Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі». Цягам 1982–1988 гг. пабачылі свет 6 нумароў «Камунікатаў…», што рассылаліся ў сектары. Аднак гэтым праца Рады БНР і абмяжоўвалася. У 1983–1988 гг. па-за паведамленнямі пра ўдзел Язэпа Сажыча ў святкаваннях у тым ці іншым асяродку, іншай прысутнасці рэальна дзейнай Рады БНР на старонках эміграцыйных перыёдыкаў амаль не было.

Парадаксальным вынікам першай кадэнцыі стала тое, што фінансавы стан Рады БНР цягам 1980-х не пагоршыўся, а нават палепшыўся. Калі згадаць, што ў 1979 г. у скарбе Рады БНР было 9230 даляраў[49], то ў 1986 г., паводле справаздачы скарбніка, там ужо налічвалася 19 496,61 даляраў[50], а ў 1988 г. — 26 357,10 даляраў[51]. Відаць, новыя сябры і актыўнасць скарбніка, які рэгулярна нагадваў радным і сектарам пра складкі і ахвяраванні на «Дар Сакавіка», а таксама ўдала размяшчаў грошы ў банку, прынеслі плён. Гэта, сярод іншага, дало магчымасць забяспечваць падтрымку некаторым выдавецкім і іншым ініцыятывам, у тым ліку і БІНіМа. Напрыклад, былі выдадкаваны сродкі на друк падрыхтаванай Зорай і Вітаўтам Кіпелямі англамоўнай хрэстаматыі *«Belarusian statehood»* (1988)[52]. Гэтае выданне, сярод іншага, сведчыла пра ролю Рады БНР у беларускай гісторыі і магло выкарыстоўвацца з рэпрэзентацыйнымі мэтамі. І хоць яно было створанае не раднымі, аднак стала рэалізацыяй адной з задачаў, пра якую гаварылася на сесіях яшчэ ад часоў Міколы Абрамчыка.

Іншыя, агучаныя ўжо ў 1980-я гг., нешматлікія ініцыятывы радных пераважна заставаліся неажыццёўленымі. Так, зноў беспаспяхова ўздымалася пытанне забеспячэння памяшкання для архіваў Рады БНР. Абмяркоўваўся праект помніка Міколу Абрамчыку, які таксама застаўся ў размовах. Не

---

48 Справаздачны даклад Старшыні Рады БНР на 19-й Сэсіі Рады БНР. Публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

49 Пратакол 16-й звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 24 лістапада 1979 г. у будынку Фундацыі Крэчэўскага // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970–1982)… С. 192.

50 Пратакол 18-й чарговай Сэсіі Рады БНР…

51 Пратакол 19-й звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР…

52 Пратакол 19-й звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР…

паспрыяла гэтаму і спатканне Язэпа Сажыча з Нінай Абрамчык у 1983 г. Апошняя *«выявіла поўную апатыю, заяўляючы: “Мой муж не працаваў для беларускае справы дзеля таго, каб яму ставілі помнік”»*[53]. Усталяванне ж помніка на беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку так і не было арганізавана Радай.

Такім чынам, унутраная дзейнасць Рады БНР цягам першай кадэнцыі Язэпа Сажыча не можа быць названая вельмі актыўнай. Раскол у БАПЦ, у які былі заангажаваныя радныя і Рада наогул, «справа» Лофтуса, фізічны адыход старых дзеячаў негатыўна паўплывалі на сітуацыю і магчымасці працы. У той жа час новыя перспектывы адчыняліся для вонкавай дзейнасці.

## Міжнародная сітуацыя і знешнепалітычная дзейнасць Рады БНР

1980-я гады сталі часам кіравання ў ЗША рэспубліканцаў і заканчэннем ранейшай «разрадкі» ў дачыненнях з СССР. Новы прэзідэнт Рональд Рэйган быў прыхільнікам працягу халоднай вайны з пазіцыі сілы. *«...Ён быў рашуча настроены быць цвёрдым у адносінах да краіны, якую сам ён лічыў “імперыяй зла”. Два здарэнні павялічылі напружанасць у адносінах паміж ЗША і СССР: падаўленне рабочага руху “Салідарнасць” у Польшчы ў снежні 1981 года і трагедыя карэйскага грамадзянскага авіялайнера, які згубіў курс і быў збіты савецкімі знішчальнікамі 1 верасня 1983 г. Злучаныя Штаты таксама абвінавацілі Савецкі Саюз у няспыннай акупацыі Афганістана і дапамагалі супраціўленню мясцовых сіл маджахедаў»*[54].

У ранейшыя часы пагаршэнне амерыканска-савецкіх дачыненняў звычайна выклікала большую ўвагу на Захадзе да «паняволеных народаў». Гэта ў 1950-я ўдала выкарыстаў Мікола Абрамчык, імкнучыся зрабіць Раду БНР і беларусаў наогул заўважнымі ў палітычных колах і дасягнуўшы пры гэтым пэўных вынікаў. Аднак у 1980-я Радзе БНР таго самага ажыццявіць не ўдалося. Язэп Сажыч не быў ні дыпламатам, ні палітыкам, а ніхто іншы ў Радзе не ўзяў на сябе «вонкавыя сувязі». Абраны на пасаду сакратара ў гэтай галіне напрыканцы 1970-х Расціслаў Гарошка праз раскол у БАПЦ адышоў ад Рады, стаўшы на бок уладыкі Андрэя, а потым Ізяслава. У выніку на 19-й сесіі Рады БНР Язэп Сажыч зазначыў, што *«справы вонкавых дачыненьняў Старшыня змушаны быў весьці сам, ня маючы сакратара да гэтых справаў»*[55]. Атрымалася, што справаздача з вонкавай дзейнасці за шэсць першых гадоў кіравання Радай складалася з некалькіх абзацаў, дзе зазначалася пра спатканні *«з амбсадарамі Копэльманам і Зіммэрманам, галоўнымі дэлегатамі ад ЗША на канфэрэнцыях сьляджаньня гэльскінскага дагавору аб правох чалавека і з сэнатарамі са штату Мічыган, прыпамінаючы пра*

[53] Хроніка падзеяў па 17-й Сэсіі. Публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[54] Нарысы амерыканскай гісторыі. Інфармацыйнае агенцтва Злучаных Штатаў Амерыкі. [Б. г.]. С. 374–375.

[55] Справаздачны даклад Старшыні Рады БНР на 19-й Сэсіі Рады БНР. Публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

*Беларусь»*[56], удзел у святкаванні 65-х угодкаў УНР, а таксама спатканне з прэм’ер-міністрам польскага ўрада на выгнанні Казімежам Сабатам[57]. Пры гэтым цікава, што апошні нават прапаноўваў старшыні Рады БНР падпісаць двухбаковую дамову (пра што ў 1950-я, у часы найбольш актыўнай знешняй палітыкі Рады, нават размовы не было, бо ідэя не знаходзіла разумення найперш у саміх палякаў). У 1980-я гг. ужо беларусы вырашылі нават не абмяркоўваць яе, бо старшыня рэзюмаваў: *«Ня ведаю, паскольки гэта пільная справа, а найважнейшае, што ня маем фаховых дыплёматаў ці сакратароў, каб адпаведна апрацаваць такі дагавор»*[58].

Найбольш значным дасягненнем знешняй палітыкі Язэпа Сажыча стала, відаць, спатканне з Рональдам Рэйганам 10 кастрычніка 1984 г. у Дэтройце. Праўда, старшыня Рады БНР быў толькі адным з дзесяці беларусаў, што прысутнічалі сярод іншых нацыянальных групаў на гэтай перадвыбарчай сустрэчы[59].

Варта адзначыць, што наогул беларусы ў ЗША вочна ці завочна даволі рэгулярна кантактавалі з амерыканскім прэзідэнтам цягам 1980-х гг. Гэта было звязана з актыўнасцю беларускіх рэспубліканскіх клубаў, а таксама з дзейнасцю асобных беларусаў, такіх як Вітаўт Кіпель, Васіль Мельяновіч і іншыя, на штатным і нацыянальным узроўнях рэспубліканскай партыі. На старонках газеты «Беларус» можна спаткаць паведамленні пра ўдзел беларусаў у сустрэчах з Рональдам Рэйганам, прыкладам, на з’ездзе рэспубліканскіх групаў Амерыкі ў 1984 г.[60], або на яго інаўгурацыі, куды былі запрошаныя Вітаўт Кіпель, Васіль Мельяновіч, Янка Раковіч, Антон Шукелойць[61]. Часам беларусы пісалі звароты да амерыканскага прэзідэнта, каб звярнуць яго ўвагу на свае праблемы, прыкладам на адсутнасць беларускіх перадачаў «Голасу Амерыкі» і інш.[62]. Аналагічна наладжвалі кантакты з кіраўніцтвам дзяржавы беларусы ў Канадзе па лініі ЗБК або Каардынацыйнага камітэта.

Ініцыятыва ў рэпрэзентацыі беларусаў перад заходнімі ўладамі ў 1980-я гг. ужо сыходзіла амаль выключна ад грамадскіх арганізацый, а не ад Рады БНР. А кан’юнктура сапраўды была даволі спрыяльная, што і пацвердзіла наладжванне своеасаблівай «зваротнай сувязі»: ад сярэдзіны 1980-х гг. ад Рональда Рэйгана рэгулярна прыходзілі прывітальныя тэлеграмы для Сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амерыкі, а таксама з нагоды нацыянальных

---

[56] Справаздачны даклад Старшыні Рады БНР на 19-й Сэсіі Рады БНР…

[57] Справаздачны даклад Старшыні Рады БНР на 19-й Сэсіі Рады БНР…

[58] Справаздачны даклад Старшыні Рады БНР на 19-й Сэсіі Рады БНР…

[59] В. П. Сустрэча з Прэзыдэнтам Рэйганам (штат Мічыган) // Беларус. № 323. Лістапад 1984. С. 1.

[60] Зьезд Рэспубліканскіх групаў Амэрыкі [Вашынгтон] // Беларус. № 320. Чырвень 1984. С. 2.

[61] Запрошаныя на інаўгурацыю // Беларус. № 324. Сьнежань 1984. С. 1.

[62] Ліст БАЗА Прэзыдэнту Рэйгану // Беларус. № 312. Жнівень – верасень 1983. С. 1; Просьба да Прэзыдэнта ЗША // Беларус. № 320. Чырвень 1984. С. 2.

святкаванняў, у тым ліку і 25 Сакавіка[63]. Безумоўна, гэта быў вынік актыўнай пазіцыі беларускай грамады і асобных радных, але не самой Рады БНР як інстытуцыі. Можна сказаць, што ў гэты час Рада БНР згубіла сваю функцыю прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў на Захадзе.

У другой палове 1980-х гг. у амерыканска-савецкіх дачыненнях з'явіліся новыя тэндэнцыі. Палітыка Рэйгана, паводле якой беспрэцэдэнтна павялічыліся выдаткі на абарону, прывяла да таго, што Савецкі Саюз ужо не быў здольны канкураваць у гонцы ўзбраенняў. Новы савецкі лідар Міхаіл Гарбачоў сустракаўся з амерыканскім прэзідэнтам у 1985 г. у Жэневе і дамовіўся аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў, а ў 1987 г. быў падпісаны дагавор аб міжкантынентальных ядзерных узбраеннях сярэдняй дальнасці[64]. Адначасова ў СССР былі абвешчаныя перабудова і галоснасць, савецкая сістэма пачала спробы трансфармацыі.

Нягледзячы на паляпшэнне амерыканска-савецкіх дачыненняў, увага да паняволеных народаў з боку кіраўніцтва ЗША асабліва не зменшылася. Прэзідэнт Рэйган перыядычна выступаў з абвінавачаннем СССР у імперыялізме, ганьбаванні правоў чалавека[65]. Прыкладам, 24 ліпеня 1987 г. ва ўкраінскай царкве ў Вашынгтоне з нагоды Тыдня паняволеных народаў Рональд Рэйган сярод іншага сказаў: *«Нашае глябальнае падтрымваньне свабоды не забавязвае нас пасылаць зброю або войска, але прынамся гэта значыць, што калі якому-небудзь народу адмаўляецца ягоная свабода або гвалтуецца ягоная незалежнасць, трэба, каб гэткі народ ведаў, што мы, амэрыканцы, на ягоным баку»*[66]. І далей зазначыў, што *«амэрыканцы ня вераць цьверджаньням савецкай прапаганды або тым, што камуністычныя ўрады прадстаўляюць волю тых людзей, над якімі яны маюць уладу»* [67], а таксама *«заклікаў савецкага лідэра Гарбачова — падмацаваць свае словы аб "галоснасці" справамі — даць паняволеным народам ад Балтыкі да Баўгарыі і ад В'етнаму да Анголі права свабодна выбіраць сабе форму ўлады...»*[68].

---

[63] Прывітаньне ад Прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана ўдзельнікам 16-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі // Беларус. № 322. Верасень – кастрычнік 1984. С. 1; Прывітальнае пасланьне 17-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ад Прэзыдэнта Рональда Рэйгана // Беларус. № 330. Верасень 1986. С. 1; Прывітаньне ад Прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана // Беларус. № 330. Верасень 1986. С. 1; Прывітаньне ад Прэзыдэнта Рональда Рэйгана ўдзельнікам сакавіковых сьвяткаваньняў // Беларус. № 334. Красавік 1987. С. 1; Прывітаньне ад Прэзыдэнта Рэйгана ў сувязі зь 70-мі ўгодкамі Беларускай Незалежнасьці // Беларус. № 346. Красавік 1988. С. 1.

[64] Нарысы амерыканскай гісторыі. С. 375.

[65] Прэзыдэнт Рэйган: «СССР — імпэрыялістычная дзяржава» // Беларус. № 341. Лістапад 1987. С. 2.

[66] Прэзыдэнт Рэйган пра паняволеныя народы // Беларус. № 337. Ліпень 1987. С. 1.

[67] Прэзыдэнт Рэйган пра паняволеныя народы.

[68] Прэзыдэнт Рэйган пра паняволеныя народы.

Гэта яшчэ раз пацвярджае наяўнасць спрыяльнай для нацыянальных групаў амерыканскай палітыкі цягам 1980-х.

У той жа час увагу эмігрантаў з былога СССР усё больш прыцягвалі падзеі на Усходзе, дзе сапраўды павольна пачыналася перабудова грамадскага жыцця. Яе змест і вынікі закранулі пераважна ўжо другі перыяд старшынёўства Язэпа Сажыча ў Радзе БНР.

## РАДА БНР У 1989–1993 ГГ.

### З пазіцыі назіральніка

Ад сярэдзіны 1980-х гг. беларусы на Захадзе вельмі пільна сачылі за падзеямі перабудовы і пачаткамі нацыянальнага адраджэння ў Беларусі. На старонках газеты «Беларус» усё больш і больш месца займалі матэрыялы пра нефармальныя беларускія арганізацыі, мітынгі ў Мінску, стварэнне і дзейнасць Беларускага народнага фронту, яго праграмныя дакументы і г. д. Магчыма, што пра «Талаку», «Тутэйшых» і іншых беларусы ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі былі лепш паінфармаваныя, чым суродзічы ў самой Беларусі.

Як і іншыя эмігранты, уважліва адсочвалі падзеі ў Беларусі і радныя БНР. Аднак наогул Рада амаль да пачатку 1992 г. не выказвала афіцыйнай пазіцыі адносна тых працэсаў і зменаў, што адбываліся ў БССР. Прычынай, напэўна, было тое, што ўласна бяздзейным аказаўся Прэзідыум Рады БНР і сам старшыня. Своеасаблівае «гвалтоўнае пераабранне» Язэпа Сажыча, які прасіў 19-ю сесію ў 1988 г. звольніць яго з пасады, засведчыла ўсё тыя ж катастрафічныя кадравыя праблемы, што не былі вырашаныя з прыходам новых сяброў.

У 1988 г. Язэп Сажыч набыў сабе хату ў Фларыдзе і палову года жыў там, далёка ад беларускіх асяродкаў і спраў. Яго і без таго адносна невялікая актыўнасць зменшылася цяпер яшчэ больш. Ужо ў 1989 г. Віталь Кажан пісаў да Лявона Трусевіча пра святкаванне ўгодкаў 25 Сакавіка: *«Ад пяцідзесятых гадоў я бываю на падобных сьвяткаваньнях тут у нас у Нью Ёрку ці Нью Джэрзі, але гэтым годам першы раз ня было прывітаньняў Сакавіковых ад самога Старшыні Рады БНР. Ня было ні ў нас, ні ў Чыкага, ні ў Кліўлендзе. Усе пытаюцца чаму? Але адказу няма. Яшчэ лепш, на нашым сьвяткаваньні сёлета было прывітаньне ад ''прэзыдэнта'' БЦР, ім ёсьць цяпер сп-р М. Зуй, каторы жыве ў Аўстраліі, але ад нашага ня было.*

*Выглядае, што мы дакаціліся ў паважны тупік. Праўду кажучы, мы ня маем старшыні Рады, а ці можам сабе дазволіць на штосьці падобнае, асабліва ў гэты час, калі на Бацькаўшчыне пачынаецца паважнае адраджэньне. Былі людзі-патрыёты, якія адрадзілі Раду БНР, а мы што робім?»*[69].

---

[69] Ліст В. Кажана да Л. Трусевіча ад 08.04.1989. Тэкст ліста публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

У перыяд ад 1989 да пачатку 1992 г. старшыня Рады БНР толькі зрэдзьчасу з’яўляўся на розных нацыянальных мерапрыемствах, вёў прынагодную перапіску, але кантакты з сектарамі значна аслабелі. За пяць гадоў, што прайшлі пасля сесіі 1988 г. так і не быў афіцыйна апрацаваны і разасланы сектарам яе пратакол. Рада БНР амаль не згадвалася ў хроніцы эмігранцкага жыцця. Ці не адзінай значнай падзеяй выявілася спатканне Язэпа Сажыча з Джорджам Бушам. Адбылося гэта ў 1991 г. у часе Тыдня паняволеных народаў у Мічыгане, калі прэзідэнт ЗША сустракаўся з прадстаўнікамі розных нацыянальных групаў. У часе спаткання Язэп Сажыч параіў Джорджу Бушу наведаць Мінск у часе яго візіту ў СССР[70]. Пра іншыя дзеянні ў вонкавых справах Рады БНР згаданага перыяду інфармацыі не засталося.

На мяжы 1980–1990-х гг. у сувязі з падзеямі ў Савецкім Саюзе ўвага да нацыянальных групаў на Захадзе не зменшылася, а нават павялічылася. Актывізаваліся і самі беларускія грамадскія арганізацыі. Фактычна, пераняўшы на сябе вонкавыя сувязі ад імя беларусаў на Захадзе, Беларуска-амерыканскае задзіночанне, Кангрэсавы камітэт беларусаў Амерыкі, Згуртаванне беларусаў Канады, Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі, Федэральная Рада беларускіх арганізацый у Аўстраліі і іншыя актыўна рэагавалі на падзеі ў Беларусі, звярталіся да заходніх і ўсходніх палітыкаў. Так, па-за рознымі рэгулярнымі зваротамі да амерыканскіх лідараў актывізавалася ўвага і да падзей на тэрыторыі СССР. Прыкладам, у студзені 1990 г. Антон Шукелойць ад імя БАЗА скіраваў афіцыйны зварот да кіраўніцтва Латвіі[71], у ліпені 1990 г. БАЗА, Беларуска-амерыканскае аб’яднанне, Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі даслалі тэлеграмы Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Мікалаю Дземянцею з нагоды прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР[72], узімку 1991 г. БАЗА пісала звароты ў абарону незалежнасці Літвы[73], у снежні 1991 г. — з прывітаннем Вярходнай Радзе Украіны[74] і г. д. І зваротная сувязь была. На старонках той самай газеты «Беларус» рэгулярна змяшчаліся прывітанні ад амерыканскіх сенатараў, кангрэсменаў, прэзідэнта ЗША з нагоды святкаванняў ці сустрэчаў беларусаў.

Рада БНР увесь гэты час захоўвала маўчанне. Цікава, што ў сакавіку 1990 г. зусім не Радай быў агучаны зварот да беларусаў на Бацькаўшчыне, дзе тым не менш згадвалася і БНР:

*«Дарагія суродзічы!*

*Да Вас зьвяртаюцца амэрыканскія беларусы, удзельнікі праведзеных 25 сакавіка 1990 г. у гарадох Нью-Брансьвіку (штат Нью-Джэрзы), Кліўлэндзе (Агаё), Лёс-Анджэлесе (Каліфорнія), Чыкага (Іліной), Саўт-Рывэры*

---

[70] Спатканьне з Прэзыдэнтам Бушам // Беларус. № 383. Кастрычнік 1991. С. 1.

[71] Тэлеграма БАЗА Прэзыдэнту Латвіі (05.01.1990) // Беларус. № 370. Травень 1990. С. 3.

[72] Беларус. № 372. Жнівень 1990. С. 2, 8.

[73] Беларус. № 377. Студзень 1991. С. 1.

[74] Беларус. № 385. Снежань 1991. С. 1.

*(Нью-Джэрзы), Рычмант-Гіле (Нью-Ёрк) урачыстых сходах, прысьвечаных 72-ім угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.*

*Мы перадаем Вам нашы найшчырэйшыя прывітаньні і пажаданьне, каб сёньняшні працэс дэмакратызацыі, аднаўленьня сувэрэнных правоў Беларусі, адбудовы ейнае эканомікі й нацыянальнае культуры, замацаваньня дзяржаўнага статуту беларускае мовы, — каб усё гэта дало як мага хутчэйшы і багацейшы плён.*

*Мы дэкляруем Вам, што будзем намагацца ўсімі даступнымі нам годнымі сродкамі дапамагаць Беларускаму нацыянальнаму Адраджэньню палітычна, эканамічна й маральна. Сёньня мы яшчэ больш адчуваем сябе часткай усяго Беларускага Народу, які ў спрыяльнейшых цяпер абставінах публічнасьці й перабудовы стаў на шлях вяртаньня сваіх спрадвечных каранёў, традыцыяў, культурных вартасьцяў, ідэалаў індывідуальнае свабоды, правоў чалавека, добрасуседзкага сужыцьця зь іншымі нацыянальнасьцямі і мірных дачыненьняў з суседнімі народамі — тое, што ставіла перад сабой сваймі трыма Устаўнымі Граматамі ў 1918 годзе Рада Беларускае Народнае Рэспублікі.*

*[...]*

*Мы заклікаем дэпутатаў Вярхоўнага Савету БССР дэлегаваць каго-небудзь спаміж сябе, хто салідарызуецца зь Беларускім Народным Фронтам ці Беларускім Дэмакратычным Форумам, да нас у Злучаныя Штаты, каб правесьці тут і ў Канадзе адпаведныя сустрэчы з афіцыйнымі чыньнікамі і прыватнымі групамі з мэтай паінфармаваньня аб радыяцыйным палажэньні на Беларусі, а праз гэта — узмацненьня акцыі дапамогі ахвярам Чарнобылю...»*[75].

Зразумела, што радныя БНР былі таксама сярод тых, хто складаў зварот, і сярод тых, хто арганізоўваў пазней прыезд трох дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР Зянона Пазняка, Лявона Баршчэўскага і Уладзіміра Заблоцкага ў сакавіку — красавіку 1991 г. у ЗША і Канаду. Але спатканне з старшынёй Рады не было запланаванае і тут, і гэта быў таксама вынік бяздзейнасці і яго, і Прэзідыума[76].

Адзіным дзейным ад імя Рады БНР заставаўся, бадай, міністр фінансаў Віталь Кажан, які штогод змяшчаў на старонках газеты «Беларус» звароты пра збіранне ахвяраванняў на «Дар Сакавіка». Фактычна толькі згаданыя звароты і нагадвалі ў гэты час грамадскасці пра існаванне Рады БНР. З іх жа можна зразумець і тое, якім чынам успрымаліся падзеі ў Беларусі. Так, у 1990 г. у звароце сярод іншага аптымістычна сцвярджалася:

*«Ідэя вольнай і незалежнай Беларусі становіцца ўсё больш рэальнай. Беларусы, што жывуць у вольным сьвеце, на эміграцыі, павнны дапама-*

---

75 Зварот беларусаў Амерыкі да беларусаў на Бацькаўшчыне // Беларус. № 369. Красавік 1990. С. 1.

76 Лідары БНФ у ЗША і Канадзе // Беларус. № 379. Сакавік – красавік 1991. С. 7–8.

*гаць, у меру магчымасьцяў кожнага, пашыраць ідэю вольнай і незалежнай Беларусі, змагацца за яе»*[77].

Праз год Віталь Кажан пісаў:

*«Дзякуючы працы лепшых сыноў беларускай эміграцыі, ідэя незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі не замерла. Рада БНР на эміграцыі прадаўжае працу за ідэю Незалежнай Беларусі»*[78].

А ў 1992 г. у самым вялікім паводле памеру звароце ўпершыню ад Рады БНР прагучала ацэнка падзей у Беларусі:

*«…і вось мы дачакаліся, што ў 1991 годзе Беларусь фармальна сталася незалежнай, прызнанай больш як 40 дзяржавамі сьвету, у тым ліку й Злучанымі Штатамі Амэрыкі.*

*У выніку развалу камуністычнай імпэрыі сёньня народы пачынаюць станавіцца на на свой надыянальны фундамент. Але ўсе мы добра ведаем, што да запраўднай незалежнай і дэмакратычнай Беларусі яшчэ шлях марудны, дарога крываю.*

*У цяперашнім Вярхоўным Савеце, а таксама ва ўрадзе Рэспублікі Беларусь, шмат галоўных пазыцыяў займаюць камуністы, якія ўсімі сіламі перашкаджаюць нацыянальнай адбудове Беларусі.*

*У гэткіх абставінах мы ня маем права, злажыўшы рукі, сядзець і нічога не рабіць. Перад намі шмат працы і многа абавязкаў.*

*Паважаныя Суродзічы, просьба да Вас, у меры Вашых магчымасьцяў далучыцца да ахвярадаўцаў на "Дар Сакавіка", каб дзякуючы Вашай ахвярнасьці можна было даваць дапамогу на найбольш патрэбныя бягучыя справы, зьвязаныя са змаганьнем Беларусі за выхад да сапраўднай Незалежнасьці і Свабоды»*[79].

Папулярызаваў БНР на старонках «Беларуса» яго рэдактар і сябра Прэзідыума Рады Янка Запруднік. Яго ацэнка падзей на Бацькаўшчыне грунтавалася на прынцыпах, закладзеных ва Устаўных граматах.

Так, у 1990 г. галоўны рэдактар «Беларуса» аптымістычна пісаў:

*«Сучасная беларуская дэмакратыя, якая адроджваецца й набірае моцы і якая ўзяла сабе за сымбалі БНРаўскія бел-чырвона-белы сьцяг і "Пагоню", паказвае гэтым, што яна ідзе ў правільным кірунку, што яна ў арганічнай сувязі із здаровымі элемэнтамі свае мінуўшчыны»*[80].

Праўда, аптымістычныя заўвагі з часам пачалі змяняцца больш крытычнымі, а радныя, як і сама Рада, з пазіцыі пасіўных назіральнікаў за падзеямі,

---

[77] Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Сакратарыят фінансаў. «Дар Сакавіка» // Беларус. № 367. Люты 1990. С. 8.

[78] Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Сакратарыят фінансаў. Дар Сакавіка // Беларус. № 378. Люты 1991. С. 3.

[79] Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Сакратарыят фінансаў. «Дар Сакавіка» // Беларус. № 387. Люты 1992. С. 1.

[80] Запруднік, Я. Устаўныя Граматы Рады БНР і сучасныя падзеі на Беларусі // Беларус. № 368. Сакавік 1990. С. 2.

сталі пераходзіць у становішча больш «актыўнага знешняга чынніка» праз навязванне непасрэдных сувязяў з дзеячамі ў Беларусі.

## 1992–1993 гг. і спробы актывізацыі Рады БНР

Падзеі, звязаныя з абвяшчэннем незалежнасці БССР, з'яўленнем на мапе свету Рэспублікі Беларусь, прыняццем у якасці дзяржаўных сімвалаў бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні», ды прызнанне беларускай дзяржавы заходнімі краінамі — усё гэта своеасаблівым чынам падштурхнула да актывізацыі радных і Рады.

Праўда, спроба правесці Надзвычайную 20-ю сесію Рады БНР у траўні 1992 г. аказалася не вельмі ўдалай. Хоць пратакол гэтай сесіі не быў намі выяўлены (невядома, ці быў ён наогул апрацаваны, гледзячы па скаргах радных), з ускосных крыніцаў вядома, што, відаць, упершыню за паваенную гісторыю, на сесіі ўзніклі складанасці з наяўнасцю кворуму. І ў гэтай справе радныя наўпрост вінавацілі цэнтральнае кіраўніцтва.

Аляксандр Лашук з Вялікабрытаніі пісаў у сваіх прапановах і заўвагах да Прэзідыума:

*«Пасыўнасьць сяброў Прэзыдыюму на чале із Старшынём Рады, за выняткам Сакратара Фінансаў, які падаваў да агульнага ведама праз заклікі аб уплаце на Фонд БНР.*

*Асновай в/паданага недахоп кворуму на апошняй сэсыі сяброў Рады, якіх ад прыезду зьняхвоціла бязьдзейнасьць Прэзыдыюма»*[81].

Віталь Кажан сцвярджаў падобнае ж: *«…нідзе і ня чуваць, і не відаць, што Рада БНР штосьці робіць»*[82].

Аднак, відаць, не вельмі ўдалая спроба правесці сесію, якая нават не змагла прыняць рэзалюцыі ў дачыненні да падзей у Беларусі, адыграла пазітыўную ролю. У той час, калі пра значнасць ідэй незалежнай беларускай дзяржаўнасці ў выглядзе БНР сталі ўсё актыўней казаць і пісаць ў самой Беларусі, Рада БНР павінна была мабілізавацца для таго, каб зноў стаць хоць бы заўважнай.

Ужо згаданы вышэй Аляксандр Лашук фармуляваў галоўную задачу Рады так: *«Рада павінна існаваць, каб праз Прэзыдыюм дапамагаць існуючай апазыцыі на Беларусі праводзіць змаганьне супраць існуючага ўраду ды камуністычных сяброў маючага там парлямэнту»*[83]. Гэта значыць радныя хацелі бачыць Раду БНР як актыўную знешнюю сілу, што спрыяе дэмакратычным падзеям у Беларусі.

У лістападзе 1992 г. было склікана пашыранае пасяджэнне Прэзідыума Рады БНР, якое зноў абмеркавала наяўныя праблемы і выказала свае мерка-

---

[81] Ліст А. Лашука да Прэзідыума Рады БНР ад 20.11.1992. Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[82] Ліст В. Кажана да Я. Сажыча ад 31.10.1992. Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[83] Ліст А. Лашука да Прэзідыума Рады БНР ад 20.11.1992.

ванні па пытаннях, што ўздымаліся на папярэдняй сесіі. Нарэшце выразна сфармуляваныя пазіцыі ўсяе Рады былі агучаныя ў сакавіку 1993 г. з нагоды святкавання 75-х угодкаў БНР:

*«...Працэс станаўленьня нацыянальнай дзяржаўнасьці і дэмакратыі ў Беларусі ідзе вельмі замаруджанымі тэмпамі. На шляху Беларускага Адраджэньня стаяць і матарыяльныя цяжкасьці, і перашкоды ў асобах людзей учарашняга дня. Гэтыя людзі намагаюцца вярнуць сабе страчаныя пазыцыі, кіруючыся або чужымі інтарэсамі або чыста эгаістычнымі меркаваньнямі. Ёсьць цімала й такіх функцыянэраў розных рангаў, што не задумваюцца пра адказнасьць перад сваім народам, бо яны пазбаўленыя пачуцьця патрыятызму, а то й маральнасьці наагул. Навочны доват гэтага — аднаўленьне на Беларусі КПБ у той форме, у якой яна засталася пасьля ліквідацыі СССР. Партыя гэтая ніколі не была беларускай. Камунізм нават па сваёй "чыстай" ідэялогіі не адпавядае духу беларускага народу, пагатоў камунізм, які ў форме расейскага бальшавізму, стаўся быў крымінальнай арганізацыяй, што імкнулася да сусьветнага панаваньня. КПБ была неадлучнай часткай гэтай злачыннай арганізацыі. Аднаўленьне яе Вярхоўным Саветам Беларусі, які не прадстаўляе волі народу, — гэта бяспраўны акт, супраць якога Рада БНР катэгарычна пратэстуе.*

*Бацькаўшчына, такім чынам, апынулася ў цяжкім стане, і сёньня, як ніколі ў нашай дасюлешней гісторыі, усім нам трэба кансалідаваць сілы вакол ідэі вольнай дэмакратычнай Беларусі.*

*Дарагія Суродзічы! Мы жывем у пэрыядзе станаўленьня па цэлым сьвеце нацыянальных дзяржаваў. Дваццатае стагодзьдзе паказала, што нацыянальная сьведамасьць — гэта той дзяржаватворчы элемэнт, які задзіночвае грамадзтва ў адно арганічнае цэлае, надаючы яму жыцьцяздольнасьць і трываласьць. І калі гэтакі працэс яднаньня народу базуецца на прынцыпах дэмакратыі, ён забясьпечвае максымальныя шансы на справядлівае грамадзкае існаваньне. Дэмакратызм у дзяржаватворчым працэсе мае выключна вялікую важнасьць. Нельга пераацаніць значэньне дэмакратычнага прынцыпу, бачачы, як у сучасным сьвеце палыхаюць, распаленыя шавінізмам, крывавыя міжэтнічныя канфлікты. Але беларускі нацыяналізм ніколі ня быў агрэсыўным. А каб у беларускай дзяржаве не дайшло да канфліктаў на грунце этнічнай ці рэлігійнай рознасьці, Рады БНР заклікае ўсіх Вас быць ня толькі патрыётамі свайго этнасу, а ўзчымацца на вышэйшы ўзровень патрыятызму — быць патрыётамі ідэі, ідэі беларускай дэмакратычнай дзяржавы, як гаранта аднолькавых правоў усім сваім грамадзянам бяз розьніцы этнічнага паходжаньня, рэлігійнай прыналежнасьці ці сьветаглядных перакананьняў. Гэткую дзяржаву дэкляравала ў сваіх Устаўных Граматах у 1918 годзе Рада БНР і на гэткую дзяржаву мы заклікаем Вас працаваць у сёньняшнім адказным гістарычным часе»*[84].

---

[84] Зварот Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да Беларускага Народу з нагоды 75-ых угодкаў абвешчаньня 25 сакавіка 1918 году незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі // Беларус. № 399. Сакавік 1993. С. 1.

Цягам 1992–1993 гг. беларускія эмігранты сталі ўсё больш актыўна наведваць Беларусь. Шмат замежных суродзічаў узялі ўдзел у Першым з’ездзе беларусаў свету, што праходзіў у Мінску 8–10 ліпеня 1993 г., навуковыя кантакты пашыраліся дзякуючы арганізацыі міжнародных канферэнцый, дзейнасці Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Магчымасць на свае вочы ўбачыць тое, што адбываецца на Бацькаўшчыне, ацаніць маштаб зменаў і «нязменнасці» — усё гэта таксама спрыяла пашырэнню дзейнасці, скіраванай на падтрымку дэмакратызацыі Беларусі.

Важнай падзеяй пачатку 1993 г. стала паездка ў Мінск на сяткаванне 25 Сакавіка старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча. Ён, разам з старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам, удзельнічаў у святочнай імпрэзе ў будынку Беларускай дзяржаўнай філармоніі і прамаўляў да прысутных. У беларускай сталіцы Язэп Сажыч сустракаўся з прадстаўнікамі Беларускага народнага фронту, Згуртавання беларускіх вайскоўцаў, з мітрапалітам Філарэтам, даваў інтэрв’ю[85]. Дзякуючы гэтай паездцы і ў самой Беларусі, і на эміграцыі зноў сталі казаць пра Раду БНР, праўда, больш у гістарычным плане.

У сродках масавай інфармацыі і навуковых колах усё больш актыўныя сталі дыскусіі на тэму абвяшчэння незалежнасці БНР у 1918 г. Публікаваліся тэксты Устаўных грамат, артыкулы пра дзеячаў Рады БНР, падзеі 1917–1920 гг. — усё гэта ішло ў рэчышчы «адкрыцця» нацыянальнай гісторыі, замоўчванай у савецкія часы. Пры гэтым у ацэнцы гістарычнай значнасці і рэальнага статусу БНР як дзяржаўнага ўтварэння існавалі розныя погляды. Гэтую розніцу падыходаў добра ілюструе артыкул Янкі Запрудніка «БНР — гэта ідэя (Камэнтар да матар’ялаў савецкага друку, прысьвечаных БНР)»:

*«У калектыўнай заяве трох высокіх функцыянераў — віцэ-прэзідэнта АН БССР І. Навуменкі, дырэктара Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ Р. Платонава ды міністра юстыцыі БССР В. Ціхіні сказана: “Абвешчаная 25 сакавіка 1918 году ўва ўмовах нямецкае акупацыі так званая незалежная Беларуская Народная Рэспубліка ніколі не з’яўлялася дзяржаўным утварэньнем. Гэта была толькі ідэя (падкрэсьленьне наша — Я. З.), якую імкнуліся ўвасобіць ў жыцьцё прадстаўнікі беларускіх нацыянальных партыяў і іншых палітычных плыняў, што не прызнавалі савецкую ўладу”»*[86]. І Янка Запруднік згаджаецца, што БНР — гэта сапраўды ідэя, ідэя свабоднай і незалежнай Беларусі: *«…ідэя гэтая, хоць і ў абцятай форме, уцелаўлёная таксама ў гістарычна прыпозьненай беларускай савецкай дзяржаве, бо-ж калі-б ня было руху за БНР, дык ня было-б і БССР. БНР — арыгінал, БССР — падробка!»*[87].

---

[85] Старшыня Рады БНР у Менску // Беларус. № 400. Красавік 1993. С. 2.

[86] Запруднік, Я. БНР — гэта ідэя (Камэнтар да матар’ялаў савецкага друку, прысьвечаных БНР) // Беларус. № 369. Красавік 1990. С. 2.

[87] Запруднік, Я. БНР — гэта ідэя.

Тым не менш развагі пра гісторыю Рады БНР непазбежна прыводзілі да пытання яе сучаснага статусу і будучыні. Менавіта гэтае пытанне, як выглядае, стала ключавым для ўсяго кіравання Язэпа Сажыча.

## Пытанне мандата БНР

Атрыманне незалежнасці краінамі былога сацыялістычнага лагера і Савецкага Саюза паставіла на пачатку 1990-х гг. на парадак дня пытанне будучыні эміграцкіх урадаў. Кожны такі ўрад у свой час станавіўся перад неабходнасцю вырашэння свайго далейшага лёсу. Найбольш пашыранай практыкай стала перадача паўнамоцтваў новаабраным афіцыйным уладам. Так, ад 10 сакавіка 1990 г. пасля абвяшчэння незалежнасці Літоўскай ССР фактычна спыніў існаванне Найвышэйшы камітэт вызвалення Літвы, а яго апошні прэзідэнт Казіс Бобеліс праз два гады вярнуўся на радзіму.

22 снежня 1990 г. прэзідэнт Польскага ўрада ў выгнанні Рышард Качароўскі перадаў новаабранаму прэзідэнту Польшчы Леху Валенсе прэзідэнцкія сімвалы Другой Рэчы Паспалітай. З гэтым урад у выгнанні спыніў сваё існаванне.

У 1991 г. пасля абвяшчэння і вызнання незалежнасці Латвіі місіі і консульствы Латвійскай дыпламатычнай службы ў выгнанні, што працавала ад 1940 г. як афіцыйны прадстаўнік інтарэсаў незалежнай Латвіі на Захадзе, былі перададзеныя Міністэрству замежных спраў Латвіі, а кіраўнік Латвійскай дыпламатычнай службы Анатоліс Дынбергс стаў афіцыйным прадстаўніком Латвіі ў ААН і амбасадарам у ЗША.

14–15 сакавіка 1992 г. Надзвычайная сесія УНРады прыняла пастанову аб перадачы 24 жніўня 1992 г. сімвалаў прэзідэнцкай улады, пячаткі і сцяга апошнім прэзідэнтам УНР у выгнанні Мікалаем Плав’юком першаму ўсенародна абранаму Прэзідэнту Украіны Леаніду Краўчуку.

8 кастрычніка 1992 г. прэм’ер-міністр Эстонскага ўрада ў выгнанні Хайнрых Марк афіцыйна перадаў паўнамоцтвы новаабранаму эстонскаму прэзідэнту Ленарту Меры. Апошні падзякаваў Эстонскаму ўраду ў выгнанні за яго працу.

Усе гэтыя падзеі нараджалі і ў колах беларускай эміграцыі, і ў палітычных колах Беларусі размовы пра неабходнасць перадачы мандата Рады БНР Вярхоўнаму Савету або ўраду Рэспублікі Беларусь. Разам з тым магчымасць адведаць Беларусь, а таксама даволі багатая інфармацыя пра падзеі, што паступала адтуль на Захад праз розныя каналы, выклікала ў радных насцярожанасць. На пашыраным пасяджэнні Прэзідыума ў лістападзе 1992 г. заступнік старшыні Рады Барыс Рагуля заўважыў: *«Абвешчаньне незалежнасьці — факт пазытыўны, прагрэсу ў гэтым напрамку няма, камуністы хочуць захаваць сыстэму. Трэба дамагацца свабодных выбараў, свабоды слова й прэсы, прыватнай собскасьці, рэгабілітацыі нявінных»*[88]. Гэтаксама

[88] Пратакол Пашыранага паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 28-га лістапада 1992 г. у Нью Ёрку. Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

Уладзімір Набагез паведаміў: *«Наведаў Беларусь, ня можа быць ніякай думкі аб перадачы мандату БНР. Эканоміка развалена, камуністы хочуць захаваць суцэльнасьць дзяржавы»*[89]. Раіса Жук-Грышкевіч падтрымала: *«У гэтых абставінах БНР ня можа перадаваць свой мандат»*[90].

Зразумела, што пытанне «перадачы мандата» задавалі Язэпу Сажычу і ў часе яго паездкі ў Мінск. У інтэрв'ю «Народнай газеце» старшыня Рады БНР сказаў: *«Магчыма мне лёс дазволіць дачакацца такога часу, калі я змагу здаць свой мандат беларускаму ўраду на Бацькаўшчыне. Але яшчэ ня час. Мы чакаем, калі ў Беларусі Вярхоўная Рада будзе выбрана сапраўды дэмакратычным шляхам. Цяпер мы мусім наглядаць за тым, як пойдуць падзеі далей»*[91]. Магчыма, для Язэпа Сажыча перадача сваіх паўнамоцтваў афіцыйнаму Мінску была б добрым варыянтам заканчэння яго не вельмі актыўнага кіравання, ад якога беларуская грамада не жадала звальняць старшыню. Аднак сітуацыя ў Беларусі складвалася неспрыяльным для гэтага чынам.

Можна меркаваць, што, калі б у 1993 г. сапраўды адбыліся свабодныя выбары, прызнанне афіцыйнай Рэспублікі Беларусь і спыненне паўнамоцтваў Рады БНР стала б рэальным. Аднак выбараў не было, а аднаўленне дзейнасці КПБ, абмеркаванне пытанняў двухмоўя і іншае — усё гэта толькі павялічвала насцярожанасць радных.

Ад пачатку 1993 г. таксама пад уплывам падзей у Беларусі пачаў выяўляць актыўнасць заступнік старшыні Рады БНР Барыс Рагуля. Менавіта на яго і Язэп Сажыч, і іншыя спадзяваліся як на пераемніка ў якасці найвышэйшага кіраўніка Рады. Барыс Рагуля цяпер выступаў на беларускіх мерапрыемствах і перыядычна змяшчаў на старонках эміграцыйнага друку свае заўвагі наконт сітуацыі ў Беларусі. Прыкладам, у сакавіку 1993 г. на святкаванні 75-х угодкаў Рады БНР у сваім дакладзе ён адзначыў:

*«Сёньня прыемна бачыць бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоню на беларускіх дзяржаўных дамах. Але мы мусім сьцьвердзіць факт, што гэтая дзяржава, Рэспубліка Беларусь, нашай яшчэ ня ёсьць…*

*Мы, магчыма, глядзім на Беларусь сёньня праз ружовыя акуляры, мы хочам яе бачыць такой, якою мы яе вынасілі тут на працягу пяцідзесяці гадоў, і хацелі-б, каб яны такой была. Такая яна ня ёсьць, хоць мы маем надзею, што тыя ідэалы, якія былі заложаны тварцамі Акту 25 Сакавіка, ужыцьцёвяцца і наша Рэспубліка Беларусь стане запраўднай незалежнай дэмакратычнай дзяржавай»*[92].

Перасцярогі ў дачыненні да падзеяў у Беларусі з часам толькі павялічваліся. Разуменне складанасці пераадолення таталітарнай свядомасці той

[89] Пратакол Пашыранага паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 28-га лістапада 1992 г. у Нью Ёрку.

[90] Пратакол Пашыранага паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР з дня 28-га лістапада 1992 г. у Нью Ёрку.

[91] Старшыня Рады БНР у Менску.

[92] 75-годзьдзе БНР // Беларус. № 400. Красавік 1993. С. 3.

самы Барыс Рагуля выказаў на пачатку 1994 г. у артыкуле з гаваркой назвай «Фэномэн Жырыноўскага»:

*«Я паважна баюся наступных выбараў у Беларусі. Мне прыгадваецца выпадак вязьня, які адбыў пакараньне 25 гадоў турмы ды быў выпушчаны на волю. Ён зьявіўся перад брамай турмы, просячы прыняць яго назад. Ён ня ведаў, што рабіць з сабой, ён прывык выконваць загады ды мець што есьці без патрэбы клапаціцца аб тым, як арганізаваць свой дзень ды як забясьпечыць штодзённыя патрэбы свайго жыцьця.*

*Я веру, аднак, што беларускі народ у глыбіні сваёй душы — народ вольны, і калі прыйдзе час выбіраць паміж няволяй ды свабодай, ён выбярэ свабоду»*[93].

Нягледзячы на тое што ў Беларусі яшчэ на пачатку 1994 г. агучвалася перакананне, што Рада БНР абавязкова перадасць свае паўнамоцтвы афіцыйным беларускім уладам, як гэта зрабілі эміграцыйныя ўрады краінаў Балтыі і Украіны[94], наступныя падзеі, а найбольш рэферэндум 1995 г. пахавалі ідэю перадачы мандата Рады БНР. У той жа час ўсё больш актуальным для самой Рады БНР станавілася пытанне неабходнасці рэарганізацыі.

Па-за некаторай уласнай актывізацыяй на пачатку 1993 г. Язэп Сажыч скардзіўся: *«А тымчасам практычна вось як робіцца ў нашай Радзе БНР. Ані пратаколаў апошніх Сэсіяў, ані пратаколу апошняга Паседжаньня Рады ў лістападзе 92 г. дасюль не апрацавана й не разаслана ў Сэктары Рады, хоць прасіў настойліва на гэтым паседжаньні і прыпамінаў пазьней, каб сакратары гэта зрабілі й падалі Вам рахунак коштаў друку й паштовай перасылкі. Мая фатыга амаль змарнаваная. Прашу Вас, каб пры нагодзе націскалі на гэта сакратару»*[95].

Час ішоў, у арганізацыі працы нічога не змянялася. Цягам 1989–1993 гг. Рада БНР амаль не папаўнялася новымі раднымі, а праблема збірання сяброўскіх складак рабілася ўсё больш актуальнай, бо імкненне матэрыяльна дапамагаць дэмакратычным сілам у Беларусі ўмацоўвалася.

У гэты час адбылася яшчэ адна ў пэўным сэнсе знакавая падзея. У выніку скарачэння бюджэту Радыё «Свабода» з пачаткам 1994 г. нью-ёркскі беларускі аддзел быў зачынены. Пакінуты тры супрацоўнікі рускай рэдакцыі, адзін — украінскай і адна эстонская журналістка. Беларускія арганізацыі, у тым ліку БАЗА, Кангрэсавы камітэт беларусаў Амерыкі, БІНіМ, Беларуска-амерыканская інфармацыйная службы і іншыя пісалі просьбы да кіраўніцтва і ўплывовых урадоўцаў, каб у Нью-Ёрку была пакінутая хоць адна беларуская адзінка. У адказ атрымалі гарантыю, што скарачэння беларускага вяшчання

[93] Рагуля, Б. Фэнамэн Жырыноўскага // Беларус. № 409. Студзень 1994. С. 2.

[94] Круталевіч, Вадзім. БНР — БССР — РБ, або Палемічныя нататкі з нагоды юбілею // Голас Радзімы. № 2 (2352). 13.01.1994. С. 5.

[95] Ліст Я. Сажыча да В. Кажана ад 25.01.1993. Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

не адбудзецца і што будзе адчыненае бюро Радыё ў Менску[96]. Гэтая сітуацыя выразна прадэманстравала, што Рада БНР, якая была фактычна ініцыятарам стварэння Беларускай службы Радыё «Свабода», ужо не толькі не мела ніякіх інструментаў уплыву на кіраўніцтва Радыё (гэтыя інструменты яна страціла са смерцю Міколы Абрамчыка), але нават не намагалася рэагаваць на саму сітуацыю.

Праблемы неабходнасці карэнных зменаў у Радзе БНР былі агучаныя на пачатку 1994 г. тым самым заступнікам старшыні Барысам Рагулем: *«Цяпер, як ніколі, наш абавязак — падняць вышэй сьцяг БНР. Настаў час перастаць таптацца, як некалі пісаў Антон Адамовіч, на Акце 25 Сакавіка, а йсьці наперад. Час рэарганізаваць Раду БНР. Рада БНР павінна стацца прадстаўніцтвам усіх беларусаў, што жывуць як на эміграцыі, гэтак і ў Беларусі, Польшчы, Летуве ды ўсюды. Трэба арганізаваць сэктары Рады БНР. Мы павінны амаладзіць Раду ды зрабіць больш прадстаўнічай. […] Я прапаную наступную сесію Рады БНР склікаць, калі не ў Беларусі, дык у Вільні ці Беластоку, каб даць магчымасьць прыняць удзел усім тым, каму падарожжа ў ЗША, або Канаду будзе не па сілах. […] Пара адчыніць вочы, пара скінуць ружовыя акуляры ды глянуць рэчаіснасьці у твар»*[97].

Аднак рэалізаваць задуму адразу не ўдалося. 21-я сесія Рады БНР адбывалася паводле ранейшай традыцыі і мелася сярод іншага абраць новага старшыню і Прэзідыум. Кандыдатуры абмяркоўваліся розныя: і Янка Запруднік, які зноў яшчэ напярэдадні адмовіўся, і Раіса Жук-Грышкевіч, і Мікола Ганько, і, зразумела, Барыс Рагуля. Праўда, і апошні сказаў катэгарычнае «не». Вынік быў зноў сумна-кампрамісным: Язэп Сажыч застаўся старшынёй. Праўда, Барыс Рагуля паабяцаў узяцца сам за рэалізацыю ідэі ажыўлення Рады з тым, каб у хуткім часе склікаць новую сесію і абраць новае кіраўніцтва.

## РАДА БНР У 1995–1997 ГГ. І СЫХОД ЯЗЭПА САЖЫЧА

Падзеі ў Беларусі 1995–1996 гг. з двума рэферэндумамі, падпісаннем дамовы пра саюз з Расіяй і абвастрэннем палітычнай сітуацыі не толькі зноў паўплывалі на актывізацыю Рады БНР, але і ў пэўным сэнсе падвысілі яе значэнне. На пачатку 1990-х, калі ў легітымнасці ўлады Беларусі на міжнародным узроўні не ўзнікала сумневаў, Радзе БНР, у тым ліку і праз яе ўласную пасіўнасць, не аддавалася шмат увагі. Перадача паўнамоцтваў шмат каму здавалася пытаннем часу. Але пасля непрызнання Захадам вынікаў рэферэндуму 1996 г. і паўнамоцтваў новага парламента, становішча змянілася. Для шмат якіх сілаў і ў Беларусі, і на Захадзе Рада БНР зноў стала выступаць як адзіны легітымны прадстаўнік беларускіх інтарэсаў. Пра гэта сцвердзілі,

---

[96] Канец беларускага аддзелу РС у Нью-Ёрку // Беларус. № 409. Студзень 1994. С. 2.

[97] Рагуля Б. 25-ае Сакавіка // Беларус. № 412. Красавік 1994. С. 2.

прыкладам, лідары БНФ, пра гэта сведчыць і запрашэнне старшыні Рады БНР для кансультацый па Беларусі ў Дзярждэпартамент ЗША[98].

У такіх умовах рэарганізацыя Рады БНР набывала яшчэ большую актуальнасць і заняўся ёй, паводле свайго абяцання, заступнік старшыні Барыс Рагуля. Цягам 1995–1997 гг. ён стаў больш пісаць, адгукаючыся на падзеі ў Беларусі (праўда, цяпер артыкулы падпісваў проста прозвішчам, без пазнакі пасады ў Радзе), а таксама навязваць кантакты і з апазіцыйнымі палітыкамі ды грамадскімі дзеячамі ў Беларусі, і з дзеячамі беларускай дыяспары на постсавецкай прасторы. Вынікам гэтай папярэдняй працы выявілася Першая сесія Еўрапейскага сектара Рады БНР, што адбылася ў Вільні 4–5 ліпеня 1997 г. Упершыню за паваенную гісторыю Рады БНР гэта было не сціплае пасяджэнне некалькіх кіраўнікоў еўрапейскіх сектараў, а двухдзённы форум з удзелам прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Беларусі, Бельгіі, ЗША, Канады, Літвы, Латвіі, Польшы, Расіі, Эстоніі, палітычных партый і сродкаў масавай інфармацыі[99]. Сесія, як і прапаноўваў у 1994 г. Барыс Рагуля, аб'яднала беларусаў розных краін вакол ідэі працы для забеспячэння незалежнасці і суверэнітэту дэмакратычнай беларускай дзяржавы. Пасля колькіх гадоў стагнацыі, мерапрыемства выглядала чарговым «аднаўленнем» Рады БНР (пра што казалі самі ўдзельнікі).

Галоўнай мэтай згаданай сесіі з'яўлялася выпрацоўка агульных прынцыпаў і кірункаў актывізацыі дзейнасці Рады БНР. Тры секцыі асобна складалі прапановы па ўнясенні зменаў у Статут, вызначалі прыярытэтныя кірункі працы, абмяркоўвалі гісторыка-архіўныя справы Рады БНР. Сутнасць прапанаваных зменаў у Статут датычыла сяброўства, складу Прэзідыума, тэрмінаў паўнамоцтва найвышэйшых органаў Рады і інш. У якасці прыярытэтных кірункаў дзейнасці Рады вызначалася:

- рэпрэзентацыя беларусаў перад урадамі розных краінаў і міжнароднымі арганізацыямі: *«Рада БНР павінна быць вядомая тым, хто сёньня робіць палітыку ў сьвеце»*;
- умацаванне Рады як суб'екта міжнароднага права, стварэнне інстытута консулаў: *«Рада БНР ёсьць праўным гарантам незалежнасьці Беларусі»*;
- прыцягненне фінансавых сродкаў для падтрымкі дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі: *«Гаворка ідзе пра гранты, пра фінансавую дапамогу»*;
- інфармаванне свету пра рэальны стан Беларусі *«інфармацыйная вайна за Беларусь»*;
- пашырэнне грамадскай падтрымкі ідэй БНР у Беларусі: *«ідэя грамадзянства БНР»*[100].

Прапанова адносна архіваў Рады БНР была сфармуляваная так: *«Патрэбна стварэньне “бягучага” архіву БНР. І трэба аднойчы і назаўсёды*

---

[98] Першая Сэсія Эўрапейскага сэктару Рады БНР. Пратакол. Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[99] Першая Сэсія Эўрапейскага сэктару Рады БНР. Пратакол.

[100] Першая Сэсія Эўрапейскага сэктару Рады БНР. Пратакол.

*дамовіцца, што ўсе дакумэнты Рады БНР павінны быць сабраныя ў адным месцы, што значна аблегчыла б доступ да іх сябраў Рады»*[101]. Фактычна тое самае ўжо неаднойчы прымалася на ранейшых сесіях пачынаючы ад 1970 г., аднак у значна абноўленай Радзе гэтая прапанова нарэшце магла атрымаць шанец на рэалізацыю.

Усе прапановы новаабраны старшыня Еўрапейскага сектара Рады БНР Сяргей Навумчык меўся агучыць на 22-й сесіі Рады БНР, што адбылася праз месяц 30–31 жніўня 1997 г. у Нью-Брансвіку.

Новая агульная 22-я сесія стала надзвычай важнай падзеяй для Рады БНР і не толькі. Яна была ўнікальнай паводле колькасці адначасова прынятых новых радных. 22 сябры папоўнілі Раду, чаго не было ад 1947 г. Гэтыя сябры рэпрэзентавалі пераважна эміграцыю 1990-х (Алеся Сёмуха, Марат Клакоцкі, Віталь Зайка, Лявон Юрэвіч і інш.), а таксама — упершыню — і беларускія дыяспары на постсавецкай прасторы. Прысягу радных прынялі Хведар Нюнька з Вільні, Алег Рудакоў з Іркуцка, Валянцін Грыцкевіч, Мікола Нікалаеў з Санкт-Пецярбурга, Зінаіда Клыга з Йыхві (Эстонія), Віктар Малышчыц з Рыгі, Алег Латышонак і Яўген Мірановіч з Беластока ды шмат іншых[102]. Гэткае шырокае папаўненне з'яўлялася вынікам папярэдняй актыўнай працы і давала падставы на сапраўднае ажыўленне дзейнасці, тым больш што быў зацверджаны беспрэцэдэнтна вялікі Прэзідыум з 18 чалавек.

Сесія прыняла пяць выніковых дакументаў. Так, у мемарандуме «Аб дзейнасці Рады Беларускай Народнай Рэспублікі» фармулявалася нарэшце афіцыйнае стаўленне Рады БНР да Рэспублікі Беларусь:

*«Рада БНР лічыць утварэньне Рэспублікі Беларусь і замацаваньне ейнай дзяржаўнай незалежнасьці ў Канстытуцыі 1994 году этапам на шляху да ажыцьцяўленьня ідэалаў БНР, аб чым красамоўна засьведчылі прынятыя Вярхоўным Саветам 12-га скліканьня дзяржаўныя сымбалі: бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня, а таксама канстытуцыйнае ды заканадаўчае замацаваньне дзяржаўнасьці беларускае мовы.*

*Рада БНР, гэтак-жа як і дэмакратычныя дзяржавы Захаду, не прызнае незаконных лукашэнкаўскіх антыдэмакратычных структураў улады, створаных пасьля лістападаўскага перавароту 1996 году, ды асуджае прарасейскую акупацыйную палітыку, скіраваную на ліквідацыю незалежнасьці Беларусі, на зьнішчэньне беларускай культуры, беларускай мовы і беларускай нацыі.*

*Рада БНР будзе рабіць усе крокі, каб прадухіліць пагрозу незалежнасьці беларускай дзяржавы і існаваньню беларускай дзяржавы...»*[103].

---

101 Першая Сэсія Эўрапейскага сэктару Рады БНР. Пратакол.

102 XXII Сэсія Рады БНР. Пратакол. Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

103 Мэмарандум 22-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі «Аб дзейнасьці Рады Беларускай Народнай Рэспублікі». Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

У заяве «Аб становішчы ў Беларусі» пасля агляду эканамічных і палітычных праблем краіны сцвярджалася: *«Рада БНР асуджае паліцыйны антыбеларускі рэжым Лукашэнкі і заклікае беларускае ды міжнароднае грамадзтва да супрацьдзеяньня ягонай дыктатуры, да змаганьня за аднаўленьне дэмакратычнага ладу ў Беларусі…»*. І адзіным выйсцем для Беларусі вызначалася: *«адстаўка Лукашэнкі, зварот да Канстытуцыі 1994 году і правядзеньне свабодных парляманцкіх выбараў»*[104].

Пастанова «Пра абарону самабытнага аблічча беларускае літаратурнае мовы» сцвярджала прыхільнасць Рады БНР да класічнага беларускага правапісу, распрацаванага Браніславам Тарашкевічам[105]. Рэзалюцыя «Аб этнічнай дыскрымінацыі беларусаў і слуханьнях у Кангрэсе ЗША аб пагвалтаваньні правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь» выказвала заклапочанасць станам беларускай мовы і прапаноўвала правесці ў Кангрэсе ЗША адмысловыя слуханні на гэты конт. Важнай была і рэзалюцыя «Аб радыё “Свабода — Свабодная Эўропа” і беларускамоўных перадачах іншых заходніх радыястанцыяў», якая нарэшце зноў дэманстравала цікавасць Рады БНР да праблемаў Радыё «Свабода» і ўздымала старое пытанне беларускамоўных перадачаў на радыёстанцыі «Голас Амерыкі»[106].

Прыняцце рэзалюцый і іх далейшая публікацыя засведчылі тыя змены, што адбыліся ў Радзе. Але ці не найважнейшым стала пераабранне старшыні. Нарэшце Язэп Сажыч змог з палёгкаю скласці свае паўнамоцтвы, зноў нагадаўшы, што ўжо двойчы раней меў намер гэта зрабіць. Тым не менш адназначнага кандыдата на старшыню не было і гэтым разам. Барыс Рагуля зноў адмовіўся, аднак прапанаваў на пасаду ўпершыню за гісторыю Рады БНР жанчыну — Івонку Сурвілу, якая дагэтуль ніякіх заўважных пасадаў у цэнтральных органах БНР не займала. І гэтая прапанова на хвалі агульнай тэнцэнцыі абнаўлення Рады была прынятая большасцю прысутных. Альтэрнатыўнага кандыдата ніхто не шукаў.

Так скончыўся 15-гадовы перыяд кіравання Радай БНР Язэпа Сажыча. Гэты час самі радныя называлі «брэжнеўскім застоем». Праўда, былы старшыня з гэтым не згаджаўся. Праз гады, параўноўваючы сябе з сваімі папярэднікамі, ён пісаў: *«Бязумоўна, я не магу сябе параўнаць з М. Абрамчыкам, які сапраўды быў “палітычна граматны” і вялікі патрыёт-беларус. Але думаю, мой папярэднік Вінцук Жук-Грышкевіч няшмат больш зрабіў, як я»*[107].

Тым не менш цэнтральныя органы Рады БНР у часы Язэпа Сажыча функцыянавалі слаба, выяўляючы выключна прынагодную актыўнасць. Стабільна

---

[104] Заява 22-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі «Аб становішчы ў Беларусі». Тэкст публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[105] Тэкст Пастановы публікуецца ў адпаведным раздзеле гэтай кнігі.

[106] Тэксты рэзалюцый можна знайсці тут: http://www.radabnr.org/be/index.html?archiuh.html?archium.html?archiui.htm.

[107] Ліст Я. Сажыча да Я. Лецкі ад 25.01.2003. Захоўваецца ў БДАМЛМ. Ф. 356. Воп. 1. Спр. 80.

працаваў толькі сакратарыят фінансаў, што, нягледзячы на адыход значнай колькасці радных, дапамагло захаваць даволі стабільнае матэрыяльнае становішча Рады, а таксама давала магчымасць падтрымоўваць выдавецкія і грамадскія праекты як у замежжы, гэтак і ў самой Беларусі.

Адметны перыяд стаў і амаль спыненнем супрацьстаяння па лініі Рада БНР — БЦР. Сам Язэп Сажыч з заўважнай павагай ставіўся да Радаслава Астроўскага: *«Астроўскага я асабіста шанаваў і нават быў на ягоных пахаранах у Саўт-Рывэры, дзе прамаўляў, сказаўшы: “што ён ёсьць нашая гістарычная постаць і добра, што ён абняў функцыі Прэзыдэнта БЦР, бо ніхто іншы так добра ні справіўся б з гэтым абавязкам у той цяжкі, скамплікаваны і трагічны час для нашага народу”. [...] ...але я не згаджаюся з “астроўшчыкамі”, якія дзеля сваіх асабістых амбіцыяў і тытулаў трымаліся асобна, так як і дагэтуль не падтрымоўваючы дзейнасці бээнэраўцаў, таўкліся ў хвасьце за намі, так і цяпер не бяручы нават удзелу у традыцыйных Сустрэчах беларусаў»*[108]. Тым не менш рознагалоссе палітычных апанентаў у 1980–1990-я адышло далёка на другі план. Можна нават сказаць, што апошні прэзідэнт БЦР Міхась Зуй часам выяўляў больш заўважную актыўнасць, чым старшыня Рады БНР Язэп Сажыч. Аднак гістарычна Рада БНР аказалася ўсё ж больш трывалай, знайшоўшы ўнутраныя рэзервы для абнаўлення і працягу дзейнасці. У сярэдзіне 1990-х Барыс Рагуля нават арганізаваў у ЗША супольнае пасяджэнне прыхільнікаў БЦР і прадстаўнікоў Рады БНР з мэтай пошуку варыянтаў канчатковага замірэння. Канкрэтных вынікаў гэтае пасяджэнне не мела, магчыма, таму, што сама БЦР ужо, фактычна, не існавала.

Бадай найважнейшым у часы старшынёўства Язэпа Сажыча было тое, што Рада БНР не спыніла свайго існавання, не перадала свае паўнамоцтвы афіцыйнаму Мінску і захавала статус гістарычна абгрунтаванага прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў у свеце.

1980–1990-я гады засведчылі важнасць Рады БНР для беларускага грамадства як у дыяспары, гэтак і ў метраполіі, не толькі як уласна дзяржаўнай інстытуцыі, але найперш і найбольш як сімвала ідэі беларускай незалежнай дэмакратычнай дзяржаўнасці. Менавіта таму, нават калі афіцыйныя органы і асобы Рады БНР не праяўлялі асаблівай актыўнасці, пра БНР і яе ідэалы гаварылі на сходах, пісалі ў перыядычным друку, згадвалі ў зваротах розныя арганізацыі. Сімвалічная роля Рады БНР у згаданы перыяд значна перавысіла яе рэальную актыўнасць. Аднак заканчэнне перыяду, абнаўленне Рады давала надзею на магчымае адраджэнне і яе статусу рэальна дзейнай інстытуцыі.

---

108 Ліст Я. Сажыча да Я. Лецкі ад 01.02.2004. Захоўваецца ў БДАМЛМ. Ф. 356. Воп. 1. Спр. 80.

# 50 ГАДОЎ РАДЫ БНР НА ЭМІГРАЦЫІ (1947–1997)

Аповед пра трэці перыяд у гісторыі паваеннай Рады БНР з'яўляецца апошнім на сёння. Час кіравання Івонкі Сурвілы яшчэ працягваецца і мае быць прадметам вывучэння хутчэй для палітолагаў, чым для гісторыкаў.

Разам з тым, завяршаючы гэтым нарысам агляд падзей, што агулам расцягнуліся на паўстагоддзя, варта зрабіць некаторыя падсумаванні на падставе зробленай працы.

Паваенная Рада БНР стала важнай часткай не толькі гісторыі менавіта эміграцыі, але і агульнанацыянальнай беларускай гісторыі. Адноўленая ў 1947 г., яна намагалася, хоць і не заўсёды ўдала, адыгрываць каардынацыйную і кансалідацыйную ролю для беларусаў у Заходнім свеце, адначасова выступаючы няспынным раздражняльнікам для афіцыйнага Мінска. Сама наяўнасць больш ці менш дзейнай Рады як прадстаўніцы інтарэсаў беларусаў была фактарам, які не маглі ігнараваць ні палітычныя апаненты ў эмігранцкім асяроддзі, ні партыйныя савецкія гісторыкі ды функцыянеры.

Безумоўна, у гісторыі паваеннай Рады БНР былі розныя перыяды, змест якіх наўпрост залежыў ад асобы найвышэйшага кіраўніка. Таленавіты дыпламат Мікола Абрамчык зрабіў Раду бачнай, заўважанай сярод эміграцыйных структур іншых народаў. Плёнам яго працы стала з'яўленне беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне» («Свабода»), беларускага аддзела ў мюнхенскім Інстытуце вывучэння СССР, уключэнне беларусаў у спіс паняволеных народаў, зацверджаны Кангрэсам ЗША ў 1959 г., стварэнне Фундацыі Крэчэўскага… Зразумела, Міколу Абрамчыку не ўсё ўдалося. Часам аўтарытарнасць яго рашэнняў правакавала нутраныя праблемы ў Радзе. Аднак на міжнародным узроўні менавіта перыяд 1947–1970 гг., пры ўсёй яго супярэчнасці, быў для Рады БНР найбольш плённы.

Час кіравання Вінцэнта Жук-Грышкевіча быў перыядам выпраўлення памылак ва ўнутранай палітыцы. Пераемнік Міколы Абрамчыка здолеў кансалідаваць Раду, наладзіць сувязі паміж цэнтрам і сектарамі ў розных краінах, стабілізаваў фінансавае становішча Рады. Аднак пры гэтым у плане вонкавага ўплыву беларускае дзяржаўнае прадстаўніцтва на эміграцыі стала менш заўважным.

Напрыканцы гістарычнага нарыса да папярэдняй кнігі мы пісалі, што Вінцэнт Жук-Грышкевіч зменшыў важнасць для Рады асобы кіраўніка. Аднак перыяд кіравання Язэпа Сажыча засведчыў, што згаданае змяншэнне не было сапраўды значным. Новы старшыня не быў ні дыпламатам, ні арганізатарам, на кіруючай пасадзе ён быў, хутчэй, асобай выпадковай. І змест яго працы — перыядычная прысутнасць на нацыянальных святкаваннях ды кантакты з паасобнымі дзеячамі — аказаўся амаль незаўважным і ўнутры Рады, і па-за ёю. Парадаксальна, але, хутчэй, не моцныя вартасці характара, а слабасць, мяккасць дазволілі Язэпу Сажычу заставацца на пасадзе старшыні ажно 15 гадоў — яго просьбы аб сыходзе не прымаліся раднымі, і ён мусіў падпарадкоўвацца і заставацца, нават не маючы ні сілаў, ні здольнасцяў для працы.

Менавіта на апошнім з разгляданых этапаў найбольш відавочнай стала кадравая праблема ў Радзе БНР, калі немагчымым аказвалася знайсці больш-менш дзейных працаўнікоў у цэнтральныя органы. Аднак у гэтай сітуацыі не было нічога дзіўнага, яна была характэрная для пераважнай большасці беларускіх эміграцыйных структураў: у грамадскай працы заўсёды мала людзей, якія жадаюць браць на сябе адказнасць і рэальна дзейнічаць, а тыя, хто ўсё ж бярэ да сябе працу, найчасцей аказваюцца перагружаныя ёй.

Акрамя асобы кіраўніка на актыўнасць Рады БНР на працягу ўсіх пяцідзесяці паваенных гадоў рабілі значны ўплыў знешнія фактары: стан самога эміграцыйнага асяроддзя і, безумоўна, міжнародная палітыка. Чым больш абвастралася супрацьстаянне Усходу і Захаду, тым большыя былі магчымасці знешняй дзейнасці Рады. Урэшце, і на само захаванне ды абнаўленне Рады БНР у другой палове 1990-х гг. вырашальны ўплыў зрабілі тыя ж вонкавыя абставіны — падзеі ў Беларусі. Менавіта пад іх уплывам Рада БНР перажыла эміграцыйныя ўрады ўсіх суседніх народаў і захавалася як інстытуцыя.

Як ужо неаднойчы згадвалася раней, Рада БНР дзейнічала ў тых самых умовах, што і ўся беларуская паваенная эміграцыя, перажываючы тыя ж усплёскі і спады актыўнасці сваіх сябраў. Аднак, наколькі б часам незаўважнай ні рабілася яе рэальная дзейнасць, для грамадства найбольш важным заставалася сімвалічнае значэнне Рады БНР як увасаблення ідэі незалежнай дэмакратычнай беларускай дзяржаўнасці.

У дакладзе на XXI Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў 1994 г. Вітаўт Кіпель трапна сказаў: *«Палітычная дзейнасьць беларускай дыяспары, улучна зь беларускімі арганізацыйнымі структурамі ў Злучаных Штатах і Канадзе, праходзіла пад ідэалам адраджэньня-аднаўленьня незалежнае беларускае дэмакратычнае дзяржавы ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была абвешчана 25 Сакавіка 1918 году.*

*Апошнія падзеі на Бацькаўшчыне паказваюць, што дэмакратычны працэс на Беларусі пачаўся і эміграцыя гэты працэс шчыра вітае й будзе дапамагаць. Аднак нядаўна паўсталай Рэспубліцы Беларусь, ейнаму фармаваньню як незалежнай дзяржавы пагражае небясьпека, а таму палітычная дзейнасьць беларускай эміграцыі будзе ісьці тымісамымі каналамі і пад тымісамымі ідэаламі — адраджэньня Незалежнае Беларускае Дзяржавы ды палітычная дзейнасьць дыяспары ня спыніцца да зьдзяйсьненьня гэтых вышэйшых для Беларускага Народу ідэалаў»*[109].

БНР як ідэя выступала ў якасці аб’ядноўчага фактару і для паваеннай эміграцыі, і ў 1990-я гг. для адраджэнскіх сілаў у постсавецкіх дыяспарах ды метраполіі. Дзеля яе ўвасаблення працавалі, дый сёння працягваюць працаваць, беларусы, нават не будучы раднымі БНР. І гэта, магчыма, найважнейшы вынік паўвекавой гісторыі Рады БНР на эміграцыі. Гісторыі, якая не скончана.

---

[109] Пагляд на будучыню… // Беларус. № 416. Верасень 1994. С. 1.

## *Раздзел ІІ*
# ПРАТАКОЛЫ

*Пратаколы пасяджэнняў Прэзідыума і сесій Рады БНР часоў кіравання Язэпа Сажыча захаваліся фрагментарна. Прадстаўленыя тут былі сабраныя ў архівах Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, найперш у зборах Віталя Кажана. Недасяжнымі для нас аказаліся пратаколы 20-й і 21-й сесій Рады БНР. Прычым ёсць сумневы, ці пратакол 20-й сесіі наогул быў апрацаваны.*

*Пры публікацыі тут асаблівасці правапісу арыгіналаў захоўваліся. Каментары пра асобаў, згаданых у пратаколах, падаюцца з улікам звестак да пратаколаў у папярэдніх кнігах.*

## ПРАТАКОЛ 18-Й ЧАРГОВАЙ СЭСІІ РАДЫ БНР, ЯКАЯ АДБЫЛАСЯ 30 ЖНІЎНЯ 1986 Г. У БЕЛАРУСКІМ СЕЛІШЧЫ «ПОЛАЦАК» КАЛЯ КЛІЎЛЕНДУ Ў ШТАЦЕ АГАЁ, ЗША

Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч адчыніў Сэсію а 2-й гадзіне папаўдні ды прывітаў прысутных радных і гасьцей. Уладыка Мікалай[110] запрапанаваў пачаць нарады Сэсіі супольным адсьпяваньнем «Ойча наш». Па малітве хвілінай памяці ўшанавалі памяць радных, што памерлі ад часу апошняй сэсіі.

Старшыня Рады прачытаў сьпіс новапрынятых сяброў Рады, прысяга якіх была прынятая ў пісьмовай форме ў розных Сэктарах: Янка Ханенка[111],

---

[110] **Мікалай** (свецк. **Міхась Мацукевіч**, 1917–2002) ад 1973 г. узначальваў Канадска-Еўрапейскую епархію БАПЦ. Удзельнік расколу БАПЦ у 1980-я гг., калі на Надзвычайным саборы БАПЦ у Кліўлендзе (Агаё, ЗША) у 1983 г. быў абраны першым іерархам БАПЦ (паўторна абраны таксама ў 1984 г. на ІІІ саборы БАПЦ). Спрычыніўся да перакладу багаслужбаў і літургічных кніг на беларускую мову.

[111] **Янка Ханенка** (нар. 1951, г. п. Парычы, Светлагорскі раён Гомельскай вобл.), грамадскі дзеяч. У 1974 г. уцёк з савецкага карабля-сухагруза «Шура Кобер» у г. Іры. Атрымаў прытулак у ЗША, пасяліўся ў Кліўлендзе. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, у 1988–2000 гг. кіраваў Кліўлендскім аддзелам арганізацыі. Быў старшынёй Камітэта абароны вязняў сумлення.

Ірэна Каляда[112], Тацьцяна Кананчук[113], Віктар Касьцюкевіч[114] (адноўлены ў сяброўстве), Уладзімер Цэлеш[115], Арсень Монід[116], Адольф Субота[117]. Новых сяброў Рады прысутныя прывіталі воплескамі.

---

[112] **Ірэна Каляда** (у шлюбе **Смірноў**, нар. 11.11.1937, в. Падкасоўе Наваградскага пав., цяпер Наваградскі раён Гродзенскай вобл.), грамадская дзяячка. У 1944 г. разам з бацькамі выехала з Беларусі ў Нямеччыну. Вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Потым пераехала ў ЗША, пасялілася ў Кліўлендзе. Атрымала эканамічную адукацыю. Займалася вакалам, спявала ў царкоўным і свецкім хорах, іграла ў тэатральных пастаноўках, выкладала ў беларускай суботняй школе ў Кліўлендзе. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, Кліўлендскага аддзела арганізацыі. Кіраўнічка бінга *Ethnic Voice of America.* Ад 1992 г. стала актыўна займацца дабрачыннай дзейнасцю, у тым ліку фундуючы аздараўленне дзяцей з чарнобыльскіх рэгіёнаў (стварыла Дабрачынны фонд «Этнічны голас Амерыкі»).

[113] Таццяна Кананчук жыла ў Кліўлендзе.

[114] **Вячаслаў (Віктар) Касцюкевіч** (16.06.1925, в. Літоўцы, цяпер Докшыцкі раён Віцебскай вобл. — 1993, Канада), грамадскі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 01.11.1946 быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1952 г. выехаў у Канаду. У розныя часы быў старшынёй і намеснікам старшыні Згуртавання беларусаў Канады.

[115] **Уладзімір Целеш** (01.04.1911, в. Краснае Сяло Ваўкавыскага пав. — 08.04.1993, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч. У часе Першай сусветнай вайны разам з бацькоўскай сямёй апынуўся ў бежанстве, адкуль вярнуўся толькі ў 1922 г. Скончыў сямігодку, вучыўся на краўца, служыў у войску. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР быў арыштаваны НКУС і адпраўлены ў лагеры. З пачаткам стварэння Арміі Андэрса вызваліўся і апынуўся ў яе шэрагах. Прайшоў шлях праз Іран, Ірак, Сірыю, Палестыну, Італію. Удзельнічаў у бітве за Монтэ-Касіна. Пасля сканчэння Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі, адкуль у 1952 г. перасяліўся ў Канаду. Жыў у Таронта. Быў актывістам прыхода Св. Кірылы Тураўскага БАПЦ, старшынёй парафіяльнай рады.

[116] **Арсень Монід** (15.08.1925, в. Хатуцічы, цяпер Маладзечанскі раён Мінскай вобл. — 28.07.2005, Канада), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладзечанскай адміністрацыйна-гандлёвай школе Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Францыі, дзе браў удзел ў працы Аб’яднання беларускіх работнікаў, быў рэферэнтам Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі. У 1948 г. быў удзельнікам З’езда беларускай эміграцыі ў Парыжы. Радны БНР. У сярэдзіне 1950-х гг. перабраўся ў Канаду. Быў актывістам Згуртавання беларусаў Канады.

[117] **Адольф Субота** (05.02.1925, Валожыншчына — 19.09.2006, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Бельгіі, працаваў на гадзіннікавай фабрыцы. У 1957 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі). Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, аддзела ў Нью-Джэрсі. Уваходзіў у ветэранскую арганізацыю, рэгулярна наведваў і падтрымоўваў Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву. На пачатку 1990-х наведаў Беларусь, падтрымоўваў Беларускі народны фронт.

Да п. 2.

Старшыня Рады папрасіў выбраць Прэзыдыюм Сэсіі. Аднагалосна былі выбраныя: др. Барыс Рагуля[118] — старшыня Сэсіі, сп. Антон Шукелаць[119] і сп. Васіль Русак[120] — сакратары.

Старшыня Сэсіі др. Б. Рагуля прачытаў праект парадку дня Сэсіі як пададзена ніжэй:

1. Адкрыцьцё Сэсіі, малітва і адданьне пашаны памёрлым радным.
2. Выбары Прэзыдыюму Сэсіі.
3. Устанаўленьне ліку прысутных радных і ўпаўнаважаных галасоў.
4. Устанаўленьне парадку дня.
5. Прыняцьцё й прывітаньне новых сяброў Рады.
6. Прачытаньне й прыняцьцё пратаколу 17-й Сэсіі.
7. Справаздачны даклад Старшыні Рады й галоўнага скарбніка БНР.
8. Дыскусія над справаздачамі й высновы.
9. Выбары новай Кантрольнай камісіі Рады БНР.
10. Плян працы: а. у нутраных і арганізацыйных дачыненьнях; б. у вонкавых дачыненьнях; в. бюджэт.
11. Рознае (вольныя прапановы).

Прапанаваны парадак дня быў прыняты бязь зьменаў.

Да п. 3.

Старшыня Сэсіі папрасіў устанавіць колькасьць правамоцных галасоў ды сьцьвердзіць паўнапраўнасьць Сэсіі. Сакратары ўстанавілі, што на Сэсіі было прысутных 31 радны і атрымана 16 паўнамоцтваў — усяго 47 галасоў, што становіць больш за палавіну 92-х асобаў, што належаць да Рады БНР.

Старшыня Сэсіі абвесьціў Сэсію правамоцнай.

Да п. 5. Адбылося.

Да п. 6.

У сувязі з абмежаваным часам пратакол 17-й Сэсіі Рады БНР з 27 лістапада 1982 г. ня быў чытаны[121]. Копіі пратаколу былі раней разасланыя ўсім радным.

---

[118] **Барыс Рагуля** (1920–2005) жыў у канадскім Лондане (Антарыа), быў вядомым у краіне медыкам-спецыялістам па ракавых захворваннях. Больш падрабязныя біяграфічныя звесткі гл. у адпаведным раздзеле кнігі.

[119] **Антон Шукелойць** (нар. 1915) жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Ёркскага аддзела, а таксама ад 1975 г. быў старшынёй Галоўнай управы арганізацыі.

[120] **Васіль Русак** (1923–2000) жыў у Нью-Джэрсі, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Джэрсійскага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання, быў актывістам БАПЦ.

[121] Гл.: Пратакол 17-ай Звычайнай чароднай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 27 лістапада 1982 г. у будынку Фундацыі імя П. Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Нью Ёрк, 11423, ЗША // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы. Мінск: Кнігазбор, 2014. С. 203–216.

Да п. 7.

Старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч зрабіў справаздачу зь дзейнасьці Рады за час паміж 17-й і 18-й сэсіямі, г. зн. ад 1982 г. да 1986 г.

Фінансавую справаздачу Рады БНР зрабіў Скарбнік сп. Віталі Кажан[122]. Сальда на 15 жніўня 1986 г. было 19.496,61 даляра. Сп. Кажан адзначыў добрую працу скарбнікаў у Аўстраліі, Ангельшчыне, Бэльгіі, Канадзе, ЗША (Т. Супруна[123] і Я. Ханенкі).

Да п. 8.

Старшыня Сэсіі падзякаваў за справаздачы і папрасіў выказвацца ў дыскусіі.

Др. У. Бакуновіч[124] запытаўся, дзе трымаюцца грошы БНР.

Скарбнік сп. В. Кажан сказаў, што грошы ляжаць на асобным коньце скарбніка, пераважна ў «моні маркет»[125] і «сэртыфікэтс оф дэпозыт»[126], і што за працэнты плоцяцца падаткі.

Сп. Янка Каваленка[127] папытаўся, чаму грошы трымаюцца на прыватным рахунку. Др. В. Жук-Грышкевіч[128] уважае, што грошы павінны трымацца на коньце грамадзкай арганізацыі, ды што дзьве асобы павінны падпісваць чэкі. Сп. Ф. Бартуль[129] запрапанаваў даручыць абладжаньне гэтага пытаньня Старшыні Рады й Скарбніку.

Старшыня Сэсіі падзякаваў за справаздачы ды прасіў выказвацца далей у дыскусіях.

Др. Р. Жук-Грышкевіч[130] зазначыла, што Сэсіі Рады БНР павінны адбывацца ў сваім будынку Фундацыі Крэчэўскага ды што ня добра, калі праца

---

122 **Віталь Кажан** (1916–2004) у гэты час жыў у Стамфардзе (Канектыкут), быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, сакратаром Стамфардскага аддзела арганізацыі. Ад 1993 г. быў сябрам Рэвізійнай камісіі Галоўнай управы БАЗА. Уваходзіў у кіраўніцтва Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

123 **Тамаш Супрун** (1923–1996) жыў у ЗША.

124 **Уладзімір Бакуновіч** (1926–1992) жыў у Дэтройце (штат Мічыган), дзе працаваў як спецыяліст па падаткавых справах. Доўгі час быў сакратаром управы Дэтройцкага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання. У 1980-я гг. — сябра Галоўнай управы БАЗА.

125 ***Money market*** (англ.) — адзін з відаў дэпазітных рахункаў у ЗША.

126 ***Certificate of deposit*** (англ.) — каштоўная папера, якая сведчыць пра суму ўнесенага ў банк укладу (дэпазіту) і дазваляе праз пэўны тэрмін атрымаць згаданую суму з налічанымі працэнтамі.

127 Янка Каваленка жыў у Кліўлендзе.

128 **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (1903–1989) жыў у Бэры (Антарыа, Канада). У 1970–1982 гг. быў старшынёй Рады БНР.

129 **Францішак Бартуль** (1918–2005) жыў у Нью-Ёрку, дзе меў дантыстычную майстэрню. Уваходзіў у кіраўніцтва БАЗА і яго Нью-Ёркскага аддзела. Ад 1982 г. быў старшынёй Рады дырэктараў Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

130 **Раіса Жук-Грышкевіч** (дзяв. **Жукоўская**, 1919–2009) жыла ў Бэры (Антарыа, Канада). Была сябрам Згуртавання беларусаў Канады, Каардынацыйнага камітэта

Сэсіі абмяжоўваецца праграмай зьезду грамадзкіх арганізацыяў. Ня добра яшчэ й таму, што пры наяўнасьці падзелу ў нашым грамадзтве на груньце рэлігійным, ня ўсе ў гэтым выпадку могуць прыбыць на Сэсію. Др. В. Жук-Грышкевіч прапануе прысьвяціць Сэсіі цэлы дзень.

Сп. М. Ганько[131] заявіў, што Рада БНР працягвае найлепшыя традыцыі гістарычнай Рады БНР, і для людзей, якія нічога ня робяць або шкодзяць, не павінна быць месца ў Радзе, і няма патрэбы іх бараніць.

Старшыня Сэсіі зазначыў, што Сэсія — гэта ня суд.

Старшыня Рады БНР заявіў, што наш абавязак бараніць БАПЦ і парафіі, якія становяць аснову беларускага грамадзкага жыцьця.

Сп. Я. Азарка[132], старшыня сэктару Рады БНР у Нью-Джэрзі, зьвярнуў увагу, што людзям, пра якіх тут, відаць, ідзе гутарка, высылаліся запросіны на сход сэктару Рады, але яны ня прыйшлі на сход; гэткія людзі й на Сэсію ня прыедуць, дзе-б яна ні адбывалася.

У канцы гэтага пункту парадку дня завязалася дыскусія пра сяброўства ў Радзе БНР. Сп. сп. В. Кажан, М. Шуст[133], Ф. Бартуль, М. Наўмовіч[134], др. Р. Жук-Грышкевіч і П. Барысік[135] выказалі пажаданьне сьцьвердзіць праз сэктары сапраўдны стан сяброўства Рады БНР.

Да п. 9.

На сяброў Кантрольнай Камісіі Рады БНР былі пададзеныя наступныя кандыдатуры: сп. М. Тулейка[136] (пададзены сп. В. Кажаном), У. Русак

---

беларусаў Канады. У 1973 г. як прадстаўнік ад беларускай этнічнай групы ўведзена канадскім урадам у Кансультацыйную раду ў пытаннях шматкультуралізму. У 1993 г. напісала і выдала кнігу «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча».

131 **Мікола Ганько** (1924–1999) жыў у Таронта (Канада). Уваходзіў у кіраўніцтва Згуртавання беларусаў Канады, ад 1989 г. цягам колькіх гадоў быў старшынёй Галоўнай управы арганізацыі.

132 **Янка Азарка** (1922–2005) жыў у Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі), быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у тым ліку старшынёй Нью-Джэрсійскага аддзела. Удзельнічаў у працы Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў у Нью-Джэрсі.

133 **Мікола Шуст** (20.10.1921, в. Вашчанкі, Палессе — ?, Канада), грамадскі дзеяч, разьбяр, мастак. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Быў сябрам Згуртавання беларусаў Канады і парафіі царквы Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

134 **Міхась Наўмовіч** (1922–2004), скульптар, мастак. Жыў у Вільпэнце (прыгарад Парыжа).

135 **Пётра Барысік** (?–?) жыў у Бельгіі. Актыўны ўдзельнік беларускага жыцця ў гэтай краіне. Сябра Саюза беларусаў Бельгіі.

136 **Міхась Тулейка** (1915–1998) жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у тым ліку пэўны час кіраваў Нью-Ёркскім і Нью-Джэрсійскім аддзеламі арганізацыі. Найбольш часу аддаваў працы на пасадзе старшыні парафіяльнай рады БАПЦ у Брукліне, быў рэгентам хору. Пераехаўшы ў Нью-Джэрсі, працягваў грамадска-рэлігійную дзейнасць у Гайленд-Парку.

(Я. Азарка), А. Монід (М. Шуст), К. Мерляк[137] (др. Б. Рагуля), Ф. Бартуль, Я. Азарка. Кантрольная Камісія была выбраная ў наступным складзе: сп. М. Тулейка — старшыня, сп. Ф. Бартуль — сябра, сп. Я. Азарка — сябра, сп. К. Мерляк — сябра.

Да п. 10.

Старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч прачытаў прывітаньні й прапановы ад Сэктароў Рады БНР у Аўстраліі (сп. сп. М. Нікан[138] і М. Скабей[139]), у Англіі (сп. А. Лашук[140]), Нямеччыне (сп. У. Бортнік[141]).

Др. Сажыч перадаў у Прэзыдыюм ліст ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, напісаны старшынём Інстытуту др. В. Кіпелем[142] і сп-няй З. Кіпель[143] у справе выданьня кнігі «Хрэстаматыя з навейшай палітычнай

[137] **Кастусь Мерляк** (1919–2006) ад канца 1950-х гг. жыў у ЗША. Стваральнік парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Ад 1969 г. браў удзел у дзейнасці Беларускага кангрэсавага камітэта Амэрыкі, у 1970-я гг. некаторы час быў віцэ-прэзідэнтам БККА. У сярэдзіне 1990-х адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. У 1992 г. выдаў успаміны «Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі».

[138] **Мікола Нікан** (1908–1999) жыў у Мельбурне. Быў сакратаром Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі. Быў адным з ініцыятараў Сустрэчаў беларусаў Аўстраліі. Доўгія гады распаўсюджваў беларускую прэсу ў штаце Вікторыя і быў сталым карэспандэнтам з Мельбурна для розных эміграцыйных выданняў.

[139] **Скабей Мікола** (1905–1992) жыў у Мельбурне, уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі.

[140] **Аляксандр Лашук** (1909–1997) жыў у Лондане. Уваходзіў у кіраўніцтва Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, шмат гадоў быў старшынёй сектара Рады БНР у Вялікабрытаніі.

[141] **Уладзімір Бортнік** (1910–1988) жыў у Мюнхене. Быў старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Нямеччыне.

[142] **Вітаўт Кіпель** (нар. 30.05.1927, Мінск), грамадскі дзеяч, навуковец, даследчык беларускай эміграцыі, сын Я. Кіпеля, муж З. Кіпель. У 1953 г. скончыў Лювенскі ўніверсітэт са спецыяльнасцю геолага. У 1955 г. атрымаў ступень доктара мінералогіі і пераехаў у ЗША. Працаваў у навукова-вытворчых фірмах, у Балтымарскім універсітэце (штат Мэрыленд). У 1959–1985 гг. — у Даследчым цэнтры навукі і тэхналогіі Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі (у тым ліку на пасадзе выканаўчага дырэктара). Лідар беларускага рэспубліканскага руху. У 1972–1982 гг. — старшыня Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў. У 1974 г. абраны на старшыню Рэспубліканскай федэрацыі штата Нью-Джэрсі. Рэдактар газеты нью-джэрсійскіх рэспубліканцаў *«Heritage Review»*. У 1975 г. узнагароджаны медалём Паняволеных народаў Эйзенхаўэра. У 1978–1982 гг. — старшыня Этнічнай рады штата Нью-Джэрсі. Ад 1982 г. — старшыня БІНіМа. Аўтар працы «Беларусы ў ЗША» (1993 г.; англамоўнае выданне 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у тым ліку артыкулаў беларусазнаўчай тэматыкі ў амерыканскіх энцыклапедыях.

[143] **Зора Кіпель** (дзяв. **Савёнак**, 01.07.1927, Мінск — 14.04.2003, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадская дзяячка, бібліёграф, літаратуразнаўца, дачка А. і Л. Савёнкаў, жонка В. Кіпеля. У 1949–1954 гг. вучылася на хімічным факультэце Лювенскага

гісторыі Беларусі» (па-ангельску)[144], якая-б выйшла да 70-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР. Кніга плянуецца на больш як 300 балонак і друк яе будзе каштаваць паміж пяць і пяць з палавінай тысячаў даляраў.

У гэтым пытаньні адбылася шырокая дыскусія, у якой узялі ўдзел др. Р. Жук-Грышкевіч, сп. сп. Ф. Бартуль, К. Мерляк, М. Ганько, М. Наўмовіч, В. Кажан, А. Шукелайць, У. Русак, др. Б. Рагуля, сп-ня Н. Арсеньнева[145], В. Пляскач[146] і В. Русак.

Усе выказваньні былі за тое, каб гэткая кніга была выдадзеная. Было пастаноўлена фінансаваць з касы Рады БНР (да 5-х тыс. даляраў), а перагляд публікацыі даручыць Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Сп. Я. Азарка і В. Кажан раілі больш інфармаваць пра дзейнасьць БНР у беларускай прэсе.

Др. Р. Жук-Грышкевіч прадставіла прысутнага др. Б. Грабінскага[147] як вэтэрана-юбіляра беларускага руху, які 75 год таму, быўшы вучнем Горадзенскай гімназіі, уступіў у першую беларускую арганізацыю. Прысутныя прывіталі юбіляра авацыяй.

Сп. М. Ганько раіў падтрымаць Беларусаў зь Беласточчыны, якія хочуць эміграваць у ЗША ці Канаду.

---

ўніверсітэта, які скончыла з дыпломам магістра. У 1955 г. прыехала ў ЗША. У 1966 г. скончыла Ратгерскі ўніверсітэт (Нью-Джэрсі) са ступенню магістра бібліятэказнаўства і інфармацыйных тэхналогій і пачала працу ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы *(NYPL)*, у 1982 г. заняла пасаду намесніка кіраўніка славянска-балцкага аддзела. У 1986 г. — скончыла факультэт параўнальнага літаратуразнаўства Ратгерскага ўніверсітэта. Сябра Амерыканскай асацыяцыі славістаў. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у 1979–1983 гг. — сакратаром Галоўнай управы арганізацыі. У 1980–1990-х гг. — рэдактарам і сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус». Радная БНР, сябра БІНіМа. У 1998 г. разам з мужам перадала на захаванне ў *NYPL* унікальную калекцыю беларускай эміграцыйнай перыёдыкі, на падставе якой была складзеная і выдадзеная грунтоўная «Бібліяграфія беларускага і беларусаведнага друку на Захадзе» (першае выданне: 2003–2004 гг., другое — 2006 г.). Аўтарка больш як двухсот беларусаведных публікацый у шэрагу навуковых выданняў, найперш у галіне беларускай літаратуры і крыніцазнаўства, складальніца шэрагу бібліяграфій.

[144] Belarusian statehood: reader and bibliography / Edited by Vitaut and Zora Kipel. New York: Belarussian Institute of Arts and Sciences, 1988. — 398 p.

[145] **Наталля Арсеннева** (у шлюбе **Кушаль**, 1903–1997) ад 1967 г. жыла ў Рочэстэры (штат Нью-Ёрк), куды пераехала да сына Уладзіміра, каб дапамагаць гадаваць унукаў. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання і БІНіМа.

[146] **Васіль Пляскач** (1916–2006) жыў у штаце Дэтройт (Мічыган). Працаваў на заводах «Джэнэрал Мотарс» у аддзеле дызайну. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці ў ЗША, стварэнні структураў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ).

[147] **Баляслаў Грабінскі** (1899–1991) жыў у ЗША. Быў сябрам БАЗА, удзельнікам кіраўніцтва Чыкагскага аддзела арганізацыі, сябрам БІНіМа.

Др. У. Бакуновіч раіў прыдбаць будынак для архіваў БНР, каб ня здарылася так, як здарылася з дакумэнтамі Я. Чарапука[148].

Сп. В. Кажан, зазначыўшы, што Суд Рады БНР страціў аднаго сябру ў асобе сп. М. Кунцэвіча[149], прапанаваў дабраць на яго месца новую асобу.

Др. Б. Рагуля запрапанаваў дабраць у Суд др. Л. Трусэвіча[150]. Прапанова была прынятая аднагалосна.

Сп. Я. Азарка сказаў, што Сэктар Рады БНР у Нью-Джэрзі хоча ажыцьцявіць праект пабудовы помніка сп. п. Прэз. Рады БНР М. Абрамчыку[151] на Беларускім магільніку ў Іст-Брансьвіку.

Сп. В. Кажан напомніў аб важнасьці уплаты сяброўскіх складак у ранейшай вышыні.

Старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч сказаў на заканчэньне, што Рада БНР карыстаецца аўтарытэтам у эміграцыйуных колах іншых народаў ды ў беларускім грамадзтве.

18-я Сэсія Рады БНР закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

*Кліўленд, 30 жніўня 1986 г.*

*В. Русак, сакратар.*

*А. Шукелайць, сакратар.*

---

[148] **Янка Чарапук-Змагар** (1896–1957) ад 1922 г. жыў у ЗША, у Чыкага. Быў адным з ініцыятараў стварэння Беларускага народнага камітэта ў штаце Ілінойс, Беларуска-амерыканскага нацыянальнага клуба. Уваходзіў у міжнародную каталіцкую арганізацыю «Рыцары Калумба» (меў найвышэйшую ступень). Лёс яго архіваў невядомы.

[149] **Мікола Кунцэвіч** (1907–1985) жыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, ініцыятарам стварэння (разам з Гіпалітам Паланевічам) і сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус». Ад 1982 г. — рэдактар бюлетэня «Весткі й паведамленьні Ньюёрскага аддзелу БАЗА».

[150] **Лявон Трусевіч** (1924–2000) працаваў у мэдыцынскай службе амерыканскага войска (даслужыўся да рангу палкоўніка). Пасля выхаду ў адстаўку жыў у Фларыдзе. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання.

[151] Удава Прэзідэнта БНР Міколы Абрамчыка (1903–1970) пасля смерці мужа амаль спыніла кантакты з беларусамі і не дазволіла прадстаўнікам Рады БНР паставіць на яго магіле помнік. Таму ў шэрагах амерыканскіх прыхільнікаў Рады ўзнікла ідэя зрабіць сімвалічны помнік Міколу Абрамчыку на беларускім могільніку.

# ПРАТАКОЛ 19-Й ЗВЫЧАЙНАЙ ЧАРОДНАЙ СЭСІІ РАДЫ БНР, ШТО АДБЫЛАСЯ 28 ТРАВЕНЯ 1988 Г. У ПАМЕШКАНЬНІ ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА, 166-34 ГОТЫК ДРАЙВ, НЬЮ-ЁРК, ЗША

Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч адчыніў Сэсію а гадзіне 10:30 ураньні, вітаючы радных. На ягоную прапанову была прасьпяваная малітва «Магутны Божа». Хвілінай цішы ўшанавалі памяць памерлага раднага др. Пётры Гайдзеля[152].

Да п. 2.

У Прэзыдыюм Сэсіі былі абраныя др. Янка Запруднік[153] за старшыню, сп. сп. Міхась Тулейка і Антон Шукелайць за сакратароў.

Да п. 3.

Пасьля дыскусіі было сьцьверджана, што Сэсія правамоцная: у ёй бярэ ўдзел 49 радных, зь якіх 20 прысутных і 29 прадстаўленых упаўнаважаньнямі.

Да п. 4.

Раней прынятыя ў сябры Рады:

сп-чна Раіса Станкевіч[154],

---

[152] **Пётра Гайдзель** (14.07.1912, Браслаўшчына — люты 1988, Вісконсін, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар. Скончыў гімназію марыянаў у Друі. Вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта, дыплом лекара атрымаў у Марбургскім універсітэце (Нямеччына) пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. У 1949 г. выехаў у Аўстралію. У Сіднэі здаў іспыт на атрыманне права лекарскай практыкі. Удзельнічаў у станаўленні беларускага грамадскага жыцця ў Новай Паўднёвай Валіі. У сакавіку 1950 г. браў удзел у першым з'ездзе сяброў Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі ў Сіднэі. Пазней — адзін з арганізатараў Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі і сябра Аўстралійскага сектара Рады БНР. У 1957 г. разам з сям'ёй пераехаў у ЗША, дзе таксама займаўся лекарскай працай. Апошнія гады жыў у штаце Вісконсін.

[153] **Янка Запруднік** (нар. 1926) да 1991 г. працаваў у нью-ёркскай рэдакцыі Радыё «Вызваленне» («Свабода»). Больш падрабязныя біяграфічныя звесткі гл. у адпаведным раздзеле кнігі.

[154] **Раіса Станкевіч** (нар. 1941) ад 1958 г. жыве ў Нью-Ёрку. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіла ў Галоўную ўправу ды кіраўніцтва Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі, у рэдкалегію газеты «Беларус». Была старшынёй Задзіночання беларуска-амерыканскай моладзі, старшынёй рэдкалегіі часопіса «Беларуская моладзь». У 1987 г. скончыла факультэт русістыкі Гантэрскага каледжа Гарадскога ўнівэрсітэта Нью-Ёрка, абараніўшы магістарскую працу на тэму, прысвечаную гісторыі Беларусі пач. XX ст. Сябра Адміністрацыйнага камітэта Фундацыі імя І. Любачкі.

інж. Юрка Азарка[155]
і сп. Віктар Тур[156] злажылі прысягу.
Да п. 5.

Праект парадку дня Сэсіі, запрапанаваны Старшынём, быў зацьверджаны з дадаткам асобнага пункту (№ 9) — «Справаздача Кантрольнай Камісіі».

Прыняты парадак дня:

1. Адкрыцьцё Сэсіі, малітва і адданьне пашаны памёрлым радным.
2. Выбары Прэзыдыюму Сэсіі.
3. Устанаўленьне ліку прысутных радных і ўпаўнаважаных галасоў.
4. Прыняцьцё й прывітаньне новых сяброў Рады.
5. Устанаўленьне парадку дня.
6. Прачытаньне й прыняцьцё пратаколу 18-й Сэсіі Рады.
7. Даклад Старшыні Рады БНР.
8. Справаздачы сакратароў: фінансаў, вэтэранаў, інфармацыі і сэктараў Рады БНР.
9. Справаздача Кантрольнай Камісіі.
10. Дыскусія над справаздачамі.
11. Плян працы; справа сяброўства й складак.
12. Выбары Старшыні Рады БНР.
13. Рознае (інфармацыя ад ўправы Фундацыі Крэчэўскага, вольныя прапановы).

Да п. 6.

Пратакол 18-й Сэсіі, які прачытаў др. Я. Запруднік, быў прыняты аднагалосна. Др. Р. Жук-Грышкевіч запрапанавала выясьніць сяброўства ў Радзе сп. В. Касьцюкевіча з Канады.

Да п. 7.

Др. Я. Сажыч прачытаў справаздачу зь дзейнасьці за мінулую кадэнцыю.

Да п. 8.

Справаздачу зь фінансаў Рады зрабіў Галоўны Скарбнік сп. Віталі Кажан. Сальда на 26.5.1988 г. — 26.357,10 амэрыканскіх даляраў. Сп. Кажан выка-

---

[155] **Юрка Азарка** (нар. 1951) жыве ў г. Сомерсэце (Нью-Джэрсі). Ад 1977 г. быў старшынёй Адміністрацыйнага камітэта Фундацыі імя І. Любачкі пры АБАМ. У 1985 г. збіраў сродкі на адбудову царквы і манастыра ў Супраслі на Беласточчыне. Сябра Беларускага народнага фронту, прадстаўнік БНФ у ЗША. Ад 1994 г. быў старшынёй Нью-Джэрсійскага аддзела БАЗА. Ад 2011 г. — сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання «Пагоня».

[156] **Віктар Тур** (нар. 18.08.1954, Лондан, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч, сын Васіля Тура. У 1962–1971 гг. быў вучнем школы Св. Кірылы Тураўскага ў Лондане. Ад 25.11.1972 быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у Лонданскі аддзел. У 1971–1972 гг. удзельнічаў у беларускай моладзевай музычнай групе «Сакавік», якая прадстаўляла беларусаў у міжнародных канцэртах. У 1979 г. быў сябрам суполкі «Беларуская моладзь» у Лондане. Пазней з’ехаў у ЗША, дзе стаў актыўным удзельнікам беларускага жыцця.

заў падзяку старшыням і скарбнікам сэктараў за іх добрую працу, асабліва сэктарам у Аўстраліі і Ангельшчыне.

Маёр Сяргей Гутырчык[157] паінфармаваў пра дзейнасьць Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў.

Др. Я. Запруднік паінфармаваў пра выдавецтва газэты «Беларус» і іншыя публікацыі гэтага выдавецтва.

Справаздачы зь дзейнасьці сэктараў Рады БНР зрабілі: сп. Янка Азарка (Нью-Джэрзі), сп. Мікола Ганько (Канада) і сп. Мікола Нікан (Аўстралія). Др. Я. Запруднік прачытаў прывітаньні ад сэктараў Рады БНР у Эўропе.

Да п. 9.

Сп. Міхась Тулейка прачытаў пратакол Кантрольнай Камісіі з рэвізіі справаводзтва Галоўнага Скарбніка Рады БНР.

Да п. 10.

Сп. Кастусь Мерляк інфармаваў пра свой удзел у Антыбальшавіцкім Блёку Народаў[158], дзе ён, на просьбу др. Я. Сажыча, рэпрэзэнтаваў Раду БНР і дзе ад даўжэйшага часу рэпрэзэнтуе таксама Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі[159]. Сп. Мерляк расказаў пра свой удзел у канфэрэнцыі АБН, што адбылася 13–15 травеня 1988 г. у Вашынгтоне.

На пытаньне др. Ул. Набагеза[160], чаму няма справаздачаў пра дзейнасьць сэктараў у Эўропе, др. Я. Запруднік адказаў, што меўся прыехаць на Сэсію сп. Ул. Бортнік, заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу, із справаздачамі, але сп. Бортнік цяжка захварэў[161].

---

[157] **Сяргей Гутырчык** (1923–1993) жыў у Нью-Джэрсі. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Джэрсійскага аддзела арганізацыі. Шматгадовы камандзір Нью-Джэрсійскага аддзела Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў. Браў удзел у пабудове помніка беларускім героям у Іст-Брансвіку. У 1980 г. быў пазбаўлены амерыканскага грамадзянства праз абвінавачанне ў службе ў Калдычаўскім лагеры. Абвінавачанні абвяргаў.

[158] **Антыбальшавіцкі блок народаў (АБН)** (укр. *Антибільшовицький блок народів*, англ. *Anti-Bolshevik Bloc of Nations*) — створаная ўкраінскімі нацыяналістамі ў 1943 г. і структурна аформленая ў Мюнхене ў 1946 г. арганізацыя, што стала каардынацыйным цэнтрам антыкамуністычнай дзейнасці эмігрантаў на Захадзе. Аднак у Рады БНР ад канца 1940-х гг. дачыненні з АБН не склаліся. Больш шчыльна з АБН супрацоўнічалі Беларуская цэнтральная рада, Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі і Беларускі вызвольны фронт.

[159] **Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА)** — арганізацыя, створаная ў 1951 г. у ЗША прыхільнікамі БЦР. Падрабязней пра яе гл.: Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА). Смаленск, 2009. — 428 с.

[160] **Уладзімір Набагез** (1919–2011) жыў у ЗША, меў прыватную практыку ў г. Уолдэн (штат Нью-Ёрк). Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва яго Нью-Ёркскага аддзела.

[161] Уладзімір Бортнік памёр у Мюнхене 16 чэрвеня 1988 г.

Сп. Ул. Курыла[162] папытаўся ў др. Запрудніка, якія цяпер магчымасьці інфармаваньня Бацькаўшчыны праз радыё «Свабода». Сп. Запруднік даў шырокую інфармацыю аб Беларускай сэкцыі «Свабоды», зазначыўшы, што няма ніякае цэнзуры і ніякіх абмежаваньняў.

Сп. Я. Азарка выказаў пажаданьне, каб Прэзыдыюм Рады БНР больш інфармаваў сэктары аб сваёй дзейнасьці.

Сп. К. Мерляк запрапанаваў выказаць Старшыні й Прэзыдыюму Рады прызнаньне й падзяку за іхную працу.

Сп. Запруднік падтрымаў прапанову сп. Мерляка, зьвярнуўшы ўвагу на выдатную дзейнасьць Старшыні Рады, як гэта відаць зь ягонай справаздачы.

Сп. М. Тулейка таксама падтрымаў прапанову сп. Мерляка.

Аклямацыяй Сэсія выказала Старшыні й Прэзыдыюму Рады прызнаньне й падзяку.

Да п. 11.

Др. Я. Запруднік паінфармаваў аб кнізе, якую рыхтуюць сп-ва Вітаўт і Зора Кіпелі да 70-х угодкаў БНР. Кніга пад загалоўкам «Беларуская Дзяржаўнасьць» будзе выбарам лепшых артыкулаў і важнейшых дакумэнтаў з гісторыі незалежнасьці Беларусі. Выданьне разьлічанае на англамоўнага чытача, кніга выходзіць па-ангельску. Яна паказвае на лідэрства Рады БНР у змаганьні за незалежнасьць Беларусі.

Сп. Запруднік паінфармаваў таксама аб палажэньні на Беларусі, аб узьнікненьні там нефармальных арганізацыяў, асабліва моладзі.

Пастанаўленае на парадак дня пытаньне сяброўства ў Радзе выклікала дыскусію, у якой бралі голас сп. сп. Ул. Набагез, К. Мерляк, М. Тулейка, В. Кажан, Р. Жук-Грышкевіч, А. Орса-Рамана[163], А. Шукелайць, і ў выніку пастанавілі даручыць Прэзыдыюму (прасіць сп. Я. Запрудніка зрэдагаваць) зьвярнуцца да кожнага сябры Рады з запытаньнем аб ягоным сяброўстве ў Радзе БНР.

Справу сяброўскіх складак, пасьля дыскусіі, пастанавілі пакінуць, як было й дагэтуль — ад тых, хто працуе, па тры даляры на месяц, 36 даляраў на год.

Да п. 12.

Старшыня Сэсіі др. Я. Запруднік, схарактарызаваўшы працу Старшыні Рады БНР др. Я. Сажыча, і Прэзыдыюму Рады, запрапанаваў захаваць статус кво, пакінуць кіраўніцтва Рады ў ранейшым складзе.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч прапанавала абраць за Старшыню Рады БНР др. Я. Запрудніка. Сваю прапанову паясьніла тым, што *«Старшыня Рады БНР — гэта ня толькі функцыя, але і гонар, і гонар гэты належыцца др. Янку Запрудніку»*.

---

162 **Уладзімір (Уладзіслаў) Курыла** (1922–?) жыў у Нью-Ёрку, быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання.

163 **Ала Орса-Рамана** (нар. 1936) ад 1970 г. была прафесарам хіміі Нью-Ёркскага гарадскога ўніверсітэта. Заснавальніца танцавальнага гурта «Васілёк». Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання.

Др. Я. Сажыч прасіў зволніць яго ад абавязкаў Старшыні Рады, матывуючы сваю просьбу слабым здароўем ды векам, і падтрымаў прапанову др. Р. Жук-Грышкевіч.

Сп. Я. Азарка запрапанаваў на Старшыню Рады БНР сп. А. Шукелайця.

Др. Запруднік катэгарычна адмовіўся ад кандытатуры, матывуючы занятасьцяй на становішчы рэдактара газэты «Беларус» і працай у радыё «Свабода», якое ёсьць амэрыканскай дзяржаўнай установай.

Сп. А. Шукелайць таксама адмовіўся з увагі на занятасьць на становішчы старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

У падтрымку кандыдатуры др. Я. Сажыча выказаліся сп. сп. Г. Паланевіч[164], Ф. Бартуль, Ул. Курыла, В. Русак.

У выніку галасаваньня др. Язэп Сажыч быў выбраны за Старшыню Рады БНР на наступную кадэнцыю (галасаваньне: Сажыч — 46, Запруднік — 9).

Др. Сажыч прыняў выбар і ў кароткім слове падзякаваў за давер.

Пастаноўлена пакінуць Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР у папярэднім складзе, а таксама Кантрольную Камісію і Суд Рады БНР. Галасавалі ўсё «за», адзін устрымаўся.

Да п. 13.

Сп. Францішак Бартуль, старшыня Фундацыі імя П. Крэчэўскага, зрабіў дакладную справаздачу зь дзейнасьці Фундацыі за апошнія гады. Асноўнае заданьне Фундацыі — памагаць фінансава культурнай працы беларускіх арганізацыяў, а перш-наперш выдавецтву Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Сэсію закончылі супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

*Я. Запруднік, Старшыня.*

*М. Тулейка, сакратар.*

*А. Шукелайць, сакратар.*

## СПРАВАЗДАЧНЫ ДАКЛАД СТАРШЫНІ РАДЫ БНР НА 19-Й СЭСІІ РАДЫ БНР

На 18-й чарговай Сэсіі Рады БНР 30-га жніўня 1986 г. была прадстаўленая Прэзыдыюму Сэсіі мая пісьмовая справаздача. Ня будучы пэўным, ці гэта захавалася ў архівах і дзеля захаваньня цэласьці ў гэтай справаздачы зь дзейнасьці за час мае кадэнцыі ад 1982 да 1988 году, будуць паўтарэньні з папярэдняга дакладу.

[164] **Гіпаліт Паланевіч** (1907–1997) жыў у Нью-Ёрку. Працаваў бібліятэкарам. Быў адным са стваральнікаў газеты «Беларус» разам з Міколам Кунцэвічам. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі.

Было выдана 6 нумароў «Камунікатаў»[165], у якіх падаваліся факты зь дзейнасьці Старшыні й Прэзыдыюму Рады БНР. Для пратаколу падсумуем гэтую працу.

У пачатковай сваёй працы трэба было прывыкнуць і дастасавацца да гэтай новай для мяне паважнай функцыі, разумеючы, што час і практыка навучаць. Выглядала, што слаба *«дзейнічаў»*, і нават некаторыя Сябры радзілі мне перадаць гэтую функцыю камусь больш актыўнаму й здальнейшаму, а дзеля гэтага трэба было-б склікаць надзвычайную Сэсію Рады, што аказалася нялёгкім да зрэалізаваньня. Дык дзякуючы Богу за нядрэннае здароўе і маральнай падтрымцы прыхільных Сяброў удалося адбыць гэтую *«пераходную»* кадэнцыю бяз большых клопатаў і паважных падзеяў, якія вымагалі-б зьменаў і важных пастановаў. У галоўным выконвалася рэпрэзэнтацыйная функцыя й трыманьне жывога пісьмовага кантакту з нашымі арганізацыямі і актыўнымі Сябрамі, стараючысь прысутнічаць і браць удзел у важнейшых імпрэзах ці здарэньнях у нашым палітычным, царкоўным і грамадзкім жыцьці.

3 верасьня 1983 г. адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР у Нью-Брансьвіку (Нью Джэрзі), на якім былі разгледжаныя арганізацыйныя, фінансавыя й палітычныя пытаньні Рады БНР.

1-га кастрычніка 1983 г. адбылося ў Лёндане ў прысутнасьці Старшыні спатканьне й паседжаньне некаторых Сяброў Прэзыдыюму й Радных БНР з Эўропы (Англіі, Францыі, Нямеччыны й Гішпаніі), а пасьля гэтага спатканьне й нарада Старшыні з падсэктарам у Бэльгіі і адведаньне сп-ні Ніны Абрамчык[166] у Парыжы.

1-га верасьня 1984 г. у часе Сустрэчы Беларусаў Амэрыкі ў «Полацку» Агаё адбылася Нарада Сяброў Рады БНР, на якой амаль усе Сэктары з усяго сьвету былі рэпрэзэнтаваныя, і некаторыя праблемы былі прадыскутаваныя.

Старшыня Рады рабіў шмат захадаў і асабістых кантактаў дзеля прыдбаньня новых сяброў у Раду, а прынамсі дзеля папаўненьня радоў адышоўшых у вечнасьць Сяброў, што ў поўнай меры ўдалося зрабіць.

Старшыня Рады прысьвяціў больш увагі й часу на ажыўленьне дзейнасьці і арганізацыйную структуру Сэктараў Рады, асабліва ў ЗША й Канадзе. Асабіста склікаў паседжаньні й прысутнічаў на іх у Чыкага, Нью-Джэрзі, Нью-Ёрку, Клівэлянд-Дэтройту і Таронта. У кожным з гэтых сэктараў былі выбраныя новыя ўправы з надзеяй на лепшае супрацоўніцтва з Прэзыдыюмам.

---

[165] Маюцца на ўвазе **«Камунікаты Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі»**.

[166] **Ніна Абрамчык** (1916–2003) жыла ў Вільпенце (прыгарадзе Парыжа). Пасля смерці мужа працавала ў *Musée de l'Homme* ў Парыжы.

З вонкавых дачыненьняў, шмат лёкальных, але важных спатканьняў, і выступаў у мэтраполіі Дэтройт, як, напрыклад, з Прэзыдэнтам Рэйганам[167] 10-га кастрычніка 1984-га году, з амбсадарамі Копэльманам і Зіммэрманам, галоўнымі дэлегатамі ад ЗША на канфэрэнцыях сьляджаньня гэльскінскага дагавору аб правох чалавека[168] і з сэнатарамі са штату Мічыган, прыпамінаючы пра Беларусь.

16-га лістапада Старшыня Рады зь сябрамі Прэзыдыюму прысутнічалі на ўрачыстасьці адзначэньня 65-х угодкаў Ураду УНР у экзылі, дзе была нагода пазнаёміцца з Прэзыдэнтам М. Лівіцкім[169] і сябрамі Ураду УНР.

20-га лістапада 1985 г. спатканьне й дыскусіі з прэм'ерам польскага экзыльнага ўраду, Казімерам Саббатам[170], цяперашнім прэзыдэнтам польскім, на інаўгурацыю якога выслана была прывітальная тэлеграма і атрыманая асабістая падзяка з запэўненьнем лепшага супрацоўніцтва на будучыню. Польскі быўшы прэм'ер выразіў пажаданьне, каб падпісаць дагавор з урадам БНР, падобна як з украінскім экзыльным урадам, зазначаючы, што Беларусы павінны праявіць ініцыятывы. Ня ведаю, пасколькі гэта пільная справа, а найважнейшае, што ня маем фаховых дыплёматаў ці сакратароў, каб адпаведна апрацаваць такі дагавор.

Мушу тут зазначыць, што справы вонкавых дачыненьняў Старшыня змушаны быў весьці сам, ня маючы сакратара да гэтых справаў.

Падобна як і сакратарства да спраў вэтэранаў даэтуль астаецца ў руках Старшыні Рады, бо прапанаваная гэтая функцыя некалькім кандыдатам, была імі адмоўленая, і толькі дзякуючы працы і энтузыязму маёра Гутырчыка, камандзіра ЗБАВ, вэтэраны дзейнічаюць.

Бязумоўна, ад Старшыні Рады БНР вымагаецца й грамадзтва спадзяецца ня толькі добрага кіраўніцтва гэтай Рады, але і агульнага лідэрства: умець на патрэбу падняць на духу грамадзтва, мабілізаваць больш сяброў да актыўнай працы ды ўмела арганізаваць і разьдзяляць гэтую працу, а не рабіць усё самому *«саматугам»*. Да гэтага патрэбны адпаведны талент. Няма сумніву, што сярод нас ёсьць такія больш здольныя й палітычна адукаваныя, толькі каб былі згодныя прыняць на сябе гэты адказны абавязак. Таму я, дарагія Сябры, шчыра дзякую за прывілей служыць справе БНР і давер адбыць маю кадэнцыю й шчыра прашу прыняць пад увагу мой век і стан здароўя,

---

[167] **Рональд Рэйган** (1911–2004), амерыканскі палітычны дзеяч, 40-ы прэзідэнт ЗША (1981–1989), губернатар штата Каліфорнія, акцёр і радыёвядучы. Адыграў ключавую ролю ў заканчэнні халоднай вайны.

[168] Маецца на ўвазе заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, падпісаны 35 краінамі ўлетку 1975 г. у Хельсінкі.

[169] **Мікалай Лівіцкі** (1907–1989), украінскі палітычны дзеяч, журналіст. У 1967–1989 гг. — прэзідэнт УНР у выгнанні.

[170] **Казімеж Сабат** (польск. *Kazimierz Sabbat*, 1913–1989), польскі эміграцыйны дзеяч, у 1976–1986 гг. — прэм'ер, а ў 1986–1989 гг. — прэзідэнт Польшчы ў выгнанні.

звольніць мяне з займанага становішча й выбраць новага, малодшага й спасобнага да гэтай працы Старшыню Рады БНР.

Прысутныя: Др. Я. Сажыч, В. Кажан, Ул. Курыла, Рая Станкевіч, Др. Р. Жук-Грышкевіч, К. Мерляк, др. Я. Запруднік, Фр. Бартуль, А. Міцкевіч[171], А. Шукелайць, Віктар Тур, М. Тулейка, др. У. Набагез. М. Ганько, Ю. Азарка, Я. Азарка, С. Гутырчык, В. Русак, Г. Паланевіч, др. А. Орса-Романо.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ СЭКТАРУ РАДЫ БНР У НЬЮ ДЖЭРСЫ АД 28.11.1988

Прысутныя: Янка Азарка — старшыня сэктару, Юрка Азарка, Браніслаў Даніловіч[172], Сяргей Гутырчык, Пётр Кажура[173], Адольф Субота, Тамаш Супрун і Міхась Тулейка — радныя.

Парадак дня:

1. Прачытаньне пратаколу папярэдняга паседжаньня.
2. Інфармацыя старшыні сэктару.
3. Сьвяткаваньне 70-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР.
4. Вэрбаваньне новых радных.
5. Розныя справы.

Да п. 1.

Пратакол папярэдняга паседжаньня ня быў прачытаны з прычыны адсутнасьці сакратара сп. В. Русака.

Да п. 2.

Сп. Янка Азарка паінфармаваў пра падзеі ў Беларусі ў сувязі з новай палітыкай ураду СССР аб перабудове й галоснасьці. У савецкай прэсе штораз часьцей падаюцца цікавыя весткі аб зьменах, перабудове й галоснасьці. Людзі пачалі сьмялей выказваць свае думкі, аднак радыкальных зьменаў у жыцьці няма. Існуе й значная настарожанасьць да новай палітыкі ў сувязі зь няпэўнасьцяй, што можа ўзьнікнуць у будучыні, і які новы экспэрымэнтальны паварот можа ўзяць партыя і ўрад СССР. Беларуская нацыянальная справа і надалей знаходзіцца ў трагічным стане, хаця штораз больш чуцён голас у абароне яе. Старшыня сэктару заклікаў усіх радных сачыць за падзеямі ў Беларусі, каб у патрэбе адпаведна рэагаваць і дзеіць. Далей

[171] **Аляксандр Міцкевіч** (1919–2015) жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у Галоўную управу арганізацыі, кіраўніцтва Нью-Ёркскага аддзела. Ад 1965 г. быў сябрам рэдкалегіі і распаўсюднікам газеты «Беларус».

[172] **Браніслаў Даніловіч** (1908–2003) жыў у Нью-Джэрсі. Адзін з стваральнікаў Нью-Джэрсійскага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання, сябра рэдкалегіі і шматгадовы распаўсюднік газеты «Беларус».

[173] **Пётра Кажура** (1913–1992) жыў у Гайленд-Парку. Удзельнічаў у набыцці будынка для мясцовай царквы (Беларускага грамадскага цэнтра) і царкоўнага дома.

былі прачытаныя й прынятыя да ведама Камунікаты Рады БНР за сакавік 1988 г., у якіх таксама аддаецца шмат увагі падзеям у Беларусі, унутраным справам і дзейнасьці Старшыні Рады. Пра сытуацыю на месцы, у Гайлянд Парку, Старшыня Сэктару выказаў задавальненьне з таго, што ў парафіі Жыровіцкай Божай Маці наладзілася нармальнае жыцьцё й дзейнасьць, што новы сьвятар а. Васіль[174] вельмі прыхільны да беларускай нацыянальнай справы, а Аддзел БАЗА плянуе ажывіць грамадзкую й культурна-асьветную дзейнасьць. Прасіў усіх радных падтрымваць усякую карысную дзейнасьць.

Да п. 3.

Сп. Інж. Юрка Азарка — старшыня Арганізацыі Беларускае Моладзі, паінфармаваў пра сьвяткаваньне 70-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якое сёлета адбудзецца 27-га сакавіка ў Нью Брансьвіку. Перад абедам адбудзецца Архірэйская Божая Служба ў БАПЦаркве ў Гайлянд Парку, а пасьля абеду ўрачыстая Акадэмія ў гатэлі *Hyatt Regency* ў форме банкету з рэфэратамі й мастацкай часткай. Робяцца захады, каб былі на банкеце прадстаўнікі Амэрыканскага Кангрэсу. Бяручы на ўвагу вялікія выдаткі, сп. Янка Азарка запрапанаваў асыгнаваць на сьвяткаваньне з касы сэктару 100 даляраў, на што была згода прысутных радных. Некаторыя зь іх выказалі думку, каб банкеты ладзіліся ў сваёй залі пад царквою, а ўсе запросіны й паведамленьні высылаліся шмат часу перад сьвяткаваньнем.

Да п. 4.

На прапанову старшыні сэктар, пры згодзе бальшыні радных, мае зрабіць прапанову Старшыні Рады БНР прыняць сп. Лёву Стагановіча[175] ў сябры Рады БНР.

Да п. 5.

У розных была гутарка пра адзначэньне 150-х угодкаў ад нараджэньня Кастуся Каліноўскага[176], што ўжо Ўправа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрсы ўплянавала зьдзейсьніць у канцы красавіка сёлета. Сп. Б. Даніловіч заклікаў аплачваць падпіску на газэту «Беларус». Сп. А. Субота парушыў справу пасыўных радных БНР. Сп. Я. Азарка паінфармаваў, што гэтая справа разглядаецца на наступнай Сэсіі Рады БНР. Ён-жа выказаў жаданьне, каб прысутныя радныя выказаліся ў справе Беласточчыны. На прапанову раднага

---

174 Маецца на ўвазе а. **Васіль Андраюк** з Беласточчыны, які ў 1987–2001 гг. быў настаяцелем царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, а пазней — царквы Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіле.

175 **Леў Стагановіч** (01.07.1926, в. Нясутычы, цяпер Наваградскі раён Гродзенскай вобл. — 14.06.2008, ЗША), грамадскі дзеяч, сын А. і М. Стагановічаў. Падчас Другой сусветнай вайны быў сябрам СБМ, вучыўся ў настаўніцкай семінарыі. Ад 1944 г. разам з бацькамі — на эміграцыі. Скончыў два курсы медыцынскага факультэта Марбургскага ўніверсітэта. У 1950 г. выехаў у ЗША. Працаваў красляром у фірме. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім праваслаўным жыцці ў Амерыцы.

176 **Кастусь Каліноўскі** (1838–1864), палітычны дзеяч, паэт, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. на землях Беларусі і Літвы.

М. Тулейкі гэтую справу павінен хтось падрыхтаваць зрэфэраваць, а потым рабіць дыскусыю, што прынята зрабіць на наступным паседжаньні сэктару.

На гэтым паседжаньне было закончана.

*Я. Азарка, Старшыня.*
*М. Тулейка, Сакратар.*

## ПРАТАКОЛ ПАШЫРАНАГА ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР З ДНЯ 28-ГА ЛІСТАПАДА 1992 Г. У НЬЮ ЁРКУ

Др. Язэп Сажыч, Старшыня Рады БНР, адчыніў Паседжаньне а гадзіне 2-й п. п., прывітаў прысутных. Мэтай паседжаньня ёсьць разгледзіць апошнія падзеі ў Беларусі ды выказаць нашае становішча ў гэтай справе. Др. Сажыч адзначыў шматлікую прысутнасьць сяброў Рады.

Быў запрапанаваны й прыняты наступны парадак дня:

1. Агульная інфармацыя аб сучаснай сытуацыі ў Беларусі.
2. Прапановы з боку Радных БНР.
3. Вынас агульнай пастановы ці рэзалюцыі.
4. Інфармацыя пра стан Касы Рады БНР.
5. Далейшая дзейнасьць Рады БНР.

Да п. 1.

Др. Я. Запруднік крануў у сваёй гутарцы пытаньні, зьвязаныя з распадам савецкай імпэрыі: палітычнага і эканамічнага характару, рэфэрэндум у Беларусі (які быў адкліканы[177]), нашых кантактаў зь Беларусьсю, нашага ўдзелу ў розных імпрэзах ды асновы мандату сувэрэннасьці Беларусі, носьбітам якога ёсьць Рада БНР.

Др. Сажыч: Ёсьць пісьмовыя прывітаньні й прапановы для гэтай Сэсіі, і прапанаваў іх прачытаць:

Др. Барыс Рагуля (Канада)
Сп. Мікалай Нікан (Аўстралія)
Др. Раіса Жук-Грышкевіч (Канада)
Сп. П. Барысік (Бэльгія)
Сп. Мікола Ганько (Канада)

У гэтых зваротах й прапановах была зьвернута ўвага на факты: што Вярхоўны Савет далей кіруе дзяржаваю, рэфэрэндум адложаны, эканоміка ў распадзе, небясьпека двумоўя, недахоп інфармацыі і г. д.

У дыскусіях узялі ўдзел наступнуя радныя:

---

[177] Маецца на ўвазе праект правядзення рэферэндуму па пытанні прызначэння датэрміновых выбараў, які сабраў больш як 440 тысяч подпісаў грамадзянаў, аднак быў праігнараваны Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 29 кастрычніка 1992 г.

Др. Б. Рагуля: Абвешчаньне незалежнасьці — факт пазытыўны, прагрэсу ў гэтым напрамку няма, камуністы хочуць захаваць сыстэму. Трэба дамагацца свабодных выбараў, свабоды слова й прэсы, прыватнай собскасьці, рэгабілітацыі нявінных.

Сп. К. Мерляк: Дамагацца выбараў пад наглядам UN[178]. Там няма кваліфікаваных адміністратараў, намэнклятура разваліцца, камуністы могуць далучыцца да незалежнага боку. Паводле сп-ні Стэцко[179], там дзейнічае НТС[180].

Др. Р. Жук-Грышкевіч: склікаць поўную Сэсію Рады БНР, асудзіць камуністычны ўрад, выказаць падтрымку БНФ[181]. У гэтых абставінах БНР ня можа перадаваць свой мандат.

Др. У. Набагез: наведаў Беларусь, ня можа быць ніякай думкі аб перадачы мандату БНР. Эканоміка развалена, камуністы хочуць захаваць суцэльнасьць дзяржавы.

Сп. В. Кажан: Усе выказваюць тую самую думку.

Др. Ала Орса: Сп-ня Заморская[182] наглядала ў Горадні прыемны факт, калі жаўнеры нясьлі беларускія сьцягі. Ёсьць шмат пазытыўных знакаў свабоды.

Сп. Я. Азарка: згаджаецца, што ёсьць шмат пазытыўных знакаў свабоды; мы павінны інфармаваць народ.

Сп-ня І. Сурвіла[183]: Мы павінны зарэагаваць на факт забароны рэфэрэндуму.

---

178 ***UN — United Nations*** — Арганізацыя Аб’яднаных Нацый.

179 **Яраслава (Слава) Стэцько** (укр. дзяв. *Музика,* 1920–2003), украінская палітычная дзяячка, журналістка, жонка Яраслава Стэцько (1912–1986). Была адной з арганізатараў Антыбальшавіцкага блока народаў, кіравала ім пасля смерці мужа. У 1991–2001 гг. — кіраўніца Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў (бандэраўцаў) (АУН(б)).

180 **Народна-працоўны саюз расійскіх салідарыстаў** (НТС) — арганізацыя, што брала свой пачатак ад Нацыянальнага саюза расійскай моладзі, створанага ў Бялградзе ў 1930 г. Арыентавалася на падрыхтоўку народнай рэвалюцыі ў СССР, займалася адпраўкай агентаў для дэструктыўнай працы на савецкай тэрыторыі. Пасля Другой сусветнай вайны гэтая арганізацыя была адной з найбольш колькасных сярод расійскіх эміграцыйных структураў. Да пачатку 1950-х гг. у шэрагах НТС знаходзілася каля 1500 актыўных сяброў і 5–10 тысячаў «спачуваючых». Арганізацыя займалася актыўнай антысавецкай дзейнасцю як падпольна ў СССР, гэтак і легальна на эміграцыі, выдавала перыёдыкі *«Посев»* і *«Грани»*. Падтрымоўвала дысідэнтаў.

181 **Беларускі народны фронт «Адраджэнне» (БНФ)** — грамадска-палітычны рух за пераўтварэнне грамадства і адраджэнне беларускай нацыі на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, за развіццё культуры, за фактычную дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Заснаваны на Устаноўчым з’ездзе ў 1989 г. пад кіраўніцтвам Зянона Пазняка.

182 Магчыма, маецца на ўвазе Вера Заморская.

183 **Івонка Сурвіла** (нар. 1936) жыве ў Канадзе. Працавала перакладчыцай у Федэральным бюро перакладаў краіны. Узначальвала БІНіМ у Канадзе, управу

Сп. сп. А. Міцкевіч, Ф. Бартуль і Ю. Азарка: разумеюць, што ў нас не павінна быць ніякіх гутарак ці думак пра пераданьне мандату БНР у сяньняшніх абставінах.

Сп. К. Мерляк: Зьмены ёсьць відавочныя, прызнаньне дзяржаўнасьці Беларусі сьветам ёсьць, дамаганьні трэба ставіць. Пра мандат няма чаго гаварыць.

Др. Ю. Кіпель[184]: Мы павінны прызнаваць Урад Беларусі. Мы павінны стаяць моцна за беларусізацыю краіны. Мы павінны ўзяць удзел у Сустрэчы[185].

Сп. А. Шукелайць: Развалілася савецкая імпэрыя, а лёс нашай дзяржавы ў рукох камуністаў. Некаторыя грамадзкія арганізацыі пасьпяшылі вітаць камуністаў, якія прыпадкава засталіся пры ўладзе. Мы павінны падыходзіць да гэтых справаў асьцярожна, кіруючыся запаветам 25 Сакавіка 1918 г.

Да п. 3.

На прапанову др. Б. Рагулі Сэсія Рады БНР[186] даручыла др. Я. Запрудніку, рэдактару газэты «Беларус», падрыхтаваць Рэзалюцыю Рады БНР на аснове справаздачаў і выказваньняў радных БНР, прысутных на гэтай Сэсіі, ды апублікаваць іх у наступным нумары газэты «Беларус»[187].

Да п. 4.

Фінансавую справаздачу за 1991 і 1992 гады Рады БНР даў Скарбнік Рады БНР сп. В. Кажан. Стан касы на дзень 25-га лістапада быў: $16,885.50.

Сп. Ф. Бартуль прапанаваў, каб прысутныя тут Радныя БНР заплацілі залеглыя складкі Скарбніку БНР сп. В. Кажану[188].

Прысутныя: Язэп Сажыч, Васіль Русак, Янка Запруднік, Ант. Шукелайць, Фр. Бартуль, В. Кажан, Ул. Набагез, Б. Рагуля, К. Мерляк, А. Рамано[189],

---

Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, Канадскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля. Ад 1997 г. — старшыня Рады БНР.

[184] **Юрка Кіпель** (нар. 1958, Атлантык Сіці, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, доктар медыцыны, сын В. і З. Кіпеляў. У 1982 г. скончыў медыцынскі факультэт Ратгерскага ўніверсітэта. Працуе як педыятр-кардыёлаг, сябра Амерыканскай акадэміі педыятрыі, Амерыканскай калегіі кардыялогіі. Удзельнічаў у выданні часопіса «Беларуская моладзь», танцаваў у гурце «Васілёк». Разам з Натай Русак кіраваў дзіцячай танцавальнай групай «Матылькі». Быў актыўным у амерыканскім скаўтынгу. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання. У 1991 г. прывозіў у Беларусь гуманітарную дапамогу ад беларусаў ЗША. Жыве ў Нью-Джэрсі.

[185] Магчыма, маецца на ўвазе планаваны на ліпень 1993 г. Першы з’езд беларусаў свету.

[186] Маецца на ўвазе 20-я сесія Рады БНР, што адбывалася 24 траўня 1992 г.

[187] Рэзалюцыі былі апублікаваныя ў выглядзе тэксту: Паседжаньне Рады БНР // Беларус. № 396. Сьнежань 1992. С. 2.

[188] Пункта 5 у арыгінале пратакола няма.

[189] Маецца на ўвазе Ала Орса-Рамана.

Р. Жук-Грышкевіч, А. Міцкевіч, І. Сурвіла, Г. Паланевіч, С. Сокалаў-Воюш[190], Ю. Кіпель, Р. Станкевіч, Ю. Азарка, Я. Азарка.

## ПАСЕДЖАНЬНЕ РАДЫ БНР[191]

28 лістапада ў Нью Ёрку адбылося пашыранае паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР, на якім былі абмеркаваныя наступныя пытаньні: 1. Сучаснае палажэньне на Беларусі; 2. Стан Касы Рады БНР і 3. Далейшая дзейнасьць Рады БНР.

З дакладаў і дыскусіях па іх вынікала, што:

1. Палітычнае становішча на Беларусі застаецца складаным і небясьпечным для справы адбудовы дэмакратычнай дзяржаўнасьці і нацыянальна-культурнага адраджэньня. Працэс распаду савецкай імпэрыі як зьява, што пачалася знутры ў выніку заганнасьці самой камуністычнай сыстэмы, трывае далей, паглыбляючы цяпер, сьледам за палітычнай дэцэнтралізацыяй, эканамічны разлад. Эканамічны хаос і зьніжэньне агульнага ўзроўню жыцьця хаваюць у сабе асаблівую пагрозу парасткам беларускай дзяржаўнасьці і нацыянальнай культуры, бо ставяць на першае месца праблему матар’яльнага выжываньня, адцягваючы ўвагу ад маральнага й духовага заняпаду, спрычыненага атэізмам, русыфікацыяй і нацыянальным нігілізмам. Сучасны ўрад Рэспублікі Беларусь, экс-камуністычная бальшыня ў Вярхоўным Савеце і шмат дзе афіцыйныя ўлады на мясцох, трымаючыся збанкрутаванае камуністычнае ідэялёгіі, не дацэньваюць важнасьць ідэі незалежнае беларускае дзяржавы, здушваюць дэмакратычную апазыцыю, якая намагаецца прысьпешыць пераход Рэспублікі да самастойнай палітыкі і перабудаваць эканоміку на прынцыпах вольнага рынку.

Рада БНР заклікае ўсіх сваіх сяброў і прыхільнікаў уважліва сачыць ход падзеяў на Беларусі, інфармаваць у краёх свайго пасяленьня адпаведныя дзяржаўныя дзейнікі пра Беларусь і ейныя праблемы, спрыяць выхаду ў сьвет беларускіх незалежных прадпрыймальнікаў, дапамагаць усімі магчымымі сродкамі адраджэньню беларускай культуры й нацыянальнай сьведамасьці.

Рада БНР уважае за сваё важнае заданьне як мага шырэй інфармаваць вонкавы сьвет пра чарнобыльскае няшчасьце, ад якога пакутуе ўся Беларусь, застаўшыся сам-насам са сваёй бядой, якую ёй спрычынілі іншыя.

2. Хоць стан Касы Рады БНР не дэфіцытны, як паведаміў пра гэта ў сваёй справаздачы Скарбнік сп. В. Кажан, пры сучасных ладна пабольшаных магчымасьцях нацыянальна-палітычнае й выдавецкае дзейнасьці, на якую ідуць сродкі зь дзяржаўнае Касы, Рада БНР чакае ўсякае магчымасьці грашовае дапамогі як ад сваіх сяброў, перш-наперш рэгулярнай уплатай складак, гэтак

[190] **Сяржук Сокалаў-Воюш** (нар. 16.10.1957, в. Астроўшчына, Полацкі раён Віцебскай вобл.), паэт, бард, перакладчык. Быў сябрам Саюза пісьменнікаў СССР і Беларусі. Ад 1991 г. жыве ў ЗША. Працаваў на Радыё «Свабода» ў Празе.

[191] Тэкст быў апублікаваны ў: Беларус. № 396. Сьнежань 1992. С. 2.

і ад шырэйшага грамадзтва, якое прыхільна ставіцца да ідэі незалежнай дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

3. Рада БНР будзе й надалей трымаць высока штандар вольнай дэмакратычнай Беларускай Дзяржавы, спрыяць таму, каб сучасныя дэмакратызацыйныя працэсы на Бацькаўшчыне пашыраліся й паглыбляліся, будзе зварачаць увагу сьвету на факты гвалтаваньня ўладамі ў Беларусі волі народу, які чакае на новае дэмакратычнае заканадаўства ўпаасобку і ўсяго грамадзтва ў цэлым.

Рада БНР будзе далей папаўняць свае рады самаахвярнымі сынамі й дочкамі Беларусі, працаўнікамі й працаўніцамі нацыянальнага адраджэньня, каб палымнеў сьветач Свабоды, запалены векапомным Актам 25 сакавіка 1918 году, каб вечна жыў ідэал Беларускай Народнай Рэспублікі.

## ПЕРШАЯ СЭСІЯ ЭЎРАПЕЙСКАГА СЭКТАРУ РАДЫ БНР
*Пратакол*

4–5 ліпеня 1997 г.
Вільня
Канферэнц-заля гатэля «Летува»

### 4 ліпеня 1997 г.

Перад адкрыцьцём Сэсіі адбылося ўзьняцьце бел-чырвона-белага сьцяга ля ўваходу ў гатэль (на наступны дзень працаўнікі беларускай амбасады ў Летуве запатрабавалі ад адміністрацыі зьняць сьцяг)

Парадак дня

1. Адкрыцьцё Сэсіі. Абраньне Прэзыдыюму Сэсіі. Прывітаньні ад дэлегатаў і гасьцей.
2. Дыскусія па парадку дня.
3. Праца па сэкцыях.
4. Падсумаваньне вынікаў працы сэкцыяў.
5. Прыняцьце рэзалюцыяў.
6. Выбары кіраўніка Эўрапейскага сэктару Рады БНР.
7. Вылучэньне кандыдатураў на пасаду Старшыні Рады БНР.

1. Адкрыцьцё Сэсіі. Абраньне Прэзідыюму Сэсіі. Прывітаньні ад дэлегатаў і гасьцей

Сэсію адкрыў Старшыня Таварыста Беларускай Культуры ў Летуве Хведар Нюнька[192] як арганізатар на месцы. Зь ягонае прапановы прысутныя ўшанавалі хвілінай смутку памяць беларускіх дзяцей, якія загінулі ў аўтакатастрофе пад Кобрынам.

---

[192] **Хведар Нюнька** (нар. 06.04.1928, в. Алешавічы, Мастоўскі раён Гродзенскай вобл.), грамадскі дзеяч, інжынер. Ад 1943 г. жыве ў Вільні. Ад 1980-х гг. — актыўны ўдзельнік беларускага жыцця ў Вільні. Ад 1989 г. — доўгагадовы старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве.

Удзельнікі Сэсіі абіраюць Прэзыдыюм Сэсіі ў складзе:

Барыс Рагуля — Заступнік Старшыні Рады БНР (Лёндан, Канада)

Радзім Гарэцкі[193] — акадэмік, Прэзыдэнт Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» (Менск)

Хведар Нюнька — Старшыня Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве (Вільня)

Вінцук Вячорка[194] — Намесьнік Старшыні Беларускага Народнага Фронту (Менск)

Сяргей Навумчык[195] — сябра Сойму Беларускага Народнага Фронту (Прага)

Старшынёй Сэсіі абіраецца С. Навумчык.

Удзельнікі Сэсіі ўшаноўваюць памяць Прэзыдэнтаў Рады БНР П. Крэчэўскага[196], В. Захаркі[197], М. Абрамчыка[198], В. Жук-Грышкевіча ды адыйшоўшых сяброў Рады БНР. Удзельнікі ўшаноўваюць памяць генэрала Вітушкі[199] і тых, хто аддаў жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі, тых, хто правёў лепшыя гады жыцьця ў падвалах НКВД і савецкім ГУЛАГу.

Барыс Рагуля: Апошнія падзеі на Беларусі змушаюць нас заняць пэўную пазыцыю і прадставіць пад развагу нашую праграму для Беларусі і дыяспары. Найперш, мы катэгарычна адкідаем праўнасць аднаго і другога лукашэнкаўскіх рэфэрэндумаў[200] і таму лічым новую Канстытуцыю і новаўтвораны прэзыдэнтам парлямэнт нелегітымнымі[201]. І як вынік гэтага — лічым усе

---

[193] **Радзім Гарэцкі** (нар. 07.12.1928, Мінск), геолаг, акадэмік АН БССР, доктар геолага-мінералагічных навук, заслужаны дзеяч навукі БССР, сын Гаўрылы і пляменнік Максіма Гарэцкага. У 1992–1997 гг. — віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У 1993–2001 гг. быў прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

[194] **Вінцук Вячорка** (нар. 07.07.1961, Брэст), палітычны дзеяч, мовазнаўца. Адзін з заснавальнікаў Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». У 1995–1999 гг. — намеснік старшыні БНФ, у 1999–2007 гг. — старшыня Партыі БНФ.

[195] **Сяргей Навумчык** (нар. 15.12.1961, Паставы, Віцебская вобл.), палітычны дзеяч, журналіст. У 1990–1996 гг. — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, каардынатар парламенцкай Апазіцыі БНФ. Ад 1990 г. працуе на Радыё «Свабода». У 1996 г. атрымаў палітычны прытулак у ЗША.

[196] **Пётра Крэчэўскі** (1879–1928), палітычны дзеяч, прэзідэнт Рады БНР у 1919–1928 гг.

[197] **Васіль Захарка** (1877–1943), палітычны дзеяч, прэзідэнт Рады БНР у 1928–1943 гг.

[198] **Мікола Абрамчык** (1903–1970), палітычны дзеяч, прэзідэнт БНР у 1947–1970 гг.

[199] **Міхась Вітушка** (1907–1945?), палітычны дзеяч, кіраўнік антысавецкага супраціву пасля Другой сусветнай вайны.

[200] Маюцца на ўвазе беларускія рэферэндумы 1995 і 1996 гг.

[201] Рэферэндум 1996 г. прыняў новы варыянт Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які прадугледжваў значнае пашырэнне паўнамоцтваў Прэзідэнта і змяншэнне

дамовы, зробленыя прэзыдэнтам ад імя беларускага народу цалкам бясправўнымі. Прэзыдэнт Лукашэнка падлягае імпічмэнту, паколькі зламаў прысягу, дадзеную на Канстытуцыі, прынятую ў 1994 годзе легальнай Вярхоўнай Радай. Цяжка зразумець і лёгіку прэзыдэнта Ельцына[202]. У жніўні 1991 году ён рызыкаваў жыцьцём, узышоўшы на танк, каб бараніць дэмакратыю ў Расеі[203], а ў 1997 годзе цалуецца ў Крамлі з дыктатарам Беларусі[204], які патаптаў усе падмуркі дэмакратыі, запачаткаваў паліцыйную сыстэму.

Рада БНР ня супраць эканамічных стасункаў зь іншымі краінамі на прынцыпах аб'яднаньня Эўропы, пры захаваньні дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Рада лічыць, што нельга абмяжоўваць эканамічныя сувязі выключна адной Расеяй — трэба пашыраць іх з Эўропай і рэштай рэспублікаў былога СССР. Прыклад — нядаўняе спатканьне прэзыдэнтаў Польшчы, Украіны і краінаў Прыбалтыкі.

Сёньня мне хацелася б акрэсьліць найважнейшыя пазыцыі праграмы БНР, якія вынікаюць з патрэбаў Беларусі. Гэта найперш поўная сувэрэннасьць Беларусі, акрэсьленая Актам 25 Сакавіка. У галіне эканомікі Рада БНР лічыць, што асноўным багацьцем дзяржавы ёсьць зямля. Сёньня сяляне загнаныя ў дзяржаўны прыгон безь ніякіх правоў. Рада БНР прапануе адмяніць гэта і вярнуць селяніну тое, што ад вякоў яму належала. Надзелы мінімум 10 гектараў бяз права перапрадажу на працягу 10 гадоў (каб унікнуць спэкуляцыі зямлёй). Участкі павінны быць непадзельныя і перадавацца ў спадчыну. Тры гады новыя ўладальнікі ня мусяць плаціць падаткаў, а пазьней падаткі могуць перакрочыць 40 адсоткаў даходу. Собскасьць калгасаў пяройдзе ў собскасьць уласьнікаў зямлі ў форме каапэратываў сялянаў з абраным кіраўніцтвам. Павінна існаваць поўная гарантыя прыватнай уласнасьці, пры гэтым належыць правесці паступовую, але поўную прыватызацыю прамысловасьці. Новыя прадпрыемствы будуць пазбаўленыя на 3 гады ад падаткаў, каб мець магчымасьць разгарнуць бізнэс. Сродкі камунікацыі, а таксама пошта часова застануцца ў дзяржаўнай адказнасьці. У галіне правоў чалавека патрэбна забясьпечыць найперш поўныя гарантыі свабоды слова. Кожны грамадзянін павінен мець права на адваката, судовыя працэсы мусяць адбывацца адкрыта, а не ў турэмных сутарэньнях, як гэта было за часоў камуністычнае дыктатуры.

---

паўнамоцтваў заканадаўчай улады, а таксама новыя прынцыпы яе фарміравання. Вынікі рэферэндуму не былі прызнаныя заходнімі краінамі і створаны на падставе новай Канстытуцыі парламент не ўспрымаўся на Захадзе як легітымны.

[202] **Барыс Ельцын** (1931–2007), расійскі палітычны дзеяч, першы прэзідэнт Расійскай Федэрацыі ў 1991–1999 гг.

[203] Маюцца на ўвазе падзеі жнівеньскага путчу ў Маскве, калі Барыс Ельцын стаў лідарам змагання з путчыстамі.

[204] Маецца на ўвазе падпісанне 2 красавіка 1997 г. у Маскве дамовы пра стварэнне Саюза Беларусі і Расіі.

Што тычыцца мовы, то, на маю думку, Беларусь павінна браць прыклад са Швэйцарыі. Мова беларуская павінна быць мовай дзяржаўнай, але ўсе іншыя мовы хай будуць раўнапраўныя. Паколькі Беларусь ляжыць на мяжы культураў Захаду і Ўсходу, то дзяржава павінна быць цалкам талерантнай адносна рэлігіяў. Рэлігія павінна быць аддзеленая ад дзяржавы. У зьнешняй палітыцы Беларусь павінна захаваць нэўтралітэт на падабенства Швэйцарыі. Мець супольны эканамічны рынак з захадам, усходам, на поўнач і на поўдзень. Паліцыя і органы бясьпекі павінны змагацца выключна з крымінальнасьцю і быць пазбаўленыя права арышту за палітычную дзейнасьць. Поўная забарона падслухоўваньня тэлефонаў і праверкі прыватнай пошты, за выняткам крымінальнага сьледзтва з дазволу судовых органаў. Беларусь сёньня ня мае ворагаў і не патрабуе вялікага войска. Служба ў войску павінна быць добраахвотнай, і жаўнеры будуць аплачаныя дзяржавай.

Рада БНР заклікае ўсе палітычныя незалежніцкі партыі ў Беларусі стварыць блёк БНР і пры наступных выбарах выступіць адзіным фронтам.

Вось такія агульныя прынцыпы дзейнасьці Рады БНР. Я не прэтэндую быць эканамістам і таму не ўваходжу ў дэталі, якія мусяць быць распрацаваныя спэцыялістамі.

Якія ж у сувязі з гэтым мэты дыяспары?

Рада БНР павінна дамагацца сваго прадстаўніцтва пры ўрадах вольнага сьвету. Патрэбна ўзмоцніць радыёперадачы, накіраваныя на Беларусь, паколькі ўсе электронныя мас-мэдыя на Беларусі манапалізаваныя Лукашэнкам. Трэба зьвярнуцца да дэмакратычнага сьвету з заклікам падтрымаць дэмакратыю на Беларусі, трымаць жорсткі ціск на Лукашэнку і, адначасна, не дапусьціць ізаляцыі самой краіны ад вольнага сьвету. Такая ізаляцыя можа падпіхнуць Беларусь у абдымкі Расеі.

Калісьці я прачытаў у інтэрв'ю выдатнага пісьменьніка Васіля Быкава[205], што незалежнасьць, атрыманая без крыві, доўга не пратрывае. Але я жадаў бы, каб Беларусь сталася выключэньнем і незалежнасьць была захаваная без крыві. У гэтым сэнс нашае працы.

<u>Радзім Гарэцкі:</u> Рады вітаць усіх вас у Вільні, у нялёгкі час, але гэта і час спадзяваньняў. Сёньня мы адназначна пацьвярджаем легітымнасьць Усебеларускага Сходу 1917 году, які сабраў больш за 1000 дэлегатаў з усіх куткоў Беларусі і паклаў пачатак адраджэньню беларускай дзяржаўнасьці. Сёньня наш клопат — пра беларускую прысутнасьць у сьвеце. Штогод колькасьць беларусаў зьмяншаецца на 50 000 чалавек (некаторыя прыводзяць большыя лічбы).

Сёньня Згуртаваньне «Бацькаўшчына» занятае падрыхтоўкай Другога Зьезду Беларусаў Сьвету[206]. Ён пройдзе ў Менску ў ня самы шчасьлівы для нашае Бацькаўшчыны час. Ведаю, што шмат хто зь беларусаў замежжа

---

[205] **Васіль Быкаў** (1924–2003), пісьменнік і грамадскі дзеяч.

[206] Другі з'езд беларусаў свету праходзіў у Мінску 26–27 ліпеня 1997 г.

адмаўляецца прыехаць на зьезд. Але гэта — на карысьць Лукашэнку, які імкнецца зьнішчыць адзінства беларусаў ва ўсім сьвеце.

Вінцук Вячорка: Ад імя Беларускага Народнага Фронту, сябры якога сёньня самаахвярна змагаюцца за незалежнасьць Бацькаўшчыны, вітаю дэлегатаў Сэсіі і зычу вам плённае працы. Цяпер усім відавочна, што на Беларусі склаўся ня толькі марыянэтачны рэжым, але рэжым, які выконвае функцыі акупацыі. У такіх варунках Беларускі Народны Фронт уважае Раду БНР за легітымнае прадстаўніцтва беларускага народу. Спадзяюся, што пазьней я буду мець магчымасьць больш падрабязна спыніцца на палітычнай сытуацыі на Беларусі.

Хведар Нюнька: Сардэчна вітаем Вас у нашай старадаўняй Вільні. І ў першую чаргу эміграцыю, якая апынулася па той бок жалезнай заслоны, але і ў новых неспрыяльных умовах ня выраклася беларушчыны, а па магчымасьці ўнесла свой уклад у культуру Беларусі і адраджэньне беларускай дзяржавы. Мы схіляем галовы перад вернымі сынамі Радзімы і дальнабачнымі палітыкамі, якія на працягу 80 гадоў захавалі адданасьць ідэі стварэньня незалежнай і дэмакратычнай дзяржавы і не паддаліся на ўсе камуністычныя правакацыі і інтрыгі, каб зьліквідаваць урад БНР на эміграцыі.

Бяскроўны развал савецкай імпэрыі ў 1991 годзе даваў Беларусі магчымасьць, як заснавальніку ААН і сябру гэтай арганізацыі, раней за іншыя рэспублікі былога СССР стаць на шлях незалежнасьці і эканамічнага дабрабыту, далучыцца да разьвітых эўрапейскіх краінаў. На жаль, Беларусь ня выкарыстала свой гістарычны шанец, а ў нацыянальным адраджэньні апынулася ззаду ўсіх рэспублік. У бальшыні сваёй дэнацыяналізаванае і зрусыфікаванае насельніцтва краіны выбрала прэзыдэнтам папуліста, які ня толькі не гаворыць па-беларуску, але варожа і з пагардаю ставіцца да ўсяго беларускага.

Палітыка, якую праводзіць Лукашэнка, паказвае, што ён зьяўляецца стаўленікам імпэрскіх сілаў Расеі, якія ніколі не пагодзяцца, каб Беларусь існавала як асобная незалежная і нэўтральная дзяржава.

І ўсё ж на пачатку 90-х гадоў была вера, што сувэрэнітэт і незалежнасьць будуць абароненыя. Пачаўся даволі пасьпяховы перавод зрусыфікаваных школаў на беларускую мову. Сёй-той з чынавенства пачаў выступаць па-беларуску. У лепшы бок зьмяніліся адносіны да беларускай эміграцыі. Зьявіліся праўдзівыя публікацыі па гісторыі. На палітычную арэну выступілі выдатныя дзеячы, адданыя справе служэньня Бацькаўшчыне. Тут у першую чаргу трэба выдзеліць лідэра адраджэньня З. Пазьняка[207].

На жаль, падзеі апошніх гадоў, пасьля так званых рэфэрэндумаў, нанесьлі моцны ўдар па адраджэнскім руху на Беларусі, і гэта мела ўплыў на дыяспару.

---

[207] **Зянон Пазняк** (нар. 24.04.1944, в. Суботнікі, Іўеўскі раён Гродзенскай вобл.), палітык і грамадскі дзеяч, археолаг, мастацтвазнаўца, пісьменнік. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнік у 1989–1999 гг. Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». Ад 1996 г. жыве на эміграцыі, атрымаў палітычны прытулак у ЗША.

Ідэалягічны падзел пайшоў і паміж беларусамі Летувы. Частка расейскамоўных так званых інтэрнацыяналістаў стаіць на пазыцыях Лукашэнкі. Частка трымаецца збоку, а астатнія, да якіх мы сябе залічваем, стаяць на пазыцыі, што з рэжымам Лукашнкі трэба змагацца ўсімі даступнымі сродкамі.

Ясна адно: пакуль існуе дыктатарскі рэжым на Беларусі, мы павінны каардынаваць свае дзеяньні і падтрымваць больш цесныя сувязі.

Мяне зьдзіўляе пазыцыя газэты беларусаў Латвіі «Прамень»[208]. У нумарох за сакавік, красавік я не знайшоў ніводнага сказа пра тое, што на Беларусі за кратамі сядзеў і жорстка зьбіваўся паэт Славамір Адамовіч[209], ніводнага слова пра дзень Волі 25 Сакавіка. Затое ў газэце расхвальваецца прэзыдэнт Лукашэнка. Дык каму служыць гэтая газэта? Лічу таксама як здраду ідэі адраджэньня ўдзел Яна Сычэўскага[210] ў Польшчы ў лукашэнкаўскім гэтак званым народным сходзе[211]. Для нас ён стаў *persona non grata*.

Сьведамыя беларусы Летувы праводзілі і будуць праводзіць акцыі, накіраваныя супраць антыбеларускага рэжыму на Бацькаўшчыне. У розны час мы зьвярталіся да сусьветнай супольнасьці — накіроўвалі лісты ў Раду Эўропы і пэрсанальна да спн. Лені Фішэр[212] цераз Соймавы Камітэт Летувы, апэлявалі да Гэльсынскага Камітэту па Правох Чалавека ў Вене, Арганізацыі па бясьпецы і Супрацоўніцтве ў Эўропе, а таксама да амбасадаў ЗША, Польшчы, Украіны, Нямеччыны, Вялікабрытаніі і Францыі. Двойчы былі праведзеныя пікеты пратэсту супраць лукашэнкаўскай Канстытуцыі перад амбасадай Беларусі ў Летуве. Перад амбасадай Расеі адбыўся пікет супраць умяшаньня яе ў справы Беларусі. Прайшоў мітынг у цэнтры горада, прымеркаваны да гадавіны чарнобыльскай трагедыі. Усе пікеты асьвятляліся ў летувіскім друку.

Лічу неабходным адзначыць у выніковых дакумэнтах Сэсіі амаль поўную адсутнасьць праўдзівай інфармацыі ў прэсе Беларусі. Па сутнасьці,

---

[208] **«Прамень»** — газета, што выдаецца беларусамі ў Латвіі ад 1994 г.

[209] **Славамір Адамовіч** (нар. 1962), паэт, грамадскі дзеяч. У 1995 г. напісаў верш «Убей президента!», за які быў арыштаваны і толькі праз 10 месяцаў вызвалены пад падпіску пра нявыезд.

[210] **Ян Сычэўскі** (нар. 1937), палітык, грамадскі дзеяч беларускай меншасці ў Польшчы. У 1997–2001 гг. быў дэпутатам польскага Сейму ад блока Саюз Дэмакратычнай Лявіцы, абраны ў Беластоку. Быў прэзідэнтам Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.

[211] Маецца на ўвазе першы **Усебеларускі народны сход** — агульны сход прадстаўнікоў беларускага ўрада, кіраўнікоў прадпрыемстваў і прадстаўнікоў іншых галінаў гаспадаркі, які адбыўся ў Мінску 19–20 кастрычніка 1996 г. На ім ладзілася абмеркаванне асноўных палажэнняў Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны і праекта змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Беларусі, прапанаваных А. Лукашэнкам. Разгледжаны праект быў праз месяц прыняты на рэферэндуме, а такога кшталту сходы сталі праходзіць раз на пяць гадоў.

[212] **Лені Фішэр** (ням. *Leni Fischer*, нар. 1935), нямечкая палітычная дзеячка, старшыня Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы ў 1996–1999 гг.

аб’ектыўную інфармацыю дае адно радыё «Свабода», але яго, на жаль, цяжка бывае злавіць і кепска чуваць. Такіх праблемаў няма зь летувіскімі перадачамі па «Свабодзе».

2. Дыскусія па парадку дня Сэсіі

Зінаіда Клыга[213] (Эстонія): У Эстоніі налічваецца ўсяго дзьве-тры тысячы беларусаў. Але гэта людзі вельмі асыміляваныя. Шмат хто зь іх прыехаў у пасьляваенны час, яны імкнуліся размаўляць на расейскай мове, для іх гэта было паказчыкам «культурнасьці». Другая хваля — тыя, хто прыехаў пазьней, па разьмеркаваньні пасьля сканчэньня навучальных установаў. Нягледзячы на складанасьці, актыўная частка беларусаў заяўляе пра сябе. Дастаткова сказаць, што «круглы стол» нацыянальных меншасьцяў цяпер узначальвае прадстаўнік беларусаў. Мы ў Эстоніі займаемся найперш асьветніцкай працай. Сёньня мала хто зь беларусаў ведае, што існуе Рада БНР. І на гэтым форуме мы павінны падумаць над тым, што трэба зрабіць, каб данесьці да людзей інфармацыю пра сваё існаваньне. Відавочна, што Рада БНР павінна стварыць уласную інфармацыйную структуру. Магчыма, гэта магла б быць старонка на Інтэрнэце.

Анатоль Грыцкевіч[214] прафесар, сябра Сойму БНР (Менск): Калі рабіць кароткі экскурс у гісторыю Рады БНР, то трэба адзначыць, што БНР сёньня прызнаецца нават ворагамі беларушчыны, нават Лукашэнкам. На працягу ўсяго часу існаваньня Рады рабіліся спробы яе зьліквідаваць. І нягледзячы на тое, што некалькі гадоў таму ўрад Кебіча[215] і ягоны міністар замежных справаў Краўчанка[216] спрабавалі ўсяк, каб Рада БНР перадала паўнамоцтвы быццам бы незалежнаму ўраду — гэтага, на шчасьце, не было зроблены. Для нас на Беларусі па-ранейшаму Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, яе кіраўніцтва зьяўляецца ня толькі легальным органам улады незалежнай Беларускай Рэспублікі, але і сымбалем нашае незалежнасьці. Як мы глядзім на гэта цяпер? У БССР беларускасьць была фармальнай. Беларускі Народны Фронт мае мэтай змагацца за ідэалы БНР. Будзем усё рабіць, каб падтрымліваць Раду. Але пажадана, каб і Рада працавала актыўна, трэба абіраць у яе больш маладых і актыўных, і, безумоўна, патрыётаў.

---

213 **Зінаіда Клыга** (нар. 1946, Бабруйск), грамадская дзяячка, адна з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларуска-эстонскага згуртавання ў г. Йыхві.

214 **Анатоль Грыцкевіч** (31.01.1929, Мінск — 20.01.2015, Мінск), гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар. Ад 1975 г. — загадчык кафедры ў Мінскім інстытуце культуры (пазней — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтва). Адначасова ў 1996–2001 гг. — дырэктар Навукова-даследчага інстытута Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў Мінску. У 2001–2005 гг. — старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

215 **Вячаслаў Кебіч** (нар. 1936), палітычны дзеяч, першы прэм’ер-міністр незалежнай Рэспублікі Беларусь у 1990–1994 гг.

216 **Пётр Краўчанка** (нар. 1950), палітык, дыпламат, кандыдат гістарычных навук. У 1990–1994 гг. быў міністрам замежных спраў Беларусі.

Генадзь Лех[217] (Масква): Сёньня ў Расейскай Фэдэрацыі паўтара мільёны пашпартных беларусаў, 73 тысячы беларусаў жывуць у Маскве. Але большасьць зь іх — значна горшыя, чым тыя, якія жывуць на Беларусі. Большасьць зь іх імкнецца страціць беларускую нацыянальнасьць. Таварыства Беларускай Культуры імя Ф. Скарыны[218] сёньня налічвае 76 асобаў. Гэта актыўныя людзі, якія ладзяць акцыі пратэсту ля беларускай амбасады ў Маскве. Улады Масквы не задаволеныя нашай дзейнасьцю, і ў 1994 годзе пачалі ствараць паралельную арганізацыю на чале ў кадравым супрацоўнікам КДБ, дарэчы, сябрам «Бацькаўшчыны». Мае калегі лічаць патрэбным зрабіць дзейнасьць Рады БНР больш актыўнай і прасілі перадаць абраць на пасаду Прэзыдэнта Рады БНР З. Пазьняка.

Валянцін Грыцкевіч[219] (Санкт-Пецярбург, Расейская Фэдэрацыя): Нашае Таварыства[220] існуе толькі на таварыскіх пачатках. Сёньняшнія ўлады Пецярбургу не хаваюць падазронасьці да нас. Мы ня маем ні капейчыны ад спонсараў. Начальнік гарадзкой управы ФСБ (былы КДБ) Чаркесаў[221] прызнаўся, што сочыць за намі, каб выкрыць *«падрыхтоўку тэрарыстаў»*.

Дарэчы, трэба пазбавіцца ад ілюзіяў і ня песьціць спадзяванкі на дапамогу беларускай дэмакратыі з боку расейскіх дэмакратаў. Большасьць гэтых дэмакратаў паводзіць сябе ў дачыненьні да Беларусі цалкам па-імпэрску.

Янка Жучка[222] (Бэльгія): У Бэльгіі нас, беларусаў, вельмі мала — шэсьць асобаў, зь іх трое — сябры Рады БНР. Даволі цяжка наладжваць кантакты з бэльгійскім урадам. Тым ня менш мы актыўна гэтага дамагаемся. І робім захады па рэпрэзэнтацыі ідэі БНР, ідэі беларускай незалежнасьці ня толькі

---

[217] **Генадзь Лех** (нар. 06.10.1963, Магілёў), грамадскі дзеяч, доктар тэхнічных навук. У 1995–2001 гг. быў старшынёй Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны ў Маскве. Рэдактар часопіса «Шляхам Скарыны».

[218] **Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны ў Маскве** — грамадска-культурная арганізацыя, заснаваная ў 1988 г. з ініцыятывы Аляксея Каўкі. Таварыства стала першай афіцыйнай арганізацыяй беларускай дыяспары ў Расійскай Федэрацыі.

[219] **Валянцін Грыцкевіч** (30.03.1933, Мінск — 05.03.2013, Санкт-Пецярбург), медык, гісторык, доктар гістарычных навук. Адзін з заснавальнікаў і нязменны старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу.

[220] Маецца на ўвазе **Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбургу** — грамадская арганізацыя, заснаваная ў 1989 г. Першы старшыня — Валянцін Грыцкевіч.

[221] **Віктар Чаркесаў** (нар. 1950), расійскі дзяржаўны дзеяч, сёння генерал паліцыі. У 1992–1999 гг. быў начальнікам Упраўлення Федэральнай службы бяспекі РФ па Санкт-Пецярбургу і Ленінградскай вобласці.

[222] **Янка Жучка** (1928–2010) жыў у Бельгіі. У 1968–1985 гг. працаваў у рэдакцыі міжнароднага часопіса *«Acier — Stahl — Steel»*. Аўтар мноства артыкулаў у галіне сталёвых канструкцый. Ад 1985 г. займаў пасаду дарадцы па сваёй спецыяльнасці, чытаў лекцыі і праводзіў канферэнцыі для інжынераў і архітэктараў. Браў актыўны ўдзел у беларускім жыцці. Доўгагадовы старшыня Саюза беларусаў Бельгіі.

ў бэльгійскім урадзе, але і ў прадстаўніцтвах міжнародных арганізацыяў. Найперш гэта Эўрапейская Злучнасьць.

Лявон Мурашка[223], прэзыдэнт Згуртаваньня Беларускіх Грамадзкіх Арганізацыяў у Летуве (Вільня): Ад імя грамадзкіх арганізацый ў Летуве відаю высокі сход і спадзяюся, што ў хуткім часе ўсе разам сустрэнемся ў вольным Менску.

Янка Жамойцін[224] (Польшча): Мушу сказаць і падкрэсьліць як нешта пазытыўнае, што дэмакратычныя ідэі ў асяродку беларусаў у Польшчы належаць пераважна моладзі. Мы ўсе, хто тут прысутнічае з Польшчы, можам пасьведчыць, што кожныя ўгодкі 25 Сакавіка адзначаліся. І важна тое, што арганізатарам была перадусім моладзь. З гутарак з моладзьдзю на тэмы нашага сёньняшняга спатканьня, між іншым, вынікае і тое, што ідэя Рады БНР пазытыўная, трэба яе падтрымаць і запрапанаваць навязаць шчыльнае супрацоўніцтва з грамадзянскай апазыцыяй на Беларусі, якая, паводле нашага бачаньня, вымагае падтрымкі. І другая справа — гэта папулярызацыя самой ідэі БНР у блізкім замежжы да той ступені, каб людзі ведалі, на чым палягае БНР.

Аляксандар Баршчэўскі[225] (Польшча), тэкст выступу зачытала Ніна Баршчэўская[226]: Паратунак Беларусі — у яе поўнай дзяржаўнай незалежнасьці. Беларуская нацыя стаіць перад пагрозай фізычнай і духоўнай ліквідацыі.

[223] **Лявон Мурашка** (27.08.1924, в. Сіняўка, цяпер Клецкі раён Мінскай вобл. — 09.03.2009, Вільня, Літва), оперны спявак і грамадскі дзеяч, заслужаны артыст і дзеяч мастацтва Літвы. У 1950–1988 гг. быў салістам Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Літоўскай ССР. Актыўны дзеяч беларускай дыяспары ў Літве, кіраваў Згуртаваннем беларускіх грамадскіх суполак Літвы.

[224] **Янка Жамойцін** (28.01.1922, в. Клімавічы, цяпер Лідскі раён Гродзенскай вобл. — 25.04.2003, Варшава, Польшча), пісьменнік-публіцыст, грамадскі дзеяч. У 1949–1956 гг. знаходзіўся у савецкіх лагерах. Ад 1957 г. жыў у Варшаве. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт. Займаўся літаратурнай творчасцю, быў актыўным удзельнікам беларускага жыцця ў Польшчы.

[225] **Аляксандр Баршчэўскі** (02.11.1930, в. Бандары Беластоцкага ваяв., Польшча), паэт, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук. Скончыў Лодзінскі ўніверсітэт. Ад 1956 г. быў выкладчыкам Варшаўскага ўніверсітэта. У 1966 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Творчасць Я. Коласа 1906–1930 гадоў». Ад 1975 г. быў загадчыкам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. У 1975–2004 гг. узначальваў аддзяленне беларускіх даследаванняў пры Варшаўскім універсітэце. Аўтар паэтычных зборнікаў «Белавежскія матывы» (Беласток, 1962), «Жнівень слоў» (Беласток, 1967), «Мой бераг» (Мінск, 1975), «Блізкасць далёкага» (Беласток, 1983), «Лірычны пульс» (Мінск, 1987), а таксама падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры, перакладаў беларускай літаратуры на польскую мову.

[226] **Ніна Баршчэўская** (нар. 29.06.1956, в. Козлікі Гайнаўскага пав. Беластоцкага ваяв., Польшча), мовазнаўца, грамадска-культурная дзеячка, доктар філалагічных навук, жонка А. Баршчэўскага. Вучылася на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. У 2004 г. абараніла доктарскую дысертацыю «Беларуская

Беларускі народ памяншаецца прыблізна на 100 000 за год. Калі тэндэнцыя гэткая ўтрымаецца, дык праз сто гадоў беларуская нацыя зьнікне з паверхні зямнога шару. Але гэта можа стацца нашмат хутчэй, калі на Беларусі будзе праводзіцца тая палітыка, якая дамінуе ў ёй сёньня. Ці ж у гэткай сытуацыі нашыя сэрцы можа не напаўняць багдановічаўскі жах за радзімую краіну?

Пачынаючы з 15 траўня 1995 году, калі на Беларусі быў праведзены антызаконны рэфэрэндум, у выніку якога Беларусь была пазбаўленая нацыянальнай сымболікі і нацыянальнай мовы як дзяржаўнай — наш народ апынуўся перад канчатковым зьнішчэньнем. Перад новым Галякостам, які можа сьцерці Беларусь з твару зямлі. Ідэя аб’яднаньня Беларусі з Расеяй у форме фэдэрацыі альбо канфэдэрацыі папхне наш народ у бок пропасьці. Лёс беларускага народу прыпадобніцца да лёсу нацыянальнай беларускай меншасьці ў Расеі, якая налічвае каля паўтара мільёна чалавек. Дарэчы, столькі ж налічвае і расейская меншасьць у Беларусі.

Як выглядае *«братэрская роўнасьць»* у тракоўцы гэтых дзьвюх нацыянальных меншасьцяў на Беларусі і ў Расеі? Расейцы на Беларусі маюць тысячы расейскамоўных школаў, расейскамоўнае тэлебачаньне, радыё, сотні расейскамоўных газэтаў, расейскія тэатры, расейскую мову ва ўсіх дзяржаўных установах, расейскую царкву, дзясяткі расейскіх філялёгіяў — у кожнай гуманітарнай вучэльні.

А што маюць беларусы ў Расеі? Ня маюць нічога! Ня маюць ніводнай беларускай школы, ня маюць беларускамоўнага радыё і тэлебачаньня, ня маюць ніводнай беларускамоўнай газэты, ніводнага тэатру, няма беларускай мовы ў дзяржаўных установах, няма беларускай царквы, няма ніводнай катэдры беларускай філялёгіі ў якой-колечы вышэйшай установе Расеі.

Гэтак выглядае *«роўнасьць»*. Яшчэ перад прэзыдэнцкімі выбарамі Лукашэнка заяўляў, што гатовы стаць перад Расеяй на калені. Ёсьць фактам, што ўжо сёньня імкнецца ён кінуць на калені перад Расеяй усю нашую Беларусь.

Існаваньне Рады БНР мае глыбокі сэнс, матывацыю і апраўданьне. Нашая структура павінна аб’яднаць беларусаў добрае волі, людзей розных палітычных поглядаў і прыналежнасьцяў, якія адназначна стаяць на баку абароны такіх каштоўнасьцяў, як нацыянальнае сумленьне, нацыянальная годнасьць, нацыянальны гонар і нацыянальная мова.

Барыс Рагуля: Шаноўныя ўдзельнікі сэсіі, гістарычная цягласьць Рады БНР — ад 25 сакавіка 1918 год аж да цяперашняга часу — добра прадстаўлена ў артыкуле Дэвіда Суорца[227], копію якога Вы атрымалі[228].

---

эміграцыя — абаронца роднае мовы». Прафесар Варшаўскага ўніверсітэта. Ад 1992 г. працуе ў Беларускай службе Польскага радыё, кіраўніца рэдакцыі.

[227] **Дэвід Суорц** (англ. *David Heywood Swartz*) — першы амбасадар ЗША ў Рэспубліцы Беларусь у 1992–1996 гг.

[228] Магчыма, маецца на ўвазе тэкст: David H. Swartz. Belarus Democracy Continues In Diaspora // Belarusian Review. Vol. 9, № 1. Spring 1997. Гл.: http://www.radabnr.org/en/swartz.htm.

Дзейнасьць Рады БНР трэба падзяліць на тры асноўныя пэрыяды. Першы — 1918–1945 гг., другі — 1945–1991 гг. і трэці — з 1991 году да сёньняшняга дня.

Урад БНР пасьля ганебнага падзелу Беларусі паміж Польшчай і Савецкім Саюзам апынуўся ў вельмі цяжкім стане. СССР рабіў усе магчымыя захады, каб перацягнуць урад БНР на Беларусь. У 1925 годзе на канфэрэнцыі ў Бэрліне частка ўраду паверыла бальшавікам, перайшла ў савецкую Беларусь. Вам добра вядомы іхні лёс. Але прэзыдэнт Пётра Крэчэўскі здолеў захаваць бальшыню ўраду ў экзылі і працягваць змаганьне за незалежнасьць Беларусі. Пасьля ягонай сьмерці Васіль Захарка, а ад 1943 г. Мікола Абрамчык, доктар Вінцук Жук-Грышкевіч і пазьней доктар Язэп Сажыч працягвалі ўзначальваць Раду БНР.

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны ў 1945 годзе мільёны людзей апынуліся ў заходняй зоне. Сярод іх палітычныя ўцекачы, палонныя, прымусова вывезеныя на працу. Савецкі Саюз усіх лічыў ворагамі народу. Паводле ганебнай дамовы ў Ялце, аліянты абявязаліся прымусова рэпатрыяваць савецкіх грамадзянаў[229].

Але памалу на эміграцыі ладзілася беларускае жыцьцё. Паўсталі беларускія школы, прыкладам гімназія імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе. Студэнты пайшлі ва ўнівэрсытэты. Прэзыдэнт М. Абрамчык настойваў, каб моладзь пайшла вучыцца.

Рада БНР праз сваіх радных у розных палітычных і грамадзкіх арганізацыях кіравалася мэтай згрупаваць беларускае грамадзтва вакол ідэі БНР. Беларуская дыяспара выконвала ролю амбасадараў свайго народу. Палітычныя блёкі, выдавецтвы, Інстытут Навукі й Мастацтва, стварэньне магчымасьці адукацыі нашай моладзі — вось вынік працы Рады БНР.

Палітычныя акцыі перад урадамі Захаду ў абароне правоў беларускага народу далі пазытыўныя вынікі. Беларуская дыяспара захавала мову, культуру і нацыянальны дух хіба лепей, чымся на Бацькаўшчыне.

Немагчыма ў кароткім выступе апісаць усе бакі дзейнасьці Рады БНР. Антыбальшавіцкі Блёк, Парыскі Блёк[230], Візбадэнская Канфэрэнцыя[231] і

---

[229] Маецца на ўвазе пагадненне аб рэпатрыяцыі ваеннапалонных і грамадзянскіх асобаў, што было заключанае саюзнікамі на мірнай канферэнцыі ў Ялце ў лютым 1945 г.

[230] **Парыжскі блок (Ліга вызвалення народаў СССР)** — палітычная арганізацыя прадстаўнікоў «нерасійскіх» народаў Савецкага Саюза, створаная з ініцыятывы Міколы Абрамчыка ў Парыжы ў 1952 г. Падрабязней пра яе гл.: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013. С. 80–85.

[231] **Вісбадэнская канферэнцыя** — канферэнцыя Саюза вызвалення народаў Расіі, якая адбылася 7 лістапада 1951 г. у Вісбадэне і дзе была падпісаная адмысловая дэкларацыя аб супрацоўніцтве паміж пяццю расійскімі арганізацыямі і некаторымі нацыянальнымі групамі паняволеных народаў.

канфрантацыя ў Керэнскім[232] — гэтыя эпізоды засталіся ў памяці. Паміж іншым, у Візбадэне расейцы вымушаныя былі прызнаць права паняволеных народаў на самавызначэньне.

Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці здавалася, пара перадаваць паўнамоцтвы Рады БНР беларускаму ўраду. Аднак далейшыя падзеі змусілі нас актывізаваць БНР, і вось сёньняшняя Сэсіі ёсьць вынікам гэтай актывізацыі. Я перакана용ы, што сьвежая кроў дасьць новы штуршок да далейшай дзейнасьці нашай дыяспары ў напрамку абароны людзкіх і дзяржаўных правоў нашага народу.

БНР надалей працягвае інтэрвэнцыі перад урадамі Захаду ў абарону дэмакратыі на Беларусі. Рэгулярна адбываюцца кансультацыі зь Дзярждэпартамэнтам ЗША, а гэтым разам афіцыйна запрошаны на кансультацыі старшыня Рады БНР. Робяцца пэўныя спробы ўплываць на палітыку краінаў Захаду, але ў асноўным усё будзе залежаць ад нашага народу на Бацькаўшчыне.

Вячка Станкевіч[233], кіраўнік беларускай службы радыё «Свабода» (Прага): Аднаўленьне Рады БНР — адказная дзейнасьць, і тут вялікая падзяка доктару Барысу Рагулю, які ўзяў на сябе гэтую цяжкую і марудную працу. Але, як бачым, вынікі пачынаюць зьяўляцца. Але гэта — працэс, гэта ня праца двух дзён. Гэты працэс возьме некалькі гадоў, бо зьмены надыходзяць — зьмены пакаленьняў, зьмены ў сьвеце, і нам трэба арыентавацца на гэтыя зьмены. Я лічу, што ў гэтым працэсе можна вылучыць чатыры галоўныя пункты.

Першы зь іх — гэта місія. Другі — канкрэтная дзейнасьць. Трэці — прадстаўніцтва. Чацьверты — фінансаваньне.

Місія зразумелая: незалежнасьць нацыянальнай Беларусі, незалежнасьць дэмакратычнай Беларусі. Такая місія падтрымоўваецца ў сьвеце, хаця — на

---

[232] **Аляксандр Керанскі** (1881–1970), расійскі палітычны і грамадскі дзеяч, старшыня Часовага ўрада Расіі ў 1917 г., адзін з лідараў расійскай эміграцыі на Захадзе. Канфрантацыя Рады БНР з Керанскім мела месца на пачатку 1950-х гг. у сувязі са спробамі стварэння агульнага антыкамуністычнага фронту на эміграцыі. Падрабязней пра гэта гл.: Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947–1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 49–57.

[233] **Вячка Станкевіч** (нар. 15.09.1932, Вільня), грамадскі дзеяч, сын Янкі і Марыі Станкевічаў. У 1949 г. прыехаў у ЗША. Спачатку пасяліўся ў Кліўлендзе. У 1951–1954 гг. служыў у амерыканскім войску. Па вяртанні жыў у Нью-Ёрку. У 1959 г. скончыў Нью-Ёрскі гарадскі каледж з дыпломам інжынера. У 1968 г. у Нью-Арскім інжынерным каледжы (Нью-Джэрсі) атрымаў ступень магістра ў галіне электроннай інжынерыі. Спартовец-футбаліст, гуляў за дзве каманды — кліўлендскую «Пагоню» і нью-ёркскую «Беларусь». Быў актыўным сябрам Задзіночання беларуска-амерыканскай моладзі, быў старшынёй яго Нью-Ёркскага аддзела. У канцы 1960-х гг. выкладаў геаграфію Беларусі ў беларускай школе ў Нью-Ёрку. Працаваў інжынерам у карпарацыях *ITT* і *WesternUnion*. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва арганізацыі і яе Нью-Ёркскага аддзела, уваходзіў у рэдкалегію газеты «Беларус». У 1988–1998 гг. быў кіраўніком Беларускай службы Радыё «Свабода» ў Празе. Пасля вярнуўся ў ЗША.

словах. У 1991 г., калі ўзьнікла надзея, старая намэнклятура засталася пры ўладзе, а народ, які быў сапсаваны стагодзьдзямі ўплываў розных захопнікаў з усіх бакоў і дзясяткамі гадоў бальшавіцкіх, проста ня мог знайсьці ў сабе сілы, каб утрымаць гэтую незалежнасьць, зрабіць яе сапраўднай. Дзеля таго мэта Рады БНР застаецца актуальнай. Мяняюцца абставіны, людзі, сьвет, і мы павінны ісьці з духам часу.

Якая канкрэтная дзейнасьць магчыма для нас? Сп. Рагуля закрануў магчымую праграму Рады БНР. Шмат добрых пунктаў, і яны належаць да абмеркаваньня абноўленай Радай БНР. Радай, у якой возьме ўдзел новае пакаленьне, што гатовае працягнуць гэтую справу далей. Але мы мусім не забывацца, што незалежнасьць Беларусі зможа рэалізавацца толькі ў Беларусі. З-за мяжы мы яе не прынясем, але мы можам шмат дапамагчы. Напрыклад, мы можам пашырыць цікавасьць сьвету да Беларусі, зьвярнуцца да ўплывовых людзей у кожнай краіне, дзе існуюць прадстаўнікі Рады БНР. Да прыкладу сувязь з АБСЭ была б вельмі плённай.

Праблема прадстаўніцтва для абноўленай Рады БНР — магчыма, самая галоўная. Цяпер ёсьць магчымасьць карыстацца вопытам тых людзей, якія не маглі належаць да Рады БНР. Дзеля таго я прапаную прызначыць камісію, якая б і занялася гэтым пытаньнем: дзе знайсьці новых кандыдатаў на радных? І навогул, заняцца праблемай прадстаўніцтва і пытаньнямі накірункаў далейшае працы Рады БНР. Працай гэтае камісіі было б гэтаксама і запрапанаваць тым, хто шмат зрабіў, але сілы якіх ужо не дазваляюць працаваць, — з гонарам адыйсьці.

Мінімальнае фінансаваньне — абавязкавае. Калі мы паўстанем на пэўны ўзровень, фінансаваньне знойдзецца.

Я даў бы адну параду. Мы павінны выкарыстоўваць дасьведчаньне старэйшага пакаленьня, дасьведчаньне цяперашніх кіраўнікоў трэба спалучаць з энэргіяй маладых.

Мяркую, мы маглі б запрапанаваць Нью-Ёрскай Сэсіі тыя мінімальныя зьмены ў Статуце, якія б якраз дазволілі зрабіць Раду больш працаздольнай і прадстаўнічай.

Аляксандар Старыкевіч[234], уласны карэспандэнт газэты «Известия» ў Беларусі (Менск): Дзякую Радзе БНР і асабіста Барысу Рагулю за згоду на далучэньне да вашае справы. Для мяне вялікі гонар быць разам з вамі, зь людзьмі, якія прысьвяцілі сваё жыцьцё Беларусі. Прапаную для абмеркаваньня тэму, па якой мы, канечне, не здолеем прыняць сёньня канчатковага рашэньня, але калі яна будзе ўхваленая, то можна рыхтаваць матар’ялы да Нью Ёрку. Гэта — стварэньне Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі. Такі Ўрад будзе мець гістарычную легітымнасьць.

[234] **Аляксандр Старыкевіч** (нар. 1972), журналіст. Журналісцкую дзейнасць пачаў у 1990 г. у газетах «7 дзён» і «Свабода», быў уласным карэспандэнтам расійскіх выданняў «Известия» і «Коммерсант». Пазней быў галоўным рэдактарам газет «Беларускі час» і «Салідарнасць».

На Беларусі існуюць рухі, якія супрацьстаяць Лукашэнку — чаму ж неабходна стварыць Урад БНР? Справа ў тым, што праблемы нашае Бацькаўшчыны не вычэрпваюцца чыста палітычнымі. У лістападзе мінулага году адбыўся дзяржаўны пераварот. І злачынцы, якія захапілі ўладу, не аддадуць яе ні празь перамовы, ні праз выбары. Змагацца зь імі чыста палітычнымі сродкамі амаль немагчыма. Хутчэй, трэба казаць пра стварэньне руху супраціву, накшталт таго, што існаваў у эўрапейскіх краінах падчас Другой сусьветнай вайны. Стварэньнем нацыянальна-вызвольнага руху на Беларусі — я падкрэсьліваю, не чарговай палітычнай структуры, а менавіта арганізацыі, якая мае на мэце адбудову незалежнай беларускай дзяржавы ўсімі магчымымі сродкамі, як гэта, дарэчы, прадугледжвае Статут Рады БНР, — і павінен заняцца такі Ўрад.

Сёньня Беларусь атрымлівае вялікія крэдыты, пераважна з Расеі, якія ідуць у кішэню Лукашэнкі і ягоных сяброў. Чаму Беларусь, чаму новы дэмакратычны ўрад, які, я ўпэўнены, празь нейкі час будзе створаны, — чаму мы ўсе павінны адказваць па пазыках Лукашэнкі, якія не пайшлі на карысьць нашай дзяржаве? Патрэбна афіцыйная заява Ўраду БНР, што крэдыты, якія атрымаў Лукашэнка, крэдыторы мусяць спаганяць не зь Беларусі, а менавіта з Лукашэнкі. Беларусь пасьля ўсталяваньня дэмакратычнага ладу па іх адказваць не павінна. На маю думку, у склад Ураду БНР павінны ўвайсьці палітыкі, якія сваімі справамі засьведчылі адданасьць беларускай справе.

<u>Сяргей Навумчык:</u> Сёньня ў выступах удзельнікаў Сэсіі прагучала шмат слушных прапановаў па актывізацыі дзейнасьці Рады БНР. Выказваліся пажаданьні зрабіць больш дасканалым Статут Рады БНР. Падаецца, што было б больш канструктыўным цяпер спыніць пленарнае паседжаньне Сэсіі і разьбіцца на сэкцыі. Прапануецца стварыць тры сэкцыі: па накірунках дзейнасьці Рады БНР (адказны А. Лукашук[235]), па дапрацоўцы Статуту Рады БНР (адказны В. Станкевіч) і гісторыка-архіўную сэкцыю (адказны В. Грыцкевіч). Кожны ўдзельнік сёньняшняй Сэсіі можа браць удзел у працы любой з гэтых сэкцыяў. Празь некалькі гадзінаў працы адказныя падсумуюць вынікі і дакладуць іх дэлегатам. Магчыма, сёньня мы і ня прымем нейкіх рашэньняў, тады вашыя прапановы будуць разасланыя ўсім сябрам Рады БНР, і да Сэсіі ў Нью Ёрк яны будуць мець магчымасьці пазнаёміцца з прапановамі.

## 5 ліпеня 1997 г.

<u>3. Праца па сэкцыях</u>

4. Падсумаваньне вынікаў працы сэкцыяў.

---

[235] **Аляксандр Лукашук** (нар. 1955), журналіст, публіцыст, перакладчык. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Працаваў перакладчыкам, журналістам, рэдактарам. У 1990–1992 гг. — галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь». Ад 1993 г. працуе на Радыё «Свабода», ад 1999 г. — дырэктар Беларускай службы гэтага радыё.

Вячка Станкевіч кіраўнік сэкцыі па дапрацоўцы Статуту Рады БНР: Хачу падзякаваць удзельнікам нашае групы — спн. Клызе з Эстоніі, сп. Жамойціну і спн. Баршчэўскай з Польшчы, сп. Леху з Масквы, сп. Жучку з Бэльгіі. Былі зробленыя прапановы паправак да Статуту. Гэтыя папраўкі трэба апрацаваць, узгадніць зь сябрамі нашае сэкцыі, і потым я іх у якасьці прапановы зачытаю на Сэсіі ў Нью Ёрку.

§2. Прапануем дадаць абзац: *«Паўнамоцтвы Рады БНР былі пацьверджаныя на 3-й Палітычнай Канфэрэнцыі Партыяў і Рухаў Беларусі ў ліпені 1993 году».*

§6. Прапануем даволі істотныя зьмены адносна сяброўства ў Радзе БНР. Прапануецца: *Рада БНР абмяжоўваецца колькасьцю 75 асобаў* (цяпер іх колькасьць ня вызначаная). Другая папраўка: *«Кожныя чатыры гады склад Рады БНРаднаўляецца на 1/3»*. Працэс выбараў застаецца такі самы, як зафіксаваны ў Статуце: ён складаецца з вылучэньня партыямі і арганізацыямі або прадстаўленьня подпісаў людзей, падтрымкі ня менш як двух сябраў Рады. Але магчымасьць перавыбараў не абмежаваная: чалавек можа быць абраны на чатыры гады, потым зноў на чатыры гады, але пажыцьцёвае сяброўства трэба зьліквідаваць.

§15: склікаць Сэсію Рады БНР штодва гады, а не штотры, як цяпер.

§19: тэрмін Прэзыдыюму Рады абмежаваць чатырма гадамі.

§20: зьняць слова *«рэфэрэндум»*.

§22: тэрмін зрабіць чатыры гады замест шасьці, як цяпер[236].

§26: стварыць сэктары Рады па рашэньні Прэзыдыюму Рады, тэрмін Кантрольнай Камісіі таксама зрабіць чатыры гады.

§41: не вызначаць месца сядзібы Рады БНР.

§43: ізноў удакладніць тэрмін, у які паведамляецца, што мяркуецца зьмена Статуту — месяц перад скліканьнем Сэсіі.

Наконт таго, ці маглі б быць сябрамі Рады тыя, хто жыве на Беларусі. У адным з абзацаў Статуту сказана, што Рада дзейнічае на экзылі. Нашая група лічыць, што на Беларусі ёсьць магчымасьць працы ў партыях, рухах і гэтак далей, не беручы ўдзел у працы Рады. Але думкі могуць быць розныя на гэты конт.

Сяргей Навумчык: Мы зьвернемся да ўдзельнікаў Сэсіі, а гэтаксама да ўсіх сябраў Рады БНР у ЗША, Канадзе, Аўстраліі з просьбай даслаць свае прапановы і меркаваньні па Статуце Рады БНР спадару Станкевічу ў Прагу, каб да Сэсіі ў Нью Ёрку можна было мець адпрацаваныя варыянты.

Аляксандар Лукашук, кіраўнік сэкцыі па выпрацоўцы накірункаў дзейнасьці Рады БНР: Накірунак дзейнасьці адзін — незалежная Беларусь. Нічога новага мы ў гэтым сэнсе не прыдумалі, але гаворка ішла пра тое, што можа зрабіць Рада ў новых умовах. Ёсьць наступныя канкрэтныя прапановы.

---

[236] Маецца на ўвазе тэрмін паўнамоцтваў старшыні Рады БНР.

Рада БНР павінна быць вядомая тым, хто сёньня робіць палітыку ў сьвеце. Гаворка ідзе пра ўрады, парлямэнты, найперш — Амэрыкі, Канады, краінаў Эўрапейскай Злучнасьці, ААН, Еўрапарлямэнт, АБСЭ, НАТО.

Рада БНР ёсьць праўным гарантам незалежнасьці Беларусі. Можа стацца так, што пры найгоршым раскладзе Беларусь можа ператварыцца ў суб'ект канфэдэрацыі з Расеяй ці нават фэдэрацыі. У такіх умовах Рада БНР павінна быць гатовая пацьвердзіць гучна, з пэўнай юрыдычнай аргумэнтацыяй, сваю ролю як гаранта Незалежнасьці Беларусі. Да гэтага трэба рыхтавацца. Прапановы на гэты конт будуць падрыхтаваныя. Магчыма, давядзецца стварыць інстытут паслоў ці консулаў Рады ў розных краінах. Адначасова, трэба падрыхтаваць праекты дакумэнтаў, зваротаў і г. д. Адказныя за гэта — Лукашук і Навумчык.

Другая група прапановаў датычыць кантактаў з тымі міжнароднымі фондамі, якія хочуць і могуць дапамагчы Беларусі. Гаворка ідзе пра гранты, пра фінансавую дапамогу. У нас ёсьць унікальная магчымасьць, у нас ёсьць грамадзяне іншых краінаў. Гэтую магчымасьць трэба актывізаваць і арганізаваць фінансавую дапамогу. Гэтая фінансавая дапамога пойдзе на карысьць самой Радзе БНР, але зьявіцца і інфраструктура. Мы вызначыліся, што першыя кантакты ў гэтым накірунку павінны зрабіць С. Навумчык і А. Лукашук пры дапамозе В. Вячоркі.

Трэці накірунак — інфармацыйная вайна за Беларусь. Такая вайна ўжо вядзецца, ейным вынікам сталася поўная ізаляцыя Захадам Лукашэнкі, непрызнаньне ягонага парлямэнту. Вайна вядзецца пасьпяхова з пункту гледжаньня інтарэсаў дэмакратыі. Але з пункту гледжаньня беларускіх інтарэсаў, нацыянальных інтарэсаў, інтарэсаў незалежніцкіх — тут пакуль што ёсьць над чым працаваць. Магчыма, да канца года пагоршыцца значна інфармацыйная сытуацыя на Беларусі. Апазыцыйныя выданьні могуць быць зьліквідаваныя Лукашэнкам. Яны рыхтуюцца да дзейнасьці ва ўмовах паўпадпольля, але тут ёсьць месца і для дзеяньня нашага. Гаворка ішла б пра стварэньне пэўных інфармацыйных блёкаў. Да прыкладу — старонка на Інтэрнэце. Тут мы больш разьлічваем на дапамогу Амэрыканскага Сэктару. Паўстае пытаньне і пра стварэньне інфармацыйнага цэнтру ў Вільні, які б меў магчымасьці распаўсюджваньня інфармацыі. Над гэтым працуе Сяргей Дубавец[237].

І яшчэ адна ідэя — ідэя грамадзянства БНР. Гэта выглядала б як акцыя падтрымкі ідэалаў БНР. Гэта ўмоўная, сымбалічная акцыя маральна-палітычнага характару. Ідэя патрабуе кансультацыяў з арганізацыямі ў Беларусі, і

---

[237] **Сяргей Дубавец** (нар. 1959), журналіст, літаратар, крытык, выдавец. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у выдавецтве БелСЭ, газеце «Гомельская праўда», нелегальным друку. Рэдактар аддзела крытыкі часопіса «Нёман» (1987–1990), галоўны рэдактар газет «Наша Ніва» (1991–2000) і «Свабода» (2004–2008), радыё «Балтыйскія хвалі» (2000–2001), аўтар штотыднёвае перадачы «Вострая Брама» на Радыё «Свабода».

ёсьць папярэдняя дамоўленасьць з Намесьнікам Старшыні БНФ Вячоркам, што гэтая ідэя можа быць абмеркаваная ў БНФ і пракансультаваная зь іншымі арганізацыямі.

Было б мэтазгодна прапанаваць Нью-Ёрскай Сэсіі прыняць зварот да палітычных арганізацыяў Беларусі з заклікам падтрымаць ідэалы БНР, але перад гэтым трэба правесьці падрыхтоўчую працу, каб гэты зварот не прапаў дарма.

Ёсьць прапанова па рэарганізацыі Рады: на чале стаіць Прэзыдэнт, ёсьць дзьве Сэкцыі — Амэрыканская і Эўрапейская; кіруе працай Сакратарыят Рады і некалькі аддзелаў (замежныя справы, фінансы, інфармацыя, адмысловы аддзел і архіў). Але гэта канчаткова павінна вырашацца на Сэсіі ў Нью Ёрку.

Валянцін Грыцкевіч, кіраўнік гісторыка-архіўнай сэкцыі: Мы ведаем, колькі стратаў архіваў было, але не заўсёды асэнсоўваем, што гэта значыла для будучых пакаленьняў. Скласьці і захаваць архіў — праца такая ж складаная, як і пабудаваць дом. Мы маем страты беларускіх архіваў ня толькі з прычыны дзейнасьці ворагаў беларушчыны, але і з прычыны нашага ўласнага непрафэсійнага падыходу. Патрэбна стварэньне «бягучага» архіву БНР. І трэба аднойчы і назаўсёды дамовіцца, што ўсе дакумэнты Рады БНР павінны быць сабраныя ў адным месцы, што значна аблегчыла б доступ да іх сябраў Рады. Натуральна, што праца па стварэньні і ўпарадкаваньні архіву патрабуе і належнага фінансавага забесьпячэньня.

Вінцук Вячорка: Як абяцаў, распавяду больш падрабязна пра палітычную сытуацыю на Беларусі і пра дапамогу, якая патрэбная вызвольным сілам на Бацькаўшчыне.

БНФ з самага пачатку засьведчыў вернасьць ідэалам 25 Сакавіка. Мушу данесьці тую інфармацыю, якая спатрэбіцца вам для выпрацоўкі слушных стратэгічных падыходаў да Сэсіі ў Нью Ёрку.

Сытуацыя на Беларусі такая, што ўласна палітычныя мэтады адыйшлі на другі плян — няма парлямэнту, выбараў і г. д. Таму праца палітычных партыяў мае дастаткова нязначны сэнс. БНФ на сваім V зьезьдзе[238] падкрэсьліў, што БНФ — гэта не звычайная палітычная партыя, а нацыянальна-вызвольны рух, які ў цяперашняй крытычнай сытуацыі бароніць незалежнасьць.

Яшчэ год назад можна было казаць пра адзіную антылукашэнкаўскую апазыцыю. Сёньня на беларускай палітынай арэне якасна іншая сытуацыя. Калі летась у лістападзе існавала рэальная магчымасьць скінуць рэжым Лукашэнкі, вакол гэтага спадзеву аб’ядналіся і БНФ, і Вярхоўны Савет, і некаторыя кіраўнікі сілавых структураў. Але непасрэднае ўмяшаньне Масквы, іхні ўціск на кіраўніцтва Вярхоўнага Савету і Канстытуцыйнага Суду прывялі да таго, што працэдура імпічмэнту была спыненая.

Сёньня падзел паміж партыямі праходзіць па стаўленьні да Расеі і да беларускай незалежнасьці. І ня варта спадзявацца на Маскву, калі яна да-

[238] Пяты з’езд Беларускага народнага фронту адбыўся ў чэрвені 1997 г.

паможа скінуць Лукашэнку, то на яго месца прыйдзе ня менш прамаскоўкі дыктатар. Місія Лукашэнкі наагул у тым, каб прывесьці Беларусь у Расею, пасьля чаго ён можа быць заменены нейкім генэрал-губэрнатарам.

Але існуе шанец згуртаваньня сілаў, якія стаяць на незалежніцкіх пазыцыях. Мэтодыка працы БНФ — гэта масавыя акцыі, людзі сьведама ідуць пад дубінкі і арышты, і гэта дазволіла прыпыніць інкарпарацыю Беларусі ў Расею. Сёньня ідзе падрыхтоўка да страйкаў на стратэгічных прадпрыемствах.

Цяпер я пералічу тыя справы, у якіх нам патрэбная дапамога звонку.

Найперш гэта інфармацыйная дапамога — данесьці весткі пра беларускія падзеі, пра дзейнасьць БНФ да аўтарытэтных журналістаў, да колаў, якія ствараюць грамадзкую думку і да колаў, якія прымаюць рашэньні. І ў зьвязку ў гэтым пэўныя прапановы структурнага характару — абрастаньня Рады БНР сеткай спадарожных, сатэлітных арганізацыяў, якія б аблегчылі фінансаваньне.

Мы вітаем працэс ажыўленьня дзейнасьці Рады БНР. Вельмі важнае значэньне мае аспэкт юрыдычны. Рада БНР — гэта той легітымны асяродак беларускае дзяржаўнасьці, які нікуды не прападзе, які ня будзе зьнішчаны лукашыстамі і які нам у любы момант можа спатрэбіцца, калі разьвіцьцё падзеяў на Беларусі будзе ісьці паводле найгоршага сцэнару. БНФ зробіць усё магчымае, каб нагадаць насельніцтву, што ёсьць цягласьць беларускай палітычнай традыцыі.

Калі б удалося стварыць нейкі апэратыўны мэханізм, які б літаральна ў дзень адбыцьця нейкай падзеі на Беларусі закідваў бы амэрыканскія, эўрапейскія ўрады, міжнародныя арганізацыі пратэстамі ды адозвамі, — было б вельмі добра. Ня выключана, што спатрэбіцца шукаць месца вучобы для студэнтаў, якія могуць быць выключаныя з унівэрсытэтаў за палітычную дзейнасьць.

І, нарэшце, трэба падумаць пра пашырэньне дзейнасьці Рады БНР на тэрыторыі Беларусі.

5. Прыняцьце рэзалюцыяў

Прымаюцца Дэклярацыі Сэсіі Эўрапейскага Сэктару Рады БНР, Заява Сэсіі «Аб палітычным становішчы на Беларусі», Рэзалюцыя Сэсіі «Аб этнічнай дыскрымінацыі беларусаў», Рэзалюцыя-зварот да Кангрэсу ЗША «Аб радыё “Свабода”».

6. Выбары кіраўніка Эўрапейскага Сэктару Рады БНР

Старшынёй Эўрапейскага Сэктару Рады БНР абраны С. Навумчык.

7. Вылучэньне кандыдатураў на пасаду Старшыні Рады БНР

У якасьці першай кандыдатуры вылучаецца Б. Рагуля, аднак сп. Рагуля адмаўляецца ад пасады Старшыні Рады БНР, патлумачыўшы гэта станам здароўя.

У выступе Г. Леха была названая кандыдатура З. Пазьняка, аднак паведамляецца, што сп. Пазьняк не зьяўляецца сябрам Рады БНР, і ягоная кандыдатура не разглядаецца.

Вылучаюцца кандыдатуры Вітаўта Кіпеля і Янкі Запрудніка. Вырашана не праводзіць галасаваньня. Такім чынам, удзельнікам Сэсіі ў Нью Ёрку рэкамэндаваныя два кандыдаты на пасаду Старшыні Рады БНР В. Кіпель і Я. Запруднік.

Барыс Рагуля: У завяршэньне хачу выказаць падзяку ўсім дэлегатам і гасьцям за плённую працу. Асаблівая нашая ўдзячнасьць віленскім беларусам, найперш сп. Хв. Нюньку, за цудоўную арганізацыю Сэсіі, якую яны ўсклалі на свае плечы. Жадаю ўсім посьпехаў у справе змаганьня за ідэалы 25 Сакавіка, за Беларусь.

*Старшыня Сэсіі С. Навумчык.*

## XXII СЭСІЯ РАДЫ БНР
### *Пратакол*

30–31 жніўня 1997 г.
9:00–16:00
Нью Брансўік, Нью Джэрзі, ЗША
канфэрэнц-заля гатэля «Гаят Рэджэнсі»

Парадак дня

1. Адкрыцьцё Сэсіі.
2. Выбары Прэзыдыюму Сэсіі.
3. Выбары Мандатнай камісіі Сэсіі Рады БНР.
4. Абмеркаваньне парадку дня.
5. Прыняцьце пратаколу XXI Сэсіі БНР.
6. Прыняцьце новых сябраў.
7. Прывітаньні Сэсіі.
8. Справаздачы і дыскусыя па справаздачах.
9. Выбары Старшыні, намесьнікаў і сябраў Прэзыдыюму Рады БНР.

1. Адкрыцьцё Сэсіі

Адкрыў Сэсію старшыня арганізацыйнага камітэту Юрка Азарка. Малітва Мітрапаліта БАПЦ Мікалая. Хвіліна маўчаньня ў памяць памёрлых сябраў Рады БНР.

2. Выбары Прэзыдыюму Сэсіі

Прапанаваныя кандыдатуры: старшыня — Я. Запруднік, сакратары — А. Сёмуха[239], С. Навумчык, сябра — Хв. Нюнька.

Прынята аднагалосна.

---

[239] **Алеся Сёмуха**, удзельніца беларускага незалежніцкага руху ад 1986 г. Працавала ў Беларускім ліцэі пад кіраўніцтвам У. Коласа. Ад 1990 г. супрацоўнічала з Беларускай рэдакцыяй Радыё «Свабода». У 1995 г. выехала ў ЗША. Працуе дырэктарам PR і камунікацый у буйной фінансавай кампаніі (*Freddie Mac*). Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання і скарбнік Вашынгтонскага гуртка БАЗА. Сакратар Презідыума Рады БНР.

3. Выбары Мандатнай камісіі Сэсіі Рады БНР

Кандыдатуры: В. Кажан, М. Наўмовіч, Я. Ханенка.

Прынята аднагалосна.

4. Абмеркаваньне парадку дня

М. Ганько: Выбраць Рэзалюцыйную камісію пасьля прыняцьця новых сябраў Рады (заўвага прынятая).

Я. Сажыч: Скасаваць пункт 9 парадку дня «Даклад Старшыні Рады БНР» (заўвага прынятая).

Р. Жук-Грышкевіч: Выбраць адказнага за архівы.

Я. Запруднік (рэагуючы на папярэднюю прапанову): Прэзыдыюм зробіць гэта ў рабочым парадку.

Ю. Азарка: Прыняць пункт *Плян на будучыню* перад выбарам Прэзыдыюму (заўвага прынятая).

М. Ганько: Унесьці зьмены ў Статут перад выбарамі Прэзыдыюму.

Ю. Васілеўскі[240]: Плян на будучыню трэба зацьвердзіць пасьля выбараў і абмеркаваньняў, як заключны дакумэнт Сэсіі.

А. Сільвановіч[241]: Плян працы мусіць быць распрацаваны пасьля выбараў.

Ю. Азарка: Замяніць тэрмін *плян* на *плятформа*, *ідэалёгія*.

Галасаваньне за прыняцьце пляну працы перад выбарамі Прэзідыюму: 6 галасоў — «за», бальшыня — пасьля выбараў Прэзыдыюму. Прапанова не прымаецца.

Галасаваньне за прыняцьце парадку дня: прынята аднагалосна.

5. Прыняцьце пратаколу XXI Сэсіі БНР

Папраўкі да пратаколу:

Ю. Азарка: Разгледзець пытаньне перадачы мандатаў ураду Беларусі.

Пасьля ўнясеньня зьменаў прынята аднагалосна.

6. Прыняцьце новых сябраў

Б. Рагуля: Трэба пашырыць Раду на блізкае замежжа.

---

[240] **Юры Васілеўскі**, былы маскоўскі беларус, аўтар колькіх артыкулаў у Энцыклапедыі гісторыі Беларусі і іншых даведніках. Прыехаў у ЗША разам з жонкай Алесяй Сёмухай. Пісаў артыкулы для газеты «Беларус», аднавіў газету «Беларускі час». Пазней змяніў погляды на нацыянальныя пытанні і аддзяліўся ад беларускай грамады.

[241] **Алекс Сільвановіч** (07.03.1937–14.05.2007, Саўт Рывер, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1944 г. разам з бацькамі выехаў з Беларусі. У 1950 г. прыбыў у ЗША. Атрымаў вышэйшую адукацыю ў галіне хіміі ў Ратгерскім універсітэце (Нью-Джэрсі). Працаваў у Тэхналагічнай групе ў штаце Нью-Джэрсі, быў спецыялістам у галіне камп'ютарных тэхналогій. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, БІНіМа, скарбнікам прыхода Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Гайленд-Парку. Стваральнік Фонду беларускага адраджэння.

Сьпіс новых сябраў: Ю. Васілеўскі, В. Зайка[242], М. Клакоцкі[243], А. Сёмуха, Л. Юрэвіч[244] (ЗША), В. Грыцкевіч, М. Нікалаеў[245], А. Разумаў[246], А. Рудакоў[247] (Расея), А. Лукашук, С. Навумчык, С. Сокалаў-Воюш (Чэхія), А. Баршчэўскі,

---

[242] **Віталь Зайка** (нар. 1961, Лагойск), грамадскі дзеяч, навуковец. Скончыў фізічны факультэт БДУ. У 1993 г. выехаў у ЗША. Супрацоўнік нью-ёркскага Цэнтра габрэйскай гісторыі. Аўтар шэрагу навуковых публікацый па беларускай гісторыі. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, старшынёй яго Нью-Ёркскага аддзела.

[243] **Марат Клакоцкі** (нар. 11.07.1963, в. Драгічаны, Ваўкавыскі раён Гродзенскай вобл.), грамадскі дзеяч, рэдактар, выдавец. У 1983 г. скончыў марскую вучэльню ў г. Ліепая (Латвія). Працаваў штурманам на караблях далёкага плавання. У 1993 г. прыехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у тым ліку старшынёй Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі. Ад 1997 г. рэдагуе бюлетэнь «Весткі й Паведамленьні Нью-Ёркскага Аддзелу БАЗА», у 2002–2010 гг. — рэдактар газеты «Беларус». Выдае альманах «Беларус».

[244] **Лявон Юрэвіч** (нар. 30.06.1965, Мінск), архівіст, даследчык беларускай эміграцыі. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны інстытут. У 1993 г. выехаў у ЗША. Працуе ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Мае навуковыя ступені ў філалогіі і бібліятэказнаўстве. Сябра БІНіМа, рэдакцыйнай калегіі часопіса «Запісы БІНіМ» і кніжнай серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка». Аўтар колькіх дзясяткаў кніг, прысвечаных беларускай эміграцыі.

[245] **Мікола Нікалаеў** (нар. 21.02.1955, Шчучын, Гродзенская вобл.), гісторык, доктар філалагічных навук. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Працаваў у Ленінградскім аддзяленні Інстытута археалогіі АН СССР. Ад 1978 г. працуе ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу. Загадчык аддзела рэдкіх кніг. Даследуе гісторыю культуры Беларусі, беларускае мастацтва, гісторыю праваслаўнай царквы ў Беларусі, кніжную культуру. Сябра Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

[246] **Анатоль Разумаў** (нар. 18.11.1954, Слуцк, Мінская вобл.), гісторык, грамадскі дзеяч. Скончыў гістарычны факультэт Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ад 1978 г. працуе ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу. Даследуе гісторыю палітычных рэпрэсій у СССР. Сябра Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

[247] **Алег Рудакоў** (нар. 29.04.1968, в. Бяздзедавічы, Полацкі раён Віцебскай вобл.), грамадска-культурны дзеяч. Скончыў Цюменскае вышэйшае ваенна-інжынернае вучылішча. Да 1994 г. быў на вайсковай службе ў Іркуцку. Пазней скончыў Іркуцкі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт і вучыўся на гістарычным факультэце Іркуцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у розных камерцыйных структурах, потым настаўнікам гісторыі. Адзін з ініцыятараў стварэння і шматгадовы старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя І. Чэрскага. Рэдактар газеты «Маланка».

Я. Жамойцін, А. Міраневіч[248], А. Латышонак[249] (Польшча), В. Малышчыц[250] (Латвія), Хв. Нюнька (Летува), З. Клыга (Эстонія) А. Ядранка (Украіна), Р. Кардонскі[251] (Канада), А. Старыкевіч (Беларусь).

Чытыры чалавекі склалі заявы на грамадзянства БНР: В. Вячорка, С. Дубавец, С. Шупа[252], С. Сокалаў-Воюш.

---

[248] **Аўген Міраневіч** (нар. 02.09.1955, в. Алексічы, Беластоцкі пав. Падляскага ваяв. Польшчы), гісторык, доктар гістарычных навук. Скончыў філіял Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку. Адзін з ініцыятараў стварэння ў 1990 г. Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Ад 1992 г. — галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва», ад 1997 г. — старшыня яго праграмнай рады. У 1990 г. абараніў кандыдацкую, а ў 2000 г. — доктарскую дысертацыю. Загадчык кафедры беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта. Аўтар шэрагу кніг, навуковых і публіцыстычных артыкулаў. Рэдактар часопіса «Białoruskie Zeszyty Historyczne».

[249] **Алег Латышонак** (нар. 27.05.1957, Эльблонг, Польшча), гісторык, доктар гістарычных навук. Скончыў гістарычна-філасофскі факультэт Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве. Працаваў выкладчыкам у Супраслі. У 1982 г. быў арыштаваны за ўдзел у «Салідарнасці». Па вызваленні да 1991 г. жыў і працаваў у Кракаве. Пазней вярнуўся ў Беласток. Працаваў у Музеі Войска. У 1992–1994 гг. — старшыня Галоўнай Рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. У 1993–1997 гг. працаваў журналістам тыднёвіка «Ніва». Ад 1995 г. — сябра Управы Беларускага саюза ў Рэспубліцы Польшча. У 1998 г. — сустваральнік беларускага радыё «Рацыя». У 1996 г. абараніў кандыдацкую, а ў 2007 г. — доктарскую дысертацыю. Ад 1997 г. — выкладчык кафедры беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта. Аўтар шэрагу кніг, навуковых і публіцыстычных артыкулаў.

[250] **Віктар Малышчыц** (нар. 08.04.1960, в. Спорава, Бярозаўскі раён Брэсцкай вобл.), мастак. Скончыў факультэт дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Быў скіраваны на працу ў Рыгу. Займаецца разьбой па дрэве, рэстаўрацыяй старажытнай мэблі, інтэр'ераў. Сябра Латвійскага таварыства беларускай культуры «Світанак», у 1996–2000 гг. — яго старшыня. Сябра Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар».

[251] **Раман Кардонскі** (нар. 25.03.1959, в. Войштавічы, Валожынскі раён Мінскай вобл.), грамадскі дзеяч. Скончыў Рыжскі політэхнічны інстытут, атрымаўшы дыплом інжынера. Жыў у Расіі, Літве, Ізраілі, Канадзе. Ад 1998 г. жыве ў ЗША. Быў сябрам БАЗА, старшынёй аддзела ў Новай Англіі.

[252] **Сяргей Шупа** (нар. 02.10.1961, Мінск), перакладчык, журналіст, грамадскі дзеяч. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Пазней вучыўся ў аспірантуры Інстытута мовазнаўства АН БССР, дактарантуры Віленскага ўніверсітэта. Актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальнага руху 1980-х гг. У 1986 г. быў адным з заснавальнікаў, прэзідэнтам (да 1991 г.) нефармальнага аб'яднання перакладчыкаў «Бабілён». Працаваў рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура», газеце «Наша Ніва». Ад 1996 г. — супрацоўнік Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода». У 1999–2001 гг. быў рэдактарам Радыё «Балтыйскія хвалі» (Вільня).

М. Наўмовіч: Ул. Палупанаў[253] вылучыў сваю кандыдатуру ў сябры Рады БНР.

Б. Рагуля: Прымем пасьля пісьмовай заявы.

Я. Сажыч: Прапаную Я. Кабяку[254], С. Карніловіча[255], П. Васілеўскага кандыдатамі ў Раду.

І. Сурвіла: Прапаную А. Кіпель[256] у сябры Рады.

Хв. Нюнька: Л. Луцкевіч[257] прапанаваў Л. Караля[258] ў сябры Рады.

---

[253] **Уладзімір Палупанаў** (нар. 1954, в. Корань, Лагойскі раён Мінскай вобл.), перакладчык, пісьменнік, дыпламат. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Працаваў у Алжыры, на Мадагаскары. У 1995 г. быў накіраваны на працу прэс-аташэ ў амбасадзе Беларусі ў Францыі. Займаўся пытаннямі культуры, арганізоўваў выставы і іншыя мерапрыемствы, у тым ліку пленэры Марка Шагала. Пазней вярнуўся ў Беларусь.

[254] Маецца на ўвазе Яўген Кабяка, які жыў у Кліўлендзе.

[255] Маецца на ўвазе **Слава Карніловіч**, пляменнік беларускага грамадскага дзеяча ў Кліўлендзе **Сяргея Карніловіча** (1929–1993). Апошні пасля Другой сусветнай вайны жыў у беларускім лагеры *DP* у Рэгенсбургу, дзе скончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы, удзельнічаў у скаўтынгу. У 1949 г. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Кліўлендзе. Працаваў у малочнай індустрыі. Быў актывістам Арганізацыі беларуска-амерыканскай моладзі, дзе колькі гадоў быў старшынёй. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, быў старшынёй Кліўлендскага аддзела арганізацыі. Цягам 14 гадоў быў старшынёй парафіяльнай рады царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Кліўлендзе. Адзін з заснавальнікаў і шматгадовы кіраўнік Беларускага грамадскага цэнтра «Полацак». Браў удзел у дабрачыннай дзейнасці на карысць ахвяраў Чарнобыля.

[256] **Алеся Кіпель** (нар. 04.01.1957, Нью-Джэрсі), адвакат, грамадская дзяячка, дачка В. і З. Кіпеляў. Скончыла Прынстанскі ўніверсітэт у галіне гісторыі і Джорджтаўнскі ўніверсітэт у галіне права. У 1983 г. была прынятая ў адвакацкую калегію ў Вашынґтоне. Цягам 30 гадоў была партнёрам у вялікай адвакацкай фірме «*Steptoe & Johnson*». Цяпер працуе на дзяржаўнай службе ў Дэпартаменце ўнутраных справаў ЗША. Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, заснавальніца і старшыня яго Вашынгтонскага аддзела.

[257] **Лявон Луцкевіч** (13.03.1922, Вільня, Літва — 28.07.1997, Вільня, Літва), грамадска-культурны дзеяч, педагог, сын А. Луцкевіча. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, браў удзел у нацыянальным падполлі. У 1944 г. уступіў у Беларускую Краёвую Абарону. Арыштаваны савецкай дзяржбяспекай у Польшчы ў канцы 1945 г. Быў асуджаны на судовым працэсе над кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі. Пасля вызвалення жыў у Вільні. Ад канца 1980-х гг. актыўна падтрымліваў беларускі адраджэнскі рух.

[258] **Лявон Кароль** (1922–1998, Вільня, Літва), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Жыў у Вільні. Працаваў у Інстытуце электраграфіі, аўтар каля 17 вынаходніцкіх патэнтаў. Ад канца 1980-х гг. быў удзельнікам беларускага адраджэнскага руху. Рэдагаваў старонку «Беларус Віленшчыны» ў газеце «Эхо Литвы».

Ад Латвіі прапанаваны В. Целеш[259], але ён сваю кандыдатуру зьняў. Замест яго прапанаваны С. Кузьняцоў[260], старшыня Рады ТБК «Сьвітанак». Ад Эстоніі дадаткова — А. Лапышаў[261].

З. Пазьняк (у якасьці госьця): Прапаную ўстрымацца ад прыняцьця кандыдатуры А. Баршчэўскага з Польшчы да далейшага разгляду. Я маю засьцярогі з прычыны яго ранейшай дзейнасьці.

М. Наўмовіч: Мы павінны ўсім даць дарогу без увагі да мінулых крывых сьцежак.

А. Шукелойць: Прапаную сп. Пазьняка ў Раду.

З. Пазьняк: Я сваю кандыдатуру ня стаўлю да вырашэньня справы з Баршчэўскім.

Б. Рагуля: Я зразумеў з ранейшай гутаркі з Пазьняком, што ён будзе займацца палітычнай дзейнасьцю БНФ. Што да справы Баршчэўскага, Рада аб'ядноўвае ўсіх, хто стаіць на пазыцыях 25 Сакавіка.

Ю. Васілеўскі: Баршчэўскі не адназначна аўтарытэтная асоба на Беласточчыне. Ён у канфлікце з многімі грамадзкімі і палітычнымі арганізацыямі Беласточчыны. Прапаную ўстрымацца.

Я. Запруднік: Адкладзем гэту справу да вырашэньня Прэзыдыюмам.

Ю. Азарка: Але ж тут канфлікт у справе прыняцьця сябраў.

Р. Жук-Грышкевіч: Мы ня можам завочна прымаць людзей у Раду. Яны мусяць пэрсанальна прымаць прысягу.

Р. Кардонскі: Прысяга мае прымацца перад усім сходам.

Я. Запруднік: Прымем новых сябраў, якія тут прысутныя.

Урачыстае прыняцьце. Новымі сябрамі Рады БНР складзена ўрачыстая прысяга.

---

259 **Вячка Целеш** (нар. 25.09.1938, в. Краснае Сяло, цяпер г. п. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобл.), мастак, краязнавец, філакартыст, грамадскі дзеяч. Скончыў жывапісна-педагагічнае аддзяленне Латвійскай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў імя Т. Залькална. Жыве ў Рызе (Латвія). Працаваў дацэнтам кафедры культуры і мастацтва Інстытута менеджменту інфармацыйных сістэм. Удзельнічаў больш як у сотні выставаў. Старшыня суполкі мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар». Быў дырэктарам беларускай школы ў Рызе. Уваходзіў у кіраўніцтва Латвійскага таварыства беларускай культуры «Світанак».

260 **Сяргей Кузняцоў** (нар. 19.11.1961, Рыга, Латвія), лекар, доктар медыцынскіх навук, грамадскі дзеяч. Скончыў Ленінградскі санітарна-гігіенічны медыцынскі інстытут. Займаецца навукова-даследчай дзейнасцю ў галіне анкалогіі. Заснавальнік Латвійскага інстытута прафілактычнай медыцыны, загадчык лабараторыі даследаванняў раку. Аўтар больш як 500 навуковых публікацый і шэрагу кніг на розных мовах. Адзін з заснавальнікаў Латвійскага таварыства беларускай культуры «Світанак».

261 **Анатоль Лапышаў** быў старшынёй Таварыства беларускай культуры ў Таліне.

Выбары ў Рэзалюцыйную камісію

Я. Запруднік прапануе кандыдатуры: Я. Запруднік, С. Навумчык, І. Сурвіла, Г. Русак[262]. Прапанова прынятая.

7. Прывітаньні Сэсіі

Ад БНФ (З. Пазьняк), ад Бэльгійскага сэктару Рады (Я. Жучка), ад штату Нью Джэрзі (зачытаў Я. Азарка), пісьмовае прывітаньне В. Рамука (Чыкага)[263].

В. Станкевіч: прывітаньне ад супрацоўнікаў радыё «Свабода». Радыё правяло дыскусыю пра Раду БНР. Радыё і надалей будзе паведамляць пра дзейнасьць Рады. Прашу Сэсію прыняць асобную рэзалюцыю аб пашырэньні радыёпраграмаў па-беларуску і ў падтрымку радыё «Свабода».

Дамагацца большага кантакту з урадамі краінаў сьвету.

П. Знавец[264], дэпутат ВС Беларусі: прывітаньне ад імя сацыял-дэмакратыі. Прапанова большых кантактаў з усімі апазыцыйнымі сіламі.

В. Кіпель: Я ўпершыню выступаю як сапраўдны радны БНР. Сваю першую прысягу я склаў у Менску ў 1944 г. над магілай Ігнатоўскага[265] і больш за 50 гадоў трымаю гэтую прысягу. Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва заўсёды быў як бы часткай БНР. Зараз гатовы да друку першы том гісторыі Рады БНР, падрыхтаваны С. Шупам[266].

М. Наўмовіч: перадаю прывітаньне ад сп. Палупанава. Ён чалавек у Францыі новы, але вялікая падтрымка для нашага асяродку. Мы выдалі кніжку пра Філістовіча[267], былога раднага, які быў забіты Саветамі.

---

[262] Магчыма маецца на ўвазе **Галіна Русак** (дзяв. **Родзька**, 1928–2000) , жыла ў ЗША. Працавала дырэктарам Мастацкай бібліятэкі Ратгерскага ўніверсітэта (Нью-Брансвік). Экспанавала свае жывапісныя працы ў прэстыжных мастацкіх галерэях ЗША. Сталая ўдзельніца этнічных выстаў. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, актывісткай Нью-Джэрсійскага аддзела арганізацыі, сябра яе жаночых стуктур.

[263] **Вітаўт Рамук** (1914–2010) жыў у Чыкага. Быў актыўным удзельнікам беларускага жыцця, сябрам Беларускага каардынацыйнага камітэта ў Чыкага.

[264] **Павел Знавец** (нар. 14.07.1967, в. Вялікае Малешава, Столінскі раён Брэсцкай вобл.), палітычны дзеяч. Скончыў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1993–1996 гг. выкладаў у БДУ. Працаваў юрыдычным кансультантам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У 1994–1996 гг. быў намеснікам старшыні Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Першы старшыня грамадскага моладзевага аб'яднання «Маладая Грамада» (1995–1998). Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XIII склікання.

[265] Маецца на ўвазе **Усевалад Ігнатоўскі** (1881–1931), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

[266] Маецца на ўвазе выданне: Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. І. Кн. 1–2. Вільня – Нью Ёрк – Менск – Прага, 1998. — 1721 с.

[267] Маецца на ўвазе кніга: Лукашук, Аляксандр. Філістовіч. Вяртанне нацыяналіста. Менск, 1997. — 80 с.

8. Справаздачы і дыскусыя па справаздачах

*Справаздача Старшыні Рады БНР Я. Сажыча*

(тэкст пададзены паводле рукапісу Я. Сажыча)

Найпачэсьнейшы Ўладыка Мікалай!

Паважаныя сябры Рады БНР!

Шаноўныя госьці!

Старэйшыя сябры Рады знаюць мяне, што рэдка калі пісаў справаздачы на Сэсіях Рады, а перадаваў пераважна коратка вусна. Гэта мой недахоп: цяжкі да пісаньня і слабы прамоўца. Гэтым разам пастанавіў запісаць, што хачу сказаць, дык прашу Вашай цярплівасьць і ўвагі, што зойме крыху больш часу. Раблю гэта таму, што, бачачы на гэтай Сэсіі нямала новых сябраў Рады (якіх шчыра вітаю), хачу паінфармаваць іх пра дзейнасьць Рады за пятнаццаць гадоў майго старшынства.

Старшынёю Рады БНР быў выбраны на Сэсіі ў 1982 г., калі пакойны сп. Жук-Грышкевіч катэгарычна адмаўляўся ад старшынства з прычыны веку і здароўя. Адначасна не было згоднага кандыдата на ягонае месца. Было пададзена 8 кандыдатаў, якія ўсе адмаўляліся, у тым ліку і я. І Прэзыдыюм Сэсіі пастанавіў нікога ня скрэсьліваць зь лісты. Кандыдаты маюць права прамаўляць і падаць прычыны свае адмоўленасьці, каб *«не галасавалі за яго»*. Правялі галасаваньне і на *«першым балоце»* я атрымаў 70 %, другі па колькасьці быў др. Ул. Набагез. Устаўшы, з воплескамі прывіталі мяне. Але мне амаль голас адняло. Змог сказаць толькі *«Дзякуй за давер»*. Зусім не пачуваўся быць Прэзыдэнтам і не падгатаваны да гэтага. Але з часам мусіў прывыкаць да свае функцыі і дзейнічаць, каб устрымаць Раду. Бо ўжо тая Сэсія ў 1982 г. паказала, што перажываем крызыс.

Коратка характарызуючы гэтую дзейнасьць, мушу прызнаць, што мала рабілася вонкавай палітыкі, калі параўнаць зь дзейнасьцю пакойнага Міколы Абрамчыка. Быў на асабістым спатканьні з прэзыдэнтам Лявіцкім-малодшым у Нью-Ёрку. Вёў перапіску з Урадам УНР. Вельмі добры кантакт навязаў з польскім прэзыдэнтам у экзылі др. Сабатам (які, на жаль, хутка памёр на атак сэрца). Вельмі актыўна ўдзельнічаў у Арганізацыі Паняволеных Народаў, маю памятку спатканьня з прэзыдэнтам Бушам[268], а ў часе рэспубліканскай канвэнцыі ў Дэтройце, дзе кандыдатам на прэзыдэнта ЗША быў Рэйган і шумела ад карэспандэнтаў з усяе Амэрыкі, я дабіўся, што, сьвяткуючы якраз Тыдзень Паняволеных Народаў, вёў парад зь бел-чырвона-белым сьцягам і на трыбуне ў цэнтры горада чытаў малітву наш беларускі архіяпіскап Мікалай. На гэтай жа трыбуне вітала нашага архіпастыра прадстаўнічка ад Рэйгана, ягоная дачка Маўрээн[269], якая, прыкланіўшы калена, пацалавала ягоную руку з прамовай *«Your Excellency, маеце ад нас поўную падтрымку»*.

---

[268] **Джордж Буш-старэйшы** (англ. *George Herbert Walker Bush*, нар. 1924, Мілтан, Масачусэтс, ЗША), амерыканскі палітык, 41-ы прэзідэнт ЗША (1989–1993).

[269] **Маўрээн Рэйган** (англ. *Maureen Elizabeth Reagan*, 1941–2001), найстарэйшая дачка Рональда Рэйгана.

Іншая дзейнасьць у Дэтройце: праклямацыі губэрнатара Вільямса[270], другая ў Амэрыцы на 25 Сакавіка праклямацыя сэнатара Джэралда Форда[271], які стаўся прэзыдэнтам.

Галоўнай дзейнасьцю была нутраная арганізацыйная дзейнасьць — утрыманьне Рады. Сябры адыходзілі па прычыне натуральнай (адыход у вечнасьць) і розных непаразуменьняў сярод нашае дыяспары, асабліва рэлігійных — з закалотам («авантурай») Бруцкага[272], які быў радным і адышоў, [а сьледам за ім] і ягоныя прыхільнікі — актыўныя радныя а. Кендыш[273], Манькоўскі[274], Гарошка[275] (сакратар да вонкавых дачыненьняў — я запрасіў), Мікалай Войтанка[276], Курыла і іншыя. Прычына тая, што так званы мітрапаліт Андрэй[277] быў заўсёды праціўнікам Рады БНР і заўсёды ваяваў з пакойным архіяпіскапам Васілём[278], дамагаючыся, каб ён выступіў з Рады БНР (на саборы ў Таронта) і пацягнуў за сабою свайго наступніка — Бруцкага.

---

270 Магчыма, маецца на ўвазе **Джы Мэнэн Вільямс** (англ. *G. Mennen Williams,* 1911–1988), губернатар Мічыгана ў 1949–1961 гг., вярхоўны суддзя Мічыгана ад 1970 г.

271 Маецца на ўвазе **Джэралд Форд** (англ. *Gerald Rudolph Ford Jr.*, 1913–2006), 38-ы прэзідэнт ЗША (1974–1977). Аднак ён быў не сенатарам, а дэпутатам Палаты праўстаўнікоў Кангрэса ЗША ад Мічыгана, першы чым стаў прэзідэнтам.

272 **Янка Бруцкі** (пазней уладыка **Ізяслаў**, 1826–2007) ад 1969 г. пасяліўся ў Кліўлендзе (штат Агаё), браў актыўны ўдзел у беларускім рэлігійным жыцці, быў сябрам Кіраўнічай Рады БАПЦ. 29 красавіка 1979 г. хіратанісаваны ў сан дыякана мітрапалітам Андрэем, а 26 жніўня 1979 г. — у сан іерэя ўладыкам Мікалаем. 22 студзеня 1981 г. пасвечаны мітрапалітам Андрэем у епіскапа, прыняў імя Ізяслава. У 1984 г. на саборы ў Манчэстэры (непрызнаным часткаю БАПЦ) прызнаны на мітрапаліта БАПЦ, што замацавала раскол у царкве.

273 **Васіль Кендыш** (1908–2003) жыў у ЗША. 10 студзеня 1968 г. у Гайленд-Парку быў рукапакладзены ў святары. У 1972 г. на Другім саборы БАПЦ быў абраны сакратаром Кансісторыі. Пазней ачольваў парафіі Св. Маці Жыровіцкае ў Гайленд-Парку і Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, дзе заставаўся да 1981 г. У 1990 г. выйшаў на заслужаны адпачынак.

274 **Пётра Манькоўскі** (1916–2002) жыў у Нью-Ёрку, ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША. У 1980–1990-я гг. быў скарбнікам Кансісторыі БАПЦ, пасля Міхася Міцкевіча рэдагаваў часопіс «Голас царквы».

275 **Расціслаў Гарошка** (нар. 1938?) жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, рэдкалегіі газеты «Беларус». У 1975 г. выйшаў з БАЗА і пачаў выдаваць газету «Беларускі час» (*Byelorussian Time*).

276 **Мікола Войтанка** (1915–1996) жыў у ЗША. Быў радным БНР ад 1971 г.

277 **Андрэй** (свецк. **Аляксандар Крыт**, 1901–1983), мітрапаліт БАПЦ. Ад 1972 г. быў першаіерархам БАПЦ. Напрыканцы жыцця прычыніўся да расколу царквы праз канфлікт з епіскапам Мікалаем (Мацукевічам).

278 **Васіль** (**Уладзімір Тамашчык**, 1900–1970), першаіерарх БАПЦ у 1949–1970 гг. Жыў у Нью-Ёрку. Узначальваў епіскапат БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы.

Маім вялікім заданьнем было папаўненьне радоў Рады і стараўся — мабілізаваў каго мог вось тут у Нью-Ёрку і аколіцах. Здабыў маладых актыўных радных як др. Юрка Кіпель, сп. Тур, спн. Р. Станкевіч, сп. Э. Рыжы[279], сп. Сільвановіч і г. д. У Кліўлендзе некалькі новых радных на чале зь Янкам Ханенкам. Але тут праблема была зь сябрамі партыі Каханоўскага[280], як Калоша[281], Карніловіч, Раковіч[282] і іншыя, якія не маглі ўступіць у Раду, як я іх прасіў. Адведваў і праводзіў паседжаньні ва ўсіх сэктараў Рады, уключна з Аўстраліяй і Эўропай (Англія, Бэльгія, Францыя і Нямеччына). Мушу зазначыць, што ўсе падарожжы пакрываў сам сваім коштам, за выняткам у Беларусь, калі папрасіў скарбніка пару тысячаў на кошты. Не абмінуў ніводнага нацыянальнага сьвята, рэпрэзэнтуючы Раду на зьмену ва ўсіх асяродках.

Кульмінацыйным пунктам і вялікай асабістай сатысфакцыяй была мая рэпрэзэнтацыя Рады БНР у Менску на сьвяткаваньні 75-х угодкаў Акту 25 Сакавіка ў 1993 годзе, дзякуючы запросінам і тэхнічнай помачы з боку БНФ. У той час уся прэса ў Беларусі гаварыла пра БНР, і прыходзілася даваць шмат інтэрвію. Хачу таксама падкрэсьліць, што я ўвёў тытул Старшыні Рады БНР, а не Прэзыдэнт БНР у экзылі, як менаваліся мае папярэднікі. Ня меў Ураду, а толькі Прэзыдыюм, у які ўваходзілі заступнік Старшыні, сакратар фінансаў і сакратар Рады і інфармацыі сп. Запруднік, які часта памагаў мне ў складаньні папераў. Дзякую ім.

---

Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці ў ЗША. У 1951 г. узначальваў БІНіМ. Забіты невядомымі ў сваёй кватэры ў Нью-Ёрку.

[279] **Эмігідзіюш (Юры) Рыжы** (нар. 05.08.1933, в. Латыгава, цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.), рэлігійны дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Польшчы, адкуль праз некаторы час выехаў да брата Уладзіслава ў ЗША. У 1968 г. быў высвечаны на святара. Жыве ў штаце Нью-Ёрк.

[280] **Аўген Каханоўскі** (да эмігр. **Калубовіч**, 1912–1987), жыў у Кліўлендзе. Быў адным з лідараў беларускага жыцця ў Кліўлендзе, сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у 1952–1955 гг. — старшыня Кліўлендскага аддзела арганізацыі. У сярэдзіне 1950-х гг. выйшаў з Рады БНР і БАЗА. Аўтар шэрагу прац па гісторыі і культуры Беларусі.

[281] **Кастусь Калоша** (1924–2004) жыў у Кліўлендзе. Быў актывістам мясцовай суполкі Беларуска-амерыканскага задзіночання, парафіі Жыровіцкай Божай Маці.

[282] **Янка Раковіч** (13.01.1923, в. Краснаволя, цяпер в. Чырвоная Воля Лунінецкага раёна Брэсцкай вобл. — ?), грамадскі дзеяч. У 1930–1936 гг. вучыўся ў школе ў роднай вёсцы. У 1939 г. паступіў у Лунінецкую чыгуначную вучэльню. У 1941 г. быў арыштаваны бацька. У 1943–1945 гг. — на прымусовых працах на ваенным прадпрыемстве ў Нямеччыне. Пазней жыў у лагерах *DP*, у Віндышбергердорфе працаваў у *IRO*. У 1949 г. скончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлендзе. Працаваў на вытворчасці. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі і кіраўніцтва яе Кліўлендскага аддзела. Быў старшынёй Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба ў Агаё.

Патрабаваў сакратара вонкавых дачыненьняў. Запрасіў быў др. Р. Гарошку, які, на жаль, аказаўся слабою помаччу для мяне ды, як я ўспамінаў, адыйшоў зусім ад Рады з Бруцкім. Выдаў саматугам некалькі «Камунікатаў Рады». Сам друкаваў, рассылаў і г. д. Была праблема нават з пратаколамі Сэсіяў, якія патрабавалі сэктары, а бясплатныя сакратары занядбоўвалі гэта. Адбыўшы дзьве кадэнцыі (па шэсьць гадоў), на чарговай Сэсіі Рады БНР у 1994 г. я меў вялікую надзею, што мяне звольняць і выберуць новага, актыўнейшага старшыню. Аднак вось вінаваты паважаны мой сябра і заступнік, які вёў гэтую Сэсію, што пастанавілі, каб я пакуль і надалей прадоўжваў быць Старшынёю.

1995–1996 гады зьмянілі сытуацыю ў Беларусі радыкальна, і новая сытуацыя вымагала больш актыўнай дзейнасьці як Рады БНР, так і наагул усяе дыяспары. Паварот да савецкай таталітарнай сыстэмы, наступ на беларускую мову, на дэмакратычныя арганізацыі ў Беларусі, пазбаўленьне апазыцыі сродкаў масавай інфармацыі, наступ на прэсу, арышты і зьдзекі зь невінаватых, закрытыя суды на ўзор сталінскага рэжыму ды адкрытая заява прэзыдэнта Лукашэнкі аб ягоным намеры аднавіць сталінскі рэжым ня толькі ў Беларусі, але і на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюзу змусіла нас перагледзець нашыя пазыцыі і актывізаваць Раду БНР.

Па прычыне майго веку і здароўя я папрасіў др Барыса Рагулю, заступніка старшыні, заняцца актывізацыяй Рады, у выніку чаго Рагуля ўстанавіў лісту радных ды дакааптаваў новых радных з блізкага замежжа.

Такім чынам у Раду ўвайшоў сьвежы даплыў крыві, які амалодзіць склад нашай Рады. Цяпер перад намі заданьне знайсьці сродкі змаганьня з адроджаным камунізмам. Я баюся, што хоць гэта пакуль яшчэ маленькі агонь, але калі яго ў пару не патушыць, разгарыцца пажар.

Я прапаную новаму старшыні і Ўраду сканцэнтравацца на наступных напрамках:

1. Узмоцніць інфармацыю на Бацькаўшчыне. Асноўны націск палажыць на эканоміку і правы чалавека.
2. Узмоцніць інфармацыю аб Беларусі ў дэмакратычнай прэсе.
3. Навязаць і ўтрымаць больш цесны кантакт ў дэмакратычнымі партыямі Беларусі і легальнай Вярхоўнай Радай.

Прашу Прэзыдыюм не забывацца нашай традыцыі, дзе ў падаваньні кандыдатаў на Старшыню першы голас мае сваступаючы Старшыня.

Шчыра дзякую за давер і супрацоўніцтва. Дазвольце пажадаць вам посьпеху ў працы, ня падаць духам, а ідэю незалежнасьці надалей лічыць прыярытэтам Вашай дзейнасьці. Сіла нашага духу можа адбіцца пазытыўна на падзеі ў Беларусі.

Жыве Беларусь!

*Справаздача заступніка Старшыні Рады БНР Б. Рагулі*

Настаў час рэалізму і канкрэтных прапаноў. Мы не прызнаем абодвух рэфэрэндумаў, прызнаем Вярхоўную Раду 13 скліканьня. Мы ня маем намеру пераняць уладу ў Беларусі, а толькі памагчы. Найперш трэба выступіць з

эканамічнымі прапановамі. Таксама школьніцтва і мова. Нам трэба здабыць рускамоўнае насельніцтва Беларусі, іх галасы. Мова дзяржаўная павінна быць беларуская. Там, дзе больш за 5 % іншамоўнага насельніцтва, трэба, каб была і іншая мова, апроч беларускай. Мы будуем вялікі беларускі дом. А маляваць і дэкараваць будзем потым.

Трэба стварыць перадвыбарчы блёк БНР дзеля аб'яднаньня ўсіх апазыцыйных сіл. Трэба асягнуць згоды паміж незалежніцкімі партыямі. Інфармаваць урады дэмакратычнага сьвету. Хачу адзначыць *Belarusian Review*[283], яго інфармацыйную ролю. Трэба запабегчы ізаляцыі Беларусі. Чакаю вашых прапаноў.

*Справаздача сакратара фінансаў В. Кажана*

Асноўныя крыніцы даходаў — складкі, «Дары Сакавіка», падпісныя лісты (тут асабліва хацеў бы адзначыць ахвярнасьць др. М. Смаршчка[284]).

Зачытаны ліст ад Язэпа Арцюха[285] ў падтрымку *Belarusian Review*.

Прапанова перагледзець суму складак у касу БНР — мінімум US$50 у год. Прапанова выдаткаваць 7 тысяч для БІНІМу на выданьне кнігі А. Адамовіча[286] і дакумэнтаў дзейнасьці Рады БНР за 1918–1922 гады[287].

*Справаздача Старшыні Эўрапейскага сэктару С. Навумчыка*

Урад Чэхіі прадставіў палітычны прытулак двум грамадзянам Беларусі. Гэта важны зьнешнепалітычны фактар. Мы ня маем ілюзій наконт дзейнасьці Рады, але наступнае трэба рабіць:

---

[283] ***«Belarusian Review»*** («Беларускі агляд») — штоквартальны англамоўны інфармацыйны бюлетэнь, што выдаецца ад 1989 г.

[284] **Мітрафан Смаршчок (Рэпкаў-Смаршчок**, псеўд. **Анатоль Бярозка**, 15.02.1915, в. Падлессе, цяпер Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобл. — 20.06.2008, Мантысела, Мінесота, ЗША), лекар, грамадскі дзеяч, паэт. Вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. У 1939 г. выехаў на працу на Берасцейшчыну, працаваў у чыгуначным шпіталі ў Брэсце. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Баранавічах, быў дырэктарам медыцынскай школы. Быў вывезены ў Нямеччыну ў канцэнтрацыйны лагер. Каля 1950 г. прыехаў у ЗША на запрашэнне шпіталя ў Мантысела. У мясцовым шпіталі працаваў на розных пасадах, удзельнічаў у яго разбудове, кіраваў домам для старых. Быў прафесарам Універсітэта Мінесоты, займаўся даследаваннем хваробаў сэрца. Сябра БІНіМа. Аўтар зборніка «Адзінаццаць вершаў» (1989), а таксама кнігі «Анатоль Бярозка. Выбранае» (Мінск, 2004).

[285] **Язэп Арцюх** (?–2013) жыў у г. Торэнс (Каліфорнія). Заснавальнік і шматгадовы старшыня Лос-Анджэлескага аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання. У 1981 г. як старшыня Беларускага рэспубліканскага клуба ў Каліфорніі атрымаў ад прэзідэнта ЗША Р. Рэйґана падзяку за заслугі перад партыяй. Ад 1989 г. — адзін з стваральнікаў і выдаўцоў англамоўнага часопіса *«Belarusian Review»*.

[286] Маецца на ўвазе кніга: Адамовіч, Антон. Творы. Нью Ёрк, 2003. — XXXIV+764 с.

[287] Магчыма, маецца на ўвазе працяг ужо згаданай вышэй кнігі «Архівы БНР» (Мінск, 1997), укладзенай Сяргеем Шупам.

1. Прадстаўніцтва. Папраўкі да Статуту. Неабходнасьць стварыць працоўную групу.

2. Падтрымліваць кантакты з урадамі розных краін.

3. Палітычная дзейнасьць. Можа ня трэба ствараць новую эканамічную праграму Рады БНР, бо амаль усе палажэньні, што мы падтрымліваем і вызнаем, ужо ўключаныя ў праграму БНФ.

4. Падчас працы Эўрапейскага сэктару А. Старыкевічам выказвалася прапанова прыняць заяву пра тое, што народ Беларусі не нясе адказнасьць за крэдыты рэжыму Лукашэнкі, у тым ліку і атрыманыя праз Крэмль.

5. Інфармацыйная праца Рады. Пра гэта больш дэтальна выступіць сакратар Управы БНФ В. Вячорка. Трэба апэратыўна інфармаваць сьвет пра падзеі ў Беларусі.

6. Трэба стварыць старонку Рады на Інтэрнэце.

7. Выкарыстаньне праграмы *TACIS*[288].

8. Ідэя ўступленьня жыхароў Беларусі ў грамадзянства БНР як сьведчаньне вернасьці ідэям Акту 25 Сакавіка. Гэта была б вялікая маральная падтрымка.

9. Кантакты ў рознымі дэмакратычнымі партыямі. Па выніках працы Эўрапейскага сэктару мы кантакталіся з рознымі палітычнымі лідэрамі, і толькі адна партыя, БНФ, актыўна падтрымлівае і вядзе працу.

10. Архівы. Усе архівы мусяць быць сканцэнтраваныя ў адным месцы.

Падзел паміж рознымі палітычнымі сіламі ў Беларусі сёлета праходзіць па мяжы стаўленьня да Расеі і да незалежнасьці Беларусі.

*Справаздача сакратара Архіву Рады БНР др. Р. Жук-Грышкевіч*

У 70-х гадоў тагачаснаму Старшыні Рады БНР др. В. Жук-Грышкевічу было ведама, што існуе магчымасьць улякаваць Архіў Рады БНР у Нацыянальным Архіве Канады з умоваю, што праз 50 ці 75 год ён будзе нікому недаступны. Было ведама, што ўжо ўкраінцы ўлякавалі там Архіў УНР.

Справа разьмяшчэньня Архіву Рады БНР дыскутавалася Старшынём Рады з Сябрамі Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады. Тады выказваліся засьцярогі што да ўлякаваньня Архіву Рады ў Нацыянальным Архіве Канады.

Калі Старшыня Рады др. В. Жук-Грышкевіч памёр, я чулася адказнай за лёс Архіву Рады, які знаходзіўся ў нас дома. Параіўшыся з раднымі, я ўвайшла ў кантакт з Нацыянальным архівам Канады, з тым, каб перадаць туды Архіў Рады. Аднак з гэтым было адмоўлена з наступнае прычыны: кіраўніцтва Нацыянальнага Архіву Канады асьцерагалася, што можа мець клопат з Архівам Рады БНР, бо ўжо мела канфлікт з эміграцкімі коламі ў сувязі з Архівам УНР, які, насуперак волі ўкраінскай дыяспары Канады, быў перададзены ўладам у Кіеве.

---

[288] ***TACIS*** (*Technical Assistance for the Commonwealth of Independent States*, Тэхнічная дапамога Супольнасці Незалежных Дзяржаў) — праграма Еўрапейскага саюза па спрыянні паскарэнню працэсу эканамічных рэформаў у СНД. Заснавана ў 1991 г.

Тады я прапанавала зьмясьціць Архіў Рады БНР у Беларускай Бібліятэцы і Музэі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, Англія. Супраць гэтага ніхто не пратэставаў. Такім чынам ў жніўні 1996 году я выслала ў Беларускую Бібліятэку і Музэй імя Ф. Скарыны ў Лёндане значную колькасьць архіўных матар'ялаў Рады БНР.

Я. Жучка (Бэльгійскі сэктар): Калектыўнае дзейнасьці ў нас няма, індывідуальна кантактуем з палітычнымі дзеячамі і структурамі Эўропы. Галоўная перашкода — уплыў расейскай эміграцыі.

М. Ганько (Канадыйскі сэктар, старшыня): Сэктар налічвае 5 сябраў. Усе радныя актыўныя і ў грамадзкай працы і ў фінансавай падтрымцы. Без актыўнага ўдзелу радных у грамадзкім і рэлігійным жыцьці беларуская дыяспара ў Канадзе на сёньня магла б ужо не існаваць як арганізацыйная адзінка. Дзякуючы намаганьням радных праводзіцца і пэўная палітычная работа, што сьведчыць пра беларускую прысутнасьць у Канадзе. Людзкая база ў Канадзе мае даволі вялікі патэнцыял, але на перашкодзе стаіць тая аграмадная прастора, па якой нашыя людзі раскіданыя. Гэта адбіваецца на матар'яльным стане ўсяго беларускага грамадзкага жыцьця ў Канадзе, а гэта, у сваю чаргу, адмоўна ўплывае на фінансаваньне дзейнасьці Рады БНР. Аднак Канадыйскі сэктар свае фінансавыя абавязкі выконвае ня горш за іншыя сэктары: штогод адбываюцца зборы на «Дар Сакавіка» і зьбіраюцца сяброўскія складкі.

Р. Жук-Грышкевіч (Канадыйскі сэктар, сакратар): Беларуская грамада Канады рэпрэзэнтаваная ў аўтарытэтнай інстытуцыі — Канадыйскай Этнакультурнай Радзе. Канадыйскі сэктар спрычыняецца да ўсіх беларускіх ініцыятываў у Канадзе — штогодняе паломніцтва да Беларускага Памятнага Комплексу (Беларускі Крыж[289] і помнік ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі[290]), удзел у шматкультурных фэстывалях у Канадзе, ліставаньне з урадавымі дзейнікамі Канады ў справе інфармаваньня пра сытуацыю ў Беларусі.

Ф. Бартуль (Фундацыя П. Крэчэўскага): тэкст захоўваецца ў Архіве Рады БНР.

А. Шукелойць: Прывітаньне ад БАЗА. Сёньняшняя Сэсія прыпамінае сходы 1917 і 1947 гадоў — час стварэньня і станаўленьня Рады БНР. Заклікаю да абнаўленьня новымі кадрамі ўсе грамадзкія арганізацыі. Вітаю Нью-Ёрскі Аддзел, што ўжо абнавіўся і прымае актыўны ўдзел у працы Рады БНР.

З. Пазьняк: Выступы прадэманстравалі, як важная інфармацыя і інфармаванасьць пра палітычнае жыцьцё ў Беларусі. Ёсьць рэчы, якія не дыскутуюцца, але прымаюцца як базавая неабходнасьць. Мы ня штучная краіна, а

---

[289] Крыж да 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі быў усталяваны ў Святыні пакутнікаў у Мідлендзе (Антарыа, Канада) з ініцыятывы сям'і Жук-Грышкевічаў у 1988 г.

[290] Помнік ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі быў усталяваны ў Святыні пакутнікаў у Мідлендзе ў 1996 г.

этнічная. Двухмоўнасьць заўсёды нам навязвалася. Калі ставіцца пытаньне пра адраджэньне нацыянальных каштоўнасьцяў, пытаньні эканомікі могуць быць другасныя. Эканомікай мы ня выцягнем дзяржаву. Галоўнае — нацыянальная ідэя. Эканамічная ідэя ня можа выцягнуць нашае грамадзтва. Чаму ўсе арыстакратыі ўсіх дзяржаў фінансавалі палітычныя рухі? Бо яны мелі базу нацыянальнай сьвядомасьці. Для нас пытаньне мовы, нацыянальнай сьвядомасьці і дзяржаўнай незалежнасьці зьвязаныя і найважнейшыя. Дарэчы, невыпадкова першай ахвярай рэжыму Лукашэнкі зрабіліся беларуская мова, нацыянальны Герб, нацыянальны Сьцяг, беларускае школьніцтва.

Г. Русак: Я ня згодная з пазыцыяй сп. Рагулі ў дачыненьні мовы. Дзяржаўная мова — адна мова. Нацыя акрэсьлівае сябе ня межамі, а культурай. Важна інфармаваць найбольш уплывовыя міжнародныя арганізацыі пра моўную дыскрымінацыю на Беларусі. Але сапраўды, з рознымі палітычнымі сіламі трэба гаварыць больш дыпляматычна.

Р. Кардонскі: БНР — гэта сьцяг у ідэалягічнай барацьбе. Трэба ўзьняць справу БАПЦ, вырашыць справу яе расколу. І заўвага сп. Рыжага: не хавайцеся пад шыльдай БАПЦ, але называйце сваю царкву так, як яна ёсьць — Беларуская Народная Царква.

Хв. Нюнька: Інфармацыя са зьезду «Бацькаўшчыны»[291]: былі правакацыі з боку дэлегацыяў Прыднястроўя.

Ю. Васілеўскі: Прапанова павялічыць выступы да 20–30 хвілінаў, прафэсіяналізаваць працу. Фінансавае пытаньне: набыцьцё нерухомасьці, стварэньне фондаў. Пагаджаюся з прапановай сп. Кардонскага мець ясныя праграмы і пазыцыі па пытаньнях царквы і інш.

В. Кіпель: Эканоміка — важны момант, але не асноўны. Прыярытэт — дэкаляніялізацыя. Ня можа быць моўнага кампрамісу.

Э. Рыжы: Прапанова зарэгістравацца ў вольных урадах як праўны ўрад Беларусі. У такім выпадку можна будзе знайсьці фінансавую падтрымку.

Ю. Азарка: Пагаджаюся з пазыцыяй сп. Б. Рагулі. Трэба ствараць шырокую кааліцыю да выбараў, а ня толькі з БНФ. Што да царквы, то яна мусіць быць незалежная ад улады. Падзяка сп. Рыжаму за місійную дзейнасьць на Беларусі. БАПЦ таксама мусіць нешта падобнае рабіць.

9. Выбары Старшыні, заступнікаў і сябраў Прэзыдыюму Рады БНР

Перад абмеркаваньнем пытаньня выбараў Старшыні Рады БНР І. Сурвілла выступіла з прапановай абраць на гэтую пасаду чалавека, які адпавядаў бы наступным крытэрыям:

1. Безумоўная адданасьць ідэалам БНР.

2. Матывацыяй кандыдата на пасаду мусіць быць толькі дабро беларускае справы, а не асабістыя амбіцыі.

3. Адукаванасьць, валоданьне мовамі, патрэбнымі, каб здабыць рэспэкт між беларусамі і чужынцамі.

---

[291] Маецца на ўвазе Другі з'езд Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», што адбыўся ў Мінску 26–27 ліпеня 1997 г.

4. Досьвед працы ў заходніх парлямэнтарных структурах (камісія, працоўных групах і г. д.)

5. Валоданьне заходнім сьветапоглядам і рэалізм у бачаньні сытуацыі на Беларусі.

6. Асабістая незалежнасьць (свабодная прафэсія або адсутнасьць іншага занятку, апроч старшыянаваньня ў Радзе БНР).

7. Здольнасьць слухаць, браць пад увагу парады і меркаваньні калегаў, разуменьне неабходнасьці прымаць рашэньне толькі ў тым выпадку, калі яно выпрацаванае калегіяльна або згоднае з думкаю большасьці радных.

8. Цярплівасьць і лагоднасьць, уменьне пагадзіць людзей.

9. Здольнасьць каардынаваць дзейнасьць Рады.

На пасаду Старшыні прапануецца Язэп Сажыч.

Я. Сажыч: Я шчыра дзякую за ваш давер, але надалей выконваць абавязкі Старшыні для мяне будзе цяжка. Падаю кандыдатуру свайго заступніка сп. Б. Рагулі. Ён добры арганізатар, дыплямат, палітык. На гэты пераходны момант прапаную зрабіць яго Старшынём.

Б. Рагуля: І надалей буду працаваць у Радзе, на карысьць ідэалаў 25 Сакавіка. Але, як доктар, я ведаю сваё здароўе і прашу абраць на гэтую пасаду больш маладога сябру Рады. Прапаную Івонку Сурвіллу.

І. Сурвілла пагаджаецца балатавацца на пасаду Старшыні Рады. Абіраецца падліковая Камісія: др. Ул. Набагез, др. А. Орса-Романо.

На пасады намесьнікаў Старшыні прапануюцца: першы намесьнік — др. В. Кіпель, намесьнікі — Б. Рагуля, С. Навумчык.

*Справаздача Мандатнай камісіі (Я. Ханенка)*

На момант рэгістрацыі прысутнічалі: сябры Рады — 25 асобаў, кандыдаты ў сябры Рады (прынятыя) — 10, упаўнаважаныя — 24, госьці — 11. Усяго прысутных — 70 асобаў. Прадстаўлена значна больш як 2/3 Рады. Галасаваньне таемнае, з дапамогай бюлетэняў.

Вынікі галасаваньня на пасаду Старшыні па кандыдатуры І. Сурвіллы: «за» — 56, «супраць» — 2, ня браў удзелу ў галасаваньні — 1.

Абраныя сябры Прэзыдыюму Рады БНР: Юрка Азарка, Мікола Ганько, Раіса Жук-Грышкевіч, Янка Жучка, Віталь Зайка, Янка Запруднік, Віталь Кажан, Вітаўт Кіпель, Марат Клакоцкі, Сяргей Навумчык, Хведар Нюнька, Алла Орса-Романо, Барыс Рагуля, Галіна Русак, Алеся Сёмуха, Алесь Сільвановіч, Янка Ханенка, Лявон Юрэвіч.

Вырашана пагадзіцца, што З. Пазьняк будзе выконваць дарадчыя функцыі ў Прэзыдыюме.

Вырашана за намесьнікаў Старшыні і сябраў Прэзыдыюму галасаваць сьпісам. Вынікі галасаваньня: «за» — 55, «устрымаўся» — 1, ня бралі ўдзелу ў галасаваньні — 3.

Стварэньне Камісіі па дапрацоўцы Статуту. У камісію ўвайшлі: І. Сурвілла (старшыня), Ю. Васілеўскі, М. Ганько, Я. Запруднік, А. Орса-Романо.

Рэвізійная Камісія: Ул. Набагез, Р. Станкевіч, А. Міцкевіч.

Болшасьцю радных прымаецца рашэньне: штогадовыя складкі для сябраў Рады мусяць складаць US$50 для жыхароў Злучаных Штатаў і Канады, для астатніх краінаў — індывідуальна.

*Старшыня Сэсіі Я. Запруднік*

*Сакратары Сэсіі А. Сёмуха, С. Навумчык*

*Магнітафонны запіс Сэсіі вёў А. Сільвановіч*

# *Раздзел III*
# ДАКУМЕНТЫ

*Змешчаныя ніжэй дакументы захоўваюцца ў зборах Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Значная частка з іх публікавалася ў камунікатах Рады БНР. Аднак зыходзячы з невялікіх накладаў гэтых камунікатаў і іх скіраванасці для нутранага карыстання, мы вырашылі, што перадрук у гэтай кнізе цалкам мэтазгодны.*

*Асаблівасці правапісу арыгіналаў пры публікацыі захаваныя.*

## ХРОНІКА ПАДЗЕЯЎ ПА 17-Й СЭСІІ[292]

15-га студзеня 1983-га г. канадыйскі Сэктар Рады БНР наладзіў у царкоўна-грамадзкім Цэнтры ў Таронта сустрэчу з новаабраным Старшынём Рады БНР др-ам Язэпам Сажычам. У прамовах і прывітаньнях ня толькі Радных, але і іншых царкоўна-грамадзкіх прадстаўнікоў, выказваліся дадатныя характарыстыкі папярэдняе дзейнасьці д-ра Сажыча і зычэньне памыснасьці ў дзейнасьці наступнай.

На ўрачыстых абыходзінах нашых нацыянальных Сьвятаў у 1983 годзе др. Сажыч ужо выступаў з прывітаньнямі ад імя Рады БНР як ейны Старшыня. На сьвяткаваньні 25-га Сакавіка на запросіны Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага[293] Старшыня выступаў з прамовай на ўрачыстай Акадэміі, а наступнае нядзелі ў Кліўлендзе быў на падобнай урачыстасьці. Быў таксама на ўгодках Слуцкага збройнага чыну ў Кліўлендзе й у Таронта. У Чыкага быў яшчэ на хіратанізацыі Біскупа Ул. Тарасэвіча[294] (8-га верасьня 83 г.)

---

[292] Друкуецца паводле: Камунікаты Рады БНР. № 1/14. Сакавік 1984. С. 3–4.

[293] Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага быў заснаваны ў 1970-я гг.

[294] **Уладзімір Тарасевіч** (27.11.1921, в. Клешнякі, цяпер Шчучынскі раён Гродзенскай вобл. — 02.01.1986, Чыкага, ЗША), рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі святар, біскуп, доктар багаслоўя, пляменнік Яна Тарасевіча. Напярэдадні Другой сусветнай вайны выехаў да свайго дзядзькі ў ЗША. Скончыў духоўную семінарыю і каледж пры абацтве Св. Пракопа ў горадзе Лайл каля Чыкага, Каталіцкі ўніверсітэт у Вашынгтоне, вучыўся ў Рыме ў папскім Грыгарыянскім універсітэце і Пантыфікальным інстытуце вывучэння Усходу. У 1944 г. прыняў манаства, у 1949 г. быў высвячаны на каталіцкага святара ўсходняга абрада. У 1958 г. атрымаў ступень доктара тэалогіі. У 1958–1986 гг. узначальваў беларускую ўніяцкую парафію Хрыста Спаса ў Чыкага. У 1983 г. стаў біскупам каталіцкай царквы ўсходняга абраду і

10-га красавіка 83 г. Старшыня Рады й першы заступнік др. Б. Рагуля наведалі Сп-ва Жук-Грышкевічаў у Бэры (Канада). У вельмі прыемнай і сяброўскай атмасфэры абмеркавалі некаторыя справы Рады БНР. Былы Старшыня др. Жук-Грышкевіч абяцаў супрацоўніцтва й падтрыманьне парадамі на аснове свайго даўгога дазнаньня, калі новы Старшыня будзе гэтага патрабаваць, а таксама перадаў сьпіс Радных, Статут Рады БНР і блянкі Прэзыдыюму ды іншыя матар'ялы. На прапанову др. Рагулі др. Раіса Жук-Грышкевіч абяцала далей апекавацца архівам Рады БНР, які дагэтуль знаходзіўся ў яе ў добрым парадку.

3-га й 4-га верасьня 1983 г. у Нью-Брансьвіку, Нью Джэрзі адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР, на якім былі разгледжаныя арганізацыйныя, фінансавыя й палітычныя пытаньні Рады БНР.

15-га кастрычніка 1983 г. пры нагодзе ўдзелу ў Сэмінары, прысьвечаным стагодзьдзю В. Ластоўскага[295], у Лёндане ў памешканьні бібліятэкі імя Ф. Скарыны адбылося спатканьне й паседжаньне сяброў Прэзыдыюму на чале са Старшыней др. Сажычам. У нарадзе, якой кіраваў сп. А. Лашук — старшыня Сэктару Рады БНР у Вялікай Брытаніі, узялі ўдзел: сп. Ул. Бортнік — заступнік Старшыні на Эўропу, спадары А. Адамовіч і А. Шукелайць — сябры Прэзыдыюму з ЗША, спадары П. Асіповіч[296] і Я. Міхалюк[297] зь Вялікай Брытаніі, спадары Ю. Сенькоўскі[298] і П. Урбан[299] зь Нямеччыны, др. В. Сенькевіч[300] з Гішпаніі і сп. М. Наўмовіч з Францыі.

---

адначасова быў прызначаны Папам Рымскім на пасаду апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў заходняга і ўсходняга абрадаў на эміграцыі.

[295] **Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938), грамадскі і палітычны дзеяч, пісьменнік, гісторык, філолаг, літаратуразнавец, этнограф.

[296] **Павел Асіповіч** (1923–1997) жыў у Лондане (Вялікабрытанія). Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Ва ўправе арганізацыі займаў розныя пасады, у 1963–1996 гг. быў скарбнікам ЗБВБ. Адзін з заснавальнікаў Англа-беларускага таварыства, дзе у 1964–1997 гг. быў скарбнікам, таксама быў скарбнікам Беларускай харытатыўнай секцыі. Ад імя ЗБВБ браў удзел у працы Еўрапейскай групы сувязі (*European Liaison Group*), дзе таксама доўгі час выконваў функцыі скарбніка.

[297] **Янка Міхалюк** (1922–1995) ад 1965 г. жыў у Лондане (Вялікабрытанія). Быў пастаянным сябрам Галоўнай управы Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1970–1995 гг. — нязменным старшынёй арганізацыі. Належыў да кіраўніцтва Англа-беларускага таварыства, займаўся распаўсюдам часопіса *«The Journal of Byelorussian Studies»*. Уваходзіў у Раду апекуноў Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны.

[298] **Юры Сянькоўскі** (1926–1995) жыў у Мюнхене, працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода», а ад сярэдзіны 1980-х гг. быў яе кіраўніком.

[299] **Паўла Урбан** (1924–2011) жыў у Мюнхене, працаваў у Інстытуце вывучэння СССР, а пасля яго закрыцця — на Радыё «Свабода».

[300] **Віктар Сянкевіч** (1926–?) у той час яшчэ жыў у Іспаніі, чытаў лекцыі ў Каталіцкім універсітэце г. Памплона. Ад 1992 г. жыў у Сан-Францыска (ЗША).

Гэтае паседжаньне было як-бы працягам ці «пашырэньнем» Сэсіі Рады БНР з удзелам сяброў, якія не маглі быць на Сэсіі, бо разглядаліся тут вельмі актуальныя й важныя пытаньні, як арганізацыйныя справы Рады: сяброўства, складкі, склад Прэзыдыюму і вонкавыя справы, кантакты з суседнімі народамі і антыбальшавіцкімі арганізацыямі, справы Парыскага Блёку ды падобныя.

Падобна як і на 17-ай Сэсіі Рады ў Нью Ёрку, тут таксама паўстала ажыўленая дыскусія ў справах архіваў БНР і помніка былому Старшыні Рады БНР сп. М. Абрамчыку. Др. Сажыч абяцаў спаткацца ды пагаварыць са сп-няю Нінаю Абрамчык (удава па б. Прэзыдэнце) ды пагаварыць зь ёю ў гэтых справах, што ў пэўнай меры ўдалося выканаць, заехаўшы ў Парыж 17 кастрычніка 83 году (дзякуючы дапамозе сп-ра Наўмовіча) ды пабачыцца із сп-няю Абрамчык. На жаль, аднак, канкрэтна нічога ня было дагаворана зь ёю. Магчыма, што гэты першы асабісты кантакт спрычыніцца да далейшай лучнасьці й пазытыўнага разьвязаньня паданых справаў. У справе ўстанаўленьня помніка на магілцы ў Парыжы сп-ня Абрамчык выявіла пэўную апатыю, заяўляючы: *«Мой муж не працаваў для беларускае справы дзеля таго, каб яму ставілі помнік»*.

Далей Старшыня наведаў эўрапэйскі падсэктар Рады БНР у Бэльгіі, спатыкаўся ў доме айца А. Смаршчка[301] з раднымі Жучкам і А. Арэшкам[302], таксама пры нагодзе наведаў першы раз унівэрсытэт у Лювэне, дзе здабылі асьвету некаторыя нашы сябры Рады БНР.

Асабісты кантакт і знаёмства Старшыні з Раднымі ў Эўропе быў вельмі карысным для далейшага супрацоўніцтва. 10-га лютага 1984 г. др. Сажыч быў асабіста й быў вітаны на сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці ў Летувісаў у Дэтройце.

---

301 **Аўген Смаршчок** (1914–1984) жыў у Бельгіі, выкладаў рускую мову ў Вышэйшай фламандскай школе перакладчыкаў у Антверпене. Як святар кіраваў парафіяй БАПЦ.

302 **Аляксей Арэшка** (нар. 1923) жыве ў Бельгіі. Актыўны сябра Саюза беларусаў Бельгіі. У 1956 г. абараніў дысертацыю і атрымаў ступень доктара хімічных навук. Ад 1957 г. працаваў у фармацэўтычнай фірме *«Labaz»* як кіраўнік групы хімікаў у галіне пошуку сінтэзу лекаў ад сардэчна-сасудзістых захворванняў. Аўтар дзясятка навуковых артыкулаў у спецыялізаваных бельгійскіх і французскіх часопісах. Удзельнік шматлікіх міжнародных навуковых кангрэсаў. Заснаваў Аб’яднанне беларускіх студэнтаў-выпускнікоў Лювенскага ўніверсітэта *«Academicus»*, выпусціў некалькі бюлетэняў з такой назвай. Ад 1983 г. — на пенсіі.

## КАМУНІКАТЫ РАДЫ БНР
## *№ 2/15, жнівень 1985 год*

### Справа Сяброўства

Сіла і эфэктыўная дзейнасьць кожнай установы шмат залежыць ад колькасьці і якасьці яе сяброў. Колькасьць сяброў Рады БНР у апошніх гадох часткова зьменшылася з прычыны выступу зь яе на асабістае жаданьне й заяву двох сяброў, аднак найбольш адчуваецца страта тых вартасных, актыўных і дасьведчаных Сяброў, каторыя адышлі ад нас у вечны супачынак. Асабліва вялікія страты пераніжыў аўстралійскі Сэктар з прычыны перадчаснай сьмерці такіх заслужаных Сяброў, як: Др. Я. Малецкі[303], А. Качан[304], А. Каранеўская[305] і апошня П. Трысмакоў[306]. Вечная ім памяць і слава!

Пацяшаючым фактам аднак ёсьць, што, разумеючы патрэбу папаўненьня радоў, Сэктар Рады БНР у Аўстраліі прыняў новых чатырох радных (Сыдней — 1, Адэляйда — 1 і Пэрт — 2). Спадзяёмся, што гэтыя малодшыя радныя будуць ня менш самаахвярна й сумленна працаваць для БНР у рамах абавязваючага Статуту. На нарадзе сяброў Рады, што адбылася ў часе Сустрэчы Беларусаў у верасьні 84 г.[307] урачыста прыняў прысягу новы сябра Рады з Канады, а ў часе сьвяткаваньня 67-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка ў Клівэляндзе, ЗША былі прынятыя два новыя сябры Рады з гэтага беларускага асяродка, пры гэтым адзін зь іх зьяўляецца наймалодшым Радным, маючы толькі 35 гадоў. Гэтае папаўненьне радоў Рады БНР сьведчыць аб пазытыўнай нашай дзейнасьці.

---

[303] **Язэп Малецкі** (1906–1982) жыў у Сіднэі (Аўстралія). Актыўны сябра ўправы Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі, а ў 1960–1961 гг. — яго старшыня. Адзін з дырэктараў Беларускага культурна-грамадскага клуба ў Сіднэі. Адзін з ініцыятараў стварэння і старшыня Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі ў 1979–1980 гг. Аўтар аўтабіяграфічнай кнігі «Пад знакам Пагоні» (Таронта, 1976).

[304] **Аркадзь Качан** (1921–1982) жыў у Сіднэі (Аўстралія). Адзін з заснавальнікаў і шматгадовы сакратар Беларускага аб'яднання ў Новай Паўднёвай Валіі. Сябра Беларускага культурна-грамадскага клуба і Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі. Напрыканцы 1970-х гг. — беларускі прадстаўнік у Выканаўчым камітэце Этнічнай рады ў Новай Паўднёвай Валіі. Адзін са стваральнікаў і каардынатар Беларускага радыё ў Сіднэі.

[305] **Аўгіння Каранеўская** (1919–1983) жыла ў Сіднэі (Аўстралія). Распаўсюджвала беларускую прэсу, была сталай аўтаркай газеты «Беларус». Сябра Беларускага культурна-грамадскага клуба. Ад 1976 г. — супрацоўніца Беларускага радыё ў Сіднэі.

[306] **Парфіры Трысмакоў** (1903–1985) жыў у Адэлаідзе (Аўстралія). Актыўны ўдзельнік жыцця беларускай парафіі Св. Апосталаў Пятра і Паўла, уваходзіў у царкоўную ўправу. Сябра Беларускага аб'яднання ў Паўднёвай Аўстраліі.

[307] Маецца на ўвазе 16-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбывалася 1–3 верасня 1984 г. у кліўлендскім «Полацку».

## Нарада сяброў Рады

Падчас Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў беларускім асяродку «Полацак» (Огаю-ЗША) на пачатку верасьня 1984-га году адбылася Нарада сяброў Рады БНР. Нарада гэтая была пратакулованая галоўным Сакратаром Рады, які, аднак, не пасьпеў перадрукаваць гэтага пратаколу й разаслаць яго ўсім Радным. Дзеля гэтага пастараемся паінфармаваць адсутных сяброў аб прабегу й дыскусыях гэтага паседжаньня. Колькасна прысутнічала ня менш Радных, як на рэгулярных сэсіях Рады. Якасна характэрным было тое, што амаль усе сэктары з усяго сьвету былі рэпрэзэнтаваныя на гэтай нарадзе. Старшыня коратка паінфармаваў аб існуючай нутраной структуры Рады і выразіў свае пажаданьні, як можна было-б палепшыць спаўпрацу. Ён таксама падаў дадзеныя аб стане й колькасьці сяброў у Радзе. На гэтую тэму разгарнулася жывая дыскусыя, зь якой агульны выснаў быў такі: паасобныя сэктары Рады павінны дбаць аб папаўненьні Рады ў патрэбы, падбіраючы адпаведных кандыдатаў у сваіх асяродках і арганізацыях. Трэба ведаць і растлумачваць адпаведным асобам, што Рада БНР ня ёсьць нейкай партыяй ці групоўкай, гэта ёсьць прадстаўніцтва ўсіх беларускіх партыяў і арганізацыяў, і таму кандыдаты могуць быць і з апазыцыйнымі паглядамі, пры ўмове, што яны ёсьць добрыя беларускія патрыёты, згодныя ўступіць у Раду БНР і працаваць згодна з дэмакратычнымі прынцыпамі Канстытуцыі БНР. На настойлівае жаданьне паважанага Раднага А. Стагановіча[308] быў прачытаны ягоны ліст у справе сяброўства сп. К. Мерляка. Адбылася дыскусыя ў гэтай справе й выказаная агульная апінія такая: не прымаць радыкальных санкцыяў супроць сяброў, якія адлучыліся ад актыўнай дзейнасьці ў Радзе з розных прычын, хіба толькі што такі радны сам афіцыяльна зложыць заяўку аб выступленьні з Рады. Не павінна мець месца таксама такая рэакцыя радных аб выступленьні з Рады з прычыны таго, што ім не падабаецца пэўны радны або яго дзейнасьць. Калі хтось з радных запраўды правініцца (здрада ці зламаньне прысягі), дык у такім выпадку Суд Рады БНР павінен разгледзець гэтую справу й падаць прапанову аб санкцыях супроць такога раднага. Сакратар фінансаў сп. В. Кажан даў кароткую справаздачу аб стане касы Рады БНР і сяброўскіх складках. Ён зазначыў, што існуе пэўная няроўнасьць сярод радных, бо многія сумленна плацяць, а некаторыя занядбоўваюць аплату складак. Сьцьверджана, што шмат сяброў знаходзяцца на пэнсіі й не працуюць заробкава, але аплата складак павінна залежыць ад іх фінансавай магчымасьці й грамадзкага разуменьня. Кожны Рады павінен быць прыкладам для другіх, складаючы сам шчодра ахвяры на Дар 25-га Сакавіка, які ёсьць важнаю крыніцаю папаўненьня касы Рады. У справе сувязі Рады зь беларускімі арганізацыямі сьцьверджана, што кожны сябра Рады належыць да нейкае грамадзкае ці царкоўнае арганізацыі, працуе там

---

[308] **Аляксандр Стагановіч** (1890–1988) жыў у ЗША, быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, Згуртавання беларускіх ветэранаў і епархіяльнай Рады БАПЦ.

і па магчымасьці надае ідэалёгічны напрамак Рады. На заканчэньне прысутныя выразілі апінію, што «Камунікаты», выдаваныя нават не рэгулярна, зьяўляюцца неабходнымі для інфармацыі сяброў Рады.

## МАНІФЭСТ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ ДА 70-Х УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ 25 САКАВІКА 1918 ГОДУ[309]

Беларускі Народзе!
Суродзічы-Беларусы!

Семдзесят гадоў таму, 25 сакавіка 1918 году, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, маючы мандат ад 1872 дэлегатаў Беларускага Народу, папоўненая *«прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў»*, абвесьціла Беларусь *«у рубяжох расьсяленьня й лічэбнай перавагі беларускага народу» «незалежнай і вольнай дзяржавай»*.

Трэйцяя Ўстаўная Грамата пацьвердзіла *«ўсе тыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія былі абвешчаныя Ўстаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 году»*, а гэта: свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, роўнае права моваў народаў Беларусі, бязумоўную свабоду сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня ды пераданьне зямлі бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць.

Рада БНР пратэстуючы сваім Актам Незалежнасьці супраць падпісанай бальшавіцкай Расеяй і кайзэраўскай Нямеччынай умовы аб падзеле Беларусі, заяўляла, што *«трацяць сілу ўсе дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае насьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі»*.

Хоць Расея зь Нямеччынай і ваявалі міжсобку, але абедзьве яны, кожная дзеля сваіх інтарэсаў, выявіліся ворагамі беларускае дзяржаўнасьці: Нямеччына забавязалася перад Расеяй не прызнаваць ніякіх новых дзяржаўных сфармаваньняў на тэрыторыі былое царскае імпэрыі. Гэтак вось бальшавіцкая Расея разагнала сілаю зброі Ўсебеларускі Кангрэс у сьнежні 1917 году, а кайзэраўская Нямеччына паставілася варожа да дзейнасьці Народнага Сакратарыяту (ураду) БНР. Апрача гэтых двух акупантаў трэцім ворагам незалежнасьці Беларусі сталася Польшча зь ейным імкненьнем да аднаўленьня «свае» ўсходняе мяжы з 1772 году.

У няроўным змаганьні за сваю дэмакратычную дзяржаву Беларускі Народ хоць і не адваяваў свабоды й незалежнасьці, але замацаваў самую ідэю нацыянальнае дзяржаўнасьці, прадэманстраваў наважанасьць змагацца за ажыцьцяўленьне гэтай ідэі. Ідэал незалежнасьці застаецца й надалей пуцяводнай зоркай для патрыётаў Бацькаўшчыны. Гэтым ідэалам кіраваліся верныя сыны й дочкі Беларусі ў міжваенным часе паабапал лініі падзелу

---

309 Друкуецца паводле: Беларус. № 345. Сакавік 1988. С. 1.

роднага краю, гэты ідэал паказваў шлях да дзеяньня гадамі Другое сусьветнае вайны, ён застаўся і ў паваенным пэрыядзе натхняльнай крыніцай для новых пакаленьняў патрыётаў як на Бацькаўшчыне, гэтак і на Чужыне. Ідэяй нацыянальнай свабоды, дэмакратыі, роўнасьці кіруюцца й сучасныя абаронцы беларускасьці ў савецкай Беларусі, дзе русыфікацыйная этнацыдная палітыка паставіла Беларускі Народ перад пагрозаю духовага выміраньня.

Існасьць русыфікацыі ў тым, што русыфікацыя служыць расейскаму імпэрыялізму, расейскай экспансыі ў сьвеце. Беларусы паміраюць у Афганістане, прадукт сельскае гаспадаркі й прамысловасьці Беларусі рассылаецца па шырокім сьвеце, а тымчасам жыхарства рэспублікі не забясьпечанае гароднінай, будаўнікі — будаўлянымі матар'яламі, лекары й дэнтысты — патрэбнымі прэпаратамі, хатнія гаспадыні — рэчамі штодзённага ўжытку; беларускія вучоныя змушаныя карыстацца застарэлай тэхнікай.

Ніводзін савецкі эканаміст не давёў яшчэ на аснове канкрэтных лікаў матар'яльную выгаду для Беларусі ад належаньня да СССР. Наадварот, савецкая цэнзура хавае статыстыку, каб ня гэткім відавочным быў факт эксьпляатацыі ды кошт маскоўскага імпэрыялізму. Безупыннае паўтараньне савецкай прапагандай, што ў Беларускую ССР завозяцца зь іншых рэспублікаў Саюзу сыравіна й дэталі ды што БССР экспартуе свае вырабы ў 90 ці 100 замежных краінаў, нічога не даводзіць, бо праўдзівую статыстыку імпарту ў рэспубліку ды экспарту зь яе цэнзура хавае ад народу.

Беларусь расплачваецца за расейскі экспаньсіянізм ня толькі матар'яльна, але й духова, сваёй культурай. Праводжаная з Масквы кампанія супраць г. зв. нізкапаклонства перад Захадам абярнулася для Беларусаў у нізкапаклонства перад Усходам, якое прывяло да таго, што карэнныя жыхары краю ходзяць па вуліцах сваіх гарадоў «з гарбамі», адны ня ўмеюць, а другія ня могуць свабодна і адкрыта карыстацца сваёй мовай, каб ня быць абвінавачанымі ў «нацыяналізьме». «Сувэрэннасьць» БССР не прадбачыць нат кампэтэнцыі рэспубліканскаму міністэрству асьветы самому зацьвярджаць падручнікі зь гісторыі Беларусі або распрацоўваць мэтад выкладаньня роднае мовы ў сваіх школах. Як некалі ў царскіх сэмінарыях, настаўнікаў для ўсіх школаў рэспублікі пэдагагічныя інстытуты й цяпер рыхтуюць толькі па-расейску. Русыфікаваныя выдавецтвы, тэатры, сродкі сувязі, сыстэма асьветы. Савецкая русыфікацыйна-этнацыдная палітыка на Беларусі куды грунтаўнейшая за царскую, бо праводзіцца яна ў эпоху ўсеагульнае пісьменнасьці й росту сродкаў масавае сувязі.

Хоць Беларусь уваходзіць у склад Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, членства БССР у ААН служыць ня гэтулькі справе прадстаўніцтва рэспублікі на міжнароднай арэне, колькі выкарыстоўваньню беларускага голасу як падгалоску імпэрскага цэнтру. Дзейнасьць дэлегатаў БССР у органах ААН, ЮНЭСКО, ЮНІСЭФ ды іншых міжнародных арганізацыях абмежаная бюджэтам і скаваная дырэктывамі з Масквы нагэтулькі, што савецкая Беларусь і дасюль у цэлым радзе галінаў навукі й культуры ізаляваная ад вонкавага сьвету.

Урад савецкае Беларусі выявіўся няздольны належна бараніць інтарэсы свае рэспублікі, паставіць супраціў русыфікацыйнаму наступу на яе. Наадварот, шмат якія міністры ды іншыя высокія партыйныя і ўрадавыя чыноўнікіператварыліся ў калябарантаў, прысьпешнікаў этнацыднага працэсу. Гэтым яны дыскваліфікавалі сябе як прадстаўнікі інтарэсаў Беларускага Народу, страцілі маральнае права гаварыць ад ягонага імя.

Дорага заплаціла Беларусь у складзе маскоўскай імпэрыі: сталінскі тэрор — раскулачваньне ды пагром г. зв. нацдэмаў — каштаваў сотні тысячаў ахвяраў людзьмі; хрушчоўска-брэжнеўскі «застой» прывёў да глыбокага крызісу беларускую нацыянальную культуру, да зьнішчэньня сотняў гістарычных помнікаў краю; гарбачоўская-ж публічнасьць («галоснасьць») карыстаецца тымчасам толькі касмэтыкай, каб прыхаваць усю тую спустошанасьць, да якое давяла Беларусь савецкая нацыянальная палітыка.

Рэагуючы на пошасьць гэтага зьнішчэньня, на эпідэмію дэнацыяналізацыі, узьнялося цяпер на самаабарону маладое пакаленьне Беларусаў, якое стыхійным рухам зьнізу, наўсуперак бюракратычным бар'ерам ды інэртнасьці бальшыні ўрадаўцаў намагаецца павярнуць працэс у адваротны бок — да нацыянальнага адраджэньня. Няхай-жа ў гэтым руху маладых Беларусаў, у іхнай дзейнасьці для дабра роднага краю, як і ў працы ўсіх нас на карысьць Беларусі вядзе нас наперад ідэал дэмакратычнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі!

Жыве Беларусь!

Жыве ідэя Незалежнасьці Беларусі!

*Чужына, 25 сакавіка 1988 году*

*Прэзыдыюм Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

## СТАРШЫНЯ РАДЫ БНР У МЕНСКУ[310]

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі др. Язэп Сажыч, які жыве ў Злучаных Штатах, узяў удзел у ўрачыстасьці адзначэньня 75-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, што адбылася ў Менску 25 сакавіка ў перапоўненай людзьмі залі Беларускай фільгармоніі. Выступленьне на гэтай урачыстасьці др. Сажыча, які прамаўляў пасьля Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча[311], было сустрэта вельмі цёпла. Там-жа, як напісалі ў адным прыватным лісьце зь Менску, *«надзвычай паэтычнае,*

[310] Друкуецца паводле: Беларус. № 400. Красавік 1993. С. 2.

[311] **Станіслаў Шушкевіч** (нар. 1934), дзяржаўны і грамадскі дзеяч, фізік, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар. У 1991–1994 гг. быў Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

*мастацкае выступленьне зрабіў Данчык Андрусышын*[312]*»*. Шмат якія газэты зьмясьцілі інтэрв'ю з др. Сажычам і з Данчыкам.

У гутарцы з карэспандэнтам «Народнай газэты» Старшыня Рады БНР сказаў: *«Магчыма, мне лёс дазволіць дачакацца часу, калі я змагу здаць свой мандат беларускаму ўраду на бацькаўшчыне. Але яшчэ ня час. Мы чакаем, калі ў Беларусі Вярхоўная Рада будзе выбрана сапраўды дэмакратычным шляхам. Цяпер мы мусім наглядаць за тым, як пойдуць падзеі далей»*.

## КАМУНІКАТЫ РАДЫ БНР
## *№ 11/24, кастрычнік 1993 год*

У гэтым годзе адбыліся дзьве цікавыя й гістарычна важныя падзеі ў Беларусі: 1. Сьвяткаваньне 75-х угодкаў Беларускае Народнае Рэспублікі; 2. Першы Зьезд Беларусаў Сьвету.

У сувязі з гэтым можна зрабіць пэўныя высновы.

Я прысутнічаў на ўрачыстым сьвяткаваньні Акту 25-га Сакавіка ў Менску і выступаў з прывітаньнем ад Рады БНР. Гэта надало сьвяту «адмысловае гучаньне», як выразіліся арганізатары ўрачыстасьці. А ў лісьце, атрыманым пасьля павароту ў ЗША, пішуць: *«Ваш прыезд на Бацькаўшчыну меў такі шырокі грамадзкі рэзананс, паспрыяў і спрыяе нашай агульнай беларускай справе»*.

Напэўна, шмат якія сябры Рады БНР чыталі аб гэтым шматлікія водгукі ў беларускай прэсе, таму ня буду паўтарацца, пералічаць усю сваю актыўнасьць у часе прабываньня ў Беларусі.

Меў я нагоду прысутнічаць на ўрачыстасьці высьвячэньня помніка Івану і Антону Луцкевічам у Вільні. З асабістых спатканьняў найбольш цікавымі й карыснымі былі два спатканьні зь беларускімі вышэйшымі афіцэрамі, сябрамі Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў[313]; зь Мітрапалітам Філарэтам[314], зь пісьменьнікам Васілём Быкавым, зь некаторымі дэпутатамі Вярхоўнага Савету. А на заканчэньне перад ад'ездам была наладжана прыемная й

---

[312] **Багдан (Данчык) Андрусышын** (нар. 03.01.1958, Нью-Ёрк, ЗША), спявак, журналіст, грамадскі дзеяч. Скончыў факультэт масавых камунікацый Нью-Ёркскага ўніверсітэта. Ад юнацтва захапляўся беларускімі песнямі. У 1977 г. запісаў першы альбом «Беларусачка». У 1981 г. ездзіў з канцэртамі на Беласточчыну, а ў 1989 г. упершыню прыехаў у Беларусь, што стала вялікай культурнай падзеяй. У 1997 г. спыніў канцэртную дзейнасць. Працуе на Радыё «Свабода». Жыве ў Празе.

[313] **Беларускае згуртаванне вайскоўцаў** — непалітычны грамадскі рух, заснаваны ў Мінску ў жніўні 1991 г. Аб'ядноўваў былых вайскоўцаў сапраўднай службы або ў запасе, а таксама грамадскія арганізацыі і палітычныя партыі. Старшынёй быў Мікола Статкевіч.

[314] **Філарэт** (свецк. **Кірыл Вахрамееў**, нар. 1935), рэлігійны дзеяч, архіерэй Расійскай праваслаўнай царквы. У 1978–2013 гг. — мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

карысная бяседа з кіраўніцтвам БНФ, дзе лідары дэмакратычнай апазыцыі заклікалі, каб эміграцыя й надалей падтрымвала і ўмацоўвала Раду БНР.

На Першым Зьезьдзе Беларусаў Сьвету прысутнічалі шматлікія сябры Рады БНР і навочна пераканаліся ў тым, якое вялікае значэньне надаюць Радзе БНР і як спадзяюцца ад нас падтрымкі. На доказ гэтага зацытую тут заканчэньне дакладу Старшыні БНФ «Адраджэньне» Зянона Пазьняка на III Усебеларускай Палітычнай Канфэрэнцыі:

*«Ведаем, што для нас, беларусаў, дзяржава — найвялікшы сродак нацыянальнага адраджэньня й найвышэйшая культурная каштоўнасьць. Пры існуючай нелегітымнай уладзе яна пад пагрозай.*

*Беларусы ўсяго сьвету павінны аб'яднаць свае намаганьні і сілы дзеля ўмацаваньня нашай дзяржавы, яе незалежнасьці і эканомікі...*

*Нагадваючы пра нелегітымнасьць Вярхоўнага Савету, павінен адзначыць, што легітымнасьцю валодае якраз Рада БНР. Трэба прыкласьці намаганьні, каб умацаваць Раду БНР, гарантаваць яе палітычнае функцыяваньне. Мяркую, што трэба прадугледзіць працэдуру, каб у пэўны момант гісторыі ці верагоднага бязуладзьдзя мець магчымасьць правесьці выбары (ці давыбары) у Раду БНР ад палітычных арганізацыяў мэтраполіі (г. зн. Беларусі), сфармаваць урад ды прыступіць да выконваньня абавязкаў. Упэўнены, што сьвятая справа Беларускай Народнай Рэспублікі можа яшчэ ня раз паслужыць нашай дарагой Бацькаўшчыне, нашаму Народу, найдаражэйшай айчыне Беларусі».*

Паважаныя Сябры Радныя, бяручы пад увагу сяньняшнія палітычныя падзеі на Бацькаўшчыне — змаганьне за ўмацаваньне беларускай дзяржавы, яе незалежнасьць, — вымагаецца ад нас больш актыўнай працы ў радох нашай Рады, каб апраўдаць давер і спадзяваньні на нас. Мы павінны ня толькі рэгулярна аплочваць свой «нацыянальны падатак» (сяброўскія складкі), але й шукаць разам з нашым працавітым Галоўным Скарбнікам іншых сродкаў папаўненьня Касы Рады БНР. Без адпаведных грашовых рэсурсаў ня можа быць эфэктыўнае палітычнае дзейнасьці — гэта-ж такая відавочная ісьціна! У сувязі з тым, што колькасьць радных памяншаецца з прычыны адыходу нашых сяброў у вечнасьць, трэба непаслабна думаць пра папаўненьне нашых радоў адпаведнымі кандыдатамі.

Ужо цяпер трэба думаць пра наступную чарговую Сэсію Рады, якая, маем надзею, адбудзецца ў канцы травеня 1994 году.

Падзеі на Бацькаўшчыне, як бачым, разгортваюцца вельмі бурна, могуць паўстаць непрадбачаныя сытуацыі — і пагрозьлівыя, і такія, што дадуць нагоду замацаваць нацыянальную свабоду й беларускую дзяржаўнасьць. На нас ляжыць гістарычная адказнасьць, каб усе шанцы, якія дае нам цяпер гісторыя, былі выкарыстаныя ў максымальнай меры.

Жыве Беларусь!

*Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч*

## МЭМАРАНДУМ 22-Й СЭСІІ
## РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
### *Аб дзейнасьці Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*[315]

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, створаная дэмакратычнай воляй Беларускага Народу — носьбіт ідэі незалежнасьці і дэмакратычнага ладу ў Беларусі. Рада працягвае справу Беларускай Народнай Рэспублікі, падтрымлівае ажыцьцяўленьне прынцыпаў дзяржаўнасьці і дэмакратыі Беларусі, адлюстраваныя ў устаўных граматах Рады БНР 1918 году.

Рада БНР лічыць утварэньне Рэспублікі Беларусь і замацаваньне ейнай дзяржаўнай незалежнасьці ў Канстытуцыі 1994 году этапам на шляху да ажыцьцяўленьня ідэалаў БНР, аб чым красамоўна засьведчылі прынятыя Вярхоўным Саветам 12-га скліканьня дзяржаўныя сымбалі: бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня, а таксама канстытуцыйнае ды заканадаўчае замацаваньне дзяржаўнасьці беларускае мовы.

Рада БНР, гэтак-жа як і дэмакратычныя дзяржавы Захаду, не прызнае незаконных лукашэнскаўскіх антыдэмакратычных структураў улады, створаных пасьля лістападаўскага перавароту 1996 году, ды асуджае прарасейскую акупацыйную палітыку, скіраваную на ліквідацыю незалежнасьці Беларусі, на зьнішчэньне беларускай культуры, беларускай мовы і беларускай нацыі.

Рада БНР будзе рабіць усе крокі, каб прадухіліць пагрозу незалежнасьці беларускай дзяржавы і існаваньню беларускай дзяржавы. Рада БНР зьвяртае ўвагу дэмакратычных урадаў і палітыкаў заходняга сьвету на пагрозу, што ідзе вольным краінам Усходняе Эўропы ад прамаскоўскага дыктатарскага рэжыму на Беларусі, які прапануе вярнуць у Беларусь расейскую ядзерную зброю.

*Нью Брансьвік, 31 жнівеня 1997 г.*

## ЗАЯВА 22-Й СЭСІІ РАДЫ
## БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
### *Аб становішчы ў Беларусі*[316]

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі з трывогай назірае за ўзмацненьнем рэпрэсійных дзеяньняў прамаскоўскага рэжыму ў Беларусі, накіраваных супраць асноўных правоў чалавека, законнасьці, свабоды й беларускай культуры. Пад пагрозай апынулася ня толькі дзяржаўнасьць і незалежнасьць Беларусі, але і існаваньне беларускай нацыі. У Беларусі фактычна адноўлены бальшавіцкі акупацыйны рэжым, зачынены амаль усе беларускія школы, зьліквідавана нацыянальнае ўзгадаваньне моладзі, дыскрымінуецца на

---

[315] Друкуецца паводле: Беларус. № 447. Верасень 1997. С. 2.
[316] Друкуецца паводле: Беларус. № 447. Верасень 1997. С. 1–2.

кожным кроку беларуская мова. Урад выдае распараджэньні аб адабраньні нерухомай маёмасьці беларускіх установаў і арганізацыяў, зачыняюць беларускія газэты і часапісы. Уведзена цэнзура на творы мастацтва, ліквідавана свабодная адвакатура. У судах і турмах пануе поўная самаволя ўрадавых функцыянераў. Прэзыдэнцкая рэпрэсійная машына адкрыта дыскрымінуе беларусаў. Самаволя ўладаў у канфрантацыі з журналістамі дайшла да таго, што пачалі завастрацца канфлікты паміж шматлікімі замежнымі сродкамі масавай інфармацыі ды ўрадам Лукашэнкі.

Тымчасам эканамічны крызіс у Беларусі паглыбляецца ў выніку намаганьня ўраду трымаць усё пад сваім кантролем. Індэксацыя заработкаў і пэнсіяў не пасьпявае за інфляцыяй, якая ў першай палавіне гэтага году перавысіла 40 працэнтаў. Вартасьць беларускага рубля катастрафічна падае. Гандлёвы балянс рэспублікі пазначаны глыбокім дэфіцытам. Урад дарма намагаецца прыхаваць факт далейшага эканамічнага спаду маніпуляваньнем статыстыкі. Каб залатаць бюджэтныя дзіркі, урад рыхтуецца запушчаць ізноў у работу друкарскі станок на новую эмісію рублёў, якія яшчэ больш абясцэняць мізэрныя заработкі і пэнсіі.

Усе эканамісты, у тым ліку і ўрадавыя, прызнаюць, што адбудова беларускай эканомікі немагчымая без замежных інвэстыцыяў. Але інвэстыцыі не паплывуць у дзяржаву, якая не праводзіць рынкавых рэформаў.

У выніку арыентацыі Лукашэнкі на сілавыя мэтады кіраваньня за Беларусьсю ў сьвеце замацоўваецца імя паліцыйнае дзяржавы. Апошні з цэлае сэрыі рэдакцыйных артыкулаў вядучых заходніх органаў незалежнага друку газэты «Нью-Ёрк Таймс» (25.08.1997), загалоўлены «Расея і ейны тыранскі сусед». Гэта пра Беларусь пад кантролем прэзыдэнта-тырана. Зразумела, што з такою краінаю патэнцыяльныя заходнія інвэстары ня будуць наладжваць дзелавых сувязяў. Міжнародную ізаляванасьць Беларусі найлепш паказвае факт, што беларускі прэзыдэнт стаўся «невыездным» у дэмакратычныя дзяржавы. Ня хочуць і ў Беларусь ехаць ані заходнія турысты, ані бізнэсмэны. Культурны і навуковы абмен з Захадам зьведзены да мінімуму. Амаль спыніўся з замежных краін паток гуманітарнай дапамогі, бо галодны на валюту Менск наклаў сваю кантрольную руку і на гэтую дзялянку грамадзкай дзейнасьці.

Паліцыйны заціск свабоды паглыбляецца. Лукашэнкаў незаконны парлямэнт рыхтуецца цяпер прыняць папраўкі да закону аб друку, які пашырыць яшчэ больш беззаконьне чыноўніцкага кантролю над сродкамі масавай інфармацыі.

У сувязі з вышэй сказаным Рада БНР асуджае паліцыйны антыбеларускі рэжым Лукашэнкі і заклікае беларускае ды міжнароднае грамадзтва да супрацьдзеяньня ягонай дыктатуры, да змаганьня за аднаўленьне дэмакратычнага ладу ў Беларусі.

Рада БНР падтрымлівае ўсе беларускія нацыянальна-вызвольныя сілы, што змагаюцца за дэмакратыю, незалежнасьць і эўрапейскі шлях разьвіцьця Беларусі.

Рада БНР заяўляе, што адзіны выхад з тупіковага палажэньня, у якім апынулася міжнародна ізаляваная Беларусь, гэта — адстаўка Лукашэнкі, зварот да Канстытуцыі 1994 году і правядзеньне свабодных парляманцкіх выбараў.

*Нью-Брансьвік, 31 жніўня 1997 г.*

## ПАСТАНОВА РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
### *Пра абарону самабытнага аблічча беларускае літаратурнае мовы*[317]

Жывое бытаваньне і пэрспэктыва беларускае мовы на Бацькаўшчыне зноў апынуліся пад пагрозаю. Антыбеларускі рэжым пасьлядоўна выціскае беларускую літаратурную мову з асноўных сфэраў ейнага функцыяваньня: адукацыі, культуры, навукі, дзяржаўных органаў, прэсы, кнігавыданьня і г. д.

Падобна як сталінскі рэжым у 1930-я гады, рэжым Лукашэнкі, адначасова зь перасьледам беларускае мовы наагул, робіць замах на ейную самабытнасьць. У 1933 г. правапіс і граматыка беларускае літаратурнае мовы рашэньнем Саўнаркома БССР былі валюнтарыстычна зрэфармаваныя дзеля палітычнае мэты: набліжэньня беларускае мовы да расейскае. Вынішчаліся непаўторнае аблічча й нормы беларускае літаратурнае мовы, што сфармаваліся натуральным эвалюцыйным чынам на падставе народных гаворак і жывой практыкі ды былі ўпарадкаваныя Браніславам Тарашкевічам[318].

Рада БНР, ідучы за воляю свабоднага беларускага грамадзтва, не прызнала пастановы Саўнаркому БССР «Аб рэформе беларускага правапісу». Беларуская літаратурная мова пачала існаваць у двух правапісна-граматычных варыянтах: клясычным, што быў кадыфікаваны Б. Тарашкевічам і ягонымі наступнікамі, ды савецкім, зрусыфікаваным.

На працягу апошняга дзесяцігодзьдзя клясычная правапісна-граматычная традыцыя ня толькі адрадзілася на Бацькаўшчыне, але стала асноваю далейшага разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы. Грамадзкія, культурныя арганізацыі, акадэмічныя колы выказаліся за перагляд пастановы Саўнаркому БССР 1933 г. «Аб рэформе беларускага правапісу». Пастанова была ацэнена як палітычна тэндэнцыйная ў Выніковым дакумэнце Дзяржаўнае камісіі па ўдакладненьні правапісу беларускае літаратурнае мовы ад 2 лютага 1994 году. Дзяржаўная камісія і Правапісная камісія Таварыства Беларускае Мовы выпрацавалі прапановы, якія мелі на мэце ўніфікацыю зрусыфікаванага варыянту правапісу і граматыкі з клясычным.

---

317 Друкуецца паводле: Беларус. № 447. Верасень 1997. С. 3.

318 **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938), грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, перакладчык. Аўтар «Беларускай граматыкі для школ», выдадзенай у 1918 г. і перавыдаванай шэсць разоў, што доўгі час выкарыстоўвалася ў якасці галоўнага падручніка беларускай мовы.

Аднак рэжым Лукашэнкі, пераймаючы ў нацыянальна-моўнай палітыцы рэжым Сталіна, абмяжоўвае ўжываньне беларускае літаратурнае мовы ў ейным, не скажоным рэформаю 1933 г., правапісна-граматычным абліччы ды рыхтуе поўную забарону апошняга.

У сувязі з вышэй выкладзеным, грунтуючыся на дакумэнтах Беларускага Навуковага Таварыства (1933 г.), Таварыства Беларускае Мовы і ягонае Правапіснае камісіі (1991–1994), Дзяржаўнае камісіі па ўдакладненьні правапісу беларускае літаратурнае мовы (1994 г.), камісіяў Беларускага Народнага Фронту па адукацыі і па культуры (1989–1997 г.), Рада БНР пастанаўляе:

1. Лічыць клясычны правапіс і граматыку беларускае літаратурнае мовы, упарадкаваныя Б. Тарашкевічам і надалей кадыфікаваныя і ўжываныя ў слоўніках на Бацькаўшчыне і эміграцыі, нацыянальным здабыткам, які падлягае апецы і абароне.

2. Ужываць у дзяржаўнай чыннасьці Рады БНР вылучна клясычны правапіс і граматыку беларускае літаратурнае мовы ды рэкамэндаваць іх да ўжытку ва ўсіх сфэрах функцыяваньня мовы ў Беларусі.

3. Правесьці навукова-практычную канфэрэнцыю з мэтай удакладненьня нормаў правапісу і граматыкі беларускае літаратурнае мовы з улікам найноўшае моўнае практыкі.

*Нью-Брансьвік, 31 жніўня 1997 г.*

## *Раздзел IV*
## ЛІСТАВАННЕ

*Пададзеныя ніжэй лісты паходзяць са збораў Беларускага інстытута навукі і мастацтва (найперш гэта карэспандэнцыя Віталя Кажана), а таксама з прыватнага архіва Янкі Запрудніка. Пры фрагментарнай захаванасці пратаколаў і дакументаў Рады БНР з часоў Язэпа Сажыча, ліставанне таго перыяду набывае асаблівую значнасць. Менавіта ў карэспандэнцыі радных адлюстраваліся тыя праблемы і працэсы, якія мелі месца ўнутры Рады БНР. Усім гэтым і тлумачыцца параўнальна вялікі аб'ём пададзенага ліставання.*

*Асаблівасці аўтарскага правапісу лістоў пры публікацыі былі захаваныя. Прынцыпы каментавання аналагічныя папярэднім раздзелам.*

### ЛІСТАВАННЕ ЯЗЭПА САЖЫЧА

#### Ліст да Антона Адамовіча

*Дэтройт, 21-га чырвеня 1979 г.*

Вельміпаважаны й Дарагі Юбілянт — Праф. Антон Адамовіч.

У дзень Вашых 70-х угодкаў жыцьця перасылаю Вам найшчырэйшыя пажаданьні: перадусім добрага здароўя й пасьпяховасьці ў далейшай Вашай працы грамадзкай, навукова-літэрацкай і пісьменьніцкай на карысьць Нашага Беларускага Народу і Яго гісторыі.

Асабіста першы раз меў нагоду пазнаць Вас у Менску на афіцэрскім Курсе БСА[319]. Будучы маладым беларускім афіцэрам, як і многія іншыя мае сябры, апрача запалу-энтузыязму й фізычнай вайсковай здольнасьці, мы патрабавалі духовай нацыянальнай пажывы, і гэта мы атрымоўвалі з Вашых вельмі цікавых і незабытых дакладаў.

У далейшых пасьляваенных часох, маючы нагоду супрацоўнічаць з Вамі на ўсякіх беларускіх зьездах ці сэсіях Рады БНР, мне заўсёды імпанавала Вашая лёгіка, цьвярозы й рэалістычны падыход да разьвязкі часам цяжкіх й завікланых беларускіх нацыянальных праблемаў.

---

319 Маецца на ўвазе **Беларуская самаахова**, або **Беларускі корпус самааховы** — ваенізаванае фармаванне на тэрыторыі Генеральнай акругі Беларусь. Афіцэрскія курсы БКС адбываліся ў Мінску ў 1942 г.

А ў часе перарываў працоўных сэсыяў прыемна пачуць ад Вас добры жарт, каб трохі разьвесяліцца й «разпружыцца».

У Імяні Беларускіх Вэтэранаў шчыра дзякую Вам за настаўніцкую й нацыянальна-духовую апеку над быўшымі беларускімі вайскавікамі і жадаю Вам поўнай фізычнай і ўмысловай моцы й здольнасьці для далейшай працы для дабра Нашага Народу й Бацькаўшчыны.

З пашанай й найлепшымі пажаданьнямі

*Гэн. Др. Язэп Сажыч*
*Сакратар да Спраў Вэтэранаў.*

## Лісты да Янкі Запрудніка

*

*9-га травеня 1987 г.*

Вельмі Паважаны Сп. Рэдактар і Дарагі Сябра.

Перасылаю даволі абшырны артыкул з надзеяю, што зьмесьціцё яго ў травеньскім нумары «Беларуса» безь вялікіх абрэзкаў, але, бязумоўна, з пажаданымі папраўкамі ў мове ці выражэньнях.

Арыгінальна напісаў шмат больш, але перапісваючы на машынцы, стараўся скарочвацца, хоць шмат аб чым на гэтую тэму хацелася яшчэ сказаць. Ня ў сілах і ня ў час ужо дапісваць пра характарыстыку Ўладыкі Мікалая, аб чым Вы ўспаміналі мне, але, думаю, дастаткова сказана на гэтую тэму ў залучаным рэпартажы.

Пра справы закалоту ў нашай Царкве даўно ўжо наракаюць нашы грамадзяне, асабліва з далейшых краін, што нічога ня пішацца ці выясьняецца ў газэце «Беларус», а толькі чуюцца аднабаковыя паклёпы з іншых крыніц. Таму ўважаю, што пры нагодзе паданьня кароткай гісторыі нашай Парафіі ёсьць аказія высказаць некалькі праўдзівых фактаў пра гэтыя непаразуменьні, якія будуць для многіх, не арыентуючыхся ў сытуацыі, чытачоў цікавым матэрыялам, а Рэдакцыя не патрабуе браць адказнасьці за зьмест рэпартажу з парафіі.

Падпісаць гэты артыкул не саромеўся-б поўнасьцю сваім прозьвішчам, але ў сувязі з маім становішчам не выпадае, дык хай будзе «парафіянін» або штосьць другое, калі-б прышло на думку.

З падзякаю наперад і пашанаю да Вас:

*Я. С.*

### *20-я ўгодкі парафіі Сьв. Духа ў Дэтройце, штату Мічыган*

*Час хутка мінае ў нашым асабістым, сямейным, грамадзкім і царкоўным жыцьці. Тымчасам «наймалодшая сястра» ў сям'і БАПЦ, Парафія Сьв. Духа ў Дэтройце, асягнула ўжо 20 гадоў свайго існаваньня.*

*14-травеня 1967 году сьв. пам. Архіяпіскап Васіль так пісаў да нас: «Сьвятая Царква Хрыстовая — гэта аснова Царства Божага на зямлі, таму кожная нашая парафія гэта цаглінка ў будове Яго. Вось чаму й Вашая новая Парафія нашае Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Дэтройце мілая нашаму Пастырначальніку Госпаду Богу й Спасу Ісусу Хрысту, бо яна будзе служыць на славу Яму і на дабро й радасьць Вам, нам усім і нашаму шматпакутнаму й Вялікаму Беларускаму Народу. Дзеля гэтага Мы, як Ваш правячы Япіскап, зь вялікаю радасьцю хвалім гэты Ваш слаўны чын і Багаслаўляем Вашую Парафію і зацьвярджаем Вашую Хвальную Царкоўную Раду. З малітваю й любоўю ў Госпадзе — Ваш Архіяпіскап Васіль».*

*Успомнілі гэтыя словы сьв. пам. Арх. Васіля дзеля памяткі, як прыгожа і ўзьнёсла Ён умеў пісаць і гаварыць казаньні й каб падкрэсьліць важнасьць гэтае падзеі. Нялёгкая была «маладасьць» і разьвіцьцё гэтае Парафіі, і ў даволі цяжкой сытуацыі знаходзіцца Яна ў сяньняшні час з прычыны судовых нападаў з боку псыхічна-амбітна хворай групкі «самазванчай царкоўнай улады», якая намагаецца сілаю загарнуць гэтую Парафію пад сваю ўладу, што пагражала-б далейшаму існаваньню Яе. Успомнім некалькі эпізодаў з разьвіцьця й працы гэтай парафіі.*

*Арганізавалі Яе ня больш як тузін сяброў. Назвалі імём Сьв. Духа, з думкай, што паводля Сьв. Пісаньня, калі Дух Сьвяты зышоў на Апосталаў, то Яны пачалі прапаведаваць навуку Хрыстову на ўсіх языках, таму й нашая беларуская мова ў маленьнях і навучэньнях будзе ўжывацца ў гэтай Сьвятыні.*

*Спачатку зьбіраліся й маліліся ў прыватных дамох парафіі, нанімалі й меркаваліся з суседняй украінскай царквою, аж пакуль ня здабыліся на куплю свайго храму ў 1971 годзе.*

*Усё гэта асягнулася дзякуючы настойлівасьці і ахвярнасьці нашых хоць нялічных сяброў і асабліва дзякуючы пасьвячэньню айца Міхася Мацукевіча, потым Архімандрыта й далей Япіскапа Мікалая, які быў багаслоўлены й высьвячаны на гэтыя становішчы Архіяпіскапам Васілём і зьяўляецца сапраўдным Ягоным наступнікам.*

*Уладыка Мікалай ніколі не шкадаваў сваіх трудоў і выдаткаў і заўсёды быў гатовы прыехаць з далёкага Таронта (Канады) ці сваёю машынаю, ці аўтабусам у цяжкія зімовыя варункі, каб абслугоўваць нашую Парафію, пакуль не здабылі мы свайго настаяцеля. Парафія Сьв. Духа была першай ініцыятаркай выпісаць сьвятара Беларуса зь Беласточчыны. Пасьля доўгіх перапіскаў і стараньняў у эміграцыйных уладаў прыехаў у Дэтройт айцец Хведар Васілюк з матушкаю ды чацьвёра малых дзяцей. Мы сумелі абясьпечыць гэтую сямейку добрай кватэрай, а таксама, апрача малое месячнае аплаты ад парафіі, знайсьці даволі лёгкую й выгадную на гадзіны працу.*

*Пачалося энтузыястычнае і ўзмоцненае жыцьцё ў парафіі, і здавалася, лепш не магло-б быць, як на нашыя сілы. На жаль, а. Хведар, крыху абжыўшысь і навязаўшы знаёмасьць з другімі сьвятарамі, і, магчыма, пад іх уплывам, пачаў дамагацца, каб не працаваць фізычна, а каб парафія нашая давала яму аплату на поўнае ўтрыманьне немалое сямейкі, пагражаючы*

*нават судзіць нашую парафію за «невыкананьне эміграцыйных забавязаньняў». Прышлося прасіць Уладыку Мікалая, каб зьняў а. Васілюка з настаяцельства нашай парафіі. Архп. Мікалай ня толькі выканаў нашую просьбу, але, знайшоўшы сабе заступства для парафіі ў Таронта, пераехаў часова ў Дэтройт, каб не дапусьціць да заняпаду нашай парафіі з надзеяй таксама прыгатаваць і навучыць кагось з нашых парафіян на сьвятара.*

*У міжчасе ўдалося ўгаварыць сп-ра Максіма Таўпеку*[320] *з Канады на высьвячэньне і абслугоўваньне пар. Сьв. Духа. Ізноў наступіў уздым у нашай Парафіі ўключна зь вельмі ўрачыстым высьвячэньнем Архіяпіскапам Мікалаям сп-ра Бруцкага на сьвятара ў нашым храме, зь вялікімі надзеямі, што гэтым чынам ўзмацнее цэлая БАПЦ. Аднак, на жаль, сталася так, што гэта быў паваротны пункт у дрэнным кірунку ў існаваньні нашай Парафіі.*

*Калі мы ў Дэтройце мелі часова аж двух сьвятароў, Уладыка Андрэй, які занямог фізычна, зьвярнуўся да Ўправы нашай парафіі, каб адпусьцілі аднаго сьвятара часова абслугоўваць Парафію Жыровіцкай Божай Мацеры ў Клівэляндзе. Мы прапанавалі нававысьвечанага айца Бруцкага туды, які меў-бы нагоду побач з Уладыкаю ды Протадзіяканам набыць там дасьведчаньне. Аднак Кліўляндзкія Парафіяне жадалі лепш айца Максіма, на што мы, не спадзяючыся на нічога дрэннага, згадзіліся.*

*У Дэтройце часова служыў а. Бруцкі, а ў Клівэляндзе а. Таўпека. Але паводле дагавору й плянаваньня ў часе высьвячэньня айца Бруцкага ён у канцы году выехаў у Гайлянд-Парк, каб паступіць у Ўкраінскую Духоўную Сэмінарыю дзеля далейшай духовай асьветы. Была ў той час таксама ідэя набыць маёмасьць у Нью-Джэрзі на збудаваньне нашага беларускага царкоўнага Цэнтру. З гэтай мэтай Парафія Сьв. Духа паслала ў Кансысторыю на рукі сп. М. Войтанкі*[321] *ахвяру ў дзесяць тысяч даляраў, і да сяньняшняга часу ня ведаем, дзе гэтыя грошы падзеліся, бо айцу Максіму заімпанавала мацнейшая парафія ў Клівэляндзе, а айцу Янку таксама багацейшая парафія ў Гайлянд-Парку. Адсюль пачаўся ня толькі недахоп у парафіі Сьв. Духа ў Дэтройце, але й ведамы закалот у БАПЦ.*

*Айцец Бруцкі пад уплывам некалькіх сваіх прыхільнікаў і асабліва сп-ра Міколы Войтанкі задумаў зыпхнуць з настаяцельства ў Гайлянд-Парку айца Аляксандра Яноўскага*[322] *й пераняць у сваю ўладу гэтую парафію, дзе яму было-б выгадней матэрыяльна. Угаварылі хворага і астарэлага*

---

[320] **Максім Таўпека** (02.02.1916–02.02.2005), грамадскі дзеяч, святар. Служыў у Другім Польскім корпусе Арміі Андэрса. У 1946 г. прыбыў у Канаду. У 1970-я гг. быў прызначаны настаяцелем парафіі Св. Духа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Дэтройце (ЗША). 25.04.1983 пакінуў парафію і пасяліўся на ферме Уотэрфорд (Антарыа, Канада).

[321] Маецца на ўвазе Мікола Войтанка.

[322] **Аляксандр Яноўскі** (?–?), рэлігійны дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў святаром парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку. Яго пазнейшы перавод у Кліўленд спрычыніўся да далейшага паглыблення крызісу ў БАПЦ.

*Мітрапаліта Андрэя, каб падтрымаў гэты хваравбліва амбітны плян, а дзеля выкананьня гэтага прыйшоў з дапамогаю наш гора-адвакат Валянцін Гарошка ды «экспэрт у кананічных правох» — Манькоўскі. Справа пайшла ў сьвецкі суд: а. Бруцкі супроць а. Яноўскага. Гэта ўжо зусім супроць маралі й законаў царкоўных.*

*На просьбу вялікай бальшыні Парафіянаў з Гайлянд-Парку парафію гэтую пераняў пад сваю духовую апеку часова Архіяпіскап Мікалай, які дазволіў а. Яноўскаму далей служыць там. За гэты час хутка й таемна (падобна як і япіскап Андрэй) нававысьвечаны ў украінскай Царкве «япіскап Ізяслаў» «разстрыг» Архіяпіскапа Мікалая, не зважаючы, што гэты-ж Уладыка рукапалагаў Бруцкага ў сьвятары. Мы лічым, што гэта быў «прысуд-насьмешка» не над Уладыкай Мікалаем, а над самім яп. Ізяславам і ягонымі дарадчыкамі.*

*Далей пачаліся сьвецкія суды супроць усіх парафіяў БАПЦ у Амэрыцы й Канадзе, падпісваныя зь невядома якіх прычынаў хворым айцом Кэндышам. Наапошку пашла справа ў суд і супроць Парафіі Сьв. Духа ў Дэтройце, і гэта дзякуючы прыслузе а. Максіма Таўпекі, якому не падабалася, што забралі яго назад у Дэтройт з Кліўлянду, дзе быў высьвечаны й пастаўлены на настаяцеля заслужаны там на царкоўнай ніве а. Протадзіякан Міхась Страпко*[323]*.*

*Тымчасам суд у Дэтройце цягнецца ўжо чатыры гады й каштуе нашай Парафіі шмат грошай, нэрваў і трудоў. У Амэрыцы судзіць кожны, каго хоча й за што хоча, абы знайшоў адваката змайстраваць абвінавачваньне. Але суды гэтыя ня могуць і ня хочуць разьбірацца, чыя ўлада ў царкве, аднак, калі судзяцца за маёмасьць, то яны мусяць разглядаць гэтую справу. Дык вось В. Гарошка і Манькоўскі з багаславеньня яп. Ізяслава, які выказаўся, што калі забярэ парфіяльныя маёмасьці, здабытыя працаю і ахвярнасьцю вернікаў, то ўсе гэтыя вернікі «прыпаўзуць да яго на каленях», бачачы, што сілаю ня змогуць змусіць іх пад сваю ўладу, сфабрыкавалі тэорыю, што ўся маёмасьць царкоўная належыць да т. зв. кансысторыі.*

*Справа нашая адкладаецца ўжо некалькі разоў дэтройцкім судом, які намагаецца паяднаць абодва бакі, пасылаючы да ўсякіх «арбітратараў». З нашага боку і Ўладыка Мікалай гатовы на мірнае паяднаньне, але*

---

[323] **Міхась Страпко** (29.10.1918, Варшава — 25.04.2011, ЗША), рэлігійны дзеяч. Бацькі паходзілі з Драгічыншчыны, бацька служыў паручнікам у царскім войску. У 1922 г. сям'я вярнулася на радзіму бацькоў, а пасля перабралася на Пружаншчыну. Скончыў шэсць класаў у Пружане. У 1940 г. быў мабілізаваны ў Чырвоную армію. Трапіў у нямецкі палон і ўтрымліваўся ў Фінляндыі і Нарвегіі. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, жыў у беларускім лагеры *DP* у Остргофене. Пазней выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлендзе. Быў актыўным удзельнікам жыцця БАПЦ, адным з будаўнікоў «старой» царквы ў Кліўлендзе. У 1967 г. быў высвячаны на святара. У 1982–1999 гг. быў настаяцелем царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе. Актывіст Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлендскага аддзела арганізацыі.

*напастнікі ніяк ня хочуць пагадзіцца, цьвердзячы, што «кроме Ізяслава іного не знают».*

*На апошнім спатканьні ў судзе ў Дэтройце з нашага боку быў Уладыка Мікалай, старшыня Парафіяльнай Рады і сакратар, якога авантурнікі судзяць асабіста на 30 тысяч з зусім няведамых прычынаў, а з боку судзячых нас прыбыў адзін «упаўнаважаны» Манькоўскі. Чакаючы на выклік у «чэмбэр»*[324] *судзьдзі, наш старшыня зьвярнуўся да сп-ра Манькоўскага са славамі: «дакуль-жа будзем цягацца па сьвецкіх судох — гэта-ж каштуе шмат і вам, і нам, а ёсьць магчымасьць і пара ўжо палагодзіць справу між сабою дзеля дабра нашае царквы й наагул беларускае справы», а Манькоўскі, узбураны, у адказ заяўляе: «Ня можа быць ніякага пагадненьня, пакуль гэты "нягоднік", паказваючы на Ўладыку Мікалая, ня будзе ўмешвацца ў вашую парафію». Дык якое-ж «умешваньне», калі Ўладыка ад самага пачатку памагаў арганізаваць і апякаваўся нашаю Парафіяю і як можна называць такім непрызватым словам нашага Архіяпіскапа. Гэта сьведчыць аб умысловым стане «галоўнага ўпаўнаважанага» ад т. зв. кансысторыі.*

*Паўстае пытаньне: а дзе-ж наш грамадзкі суд? Сп-ры Гарошкі й Манькоўскія павінны прайсьці ў гісторыю нашага грамадзтва на эміграцыі як вялікія шкоднікі й разьбівальнікі нашага царкоўнага й грамадзкага жыцьця.*

*Парафіянін з Дэтройту*

*

*25 студзеня 1989 г.*

Дарагі й Паважаны Сябра.

У сувязі з дрэнна наладжанаю камунікацыяю, у мяне выходзяць часам непаразуменьні. Вось толькі ўчора (23-га студзеня) атрымаў кароткі ліст (перасланы мне сюды дачкою) ад Пана Рудніцкага[325] з паведамленьнем, што іхняя X Сэсія УНРады адложана на 19–22 травеня 1989 г.

Дык вось, званіў і трывожыў Вас, каб памаглі мне ў гэтай справе — беспатрэбна. Спадзяюся, што там даведаліся аб дэталях гэтай імпрэзы й не марнавалі часу. Прашу выбачэньня за непаразуменьне.

Цікава, што пасьля тога, як званіў да Цябе, папала мне ў рукі ўкраінская газэта «Свобода»[326], у якой прачытаў, што склікаецца Сэсія УНРады ў травені 1989, дык падумаў: дзе-ж тут праўда? аж пакуль выясьнілася зь ліста ад іх. У гэтым нумары «Свободы» (за Jan. 17/89) успамінаюць пра маё выступленьне з прывітаньнем на ўрачыстым сьвяткаваньні тут у Флёрыдзе «тысячагодзьдзя хрысьціянства». 22-га студзеня прымаў таксама тут удзел

[324] ***Chamber*** (англ.) — тут: кабінет.

[325] Магчыма, маецца на ўвазе **Леанід Рудніцкі** (укр. *Леонід Рудницький,* нар. 1935), даследчык-філолаг, славіст, украініст, германіст, грамадскі дзеяч. У 1985–1986, 1989–1990 гг. — старшыня Міжнароднага таварыства імя І. Франко ў ЗША, у 1992–2006 гг. — прэзідэнт Сусветнай Рады Навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі.

[326] **«Свобода»** — украінская газета ў ЗША. Выходзіць ад 1893 г.

у сьвяткаваньні іхняе «самостійносьці». Меў запросіны на гэта і ў Дэтройце з «complimentary tickets»[327], але перадаў гэта Плескачу[328], каб нас рэпрэзэнтаваў. Тут у Флёрыдзе даволі цікавае «сусьпільство» ўкраінскае. Пераважна «senior citizens»[329] з усяе Амэрыкі й Канады, і то ўсякіе знамянітые асобы зь іхняга палітычнага й культурнага жыцьця, і даволі актыўныя, арганізуючыя ўсякія імпрэзы.

Прапануюць мне калісь сабрацца асобна й каб я прачытаў ім даклад пра Беларусь для лепшага азнаямленьня іх з нашай гісторыяй і сучаснай сытуацыяй. Можа, змаглі-б мне падаслаць кароткі й зьмястоўны матэрыял на гэтую тэму, дык быў-бы вельмі ўдзячны.

Час праходзіць тут даволі хутка пры цудоўнай пагодзе. Пляную адведаць з Трусэвічам[330] др. Грабінскага[331], а магчыма й Міколу Шчорса[332], які пасяліўся ў Флёрыдзе.

Чуў ад Шуста[333], што ён спадзяецца Цябе на вясельлі ягонай дачкі, 11-га сакавіка. Дык, магчыма, спаткаемся там у Лёндане[334] пры гэтай нагодзе, бо мне прыходзіцца прысутнічаць як хрэснаму бацьку маладой Барбары. Пляную прабыць у Флёрыдзе цэлы месяц люты, а ў пачатку сакавіка прыдзецца перабрацца на нейкі час на «старую базу». Прапаную, калі-б змог пазволіць сабе на якісь тыдзень зімовых вакацыяў (у лютым або пазьней у красавіку), дык шчыра запрашаю да сябе ў Флёрыду пагрэцца й пакупацца ў Mexican gulf[335] або ў «калабані», як украінцы называюць тут мінэральнае возера са сталай цёплай вадой (80º)[336], а ад мяне можна пяшком дайсьці. Многія вераць, што памагае гэта на артрыт ці рэўматызм, купаючысь там. Плянуючы раней і заказаўшы білет месяц наперад, можна за «дзяшоўку» прыляцець самалётам на аэрапорт у Sarasota[337] (30 міль ад мяне адлеглы), адкуль я змог-бы

---

[327] ***Complimentary tickets*** (англ.) — бясплатныя квіткі.

[328] Маецца на ўвазе Васіль Пляскач.

[329] ***Senior citizens*** (англ.) — пажылыя грамадзяне.

[330] Маецца на ўвазе Лявон Трусевіч.

[331] Маецца на ўвазе Баляслаў Грабінскі.

[332] **Мікола Шчорс** (1913–1995) ад 1949 г. жыў у ЗША. У 1950–1951 гг. узначальваў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт. Ініцыятар стварэння Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, яго першы старшыня (1951–1955). У 1955 г. падаў у адстаўку з пасады старшыні. Быў адным са стваральнікаў Камітэта незалежнай Беларусі. У 1958 г. — адзін са стваральнікаў Беларуска-амерыканскага звяза. Напрыканцы 1950-х гг. адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці, выехаў у Пляцбург (штат Нью-Ёрк), дзе меў клініку. З'яўляўся віцэ-прэзідэнтам Амерыканскай асацыяцыі хірургаў. Пасля выхаду на пенсію пераехаў у Фларыду.

[333] Маецца на ўвазе Мікола Шуст.

[334] Маецца на ўвазе Лондан у правінцыі Антарыа (Канада).

[335] ***Mexican gulf*** (англ.) — Мексіканская затока.

[336] Паводле Фарэнгейта.

[337] **Сарасота** — горад і цэнтр акругі ў штаце Фларыда на беразе Мексіканскай затокі.

забраць машынаю й мелі-б «good time»[338], хоць па-халасьцяцку, але ў даволі выгоднай кватэры. Дык падумай і напішы мне, ці магчыма гэта зрэалізаваць.

«Бамбяць» мяне Лашукі й падобныя, што дасюль ня маюць пратаколу апошняй Сэсіі Рады. Буду прасіць сп-ра Тулейку, каб прыслаў мне хоць скарот гэтага пратаколу (сп. Шукелайць, як заўсёды, вельмі заняты), а магчыма, у форме Камунікатаў пастараюся даць справаздачу з гэтай Сэсіі й пару іншых паведамленьняў і разаслаць Радным у сакавіковым нумары «Камунікатаў», калі ўдасцца мне гэта апрацаваць. Бяда, што ўсе пішуць і выдаюць свае пісулькі, а мне цяжка аднаму хоць раз на поўгода апублікаваць, што яшчэ жывём і нешта чаўпём. Старасьць ня радасьць, ужо няма таго імпэту.

З прывітаньнем і найлепшымі пажаданьнямі

*Язэп С.*

*

*18-га красавіка 1989 г.*

Вельмі Паважаны Сп. Запруднік

Пры апошніх спатканьнях з Вамі мне прыпамінаецца, што Вы інфармавалі мяне, што напісалі й выслалі прывітаньне ад Прызыдыюму Рады БНР да ўкраінцаў з нагоды іхняй Х-ай Сэсіі Рады УНР, якая не адбылася ў студзені, як плянавалася, а мае адбыцца ў палавіне травеня г. г. Маю надзею, што ў Вас асталася копія гэтага прывітаньня, дык, калі так, ветліва прасіў-бы Вас прыслаць мне гэтае прывітаньне ў незадоўгім часе.

Прабываю цяпер ізноў на Флёрыдзе дзесь да пачатку травеня. Яшчэ ўсё пабольвае калена, на якое меў апэрацыю ў Дэтройце якраз у часе сьвяткаваньня «25-га» ў Чыкаго й Кліўляндзе, дык ня змог прысутнічаць нігдзе.

З найлепшымі пажаданьнямі

*Я. Сажыч.*

P. S. У No. 11 за March 16/89 укр. газэты «Народна Воля»[339] на першай балонцы прачытаў рэпартаж кароткі аб хіратоніі новага ўкраінскага япіскапа Паісія[340]. Але цікава, што пішуць: *«Наречення і хіротонію очолив Митрополит Мстислав*[341]*, у сослуженні з Митрополитом Із'яславом, Первоерархом Білоруськоі Православноі Церкви у вільному світі»*. Хацелася-б зарэагаваць, напісаць у гэтую рэдакцыю газэты або дзе інш., адкуль яны ўзялі, што Ізяслаў ёсьць «Первоерархом» БАПЦ і каго ён прадстаўляе, за выняткам,

---

[338] ***Good time*** (англ.) — Добры час.

[339] **«Народна Воля»** — украінская газета, што выдаецца ў ЗША ад 1911 г.

[340] **Паісій** (свецк. **Васіль Івашчук**, 1913–1998), украінскі рэлігійны дзеяч. У 1989 г. быў высвячаны на епіскапа Курытыбскага і Паўднёваамерыканскага Украінскай праваслаўнай царквы.

[341] **Мсціслаў** (свецк. **Сцяпан Скрыпнік**, 1898–1993), украінскі рэлігійны дзеяч, мітрапаліт, у 1971–1993 гг. — кіраўнік Украінскай праваслаўнай царквы ў ЗША.

што 26-га сакавіка прыяжджаў гэты «першаерарх» са сваёю клікаю (якую я назваў «культ») у Дэтройт, каб адабраць маёмасьць парафіі Сьв. Духа й закрыць гэты наш царкоўна-грамадзкі асяродак. Калісь гаварыў асабіста з Мсьціславам і прасіў яго, каб уплыў на Бруцкага пакінуць суды сьвецкія. А той, паднэрвованы, адказаў мне, што нічога больш супольнага з Бруцкім ня мае, а вось цяпер відавочна, што «сьведама» падтрымоўвае «павагу Ізяслава», каб шкодзіць нашай БАПЦ.

*Я. С.*

*

*15-га травеня 89 г.*

Вельмі Паважаны Сп. Запруднік.

Шчыра дзякую за перасланы мне матэрыял і газэту «Беларус», што атрымаў якраз у апошні дзень майго прабываньня ў Флёрыдзе. Узаўтра пляную выбірацца на «старую базу», г. зн. у Мічыган, дзе прабуду лета. Тут робіцца загорача (кожны дзень каля 90ºF), а там якраз пачынаецца вясна, але бяда, што чакае там шмат працы й каля гаспадаркі й чытаньня й пісаніны (балаган у «канцылярыі»). Нядаўна напісаў ліста да Скарбніка нашага сп-ра Кажана ў справе асыгнацыі пару тысяч з Касы Рады БНР на пакрыцьцё вялікіх выдаткаў гуртка «Васілёк» з Арганізацыі Беларускай Моладзі, ад якой атрымаў афіцыяльны ліст з просьбай фінансавай дапамогі ім у сувязі з паездкай у Беласточчыну. Думаю, што належыцца іх падтрымаць ня толькі маральна, але й матэрыяльна, таму што яны будуць добра рэпрэзэнтаваць Беларусаў з Амэрыкі, навязваць лучнасьць з нашымі людзьмі там, асабліва з моладзьдзю, дзейнічаючы як-бы нашымі «амбасадарамі», а да таго ўдзел у гэтым прымаюць пару маладых сябраў Рады БНР.

Украінцы тут усё адкладаюць сваё паседжаньне Х-ай Сэсіі Рады УНР (відаць, паважна дагаворваюцца са сваімі партыямі). Меў паведамленьне, што Сэсія была адложаная на сярэдзіну травеня, а цяпер зь іхняй газэты даведваюся, што мае гэта адбыцца ў палавіне чэрвеня. Калі ізноў прышлюць мне запросіны, то, магчыма, паеду ў Бонд-Брук асабіста іх прывітаць. Толькі вельмі добра было-б, каб хтось з Прэзыдыюму змог са мною быць там для «асысты».

Матэрыялу для чытаньня, што прыслалі, хопіць мне мусіць на цэлы тыдзень, бо вельмі павольны ў чытаньні й праблема, як на гэта рэагаваць. Сапраўды цяжка самому часам штось паважнага дэцыдаваць, ня маючы пад рукой адпаведнага дарадчыка або сакратара. Вось да гэтага часу немагчыма падабраць Сакратара да Спраў вонкавых дачыненьняў (каб хтось адпаведны згадзіўся). У практыцы Вы там выконваеце ў вялікай меры гэтую функцыю, але-ж патрэба было-б мець афіцыяльна «міністра» ці «амбасадара». Абсэрвуючы «Дзяржаўны Цэнтар» УНРу, дык там сапраўды маюць вялікі апарат і фонд.

Вельмі прыемна правёў тыдзень, маючы госьця, якога Вы там (Шукелайць) парэкамэндавалі, — Зіна Т.[342] вельмі інтэлігэнтная мілая жанчына й шчырая беларуска, дык гадзінамі адбывалі разгаворы, маючы супольныя зацікаўленьні. Удалося наведаць нават дактароў Грабінскага, М. Шчорса й Трусэвіча, а там ужо разгаворам ня было канца, і, відаць, шмат матарыялу (хоць на памяць) сабрала ад Шчорса й Грабінскага, які завязе свайму «Туронку»[343], як яна свайго мужа заве. Вельмі любіць ваду акіянскую і амаль кажны дзень езьдзілі паплаваць, а яна бегаць уздоўж вады, чуючыся, як моладзь. А трэба было адведаць і *Disney World*[344], і іншыя атракцыі. Чулася вельмі задаволенай і шчасьлівай, што змагла пабачыць Флёрыду, а мне прыемна было, што крыху ў гэтым дапамог ёй.

Вось крыху і аб асабістых перажываньнях з надзеяю, што ня зойме Вам багата часу чытаць гэта.

З падзякаю й найлепшымі пажаданьнямі

*Язэп Сажыч.*

*

*27 чэрвеня 1997 г.*

Шаноўныя сп-ва Запруднікі.

Атрымаўшы ад Вас «заклік», сьпяшу не адкладаць і не забыцца рэагаваць на гэта. Перасылаю чэк на суму 100 дал. на выдавецтва кніжкі пропаведзяў айца Канстанціна Бандарука[345]. На жаль, ня ў сілах фінансава больш ахвяраваць на гэтую вельмі карысную справу, бо ўжо 15 гадоў жыву на *Social Security*[346] і скромных ашчаднасьцях. Айца Канстанціна пропаведзь чуў у Клівэляндзе і часам лаўлю на радыё «Свабода». Маім вялікім жаданьнем й

---

342 Маецца на ўвазе **Зінаіда Туронак**, жонка гісторыка Юрыя Туронка.

343 **Юры Туронак** (нар. 1929), гісторык, доктар гістарычных навук. Жыве ў Польшчы. Даследчык гісторыі Беларусі, аўтар кніг «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», «Людзі СБМ» і інш.

344 Маецца на ўвазе ***The Walt Disney World Resort*** — знакаміты забаўляльны цэнтр Уолта Дыснея на возеры Бэй у Фларыдзе.

345 **Канстанцін Бандарук** (нар. 11.09.1953, в. Астравок на Сакольшчыне), рэлігійны дзеяч, магістр тэалогіі, пісьменнік, журналіст. Скончыў духоўную семінарыю і тэалагічную акадэмію ў Варшаве. У 1970 г. дэбютаваў на старонках беларускага тыднёвіка «Ніва» (Беласток). Сябра літаратурнага аб’яднання «Белавежа». Працаваў журналістам у польскамоўным «Тыднёвіку Падляскім». У 1977 г. ажаніўся і прыняў святарскі сан. Служыў у храмах Польшчы і Амерыкі. Аўтар некалькіх сотняў абразоў і карцінаў; выдаў манаграфіі праваслаўных епархій у Польшчы, падручнікі Закону Божага і зборнікі казанняў. Тут маецца на ўвазе кніга: Бандарук, Канстанцін. Праўда вас вызваліць. Беласток – Прага – Саўт-Рывер, 1997. — 208 с.

346 ***Social Security*** (англ.) — сацыяльнае забеспячэнне.

прапановай ёсьць, каб айцец Канстанцін перайшоў на практычную службу для БАПЦ, асабліва меў на ўвазе пасьвяціцца ў часе патрэбы, калі айцец Міхась Страпко занямножа — абняць Парафію Жыровіцкай Божай Мацеры ў Клівэляндзе, найбольшай нашай Парафіі.

Выбачайце, што пры нагодзе зьвярнуся з «заклікам» да паважанага Сябры Янкі Запрудніка. Некалькі разоў пробаваў званіць, але няўсьпешна. Дарагі сп. Запруднік. Маю надзею дажыць да Сэсіі Рады БНР у гэтым годзе ў Нью Джэрзі і спаткаць Вас там асабіста. Як уступаючы Старшыня Рады, паводля Статуту й традыцыі, маю прывілей першы падаць кандыдатуру на сваё месца. Шчыра й сардэчна прашу Вас падумаць і згадзіцца прыняць сваю кандыдатуру для дабра Беларусі. Перажываем гістарычны пераломны мамэнт, і, магчыма, Рада БНР зможа адыграць у гэтым значную ролю.

З майго боку гледжаньня Вы найлепш адпавядалі-б пераняць Старшынства Рады БНР, маючы вялікія заслугі і опыт у ўтрыманьні Рады БНР дагэтуль і пасярэдніцтва паміж старэйшаю эміграцыяй і малодшым пакаленьнем. Да таго маеце вялікія сувязі й пашану з палітыкамі дэмакратычнага сьвету, што будзе карысным у Вашай будучай працы. Маю надзею, што на Вас прыпадзе гістарычная роля перадачы мандатаў Рады БНР для незалежніцкага й дэмакратычнага Ураду Беларусі.

Выбачайце за няўдольную пісаніну «ад рукі».

З пашанаю й найлепшымі пажаданьнямі

*Язэп Сажыч.*

## Лісты да Віталя Кажана

*

*20-га травеня 91 г.*

Вельмі Паважаны Сп. Кажан.

Дзякую за прысланую мне копію справаздачы з Касы Рады. Маю надзею, што на Сэсіі прадыскутуецца й вырашыцца справа нашых фінансаў: куды неабходна трэба асыгнаваць існуючую гатоўку або на што ашчаджаць і зьбіраць на будучыню, каб мець усё-ж свой бюджэт у разе паважнае патрэбы.

Калі-б уладжваліся якісь «цырымоніі» міжнароднай вонкавай палітыкі — хоць-бы для гісторыі ці статыстыкі, то пераканаўшысь, які на гэта маюць бюджэт палякі або ўкраінцы, а нават і летувісы, то нам з нашымі «сумамі» няма куды й паказвацца. Але ня ў колькасьці, а ў якасьці справа, і мы часта ў такі спосаб «выграём». Таксама думаю, што й «фундацыя Крэчэўскага» павінна знаходзіцца ў рамках Касы Рады БНР.

На жаль, на Сэсіях заўсёды «кароткі час», і мала прысьвячаецца часу на разгляд гэтых спраў.

Вельмі важна выбраць добрага Старшыню Сэсіі, а асабліва добрых Сакратароў, якія-б неадкладна апрацавалі Пратакол Сэсіі й разаслалі прынамсі ў Сэктары, бо апошнія Сэсіі былі пад гэтым паглядам занядбаныя.

Маю надзею, што зьбярэцца адпаведнае кворум Сэсіі, бо з далёкіх краін прысылаюць ўпаўнаважаньні, але прынамся каб пад'ехалі з Кліўлянду ды з Чыкаго, а ня толькі зь Нью-Ёрку й ваколіц.

У справе «заяваў і рэкамэндацыяй» ў сябры Рады БНР, то такіх фактычна ў мяне няма, а толькі ёсьць «прысягі», ды й гэтых, на жаль, з сабою не захапіў. Знаходжуся цяпер у Флёрыдзе і адгэтуль пляную прыляцець адразу ў Нью Ёрк 24-га травеня. Затрымаюся ў сп-ра Мерляка, які абяцаў забраць мяне зь «Ля Гвардыі»[347]. Ніхто іншы ніколі не прапанаваў мне свае гасьціннасьці, а начаваць у гатэлі каля Нью Ёрку — вельмі каштоўная справа ды ня выгадная ў сэньсе адзіноцтва ці транспартацыі.

Дык, думаю, сп-ру Лужынскаму[348], хоць крыху з «адкладам», зарганізуем высылку чагось падобнага, спаткаўшыся ўсе разам. Ветліва прашу Вас перагледзіць і зрабіць сьпісак існуючых Радных, а таксама для помачы мне (сам, каго помню, запісаў) зрабіць лісту адышоўшых у вечнасьць Радных за апошні пэрыяд паміж Сэсіямі, якіх трэба адпаведна ўшанаваць.

Выбачайце за нявыразную пісаніну — на скорую руку, бо ўжо рука ня так гладка ходзіць па паперы, а машынкі з сабою ня маю, дык ня вельмі здольны й з гэтым спраўляцца. Дык, як кажыце, *«калі нічога кепскага ня здарыцца»* (а ў нашым веку кожны дзень усяго можна спадзявацца), то сустрэнемся 25-га травеня з надзеяю, што Сэсія[349] атрымаецца дзелавая й талковая.

З найлепшымі пажаданьнямі й з пашанаю,

*Язэп Сажыч.*

*

*11-га лістапада 92 г.*

Вельмі Паважаны Сп. Кажан,

Дзякую Вам за руплівасьць, што не адкладаючы адгукнуўся на маю прапанову. Ліст ад Вас атрымаў, хоць каштавала гэта Вам падвойнае заботы. Адрас флёрыдзкі быў правідловы, толькі ня ведаю, ці я прапусьціў, ці Вы не заўважылі нумару 211, бо гэта даволі вялікі комплекс (*45 units*). У кожным разе, я цяпер знаходжуся на «старой базе», на жаль, зарана прышлося сюды вярнуцца зь цяпла ў холад, і ўжо ўсьпеў захапіць даволі паскудную «прастуду», якую ў старэйшым веку нялёгка зваёўваць.

---

[347] Аэрапорт **Ла Гуардыя** (англ. *LaGuardia Airport*) — аэрапорт у паўночнай частцы Куінса ў Нью-Ёрку.

[348] **Міхась Лужынскі** (1926–2011) жыў у Сіднэі (Аўстралія). Быў сакратаром Беларускага культурна-грамадскага клуба, а ў 1982–1986 і 1988–2011 гг.— яго старшыня. Ад 1976 г. быў сябрам Беларускага радыёвага камітэта, а ад 1983 г. на працягу дзесяцігоддзя быў фактычна адзіным стваральнікам беларускіх радыёпраграмаў у Сіднэі. У 1976–1980 гг. — сакратар Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі.

[349] Маецца на ўвазе 20-я сесія Рады БНР.

У міжчасе я разаслаў «паведамленьні» (падобныя, якое Вы атрымалі) ня толькі амаль усім актыўным Радным з ваколіцаў Нью Ёрку й Нью Джэрзі, але й да ўсіх сэктараў Рады (да ведама). Спадзяюся, што на гэтае паседжаньне зьбярэцца большая колькасьць радных, а далейшыя, магчыма, прышлюць свае прапановы пісьмова. Будзе, напэўна, прысутны др. Б. Рагуля і яшчэ хтось з Канады, магчыма, і з Клівэлянду, дык будзе магчымасьць з кім гаварыць і дыскутаваць. А тэмай (заданьнем) гэтага паседжаньня і ёсьць *«заняцьцё становішча Рады БНР да апошніх падзеяў у Беларусі»* (бо да мяне наплываюць усякія прапановы), але не вырашэньне аб *«перадачы паўнамоцтваў ці ліквідацыі Рады БНР»*, аб гэтым мусіць вырашыць Сэсія Рады БНР. Буду прапанаваць на паседжаньні, каб заплянаваць і добра падгатаваць скліканьне надзвычайнай юбілейнай Сэсіі на 25-га Сакавіка 1993 г. Магчыма, да гэтага часу зойдуць зьмены ў сытуацыі на Беларусі (на лепшае або й на горшае).

У часе Сустрэчы пазнаёміўся з В. Трыгубовіч[350], але ня меў паважных размоваў і артыкулу яе ў ЛіМе не чытаў, бо не атрымоўваю гэтага. Аднак меў прапанову з боку сп. Бураўкіна[351], каб адведаў Беларусь (прыватна) і пры аказіі спаткаўся са сп-ром Шушкевічам, які пераслаў мне сваё прывітаньне. Я абяцаў, што калі буду жыў-здароў — то прыеду на «сусьветную Сустрэчу Беларусаў» у Менску ў 1993 годзе, на якую яшчэ раней запрашаў мяне сп. Лецка[352] — і зноў-жа толькі як госьць, а не «з афіцыяльнымі паўнамоцтвамі». Не сьпяшаў дагэтуль зь якімісь «прывітаньнямі ад Рады БНР», так як, напрыклад, з боку «БЦР» да Вярхоўнага Савету ці Ўраду Беларусі. Але вось цяпер першы раз вырашыў паслаць прывітаньне ад Рады БНР і Вэтэранаў на сьвяткаваньне ўпершыню на Бацькаўшчыне Слуцкага Збройнага Чыну, якое мае адбыцца ў Слуцку 29-га лістапада.

Вельмі добрае ўражаньне зрабіў на мяне сп. П. Краўчанка[353], зь якім меў нагоду шмат аб чым пагаварыць у Нью Джэрзі і потым у Клівэляндзе, а маё

---

[350] **Валянціна Трыгубовіч** (нар. 13.01.1947, Бабруйск, Магілёўская вобл.), мастацтвазнаўца. Скончыла БДУ. Працавала ў рэдакцыях газеты «Голас Радзімы», часопіса «Мастацтва» (у тым ліку загадчыкам аддзела). Сябра Саюза мастакоў Беларусі. У Беларускім народным фронце «Адраджэнне» была старшынёй камісіі па замежных сувязях. Узначальвала Міжнароднае грамадскае аб’яднанне «Беларуская перспектыва».

[351] **Генадзь Бураўкін** (1936–2014), паэт, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. У1990–1993 гг. быў афіцыйным прадстаўніком Беларусі ў ААН.

[352] **Яўген Лецка** (нар. 20.04.1944, в. Пабрэззе, Наваградскі раён Гродзенскай вобл.), пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, кандыдат філалалагічных навук. Скончыў БДУ. Ад 1971 г. працаваў у Інстытуце літаратуры АН Беларусі, ад 1986 г. — у выдавецтве «Мастацкая літаратура», ад 1997 г. — дырэктар выдавецтва «Бацькаўшчына». У 1989–1990 гг. быў старшынёй аргкамітэта, а ў 1990–1993 гг. — старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

[353] **Пётра Краўчанка** (нар. 13.08.1950, Смалявічы, Мінская вобл.), палітык, дыпламат, кандыдат гістарычных навук. Скончыў БДУ. У 1985–1990 гг. быў сакратаром Мінскага гарадскога камітэта КПБ. У 1990–1994 гг. — міністр замежных

ўражаньне было, што ён даволі шчыра гаварыў, а, па-другое, мае добрую галаву («разумніцу»).

Бязумоўна, як пішаце, рэальна на большы прыбытак у Касу ня трэба спадзявацца, было-б добра, каб разумна выкарыстаць тое, што маем. Што да маіх быўшых супрацоўнікаў Плескача ці Трусэвіча, дык агульная праблема: «старасьць», больш гавораць аб сваіх хваробах ды ўспамінах. Маю лучнасьць зь імі, але аднастароньнюю, г. зн. калі сам пазваню ці заеду спаткацца, ня выключаная й пэўная «заздрасьць», хоць сябра.

Купіў ужо білет у Нью Ёрк і прылятаю ў пятніцу 27-га лістапада на *Kennedy Airport*[354] а першай папаўдні. У суботу праймаўся, што ня ўсьпею на паседжаньне. А як заўсёды праблема, дзе затрымацца і як даехаць? Бо не ў маёй натуры і абставінах пазваляць сабе на добрыя гатэлі ці таксі. Назад адлятаю ў панядзелак. Пры аказіі хачу ўзяць удзел ў сьвяткаваньні Слуцкага Паўстаньня ў Ню Брансьвіку ў нядзелю 29-га на просьбу Гутырчыка[355].

З пашанаю,

*Я. Сажыч.*

*

*25-га студзеня 1993 г.*

Вельмі Паважаны Спадар Кажан,

Сяньня 25-га студзеня, атрымаўшы Ваш ліст за 15-га студзеня, стараюся адпісаць, не адкладаваючы, некалькі слоў.

Жыву цяпер у Флёрыдзе, і таму пошта даходзіць спозьнена «акружною дарогаю». Атрымоўваю даволі шмат «літэратура» з Бацькаўшчыны, дасыланая мне пачкамі, і хоць запазьненьнем, але даходзяць, так што чытаць матэрыялу хапае, як ЛіМ, «Наша Слова», «Народная Газэта» і іншыя. Шмат пішацца аб «Двумоўі» й падаюцца шматлікія пратэсты й «просьбы» з боку жыхароў Беларусі. Ня ведаю, як на сяньняшні час (актуальна) справа прадстаўляецца й наагул гэтая справа дыскутуецца (а не павінна) у Вярхоўным Савеце. А ўжо абсалютна недапушчальна, каб гэты «праект» паставіўся

спраў Беларусі. У 1995 г. абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XIII склікання. У 1998–2002 гг. — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Японіі.

354 Маецца на ўвазе **Міжнародны аэрапорт імя Джона Кенедзі** (англ. *John F. Kennedy International Airport (JFK)*) — найбуйнейшы міжнародны аэрапорт ЗША, размешчаны ў паўднёва-ўсходняй частцы Нью-Ёрка.

355 **Сяргей Гутырчык** (1923–1993) жыў у Нью-Джэрсі. Ад 1958 г. быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, доўгі час кіраваў Нью-Джэрсійскім аддзелам арганізацыі. Шматгадовы камандзір Нью-Джэрсійскага аддзела Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў. Браў удзел у пабудове Помніка беларускім героям у Іст-Брансвіку. У 1980 г. быў пазбаўлены амерыканскага грамадзянства праз абвінавачанне ў службе ў Калдычаўскім лагеры. Абвінавачанні абвяргаў.

пад галасаваньне, бо тыя «народныя дэпутаты», якія прапануюць «Двумоўе», зьяўляюцца хутчэй *«тайнымі агентамі расейскіх шавіністаў, якія падманным шляхам заручыліся даверам выбаршчыкаў»*. Па-справядліваму, школы й дзяржаўныя ўстановы й друк павінны ўжо былі пераведзеныя на дзяржаўную беларускую мову.

Пытаеце, *«ці мы пачалі ўжо штосьці рабіць на гэтай галіне»*, дык мушу шчыра прызнацца, што жывучы «на аднаселі», без дараднікаў пад рукою й без тэхнічнай помачы, ня ў сілах штось вырашаць. Большасьць сяброў Прэзыдыюму жывуць там паблізу й маюць здольнасьць і годныя права вырашаць і рэдагаваць рэзалюцыі ці пратэсты, калі ўважаюць за гэта патрэбнае ці неабходнае з боку Рады БНР. Бязумоўна, з боку дыяспары: індывідуальна, а асабліва ад розных арганізацыяў ці клюбаў трэба, як кажэце, «пісаць-крычаць», зьбіраць чым больш подпісаў пры высыланьні лістоў у наш Парлямэнт. Таксама — калі-б вырашылі пісаць ад Прэзыдыюму БНР, то павінна падпісацца як найбольш сяброў.

А тымчасам практычна вось як робіцца ў нашай Радзе БНР. Ані пратаколаў апошніх Сэсіяў, ані пратаколу апошняга Паседжаньня Рады ў лістападзе 92 г. дасюль не апрацавана й не разаслана ў Сэктары Рады, хоць прасіў настойліва на гэтым паседжаньні і прыпамінаў пазьней, каб сакратары гэта зрабілі й падалі Вам рахунак коштаў друку й паштовай перасылкі. Мая фатыга амаль змарнаваная. Прашу Вас, каб пры нагодзе націскалі на гэта сакратару.

Трэба будзе з нагоды юбілейных 75-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка апрацаваць адпаведнае прывітаньне ці «адозву» і ў пару разаслаць у нашыя асяродкі, а магчыма, і на Бацькаўшчыну ад Рады БНР.

Жывецца ў Флёрыдзе лепш для майго здароўя, але ад бяды нікуды не ўцячэш і ніколі няведама, што мае стацца ў наступны дзень. Праяжджаючы на сваёй машыне ў горадзе *Sarasota* па галоўнай вуліцы 4-га студзеня, раптам як зь неба звалілася, што нейкая жанчына, перасякаючы гэтую вуліцу, няпраўна наскочыла на мяне й маю пасажырку, хоць мелі й *«safety belts»* і *«airbag»*[356], а ў абаіх у грудзях яшчэ баліць ад «імпакту»[357]. Машыны яшчэ ня маю, бо правіцца, а кошты направы сем тысяч (новы *92 oldsmobile*[358]). Мала таго — тыдзень пазьней схапіў мяне атак у левай нырцы з кроўю ў мочы, аказаліся каменьні. Дастаўшы на *«emergency»*[359] ў шпіталь у *St. Petersburg*[360], там крыху памаглі, каб каменьні прайшлі праз праходы, стала лягчэй, але

---

356 ***«Safety belts»*** і ***«airbag»*** (англ.) — «рамяні бяспекі» і «падушка бяспекі».

357 ***Impact*** (англ.) — удар.

358 ***Oldsmobile*** (англ.) — марка аўтамабіляў, якая ўпершыню з’явілася ў 1897 г. і большую частку гісторыі належыла карпарацыі «Джэнерал Мотарс».

359 ***Emergency*** (англ.) — машына хуткай дапамогі.

360 ***St. Petersburg*** (англ.) — горад у штаце Фларыда, другі па велічыні горад на беразе затокі Тампа.

вымагаюць далейшага *«follow up»*[361], з чым прыдзецца ехаць на сваю «базу» ў Мічыган, да сваіх лекараў.

Чакаю на гасьцей сваіх сяброў наваградзкіх (30-га студзеня), якія, магчыма, штось парадзяць і памогуць асабіста і ў грамадзкіх справах, бо сам у полі не ваяка. Дык вось, *«дзень пражыў і дзякуй Богу»*, але на духу не падаем (хаця катастрофа крыху й псыхічна прыбіла).

Дзякую за памяць, лучнасьць і прапановы.

З пашанаю,

*Язэп Сажыч.*

*

*15-га травеня 93 г.*

Паважаны Спадар Кажан.

У пэўнай меры пачуваюся да абавязку напісаць Вам некалькі слоў інфармацыі пра сваё падарожжа ў Беларусь і падзякаваць за своечасовае прысланьне фінансавай дапамогі, якую ў большасьці выкарыстаў на ахвяры для адраджэнскіх арганізацыяў, каб ня толькі даць маральную падтрымку ім, але й хоць скромную матэрыяльную.

Перадаў сто даляраў сп. Юрку Рагулі, які фактычна цяпер займаецца вытворчасьцю й распаўсюджваньнем мастацкіх вырабаў — керамічных ці іншых, а менш распаўсюджваньнем «Навінаў»[362]. Некалькі сотняў для БНФ на рамонт новага памяшчэньня, якое атрымалі, і на выдавецтва «Навінаў». Пару сотняў для ЗБВ (вайскоўцаў), асабліва на іх выдавецтва «Інфармацыйны бюлетэнь ЗБВ — Служым Айчыне». Маючы нагоду прысутнічаць на ўрачыстасьці пасьвячэньня помніка Луцкевічам у Вільні, прышлося й там на іхнюю арганізацыю ў Літве злажыць сотню, бо фінансава цяжкавата ім у Вільні працаваць для нашай справы, і шмат іншых большых ці меншых кантрыбуцыяў.

Пісаць трэба было-б шмат, бо абяцаў некаторым, што прасілі, ды й тут нейкае «фармальнае» асьветчаньне выпадала-б апрацаваць, але-ж на гэта трэба мець здольнасьці і энэргію. Думаю, што ў апошнім нумары «Беларуса», хоць кароткая зацемка, але талковая, памагла мне ў выясьненьні для шырэйшае інфармацыі. Асабіста задаволены, што адбыў гэтае падарожжа, хоць і цяжкавата было пры фізычных недамогах і, на жаль, у ня вельмі выгадную пару года, бо надвор’е было халоднае й мокрае, і ўражаньне зь «ляндшафту» — панурае.

Пра «афіцыяльную» маю прысутнасьць у Менску на сьвяткаваньні 75 угодкаў БНР найлепш скажу, як зацытую ўрывак з артыкулаў у прэсе: «Шмат зьмянілася» — *«Для параўнаньня і роздуму дастаткова згадаць пра*

---

[361] ***Follow up*** (англ.) — тут маецца на ўвазе далейшы нагляд і абследаванне.

[362] Маюцца на ўвазе **«Навіны БНФ Адраджэнне»** — газета, орган Беларускага народнага фронту «Адраджэнне», якая выдавалася ў Мінску ў 1988–1994 гг.

*ўрачысты сход у Белдзяржфілармоніі прысутнасьць на ім дзьвюх прыкметных асоб дзяржавы — Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча і Старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча, які спэцыяльна прыляцеў на сьвяткаваньне 75-й гадавіны Акту 25 Сакавіка з Амэрыкі. Праўда, яго сустракалі толькі прадстаўнікі БНФ і патрыятычна настроеная моладзь, але ніхто не чыніў перашкоды. Абодва старшыні, захоўваючы дыпляматыю і тактоўнасьць, выступілі з прамовамі. Абодвых зала вітала стоячы і скандзіруючы "Жыве Беларусь!". Гэта, мяркую, маленькі доказ нашай незалежнасьці й свабоды! Хаця прысутнасьць галавы Ўраду БНР на эміграцыі, як сам Акт 25 Сакавіка для некаторых — гэта костка ў горле. Не бяруся сьцьвярджаць, многа ў нас праціўнікаў БНР ці мала, ведаю адно, што яны ёсьць, таксама, як і ёсьць людзі індыфэрэнтныя»*.

Шмат іншых артыкулаў у многіх газэтах пра гэтую гістарычную падзею. Праз цэлы тыдзень на тэлебачаньні і па радыя гаварылася пра БНР. Залучаю зьнімку прэзыдыюму са сьвяткавальнай залі ў часе маёй прамовы. Таксама са спатканьня зь Філарэтам, чаго ён хацеў і аж два разы спатыкаліся і даволі шчыра дыскутавалі пра беларусізацыю праваслаўнай царквы. Меў цікавае спатканьне праз тры гадзіны з Васілём Быкавым ў яго кватэры. Але асабліва цікавае й прыемнае для мяне было два разы спатканьне зь беларускімі важнымі афіцэрамі, сябрамі ЗБВ, як палкоўнік Статкевіч[363], Кулеш[364] і іншымі. Шмат цікавых рэчаў ад іх даведаўся пра «Беларускае Войска» і іхнае адважнае і энэргічнае змаганьне за беларусізацыю гэтага войска. У адным мамэньце, шчыра дзелячысь інфармацыяй, спытаў іх: *«Хлопцы, ці Вы прызнаеце мой "сымбалічны" чын генэрала?»*. Яны ўсталі на зважай, адсалютавалі й заявілі: *«Точна — ёсьць, спадар Генэрал — мы гардзімся Вамі»*, і ўсе пажалі рукі.

Шмат іншых спатканьняў, выступленьне проста ў эфір па тэлевізары й па радыя. Але з Урадам меў нагоду спаткацца на банкеце на першы дзень Вялікадня на запросіны Філарэта, але адмовіўся. Толькі з Шушкевічам пажаў руку, будучы разам у Прэзыдыюме на сьвяце.

Адведаў шмат розных гарадоў і ваколіц, і дзякаваць Богу, вярнуўся «ў цэласьці» дадому. Цяпер знаходжуся на Флёрыдзе, крыху аддыхаю.

*Ваш Язэп Сажыч.*

---

363 **Мікола Статкевіч** (нар. 12.08.1956, в. Лядна, Слуцкі раён Мінскай вобл.), палітычны дзеяч, лідар Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), кандыдат у прэзідэнты Беларусі ў 2010 г. Адзін з стваральнікаў грамадскага аб'яднання «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў».

364 Падпалкоўнік **Аляксандр Кулеш** быў старшынёй прэс-цэнтра Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

*

*19-га травеня 1993 г.*

Вельмі Паважаны Спадар Кажан,

Атрымаў Ваш ліст з 10-га травеня 93 г., перасланы мне зь Мічыгану ў Флёрыду, дзе цяпер знаходжуся. У міжчасе напісаў (ад рукі) і выслаў Вам ліст з інфармацыяй аб сваім падарожжы ў Беларусь, дык, відаць, нашы лісты разьмінуліся, таму, каб ня было непаразуменьня, неадкладна адказваю на Ваш ліст.

Вярнуўшыся з падарожжа, адразу скантактаваўся са Спадаром Я. Запруднікам і асабіста спаткаўся з др. Б. Рагуляй, а Вам напісаў ліста, дык у галоўным гэта Прэзыдыюм быў паінфармаваны. Бязумоўна, належалася-б апрацаваць і разаслаць «камунікат» да ўсіх сяброў Рады БНР, але ня маючы ніякай тэхнічнай дапамогі, проста ня чуюся на сілах гэтага зрабіць, тым больш што папярэднія мае «камунікаты», выпрацаваныя зь вялікімі высілкамі, ня мелі адпаведнага эфэкту ці карысьці. Адзінаму, каму заўдзячваю парады й пісьменьніцкую дапамогу, гэта др-у Я. Запрудніку, які паміма вялікай нагрузкі ў працы ніколі не адмовіў мне падзяліцца сваімі здольнасьцямі. І вось у адпаведны час у 400-м нумары «Беларуса» апублікаваў зьмястоўную й талковую інфармацыю «Старшыня Рады БНР у Менску», аб чым даведаліся ня толькі ўсе радные БНР, але й шырэйшае нашае грамадзтва. Ведаю, што існуюць засьцярогі што да маёй дзейнасьці як Старшыні Рады БНР, і насіўся з думкаю, каб зрэзыгнаваць, калі-б згадзіўся першы заступнік або хто іншы пераняць гэтую функцыю. А склікаць надзвычайную Сэсію Рады БНР, думаю, было-б безкарысна, бо цяжка сабраць нават кворум, а што абгаворваецца ці пастанаўляецца, не дакумэнтуецца, бо не апрацоўваюцца й не разсылаюцца пратаколы. На жаль, Галоўны Сакратар Рады БНР практычна не існуе. Трэба, відаць, самому старшыні пісаць і разсылаць пратаколы, і існуе надалей старая праблема — калі нічога ня пішацца, то, выглядае, нічога ня робіцца. Маю надзею, што дачакаемся наступнага 1994 году, на які прыпадае Чарговая Сэсія Рады БНР і канчаецца мая другая кадэнцыя як старшыні, дык павінны выбраць новага больш актыўнага й здольнага старшыню.

Цяпер пастараюся выказаць свой погляд на «паважныя справы», закранутыя ў Вашым пісьме.

1. Сумняваюся, ці наш скромны бюджэт, пра які Вы шчыра клапоціцесь і з трудамі зьбіраеце, павінен амаль палавіну расходваць на выдавецтва БІНіМ-у або на ўспаміны радных ці іншых «заслужаных». Уважаю, што вось такіе выдаткі, як на паездкі старшыні ці прадстаўнікоў Рады БНР на важнейшыя рэпрэзэнтацыі, будуць цяпер часьцейшыя й патрэбныя. А нават на наступныя Сэсіі або якія іншыя важныя паседжаньні трэба будзе наймаць платнага сакратара дзеля пісаньня й разсылкі пратаколаў.

2. На просьбу др. Раісы Жук Грышкевіч дапамагчы ў фінансаваньні яе працы[365], думаю, трэба было-б перш пабачыць і прачытаць, што карыснага для нашай гісторыі яна напіша, а тады Прэзыдыюм вырашыць, сколькі выдаць з нашай касы, калі там яшчэ штось астанецца, а ўсе цікавяцца нашай касай.

3. Як называеце, «наш сэктар Кліўлянд-Дэтройт» фактычна ня існуе, бо ў Дэтройце апрача малаактыўнага цяпер сябры Рады сп. Плескача больш нікога няма, а ў Кліўляндзе няма кіраўніцтва сэктару. Калісь варушыў там справу зборак складак і ахвяраў сп. А. Стрэчынь[366], але, на жаль, ён цяпер занямог са здароўем. З новых сяброў, прынятых мною ў Раду, найбольш актыўным быў Я. Ханенка, але гэты цяпер ашаломлены ўсякімі «старшынствамі» і абавязкамі грамадзкімі, ня ў стане зьбіраць грошы або адпісваць. Тым ня менш пляную там быць у хуткім часе, сабраць сэктар і эвэнтуальна прыняць пару новых сяброў, выбраць кіраўніка гэтага сэктару і палагодзіць справу фінансаў.

Таксама прыйдзецца паехаць у Нью-Джэрзі (магчыма, у часе Кангрэсу БАЗА) і паварушыць той сэктар, а пра Нью-Ёрк і мовы няма, бо сколькі ня пробавалі арганізаваць там сэктар, а нічога ня выходзіць. Мне здаецца, што актыўныя й сьведамыя радныя павінны палагоджваць справы складак беспасрэдна з Вамі. Сколькі ні валкавалася пра складкі і абавязкі сяброў Рады на сэсіях ці на паседжаньнях, але ніколі ня была вырашаная гэтая праблема. Разумею Вашае разчараваньне як добрага нашага Сакратара Фінансаў, але ня трэба ўпадаць у пэсымізм, бо калі я атрымаю Вашую «рэзыгнацыю», то Вы атрымаеце маю «рэзыгнацыю», а трэба-ж нейк існаваць. Дачакаемся нейк «наступных выбараў», а тады, магчыма, справа палепшыцца.

Дзякую Вам за чэк, але гэтага ня трэба было прысылаць, бо так як на іншыя патрэбы выдаваў з фонду данага мне з Касы БНР залічыў і Ю. Рагулі. Перасылаю гэты чэк Вам назад, калі можна і ўважаеце будзе талкова, пераключэце гэтую суму на «Дар Сакавіка» ад мяне на 1993 год.

Выбачайце, але тасьма перарвалася, дык мушу закончыць гэты ліст.

З найлепшымі пажаданьнямі і з пашанай

*Язэп Сажыч.*

---

[365] Маецца на ўвазе кніга: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Торонто, 1993. — 797 с.

[366] **Андрэй Стрэчань** (1916–1999) жыў у Кліўлендзе, быў актыўным будаўніком першай кліўлендскай царквы БАПЦ і Беларускага грамадскага цэнтра «Полацак». Сябра Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлендскага аддзела арганізацыі. Шматгадовы прадстаўнік газеты «Беларус» у Кліўлендзе.

*

*10-га чэрвеня 93 г.*

Вельмі Паважаны Спадар Кажан.

Перасылаю Вам прапановы ці акцэптацыю на актуальныя выдаткі з Касы Рады БНР з наступнымі маімі разважаньнямі (камэнтарамі):

1. На карыснае выдавецтва БІНіМу нашая дапамога цяпер задакумэнтаваная ў суме 10,000.00 даляраў, і на больш пака мы ня можам пазволіць. Згодны з Вашаю прапановаю на дадатковую тысячу.

2. На выдавецкі фонд «BR»[367] мне здаецца (ня маю справаздачу) мы выдалі ў 1991 і 1992 суму $2,750 дал., дык ня першы й напэўна не апошні раз гэты выдатак будзе паўтарацца, а таму пака скромна дабавіць $250.00.

3. Таму што «Беларус» цяпер выдаецца на «Бацькаўшчыне» і, як чуў, на гэта патрэбная фінансавая дапамога, дык уважаю на гэты важны цэль належыцца падтрымка з боку Рады БНР, і буду згодны на большыя асыгнацыі ў будучыні з нашай касы.

Як выглядае з Вашага паквітаваньня для мяне асабіста, то я быў моцна задоўжаны ў аплаце складак сяброўскіх, а гэта дзякуючы Вашай скарбніцкай пэдантычнасьці. Таму далучаю чэк на суму сто даляраў, каб запісалі мне на ўрэгуляваньне складак ўключна з 1993 годам. Такім чынам буду для прыкладу выглядаць, як «good standing member»[368]. Што да другіх, то моцна націснуў на Ханенку, каб пераслаў сабраныя грошы ў касу. На жаль, са Стрэчыням цяжка ўжо дагаварыцца, і сапраўды ня ведаю, каго там падцягнуць на кіраўніка Сэктару. Маю на ўвазе пару новых маладых кандыдатаў у сябры Рады. Буду старацца «сабраць» гэты Сэктар. Прасіў асабіста сп. Плескача, каб урэгуляваў складкі. Бяда таксама з сэктарам у Чыкага. У Англіі ня ведаю асабіста людзей, апрача Міхалюкоў і Лашука, у якога страціў ласку, празяваўшы адзін ягоны ліст без адказу. На гэта буду ўжо прасіць Вашай прапановы, каго Вы лепш знаеце. Наагул прашу падгатовіць лісту адышоўшых Сябраў ад 1991 году і новых сяброў, каго ведаеце. Калі ўжо «неабходна» мець заступніка на Эўропу, то маю на думцы сп. Сянькоўскага ў Нямеччыне або сп. М. Наўмовіча ў Францыі, якіх лепш знаю.

Але ўсё-ж такі я пакладаю шмат надзеі на наступную Сэсію Рады, дзе выбярэцца новы Старшыня (маю надзею на др. Б. Рагулю, але тады яму трэба выбраць першага заступніка й добрага Сакратара). Калі-б не такая нагрузка на нашага «Разумніцу» (як Янка Станкевіч[369] гаварыў), дык найбольшая ўдача была-б, каб сп. Запруднік рэпрэзэнтаваў нас. Вось Вам і Камунікаты!

---

[367] Маецца на ўвазе перыёдык *«Belarusian Review»* («Беларускі агляд»).

[368] ***Good standing member*** (англ.) — тут: добрасумленны сябра.

[369] **Янка Станкевіч** (1891–1976), грамадскі дзеяч, мовазнавец, журналіст. Жыў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў Беларуска-амерыканскага задзіночання. Выдаваў часопіс «Веда». Уваходзіў у першы склад рэдкалегіі газеты «Беларус», друкаваўся ў газеце «Бацькаўшчына». Стваральнік Беларускага (Крывіцкага) навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны.

Калі-б можна было выкарыстаць «прыватную карэспандэнцыю», то можна было-б «сачыніць». Маю надзею, што разьбярэцеся ў маёй пісаніне ад рукі, бо машынку, якую купіў калісь гадоў дваццаць таму, ужо цяжка паправіць. Каб мы мелі такіх прафэсыяналаў-карэспандэнтаў, як на Бацькаўшчыне, то ня было-б праблемы з публікацыямі пра дзейнасьць. Як бачыце, шмат артыкулаў-зацемкаў паявілася ў газэтах на Бацькаўшчыне, і часам здаюся на тое, што «добра ці дрэнна пішуць, але галоўна пішуць», і гэта сьветчыць, што ня спаў ці не гуляў за гэты час, а дзейнічаў. Найлепшы доказ «сукцэсу» аднак, што маю запісана на «відэа-стужцы», якую здабыў там і праграў тут на амэрыканскім апараты. У часе сьвяткаваньня ўгодкаў «25 сакавіка» ў Менску на Акадэміі, калі прадставіў мяне Ніль Гілевіч[370] да слова прывітаньня, то ўся публіка ўстала з воплескамі й клічам «Жыве Беларусь», «Жыве БНР», то гэта мяне так разчуліла, што цяжка было апанавацца, каб нешта сказаць.

«Артыкул» у часопісе «Полацак» — гэта ўсё дзякуючы Сьвятлане Белай[371], якая заўсёды падловіць мяне «пагаварыць», запіша на касэтку, а потым надрукуе. Шмат там недакладнасьцяў ці мо непатрэбных рэчаў, але-ж не займаюся якімісь «спраставаньнямі», не ўважаючы гэта за так важнае.

Удзячны тым, што падсылаюць мне прэсу з Бацькаўшчыны, ды слухаючы радыя «Беларусь» на кароткіх хвалях, крыху арыентуюся ў актуальных падзеях там. Ды вось вельмі занепакоіла мяне вестка, што апошнім часам міністар абароны Казлоўскі[372] звольніў у «запас» старшыню ЗБВ М. Статкевіча з пазбаўленьнем яго шмат якіх правоў. Дык трэба было-б аб гэтым пісаць і пратэставаць. *«Каму служаць нашыя міністры на чале з прэм'ерам Кебічам»*. Маю надзею, што не пашкодзіла спадару Статкевічу спатканьне асабіста са мною.

З пашанай,

*Я. Сажыч.*

---

[370] **Ніл Гілевіч** (нар. 1931), паэт і грамадскі дзеяч, заслужаны дзеяч навукі БССР, народны паэт Беларусі. Быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР XI склікання і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання, у 1990–1995 гг. — старшыня камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

[371] **Святлана Белая** (нар. 16.02.1967), журналіст, пісьменнік. У 1989 г. скончыла факультэт журналістыкі БДУ, у 1991 г. — аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Адна з заснавальнікаў клуба «Спадчына» (1984). Ад 1990 г. жыве ў Кліўлендзе (ЗША). У 1996 г. скончыла Кліўлендскі ўніверсітэт штат Агаё (ЗША). У 1991 г. стала заснавальніцай і галоўным рэдактарам беларуска-амерыканскага часопіса «Полацак». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

[372] **Павел Казлоўскі** (нар. 09.03.1942, в. Ваўкоўня, Пружанскі раён Брэсцкай вобл.), дзяржаўны і вайсковы дзеяч. Скончыў Ташкенцкае агульнавайсковае каманднае вучылішча, ваенныя акадэміі імя Фрунзе і Генштаба. Служыў у Савецкай арміі ў Сярэднеазіяцкай, Маскоўскай, Закаўказскай, Паўночна-Каўказскай ваеннай акругах на каманднa-штабных пасадах. Ад 1991 г. — начальнік штаба, 1-ы намеснік камандуючага войскамі Беларускай вайсковай акругі. У 1992–1994 гг. — міністр абароны Рэспублікі Беларусь.

*

*11-га ліпеня 93 г.*

Вельмі Паважаны Спадар Кажан,

Атрымаўшы Ваш ліст ад 3-га ліпеня 93 г., прыпомніў, што не адказаў Вам на папярэдні ліст з 20-га чэрвеня 93 г., дык не адкладаючы пішу Вам некалькі слоў, каб трымаць лучнасьць. Згодны з Вашаю прапановаю ў лісьце з 20/IV. Трэба апрацаваць супольна «Камунікат» яшчэ ў гэтым годзе й разаслаць радным, якія яшчэ лічацца раднымі. Чакаю на паварот некаторых радных са «Зьезду Беларусаў у Менску». Некальнкім перадаў запросіны і ўпаўнаважаньні, каб прынялі ўдзел на «Палітычнай Канфэрэнцыі», арганізаванай праз БНФ. Маю надзею атрымаць ад іх пэўную «справаздачу» або інфармацыю пра іх уражаньні й сытуацыю апошнім часам у Беларусі. Разам пастараюся напісаць уступнае слова ў «Камунікат», што вось, якое дасьведчаньне меў, сам наведваючы ў гістарычны дзень Беларусь і што пабачылі й пачулі іншыя сябры Рады, прысутныя на «Зьезьдзе». А значыць, Рада БНР яшчэ можа адыграць паважную ролю ў «Адраджэньні», падтрымоўваючы маральна й хоць скромна матэрыяльна, і як паважна лічыцца з нашаю «Радаю» там на Бацькаўшчыне (маю надзею, іншыя падцьвердзяць). Таму нам тут трэба трымацца, сплачваць «нацыянальны падатак», прымаць у сябры новых Радных і т. д. Прыпомню, каб добра падрыхтаваліся да наступнай чарговай Сэсіі, якая павінна адбыцца ў пачатку 1994 у сэньсе выбару новага Прэзыдыюму Рады, асабліва Старшыні, 1-га заступніка й Сакратара. Далей далучым ліст ад Вас і поўны сьпісак Радных, хто сколькі ўплаціў у касу, можна нават далучыць копію Вашага ліста да раднага Янкі Азаркі, як прыклад. Апрацаваўшы і адрэдагаваўшы гэты «Камунікат», буду прасіць, каб там у Нью Ёрку яго надрукавалі на лепшых камп’ютэрных машынах. І тады, бязумоўна, пры Вашай помачы (бо маеце найлепшыя й найдакладнейшыя інфармацыі пра адрасы й стан радных) разаслаць «Камунікаты» ўсім актыўным радным, пакрываючы кошты з нашай Касы. Я ўжо даўно насіўся з думкаю, што памагчыма ўтрымаць спраўна сэктары і іх «Управы». Прыдзецца, каб радныя (як паважныя асобы сябры «Парлямэнту») утрымоўвалі лучнасьць асабіста-безпасярэдне з Прэзыдыюмам, асабліва з Галоўным Скарбнікам.

Сп. Ханенка, напэўна, грошы перашле, але цяпер-жа заняты з паездкаю ў Беларусь. Пару разоў напомніў і сп-ру В. Пляскачу.

Можа ўжо злавілі «Радыё Беларусь», але для інфармацыі падаю фрэкэнцыю, якую зьмянілі. Цяпер даволі добра чуваць на хвалі 12040 ад 7:30 да 20.00 (19:30–20:00), апошнія дні перадаюць пераважна прамовы на «Зьезьдзе».

Пра прыезд Шушкевіча на спатканьне з Клінтанам[373] ў канцы ліпеня г. г. у Вашынгтоне чуў. Напэўна, ён заедзе і астановіцца ў Нью Ёрку і, можа,

---

[373] **Біл Клінтан** (англ. *Bill Clinton*, ад нараджэння Уільям Джэферсан Блайт-трэці, нар. 1942), 42-і прэзідэнт ЗША (1993–2001). У 1994 г. адведаў Беларусь.

зажадае спаткацца з «эміграцыяй Беларускай». Прасіў-бы загадзя паведаміць мяне аб гэтым — хачу прыехаць і пабачыцца. Клівэляндцы маюць вялікую амбіцыю запрасіць яго ў «Полацак», дык тады мне было-б выгадна, але ня думаю, што ён, Станіслаў Станіслававіч, будзе мець дастаткова часу на гэта.

Чакаю прыезду (здаецца, у панядзелак 12-га) і інфармацыі ад д-ра Набагеза, якому паручыў спатканьне з ЗБВ і сп-няй Трыгубовіч (рэфэрэнт замежных дачыненьняў ад БНФ).

Здаецца, усё, што прыпомніў напісаць на скорую руку.

Пра далейшыя выдаткі з касы БНР — будзем перапісвацца.

З найлепшымі пажаданьнямі й з пашанаю,

*Язэп Сажыч.*

*

*22-га лістапада 93 г.*

Вельмі Паважаны Спадар Кажан,

Шчыра дзякую Вам за разасланьне «Камунікатаў» уключна й для мяне. Усю Вашую карэспандэнцыю атрымаў, хоць і акружною дарогаю. Мой флёрыдзкі адрас Вы маеце, а тут пляную жыць дзесь да мая месяца 94-га, а пазьней, магчыма, і настала, бо лепш пачуваюся са здароўем у гэтым клімаце. Почта й тэлефон функцыянуюць таксама, як і ў Мічыгане. Праблема толькі, што далей з даездам да нашых асяродкаў. Маймо надзею, што Ваш «зварот» да сяброў Рады ў справе складак і ахвяраў прынясе якіясь пазытыўныя рэзультаты; добра, што так зрабілі, а замест «незадавальненьня» павінна гэта выклікаць зразуменьне.

У справе вербаваньня новых сяброў у Раду трудна самому штось асягнуць бяз споўпрацы сэктароў. Напрыклад, у Англіі я мала каго знаю, а сп. Лашук (у якога я страціў давер ці «ласку») замест крытыкаваць добра зрабіў-бы, каб прыслаў канкрэтныя прапановы як кандыдатаў ці іншыя для дабра нашай справы.

У Чыкага фармальна няма да каго цяпер зьвярнуцца да супрацоўніцтва. Др. Рамук[374] быў калісь прыхільным, але, выглядае, што ягоная сп-ня Вера[375] ставіць сябе вышэй «Рады» ці іншых нашых арганізацыяў.

У мяне на думцы ёсьць пробаваць мабілізаваць сяброў з асяродку пры Парафіі Сьв. Юрыя, асабліва з новых прыбылых грамадзянаў зь Беласточчыны. Ужо пэўныя крокі ў гэтым накірунку рабіў. Патрэбныя асабістыя спатканьні. Калі раней (будучы маладым і з большай энэргіяй) часьцей раз'яжджаў па асяродках, тых здабытых новых сяброў уцягнуў сам. Прысутнічаючы на апошнім Кангрэсе БАЗА, зьвяртаўся з прапановаю ўступіць у Сябры Рады БНР да некаторых пазытыўных кандыдатаў. Але-ж трэба, каб на месцы хтось

---

[374] Маецца на ўвазе Вітаўт Рамук.

[375] **Вера Рамук** (1931–2010), жонка Вітаўта Рамука, жыла ў Чыкага. Была актыўнай дзяячкай мясцовай беларускай грамады.

з Прэзыдыюму ці старэйшых Радных прыпамінаў ім аб гэтым, заахвочваючы прыняць прысягу.

З Кліўляндам маю часьцейшы кантакт і працую ў справе папаўненьня Рады. Даўно ўжо націскаў на такіх кандыдатаў, як Калоша, Раковіч[376], сп. Карніловіч[377] і іншыя. Але, на жаль, яны быўшыя сябры партыі Каханоўскага[378], хоць часам супрацоўнічаюць, але ад Рады адмаўляліся. Сп. Карніловіч не заўсёды прыхільна адносіўся да Рады БНР, але быў вартасным Беларусам і перадчасны адыход яго ў вечнасьць[379] зьяўляецца вялікай стратай для нас. На жаль, ня змог асабіста паехаць на ягоныя пахароны, але замест кветак на магілу паслаў ахвяру на выдавецтва «Беларуса». Агульна нам найважней ёсьць падтрымоўваць матэрыяльна й маральна перадусім выдавецтва «Беларуса» й «Беларускі Агляд»[380]. Калі-б сябры Рады былі больш салідарныя й складалі больш ахвяраў у нашую Касу, дык гэтыя фонды разьмяркоўваліся-б больш адпаведна да патрэбаў. Абсэрвуючы спіскі ахвяраў на ўсякія іншыя арганізацыі й цэлі, выглядае, што зьяўляюцца шчодрымі, але мала на БНР. Штораз больш паяўляецца ў нас выдавецтваў і «пісакаў», якія часта задавальняюць свае асабістыя амбіцыі больш за дабро нашай агульнай справы. Заўважаецца вялікая тэндэнцыя, што шматлікія нашыя «дзеячы» стараюцца ўвайсьці ў гісторыю, пішучы ў беларускую прэсу на Бацькаўшчыне. Вось, напрыклад, у «Голас Радзімы» шмат пісалася пра «дзейнасьць і патрыятызм» сп-ра Б. Кіта[381]. А нейк я мала чуў пра ягоную дзейнасьць на эміграцыі. Не пярэчу, што быў «вучоны», але-ж, напэўна, калі так, то нядрэнна меўся матэрыяльна. А тымчасам гэтых некалькі дактароў мэдыцыны (якія таксама ня ўсе роўна «багатыя былі»), а на ўсе асяродкі ці цэрквы складалі ахвяры, не гаворачы, па сто й 200 даляраў у месяц, давалі на «фонд Прэзыдэнта»,

---

[376] Маюцца на ўвазе Кастусь Калоша і Янка Раковіч.

[377] Маецца на ўвазе Сяргей Карніловіч.

[378] Аўген Каханоўскі ў сярэдзіне 1950-х гг. выйшаў з Рады БНР і яго падтрымалі шмат дзеячаў беларускай грамады ў Кліўлендзе.

[379] Сяргей Карніловіч памёр 29 кастрычніка 1993 г. у Кліўлендзе.

[380] Тут і далей маецца на ўвазе *«Belarusian Review»*.

[381] **Барыс Кіт** (нар. 06.04.1910, Санкт-Пецярбург, Расія), навуковец, грамадскі дзеяч. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. Быў выкладчыкам і дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі, у 1939–1941 гг. — дырэктарам Наваградскай беларускай гімназіі. У 1943–1944 г. — заснавальнік і дырэктар Маладзечанскай гандлёва-тэхнічнай школы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У студзені 1948 г. пасяліўся ў ЗША, спачатку жыў у Саўт-Рыверы, у 1949–1950 гг. узначальваў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт. У 1950 г. выехаў у Лос-Анджэлес (Каліфорнія), дзе стварыў аддзел ЗБАДК. У 1951–1955 г. быў другім віцэ-старшынёй Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. У сярэдзіне 1950-х гг., з пераездам у Вашынгтон, адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. Працаваў у амерыканскай касмічнай прамысловасці. У 1972 г. пераехаў у Нямеччыну. Жыве ў Франкфурце.

на выдавецтва «Бацькаўшчына» і г. д. Але прозьвішча др-а Кіта нігдзе ня было відаць ці чуваць. Выбачайце за гэты «рэфлекс».

Жадаю Вам здароўя і ўсяго найлепшага.

*Я. Сажыч.*

*

*8-га лютага 94 г.*

Шаноўны Спадар Кажан.

Даволі даўно ўжо ня меў весткі ад Вас. Маю надзею, што са здароўем у парадку. Асабіста цяжка перахварэў эпідэмію «флю», што пашкодзіла на лёгкія. Тымчасам крыху акрэп. Атрымоўваю лісты ад паасобных радных (з далейшых краін). Стараюся ўсім адпісваць, уключна й з сп. Лашуком, які дае «наганяй» за *«бязьдзейнасьць ці пасыўнасьць»*. Апэлюю да радных індывідуальна, каб памаглі мне правесьці адпаведна наступную Чарговую Сэсыю Рады БНР, якая плянуецца на 28-га травеня 1994 г. Гэтая «помач» патрэбная асабліва ў падшукваньні кандыдатаў, (згодных) у Прэзыдыюм. Праблемаю на Сэсіі будзе выбар: Старшыні, Заступніка й Сакратара Рады БНР. На жаль, весткі атрымоўваю непацяшаючыя. Др. Б. Рагуля, напрыклад, ня толькі не згаджаецца пераняць старшынства, але і адмаўляецца быць заступнікам. Галоўнага Сакратара мы практычна таксама ня маем. Праймаюся, каб ня выйшла штось падобнага, як на апошнім Кангрэсе БАЗА. Хацелася-б перадаць Раду ў добрыя рукі, бо пабываўшы ў Беларусі, пераканаўся, што Рада БНР можа адыграць яшчэ вялікую ролю ў абароне нашай незалежнасьці. Вось цяпер я быў-бы згодны асыгнаваць з Касы Рады прынамсі пяць тысяч даляраў на дапамогу нашым дэмакратычным незалежніцкім партыям для вядзеньня падгатоўчай працы да выбараў, якія адбудуцца там раней ці пазьней. Напрыклад БНФ патрабуе набыць аўтобус (*mini-van*) з галосьнікам для разьездаў і агітацыі (шкадую, што затрацілі зашмат нашых ашчаднасьцяў на БІНіМ, бо грошы вось цяпер патрэбныя на палітычныя справы). Маю надзею, што атрымалі мой кароткі ліст — прапанову асыгнаваць 500 дал. на «Беларускі Агляд».

Ад сп-ра Наўмовіча з Францыі атрымаў пацяшаючую вестку — прапанову новага сябры Рады з Францыі. Добра было-б, каб зь іншых сэктароў (Англіі) прапанавалі новых кандыдатаў. Але сп. Лашук уважае, што *«ўжо запозна на гэта»*, з чым я не згаджаюся.

Да Вас маю просьбу канкрэтную. Прыгатаваць сьпісак радных — актыўных, ня ўлічваючы «мёртвых душаў», каб ня было засьцярогаў што да «кворуму». Таксама лісту памёршых радных за апошніх 3 гады й новых сябраў. На жаль, ня часта бываю цяпер у нашых большых асяродках, каб магчы «вэрбаваць» новых радных. Але-ж абавязкам гэтым ёсьць і для сэктараў у Нью Ёрку ці Нью Джэрзі прапанаваць адпаведным кандыдатам, а на Сэсыі іх бы ўрачыста павіталі.

Выбачайце за маю «халатную» пісаніну. Рука ўжо нягладка ходзіць па паперы. Маю надзею, што разьбярэцеся і адгукнецеся ў хуткай будучыні.

З найлепшымі пажаданьнямі й зычэньнямі,

*Язэп Сажыч.*

## Ліст да Міхася Тулейкі

*3-га лютага 89 г.*

Вельмі Паважаны Спадар Тулейко.

На апошняй Сэсіі Рады БНР Вас абралі Сакратаром гэтай Сэсіі з надзеяю, што Пратакол будзе апрацаваны спраўна, як папярэдні. Тымчасам мінула больш як паўгода, а пратаколу няма. Сп. Шукелайць магчыма ізноў загубіў запіскі, будучы вельмі заняты газэтаю ды іншымі справамі, дык надзея астаецца толькі на Вас, што маеце гэты матэрыял і зможаце нейк апрацаваць. Каб мы маглі разаслаць Пратакол 19-й Сэсіі Рады прынамсі па адным экзэмпляры ў кожны сэктар Рады. Некаторыя радныя моцна дамагаюцца мець Пратакол і наракаюць мне, што справа гэта занядбаная. Ветліва прасіў-бы Вас паведаміць мне, як гэтая справа прадстаўляецца, каб я мог хоць у кароткім «Камунікаце» паінфармаваць сяброў радных. Магчыма, на скорую руку Вы змаглі-бы прыслаць мне кароткія важнейшыя выпіскі з Пратаколу (хто быў выбраны ў Прэзыдыюм, колькі сяброў прысутнічала на Сэсіі й што галоўнае было зроблена ці пастаноўлена), а гэта я апублікаваў-бы ў «Камунікатах», якія пляную выдаць у пачатку сакавіка 89.

Можа, маеце якісь заўвагі ці матэрыял для «Камунікатаў», то быў-бы вельмі ўдзячны, калі-б мне гэта прыслалі.

Прабываю цяпер зімою ў Флёрыдзе, унікаючы халадоў на поўначы. Ёсьць тут крыху больш часу на пісаньне й разважаньні, дык хачу гэта выкарыстаць. Спадзяюся хуткай весткі ад Вас і з найлепшымі пажаданьнямі й пашанай да Вас.

*Язэп Сажыч.*

## Ліст да А. Лашука

*28-га студзеня 1994 г.*

Шаноўны Спадар А. Лашук.

Дзякую за ліст з 26.XII.1993, які атрымаў крыху з апазьненьнем, бо йшоў ён «акружною дарогаю». Жыву цяпер у «зімовы сэзон» на поўдні, у цёплай Флёрыдзе. На старасьць зрабіўся вельмі ўражлівым на холад, а ў паўночных штатах (як Мічыган) вельмі цяжкая зіма ў гэтым годзе. Аднак не ўдалося ўцячы ад эпідэміі «флю», якая й тут бушуе й захапіла мяне, пашкодзіўшы лёгкія й наагул аслабіўшы ўвесь арганізм. Таму цяжкавата было сабрацца і адпісаць Вам неадкладна (канцэнтравацца).

Не спадзяваўся ад Вас прызнаньня ці якісь пахвалаў. Прызнаюся да некаторай «бязьдзейнасьці», асабліва ў форме пісаньня, а калі няшмат пі-

шацца, то выглядае, што нічога ня робіцца. Бязумоўна, занядбаньне высылкі пратаколаў Сэсіяў ня мае ніякага апраўданьня, але ад мяне гэта ня шмат залежыць. Прыпамінаў і дамагаўся ад сакратароў некалькі разоў залагодзіць гэта, але кожны раз канчалася абяцаньнямі, а не выкананьнямі. На апошняй Сэсіі Рады я прапанаваў наняць платнага сакратара, каб пісаў, добра аформіў і разаслаў пратаколы, але Прэзыдыюм Сэсіі адмовіў.

Гаворачы пра Прэзыдыюм Рады, што фактычна маю аднаго дзейнага сябру, гэта Галоўнага Скарбніка Рады БНР сп-ра В. Кажана і ў разе патрэбы й магчымасьці стараецца памагчы сп. Я. Запруднік. Асабіста, калі здароўе пазваляе, не сяджу ў дома, стараюся рэпрэзэнтаваць Раду, дзе магчыма й патрэбна, трымаючы асабісты кантакт з большымі беларускімі асяродкамі. Усё-ж за гэты час завэрбаваў каля 20 новых радных. Але вось з адлеглых сэктараў, як, напрыклад, з Англіі, ня ўсіх сваіх людзей ведаю, а ніхто з сэктару гэтага не прапанаваў ніякай кандыдатуры. Вось, напрыклад, вельмі ўдзячны сп-ру Наўмовічу з Францыі, які прапануе новага сябры Рады адтуль. На падбор новых сяброў ніколі не запозна, а якраз цяпер вельмі патрэбна, нават з пункту гледжаньня папаўненьня нашай касы (складкі), бо цяпер будзем мець неабходныя й карысныя выдаткі ў кірунку матэрыяльнай дапамогі ў Беларусь.

Чарговая Сэсія Рады БНР плянуецца на 28-га травеня 1994 г. Галоўнаю праблемаю гэтай Сэсіі будзе выбар цэлага Прэзыдыюму Рады: Старшыні Рады, Заступніка й Галоўнага Сакратара. Таму зьвяртаюся да ўсіх Радных, каб адпаведна падгатаваліся да гэтай Сэсіі, прапанавалі кандыдатаў у Прэзыдыюм, такіх, якія-б згадзіліся на гэта.

Асабіста меў надзею, што для дабра Рады пяройме старшынства першы заступнік, др. Б. Рагуля, які мае палітычны вопыт і дыплёматычныя здольнасьці. Шмат аб гэтым зь ім дыскутаваў і прасіў, але ў рэзультаце атрымаў ад яго «афіцыйны адказ», што ён ня можа прыняць абавязак старшыні й нават адмаўляецца ад функцыі заступніка Старшыні Рады.

Другі кандыдат быў-бы вельмі добры й карысны, гэта др. Я. Запруднік. Але ён пераладованы іншымі функцыямі і абавязкамі й, зразумела, ня зможа.

Ёсьць кандыдаты, ахвотныя на гэтае становішча, але пераважна такія, у якіх асабістыя амбіцыі перавышаюць дабро нашай справы.

І вось я праймаюся, каб не стварылася сытуацыя ў нас на Сэсіі Рады, падобна, як на апошнім кангрэсе БАЗА, на якім я прысутнічаў, дзе не змаглі выбраць новага Галоўнага Старшыні, і справа завісла «ў паветры».

Асабіста адбыў нейк дзьве кадэнцыі, а век і здароўе абсалютна не пазваляюць больш дзейнічаць, хоць і ў скромнай меры. Слабая дзейнасьць мая выглядае й з расходаў нашай касы, бо мала прадстаўляў туды рахункаў, пераважна пакрываючы ўсе выдаткі сам асабіста.

Усё-ж прыходзілася прысутнічаць ня толькі на ўсіх нашых грамадзкіх зьездах ці сьвяткаваньнях, але й на многіх міжнацыянальных арганізацыях, асабліва актыўны быў і добра рэпрэзэнтаваў беларусаў у Арганізацыі Паняволеных Народаў, часта пакрываючы неабходныя складкі сам.

Але, на жаль, мой недахоп быў у тым, што нічога не запісваў і ня публікаваў аб гэтым у нашай прэсе ці Камунікатах, і ўсё пайшло ў няпамяць, але, думаю, нейкія карысныя для нас вынікі ад гэтага асталіся.

Да сяньняшняга часу ня ведаю, чаму мяне выбралі Старшынёю Рады БНР, бо на гэта зусім не спадзяваўся й не прэтэндаваў, а калі падалі на Сэсіі маю кандыдатуру — прасіў зьняць яе са спіску, тлумачачы, што мой папярэднік называў мяне «палітычна няграматным».

Адбыўшы сваю першую кадэнцыю, дзякаваў Богу, што дачакаўся чарговай Сэсіі, на якой быў пастаўлены важны пункт парадку дня: выбар новага Старшыні, моцна верыў і спадзяваўся, што мяне звольняць з гэтага. Аднак атрымалася йзноў так, што ніхто з прапанаваных кандыдатаў не згадзіўся прыняць на сябе гэты абавязак, і прысутныя радныя на Сэсіі, устаўшы, з воплескамі выбралі мяне на наступную кадэнцыю. І вось дачакаўшысь канца другой кадэнцыі, мог-бы, склікаўшы Чарговую Сэсію Рады, махнуць рукою й сказаць: рабіце, што хочаце, але безь мяне.

Аднак сумленьне маё на гэтакі паступак не пазваляе, і хацелася-б перадаць Раду ў добрыя рукі. Рада БНР павінна ўступіць у новы этап сваёй дзейнасьці з новымі сіламі й кіраўніцтвам. Аб гэтым я пераканаўся, пабываўшы ў Беларусі, што падняло мяне шмат на духу й было карысным. Не «вымагаю ад кагосьці», як пішаце, але прашу й заклікаю ўсіх радных памагчы мне абраць новае Кіраўніцтва.

З пашанаю да Вас,

*Язэп Сажыч.*

## Ліст да Вітаўта Кіпеля

*10 чэрвеня 1995 г.*

Вельмі Паважаны Старшыня БІНіМ Др. Вітаўт Кіпель,

Стараюся адразу зарэагаваць на Ваш ліст з 7 чэрвеня 1995 г. Выбачайце, што пішу «ад рукі», хоць яна ўжо ня вельмі гладка ходзіць па паперы, але ня маю «машынаў» да друку ані якоісь сакратарскай помачы. Маю надзею, што ня будзеце зашмат разчараваны ці абіджаны маімі адносінамі ў справе фінансавай дапамогі ў друку новых кнігаў.

Перадусім у Касе Рады БНР няшмат асталося ашчаднасьцяў, а папаўненьне гэтае Касы (пераважна складкамі) штогод меншае.

На выдавецтва кнігаў БІНіМ-ам мы выдалі працэнтуальна даволі вялікую суму, а гэта ня ёсьць самай важнай і пільнай справай нашага скромнага бюджэту. «Гісторыяграфіі і бібліяграфіі», бязумоўна, патрэбныя для нашых навукоўцаў, да якіх належыце й Вы, але Народ наш гэтым мала цікавіцца, для Яго патрэбная публіцыстыка і актуальныя весткі і інфармацыі ў форме газэтаў ці радыёвых камунікацыяў. На жаль, «Адраджэньне», якому мы спрыялі й фінансава дапамагалі (хоць скромна), не пашло ў «Народ» й не дало лепшых рэзультатаў (разумею — кароткі час), але нашая інтэлігэнцыя вельмі пранялася забытай гісторыяй, музэямі, замкамі і г. д.

Сяньня дажылі да таго, што на Бацькаўшчыне шалее цэнзура, і Народ наш ня мае магчымасьці даведацца ці пачуць праўду. Таму трэба зьвярнуць увагу і апошні грош выдаваць, каб існавала свабодная-дэмакратычная прэса («Свабода», «Беларус» і т. п.), радыё-тэлебачаньне (*news-media*) у Беларусі.

Дык выбачайце за маё «скупства». Дзеля традыцыі й маральнай падтрымкі Вашага выдавецтва згодны апрабаваць з Касы Рады тысячу даляраў.

З найлепшымі пажаданьнямі й з пашанаю,

*Язэп Сажыч, Старшыня Рады БНР.*

## ЛІСТАВАННЕ ВІТАЛЯ КАЖАНА

### Лісты да Язэпа Сажыча

*

*25.VII.91*

Вельмі Паважаны Доктар!

У хуткім часе пасьля 20-й сэсыі Рады др. Раіса пераслала праэкт ліста і Вам, і мне. Гавару аб лісьце, які пастанавілі выслаць сябрам Рады, якія ні па якой лініі не падтрымоўваюць Раду, мёртвыя душы. Праэктам гэтага ліста я не захапіўся і копію гэтага ліста пераслаў у Нью Ёрк, сп. сп. Янку Запрудніку і А. Шукелайцу з просьбай, каб яны гэты ліст добра прачыталі й перастроілі, што сп. Я. Запруднік і зрабіў. Копію гэтага ліста перасылаю Вам. Гэты ліст у бліжэйшым часе я вышлю наступным «сябрам»: Ул. Курылу, Расьціславу Гарошку, Міколу Войтэнку і, магчыма, Валянціну Міцкевічу[382]. Многія сябры Рады глядзяць на сяброўскія складкі праз пальцы. У сэктарах такіх, як Чыкага, Нямеччына, ні адзін сябра ня выканаў свайго абавязку. Па-мойму, гэты ліст нельга пасылаць да тых сяброў, каторыя ўсё-такі хоць час ад часу далі пара даляраў на «Дар Сакавіка». Па-мойму, Вам як старшыні Рады трэба выслаць спэцыяльны ліст, назавіце яго «Камунікаты», і дакладна падаць, якія-ж абавязкі сябры Рады ў фінансавых справах. Але пака такі ліст, Вам варта зьвярнуцца да старшыні сэктару ў Чыкага др. В. Рамука. Калісь мне пісаў сп. А. Беленіс[383], што яны там у Чыкага заваленыя рознымі складкамі,

[382] **Валянцін Міцкевіч** (03.09.1918, в. Мікалаеўшчына, цяпер Стаўбцоўскі раён Мінскай вобл. — 19.08.2005, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, пляменнік М. Міцкевіча, брат А. Міцкевіча. У 1939 г. быў прызваны ў польскае войска. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Францыі. Вучыўся ў Парыжы, уваходзіў у рэдкалегію часопіса «Моладзь». У 1961 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі.

[383] **Антон Бяленіс** (1906–1994) жыў у Чыкага. Удзельнік мясцовай беларускай грамады.

зборамі грашовымі, але-ж такая сытуацыя існуе ўва ўсіх нашых асяродках, а ня толькі ў Чыкага.

Пасьля апошняй Сэсыі я адразу выслаў ува ўсе сэктары фінансавую справаздачу, якую здаваў сэсыі, не надзеючыся на хуткі пратакол сэсыі. Разам з справаздачай быў і спэцыяльны ліст, копію якога залучаю. Гэтыя матарыялы ў Чыкага выслаў на адрас Рамука… і дагэтуль ніхто адтуль не адгукнуўся.

Іншая справа ў сэктары Нью Джэрзі. Яны самі зрабілі сваю пастанову: зарабляючыя плоцяць у год 36 даляраў, а пэнсыянэры далярчыка ў месяц. Гэта-ж нейкая насьмешка. Усім нам ведама, што ў вялікай бальшыні пэнсыянэры фінансава маюцца нядрэнна. Я сам калі быў працуючым, мне было шмат цяжэй даць нейкага даляра, бо я меў паважную запазычанасьць на доме і ў той самы час дзеці ў каледжы, а сягоньня гэтыя выдаткі адпалі — штосьці падобнае і ў многіх пэнсыянэраў. Іншы прыклад: у 1950-х, 60-х гадох, калі ў бальшыні з нас яшчэ нічога ня мелі, але давалі ў касу Рады ў месяц па даляру-два (тады за даляра 4 пачкі папярос, а цяпер за такога даляра толькі 8 папярос). Таксама Вы мусіце зьвярнуцца ў гэтай справе да старшыні сэктару Азаркі.

У сэктары канадыйскім таксама непарадак па лініі фінансавай. Ліст, які я разам з гэтым да Вас высылаю сп. М. Ганько, копію перасылаю Вам.

Вы калісьці наракалі, што Вам ніхто не дапамагае. Вы павінны прывучыць да такой-сякой працы добра падрыхтаванага чалавека сакратара Прэзыдыюму інжынэра Васіля Русака. Цікава, і ён, і Галіна таксама добра залягаюць у аплаце сяброўскіх складак.

А ці Васіль Плескач зусім схаваўся пад мятлу, ці здароўе кепска. Раней я зь ім перапісваўся, а ўжо пара гадоў нічога ад яго ня меў. Пры нагодзе прывітайце яго ад мяне.

На заканчэньне: аб аднэй і магчыма самай галоўнай справе, ня толькі трэба гаварыць, але канкрэтнае трэба рабіць, не адкладаючы. Магчыма, Вы ўжо рукавы закасалі і ўжо гэта робіце.

Папаўненьне Рады БНР маладзейшымі сябрамі!!!!

Кандыдаты там-сям ёсьць, але рэдка яны самі выйдуць. Трэба іх шукаць, іх заахвочваць. Ясна, што гэта трэба рабіць праз сэктары. Ня ведаю, чым закончылася прыняцьцё двух маладых сяброў у Аўстраліі, а менавіта сын Раецкага[384] і сын пакойнага Мароза[385]. Ці афармілі іх. Без папаўненьня Рады маладымі за некалькі гадоў Рада зусім заціхне, замрэ, а яна сёньня патрэбная, як ніколі перад гэтым.

З пашанай да Вас.

---

[384] Маецца на ўвазе **Міхась Раецкі (малодшы)** (нар. 1957 г., Перт, Аўстралія), грамадскі дзеяч, сын Міхася Раецкага (1927–2003). Ад 1987 г. — старшыня Беларускага аб’яднання ў Заходняй Аўстраліі.

[385] Маецца на ўвазе **Алекс Мароз (малодшы)** (нар. ?, Перт, Аўстралія), грамадскі дзеяч, сын Алеся Мароза (1918–1989). Актыўны сябра Беларускага аб’яднання ў Заходняй Аўстраліі, дзе ад канца 1980-х гг. займаў пасады сакратара і скарбніка.

*

*31.X.1992*

Вельмі Паважаны Доктар!

Ваш праект ліста аб скліканьні пашыранага паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР я атрымаў. Бязумоўна, што галоўнай тэмай парадку дня будзе *«становішча Рады БНР да апошніх падзеяў у Беларусі»*. І ня менш важнай справай ёсьць *«далейшая дзейнасьць Рады БНР»*.

Здаецца, да гэтага часу многія эміграцыйныя «ўрады-прадстаўніцтвы», як балтыцкіх дзяржаваў, палякі і ўкраінцы, перасталі дзейнічаць, бо перадалі свае тыя ці іншыя паўнамоцтвы сваім бацькаўшчынам. Гэтае пытаньне датычыць і нашага БНР — як і калі Рада БНР павінна перадаць свае паўнамоцтвы Бацькаўшчыне Беларусі-Менску, а гэтым самым ліквідаваць сябе на эміграцыі, перайсьці толькі ў гісторыю.

Па-мойму, гэта пытаньне гістарычнай вагі, і таму ў рашэньні яго павінен прыняць удзел кожны сябра Рады БНР усіх сэктароў. Свайго роду гэта быў-бы рэфэрэндум. Каб штосьці падобнае зрабіць, трэба падрыхтаваць адпаведную анкету-апытальнік, які кожны сябра Рады па выпаўненьні яго перашле Вам, Старшыні Рады, а потым, магчыма, трэба будзе склікаць спэцыяльную нечарговую сэсыю Рады, якая вынесла-б канчатковую гістарычную рэзалюцыю-пастанову.

Так, Прэзыдыюм Рады аб гэтым можа дыскутаваць, але толькі дыскутаваць-гаварыць, але ніколі ня можа вынесьці такой важнай пастановы. Мне здаецца, Вам проста абавязкова трэба гэтую справу абгаварыць з др Я. Запруднікам, ён-жа сябра Прэзыюдыму, а да гэтага вельмі добра паінфармаваны аб сёньняшняй сытуацыі ў Беларусі.

Праўду кажучы, калі рабіць паседжаньне ці сэсыю Рады — ня так важна, бо сябры Рады ў бальшыні непрацуючыя — пэнсыянэры. Дзень суботні найлепш, і хіба гадзіна 1-ая лепш, чымсьці 2-ая.

Стан касы на сёньня 16,650.00. Трэба рэальна спадзявацца, што ў далейшым паступленьні ў касу будуць штораз меншыя па ведамых розных прычынах. Некаторыя сёньня думаюць і гавораць, што Рада БНР ужо непатрэбная, так як ужо ёсьць Вольная Беларусь. Праўда — нідзе і не чуваць, і не відаць, што Рада БНР штосьці робіць, але горшая праўда тая, што нашая Беларусь далёка яшчэ да Вольнай і Незалежнай.

Магчыма, падчас XX-й сустрэчы[386] Вы мелі нагоду запазнацца з В. Трыгубовіч (старшыня камісіі БНФ па замежных / зьнешніх сувязях). У № 41 (9.X.92) у «ЛіМ»-е ёсьць яе артыкул аб гэтай сустрэчы. Паміж іншым яна піша: *«з боку блізкіх да ўраду Беларусі колаў выказваліся пажаданьні, каб урад БНР на чужыне афіцыйна перадаў свае паўнамоцтвы сёньняшнему ўраду Беларусі, прызнаўшы такім чынам ягоную легітымнасьць… але на*

---

386 XX Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі адбывалася 5–7 верасня 1992 г. у Нью-Джэрсі.

*сустрэчы было заяўлена, што гэта можна абмяркоўваць толькі пасьля рэфэрэндуму і новых выбараў»*.

Гэтай дарогай перасылаю Вам свае думкі і найлепшыя пажаданьні добрага здароўя і добрых посьпехаў у працы.

У свой час меў пісьмовую сувязь і сп. В. Плескачом і з др. Л. Трусэвічам. Прайшло ўжо больш за два гады, як ня маю ад іх нічога. Асабліва др. Трусэвіч раней прысылаў добрую ахвяру на «Дар Сакавіка» — ужо два гады нічога.

З пашанай,

*

*Чэрвень 5, 1993 г.*

Вельмі Паважаны Доктар!

Абодва Вашыя апошнія лісты (ад 15.V і 19.V) я атрымаў — дзякую.

Што да Вашай паездкі ў Менск была розная апінія ў розных людзей, што зусім нармальна. Пасьля Вашага павароту і вестак, падаваных аб Вашым там прабываньні і Вашых там выступленьнях, выглядае, што паездка была добрай. Зусім добрая Вашая гутарка з Чаркасавай, надрукаваная ў «Голас Радзіме» № 17[387], ды розныя артыкулы-зацемкі ў іншых менскіх газэтах. Ваш артыкул у часопісе «Полацак» добры, але мог-бы быць абшырнейшы, бо весткі зь Беларусі заўсёды цікавыя.

Не хачу пагадзіцца з Вашай думкай адносна Вашага цьверджаньня *«камунікаты ня мелі адпаведнага эфэкту ці карысьці»*, а на якія карысьці трэба разьлічваць, па-мойму, толькі на тое, што сябры Рады ёсьць паінфармаваныя аб тых ці іншых справах БНР, а гэта й карысьць.

Найгоршае, што ў нас ёсьць у Радзе, а гэта што мы фактычна ня маем сакратара. Сп. Васіль добры чалавек, але за доўгія гады свайго сакратарства ніколі не «сакратарыў», а гэта найгорш, бо радныя ў іншых сэктарах зусім непаінфармаваныя. Ніхто ня бачыў пратаколаў з апошніх сэсіяў, гэта-ж скандал.

Вы спадзяецеся на нешта лепшае на наступную сэсыю. Я асабіста нічога лепшага ня бачу, а гэтаму адна прычына — у нас няма адпаведных людзей. Перагледзьце сьпісак усіх радных і падшукайце сябру на становішча старшыні… і будзеце ў тупіку.

Што да фінансавай дапамогі др. Раісе[388], хіба трэба пачакаць. Урэшце, я ніколі ня думаў на нейкую паважную дапамогу, а хутчэй на толькі сымбалічную. Але і на гэта варта пачакаць. Аказваецца, што пачаткова яна плянавала выдаваць свой твор празь БІНіМ, але калі Кіпелі пачалі ўносіць такія-сякія праўкі, яна забрала арыгінал ад іх, бо ніякіх папраравак не дазваляла. Але

---

[387] Гл.: Дзе сіла, там і праўда [гутарка Язэпа Сажыча з Дзіянай Чаркасавай] // Голас Радзімы. № 17. 29.04.1993. С. 1, 3.

[388] Маецца на ўвазе Раіса Жук-Грышкевіч.

Кіпелю, на дапамогу дадатковую, на выданьне працы Пазьняка[389], варта 1000 (тысячу) паслаць.

Таксама наш самы вялікі абавязак, па-мойму, гэта памагаць сп. Арцюху ў выдаваньні яго часопісу «Белорусіан Рэв'ю», бо аб яго вартасьці для нас хіба і гаварыць ня трэба. У свой час Вы параслалі мне дазвол на перасыланьне 750.00 на фінансаваньне ці дапамогу сьвяткаваньня 25 Сакавіка тут у нас. У час сьвяткаваньня я гутарыў з сп. Янкам Азаркам, і ён мне заявіў, што яны абыйдуцца без дапамогі касы БНР. І так гэтых 750 ня былі выданыя. Ваш ліст у гэтай справе я Вам зьвяртаю. Але прапаную, каб на гэта конта выслаць сп. Арцюху 400 ці 500 даляраў, а на гэта перашліце мне сваю згоду ў пісьмовай форме.

Гэтых сто даляраў я залічыў не як ахвяра, але як сяброўская складка, каб аплата сяброўскіх складак была ў парадку і якая ёсьць да паданай на квіце даты.

Мне званіў сп. А. Стрэчань і гаварыў, што Вы там былі, а таксама ўспамінаў, што сп. Ханенка ў бліжэйшым часе сабраныя грошы перашле мне.

Хіба ведаеце, што Рада БНР ня мае заступніка на Эўропу, так як сп. Віктар Сенкевіч пераехаў у ЗША, жыве каля Сан Францыска ў Каліфорніі. Кагосьці там (у Эўропе) трэба шукаць.

Вельмі кепская справа ў Англіі, бо там ужо сэктар і ня сэктар. Сп. Лашук па старасьці ўжо ня здольны да працы, а магчыма, ведаеце, што найбольш актыўны сябра сэктару («мой» скарбнік) сп. Янка Міхалюк страціў абедзьве нагі. Прычыны ня ведаю, але пачаткова ампутыравалі адну вышэй калена, праз пара тыдняў другую — вестка тэлефан[ічная] ад сп. Лашука.

З пашанай.

*

*Люты 27, 94 г.*

Вельмі Паважаны Спадар Доктар!

Так, папярэднія нашыя лісты разьмінуліся ў дарозе. Апошні ліст Вашэці з 18.II.94 я атрымаў чамусьці аж на 8-ы дзень, 25.II. Расьпісвацца гэтым разам ня маю часу, бо заняўся падрыхтоўкай і высылкай лістоў для збору ахвяраў на «Дар Сакавіка».

Нягледзячы на тое, што мой зварот да сяброў Рады аб сяброўскіх складках быў няўдачным. Пасьля такога водкліку мне цяжка пачынаць штосьці падобнае ізноў. Але яшчэ раз прабую. Хіба кошты выдаткаў ахвярамі будуць пакрытыя. У гэтым звароце выразна зазначана, што ахвяры пойдуць на падтрымку БНФ — можа, гэта ўзварухне некаторых.

[389] Маецца на ўвазе кніга: Курапаты = Kurapaty: [зборнік]. Менск — Ню Ёрк: Беларускі інстытут навукі і мастацтва, 1993. — 87 с.

Праэкт звароту ў газэту «Беларус» я пераслаў сп. Янку Запрудніку дня 7.II.94 з просьбай зьмясьціць яго ў лютаўскім нумары. Зразумела, прасіў яго, каб рабіў свае папраўкі ў гэтым праэкце.

Адносна Вашай ідэі ў справе грашовай дапамогі БНФ я і думаю, што ўсе сябры Прэзыдыюму будуць гэтай думкі. Я ўжо пачынаю шукаць спосабы пераказаньня грошы туды. Можа Вы добра аб гэтым паінфармаваны, то напішыце. Добрую параду маю ад сп. В. Кіпеля, бо ён пераказваў туды паважную суму грашэй. Зразумела, што найлепшы спосаб гэта перадача праз кагосьці знаёмага, едучага ў Менск-Беларусь. Але пака гэта, Вы прышліце мне «загад» аб высылцы гэтых пяць тысяч.

Я проста не магу сабе ўявіць, што др. Барыс Рагуля нават і заступніцтва ў Радзе не жадае мець. Дзе тут сабака зарыта, чаму такі герой-патрыёт, і раптам штосьці падобнае. Хіба Вам асабіста лепш ведамы гэты сакрэт — чаму?

Паміж намі. Гэта толькі мая асабістыя разважаньні: хто-ж мог-бы быць старшыняй, хіба нядрэнным быў-бы Мікола Ганько, потым др. Раіса Жук-Грышкевіч, ну проста пэўны кандыдат гэта Ваш Кастусь М.[390] — мастэр на ўсё. Па-мойму, магчыма, Вам варта навязаць добры кантакт з сп. Ганьком.

Усяго добрага Вам, з пашанай.

## Ліст да Міхася (Лужынскага?)

*Травень 30, 1990 г.*

Дарагі Міхась!

Ваш чэк у аўстралійскіх далярах я атрымаў 19.IV.90 і адразу-ж здаў у банк, зь якім маю «бізнэс» ужо каля сарака гадоў. Адразу мне сказалі, што займе добры час, пака яны атрымаюць амэрыканскія даляры і за гэта яны возьмуць 10.00 даляраў. Чаму гэны чэк вярнуўся да Вас, я ня ведаю, і ці банк мой ведае? З практыкі ўжо ведаю, што вымена загранічных чэкаў ня ёсьць добра ўрэгулявана. Я меў такі выпадак, што з Англіі мне пераслалі чэк у амэрыканскіх далярах, і гэты чэк вярнуўся да мяне.

Але ўсё гэта ня так важна, тут галоўнае, што я павінен быў адразу сказаць, а гэта вялікі Вам дзякуй за так добрае падтрыманьне Галоўнай Касы БНР. Чамусьці гэта добрая традыцыя ідзе ад даўна, што аўстралійскі сэктар пад узглядам збору на «Дар Сакавіка» і аплачваньня сяброўскіх складак усімі раднымі сяньня лепшы з усіх нашых сэктараў. Запраўды вялікі Вам дзякуй.

Міхась піша, што атрымаў Камунікаты Рады БНР. У нядзелю 27-га травеня сабралася добрая грамада нашых людзей на парафіяльнае сьвята царквы Жыровіцкай Божа-Маці ў Гайлянд Парку, Нью Джэрзі. Адбылася прыгожая паніхіда ў памяць 20-х угодкаў сьмерці нашага незабыўнага Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка. Пасьля Божай Службы адбыўся супольны абед, на якім было хіба каля сотні людзей (многа на нашыя абставіны). Былі зачытаныя два кароткія даклады: аб Жыровіцкай Божа Маці і аб жыцьці і працы былога Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка.

---

[390] Маецца на ўвазе Кастусь Мерляк.

Пасьля гэтых урачыстасьцяў адбылося пашыранае паседжаньне сяброў Рады БНР. Прысутных сяброў Рады было 24 — гэта больш, чым добрая колькасьць. Дагэтуль усё было добра, але далей мне проста й ня хочацца гаварыць. Старшыня Рады ня толькі не падрыхтаваў хоць-бы нейкага скупенькага парадку дня, але й сам не падрыхтаваўся… Пачаў нібы вясьці сход, і адразу было бачна, што гаворыць ён нејак ня так… ён быў п’яны. Часткова сытуацыю выратаваў сп. Янка Запруднік, які паінфармаваў прысутных аб падзеях на Бацькаўшчыне ды наогул ва Ўсходняй Эўропе. Сп. Мікола Ганько падаў добры праэкт прапанаваў, якія спэцыяльна выбраная камісія павінна належна апрацаваць. Асабіста я паінфармаваў аб фінансавых справах. Да канца паседжаньня я ня змог быць.

У недалёкім будучым я пастараюся падрыхтаваць кароткую фінансавую справаздачу, якую потым вышлю ўсім скарбнікам сэктароў, каб усе былі паінфармаваныя аб стане фінансавым. На сёньня ў касе маецца 23,173.00.

Яшчэ раз шчыра дзякую Вам за добрую Вашу працу для падтрыманьня Галоўнай Касы БНР.

Спадзяюся, што калі ўсё будзе нармальна-добра, дык хіба сустрэнемся на сустрэчы ў нашым Полацку[391].

Варта яшчэ дакінуць, што кадэнцыю старшыні Рады др. Сажыча канчаецца аж у 1994 годзе. Я ня думаю, што мы, усе радныя, будзем абыякава глядзець на ягоную камплетную бязьдзейнасьць. Штосьці трэба рабіць, тым больш у сёньняшні час, калі галоўны наш вораг — камунізм — пачынае трашчэць па ўсіх швах.

Шчыра жадаю Вам і Вашай спадарыні ўсяго найлепшага.

З найлепшымі прывітаньнямі для ўсіх, Ваш.

## Лісты да Лявона Трусевіча

*

*Чэрвень 25, 83,*

Вельмі Паважаны Спадар Доктар!

Шчыра дзякую за перасланую ахвяру на «Дар Сакавіка». Так як паводле пастановы Сэсыі Рады БНР усе пэнсыянэры-сябры звольненыя ад нацыянальнага падатку, і таму я ўсе паступленьні ад сяброў-пэнсыянэраў упісваю ахвяры на «Дар Сакавіка».

Згодзен поўнасьцю з Вамі, што сяброўства ў Радзе павінна быць сур’ёзна разгледжана, бо мёртвыя душы ёсьць. Для гэтага, па-мойму, павінна была-б створаная камісія ці сэсыяй Рады ці, магчыма, дэкрэтам Старшыні.

Што да царкоўнага закалоту — я думаю, што на існаваньні самой Рады не так адбіваецца, але на дзейнасьць напэўна адбіваецца.

---

391 Маецца на ўвазе беларускі грамадска-культурны цэнтр «Полацак» у Кліўлендзе.

Што да пераняцьця кіраўніцтва Рады праз новага Старшыню ведаю толькі, што 10 красавіка др. Я. Сажыч і др. Б. Рагуля былі ў др. В. Жук-Грышкевіча, і некаторыя дакуманты й сьпіскі радных (з адрысамі) былі пераданыя др. Сажычу.

Зразумела, што праўдзе трэба глядзець у вочы. Праца Рады БНР, зразумела, не вядзецца так, як, магчыма, трэба было-б. На гэта ёсьць і прычыны, а адна зь іх гэта век радных, бо ў бальшыні гэта ўжо старэйшыя або зусім старыя людзі. Толькі ў апошніх пару гадох адыйшлі на вечны супачынак такія сябры, як у Аўстраліі: др. Малецкі, П. Мікуліч[392], А. Качан, Аўгеня Каранеўская — я асабіста ўсіх іх добра ведаў. Качан і Каранеўская і Лужынскі ад некалькіх гадоў вялі тыднёвую беларускую перадачу праз Сыднэйскае радыё, а цяпер трэба сумлівацца, што адзін Лужынскі зможа такую работу рабіць[393], хаця яму памагаюць радныя Калодка[394] й Скабей[395], але-ж і гэтыя апошнія ўжо паважныя старыкі.

Паміж намі гаворачы, і нававыбраны Старшыня Рады за доўгі час маўчыць. Ужо прайшло пяць месяцаў ад выбараў, і я як Галоўны Скарбнік і сябра Прэзыдыюму Рады БНР да гэтага часу нічога не атрымаў ад нававыбранага Старшыні, а паважных спраў і праблемаў заўсёды хапае.

З найлепшымі пажаданьнямі для Вас.

*

*Чэрвень 20, 1984*

Вельмі Паважаны Доктар,

Даруйце, што зацягнуў зь перасылкай паквітаваньня.

Пасьля Сабору БАПЦ, які адбыўся ў канцы травеня ў Нью Брансьвіку, да мяне заехалі спадарства Плескачы й др. Сажыч (начавалі адну ноч). Пабяседаваць не давялося зашмат, так як «хлопцы» былі зусім «змучаныя» — папярэднюю ўсю ноч гулялі ў «брыджа».

Др. Сажыч гаварыў мне аб справах вэтэранаў і аб тым, што Вы асабіста адмовіліся ад функцыі Галоўнага Камандзера. Зразумела, што вэтэранаў у нас

---

[392] **Пётра Мікуліч** (1922–1981) жыў у Мельбурне (Аўстралія). Быў скарбнікам Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі. Доўгі час быў рэгентам царкоўнага хору парафіі БАПЦ у Мельбурне, а таксама арганізаваў і да апошніх дзён жыцця кіраваў беларускім мяшаным хорам.

[393] Міхась Лужынскі амаль аднаасобна рабіў беларускія радыёперадачы ў Сіднэі ў 1983–1993 гг.

[394] **Аляксандр Калодка** (1911–1985) жыў у Мельбурне (Аўстралія), быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вікторыі, Згуртавання беларускіх камбатантаў, Каардынацыйнага камітэта беларускіх арганізацый у Аўстраліі, Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі. Сталы аўтар зацемак пра жыццё беларусаў Мельбурна ў газетах «Бацькаўшчына» і «Беларус».

[395] **Скабей Мікола** (1905–1992) жыў у Мельбурне, уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі.

ужо як і няма, а тыя, каторыя яшчэ горда маршэруюць, гэта адзінкі, да якіх таксама набліжаецца законная старасьць. Але нягледзячы на гэта, функцыя Галоўнага Камандзера Вэтэранаў ніколі не зашкодзіць, каб была пры Радзе БНР. Зразумела, што Вы асабіста на такую функцыю найбольш адпавядаеце.

Др. Сажыч гаварыў і мне асабіста ўзяць гэтую функцыю, але ў мяне сур'ёзная праблема з вачамі — маю кантакт лензы, па катарактах, на абодвух воках, а на правым воку меў апэрацыю «дэтэч рэтна»[396]. Ноччу езьдзіць машынай гэта паважная праблема.

На сустрэчу ў Кліўленд нібы пляную ехаць, але як выйдзе, яшчэ й сам ня пэўны.

Галоўнае, што й сам асабіста чуюся ня зусім яшчэ добра. 15 травеня меў паважную няўдачу. Зразаючы пашкоджаныя бурай сукі, зь вялікага дрэва каля сваёй хаты зваліўся разам з драбінай з вышыні 15-16 футаў. Адна ўдача — не паламаў касьцей. Зваліўся на правы бок, так што й сёньня правая нага яшчэ дакучае, а правая рука яшчэ горш. Лекар кажа, што яшчэ пройдзе пару месяцаў, пака ўсе пагоіцца.

Др. Сажыч гаварыў мне, што Вы наведвалі Міколу Кунцэвіча. Я яму пісаў пара месяцаў таму, але адказу не атрымаў. Як выглядае з мапы Вашай часткі Флёрыды, мой добры знаёмы Лявон Гурыновіч жыве недалёка ад Вас. Гэта старэйшы чалавек і слабага здароўя. Яго сястра з сваім мужам жывуць каля нас.

Жадаючы Вам усяго добрага, з пашанай.

*

*18.IV.89 г.*

Вельмі Паважаны Доктар!

Вялікі дзякуй за перасланыя грошы ў касу Рады, а таксама за Вашыя заўвагі адносна працы ворганаў нашай Рады БНР, асабліва ў апошнія часы. Каб штосьці больш канкрэтнага сказаць, я трохі зацягнуў з адказам на Вашыя заўвагі, хацеў пачакаць, калі сакавіковыя сьвяткаваньні адбудуцца ў нашых большых асяродках. І так як у Чыкага на сьвяткаваньні галоўны даклад меў сп. Запруднік, у Кліўлендзе — сп. Вітаўт Кіпель і ў Нью Ёрку / Нью-Джэрзі (сьвяткаваньне было ў Нью Брансьвіку) былі два даклады: кароткі, але вельмі зьместоўны даклад сп. Я. Запрудніка і другі зачытаў малады інжынэр сп. В. Тур. Здаецца, кругом сьвяткаваньні прайшлі не найгорш, бяручы пад увагу нашыя магчымасьці й нашую колькасьць. Штораз нас менее. Напэўна, у «Беларусе» будуць паданыя дакладнейшыя даныя. Аднак на ўсё гэтае «добрае» кідалася ў вочы адно ненармальнае «дрэннае». Ад пяцідзесятых гадоў я бываю на падобных сьвяткаваньнях тут у нас у Нью Ёрку ці Нью Джэрзі, але гэтым годам першы раз ня было прывітаньняў Сакавіковых ад самога Старшыні Рады БНР. Ня было ні ў нас, ні ў Чыкага, ні ў Кліўлендзе.

---

[396] ***Detached retina*** (англ.) — адслаенне сятчаткі.

Усе пытаюцца, чаму? Але адказу няма. Яшчэ лепш, на нашым сьвяткаваньні сёлета было прывітаньне ад «прэзыдэнта» БЦР, ім ёсьць цяпер сп-р М. Зуй[397], каторы жыве ў Аўстраліі, але ад нашага ня было.

Выглядае, што мы дакаціліся ў паважны тупік. Праўду кажучы, мы ня маем старшыні Рады, а ці можам сабе дазволіць на штосьці падобнае, асабліва ў гэты час, калі на Бацькаўшчыне пачынаецца паважнае адраджэньне. Былі людзі-патрыёты, якія адрадзілі Раду БНР, а мы што робім?

Ад некаторага часу выпісваю менскі тыднёвік «Літаратура і Мастацтва», і ў гэтай газэце час ад часу ўспамінаюць БНР як паважны нацыянальны твор, які нельга гісторыкам абмінуць.

Спадар Доктар, на маю думку, варта было-б Вам асабіста ўзяцца за гэта, каб справу выясьніць і ўнесьці нейкае паляпшэньне ці зьмену на лепшае. Першым заступнікам Старшыні Рады зьяўляецца др. Барыс Рагуля, а напэўна Вы яго асабіста добра ведаеце. Варта зьвярнуцца да яго ды скалыхнуць яго — няхай закаша рукавы ды штосьці робіць.

Чуў, што др. Сажыч купіў у Флёрыдзе хату ці кандамінімум. Здаецца, ён ад Вас зусім недалёка, але дзе ён у гэты час? Ведаю, што на мой ліст да яго ў верасьні 88, на які я патрабаваў хуткага адказу, я й да сёньня ня маю яго.

Шчыра жадаю Вам усяго добрага.

*

*Ліпень 25, 1993 г.*

Вельмі Паважаны Доктар!

Вялікі дзякуй за ліст і за чэк. Паквітаваньне залучаю. Нармальна, атрымаўшы чэк, я высылаю толькі паквітаваньне, але часамі прыходзіцца і напісаць тое-сёе. У сваім лісьце Вы кранулі пару тэмаў, аб чым варта гаварыць. Цікава, што др. Сажыч казаў Вам… што ён сам ня бачыць ніякага выхаду.

---

[397] **Міхась Зуй** (23.10.1909, в. Вялікае Сяло, цяпер Шаркаўшчынскі раён Віцебскай вобл. — 24.04.1995, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч. У 1932 г. арганізаваў у вёсцы асветны гурток «Кола беларускай моладзі». Ад 1942 г працаваў у Беларускай народнай самапомачы, павятовы кіраўнік Шаркаўшчынскага павета. Сябра Беларускай незалежніцкай партыі. Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэса. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў у складзе Дальвіцкага беларускага батальёна. Пазней перабраўся ў лагер *DP* у Ватэнштэце. Ад жніўня 1949 г. жыў у Аўстраліі. Удзельнік Першага з’езда сябраў Беларускага аб’яднання ў Аўстраліі ў сакавіку 1950 г., пазней — стваральнік і нязменны старшыня БАА (БЦРаўскага кірунку). Ад імя гэтай арганізацыі рэпрэзентаваў беларусаў на мерапрыемствах аўстралійскіх грамадскіх і ўрадавых арганізацый. У 1950–1960-я гг. — арганізатар і кіраўнік беларускага драматычнага гуртка ў Сіднэі. Кіраўнік дэлегатуры БЦР у Аўстраліі. У 1978 г. — старшыня Беларускага культурна-грамадскага клуба ў Сіднэі. У 1977–1978 гг. — старшыня Выканаўчага камітэта Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі. У 1987 г. на XIX Пленуме БЦР прызначаны і зацверджаны на пасаду Прэзідэнта БЦР.

А ці ня варта прыпомніць нам ранейшых нашых дзеячоў БНР: Крычэўскага, Захарку, Абрамчыка. На які выхад чакалі-спадзяваліся яны, калі на палітычным гарызоньце ня было й малейшай надзеі на свабодную самастойную Беларусь. Мы ведаем, што яшчэ далёка да поўнай незалежнасьці Беларусі, але добрыя пачаткі ёсьць. Магчыма, бачылі на TV, як наш Станіслаў Шушкевіч бяседуе з Прэзыдэнтам Амэрыкі ў Белым Доме. Зразумела, што мы ня будзем трымацца БНР на эміграцыі заўсёды. Прыдзе ў Беларусі да ўраду свой элемэнт, не камуністы, і паўнамоцтвы эміграцыйнай Рады БНР афіцыяльна будуць перададзеныя таму ўраду, на што трэба спадзявацца ў недалёкай будучыні.

На XX-й сэсыі Рады БНР (25.V.1991) адбываліся перавыбары старшыні Рады. Прысутных радных было толькі 14, і з упаўнаважаньнямі (42) чуць кворум, бо ўсіх радных у той час было 83. Др. Сажыч катэгарычна адмаўляўся, адкрыта гаворачы: *«я не надаюся»*, але, калі-б Вы асабіста былі тады прысутныя, я пераконаны, што Вы атрымалі-б функцыю старшыні, хоць-бы й не хацелі. Безумоўна, «Камунікаты» павінны былі-б час ад часу паказвацца, але й на гэта др. Сажыч ня ў сілах, а нейкай дапамогі няма і на грош. У нас тут толькі адна бяда, а гэта камплектны недахоп людзей, хоць трохі ахвотных і здольных да грамадзкай працы. Гэта сама па БНР і па лініі БАЗА і іншых нашых арганізацый. Наша шчасьце, што хоць некалькі адзінак маем, што працуюць рукавы закасаўшы (Янка Запруднік, Спадарства Кіпелі, Антон Шукелайць).

Вы кранулі справу фінансавую БНР. *«Няма ніякага сэнсу пасылаць грошы, якія бязьдзейна будуць ляжаць у банку, і хто пяройме гэтыя грошы»*. Паводля гэтага выглядае, што каса БНР зьбірае грошы й трымае іх у банку, а потым нехта іх забярэ. Так, зразумела, ня ёсьць. Грошы вельмі-ж цяжка зьбіраюцца. У сакавіку я высылаю некалькі сот лістоў-просьбаў аб грашовыя ахвяры. Ёсьць людзі, якія адклікаюцца, некалькі суродзічаў нярадных штогод прысылаюць 200, а адзін прысылае 500. Сярод радных ёсьць розныя. Каб менш-больш Вы арыентаваліся аб касе, я перасылаю Вам даныя аб галоўных выдатках за апошніх некалькі гадоў, а ёсьць і драбнейшыя выдаткі. Найбольшую суму грошы каса мела ў канцы 1987 г., а гэта 24,633.60, а найменш у канцы 1992 — 17,892.11. Як бачым, грошы «корчацца», бо выдаткі ўзрасьлі, а даход зьменшыўся. Прычынай меншага даходу ёсьць тое, што нас штораз менш.

З пашанай.

## Лісты да А. Лашука

*

*Сакавік 3, 1993*

Дарагі Алесь!

Учора ўвечары атрымаў Твой ліст і далёка не адкладаючы пішу. Вельмі цікава, як усё дайшло, што было ў Тваім канвэрце, бо абодва бакі былі якбы разрэзаныя. Урэшце я ўлажу гэты канвэрт так, як ён прышоў — я нічога ня рэзаў, не адкрываў. Нават і нашая марка на 50 цэнтаў была, а таксама, здаецца, усе фатаграфіі.

Твой ліст аб рэзыгнацыі з старшынства сэктару я перадам у час сьвяткаваньня 25 Сакавіка. Даты, калі хто памёр, і адрасы я маю. Цікава даныя аб Натальлі Орса[398]: памерла 20.II.1990, і ў газэце «Беларус» 367, лютым 1990 поўная балонка прысьвечанае ёй, а даты нараджэньня й не падана.

Пішаш, што я нічога не пісаў Табе аб Лявону Хвальку[399]. Я, здаецца, Табе пісаў, што ён пражывае ў добрым старчыскім доме, дзе добрая апека й дагляд, але ён ужо нічога не памятае. Трымаецца спакойна, часамі адказвае на пытаньні добра, але наогул галава добра не працуе. Але апошня сталася кепскае зь ім, бо паваліўся на калідоры й надламаў бядро, забралі ў шпіталь 27.II і ў нядзелю 28.II рабілі апэрацыю. Учора я яго наведаў, але гутарыць зь ім цяжка, бо тое-сёе да толку, але ў большасьці бяз сэнсу. У шпіталі можа быць два тыдні, а можа й даўжэй.

Паміж іншым, ці маеш нейкія магчымасьці даведацца штосьці аб Нікандру Ласоўскім[400], бо Люба[401] ўспамінае яго й цікавіцца, як ён там маецца.

---

398 **Наталля Орса** (1903–1990), жонка Аляксандра Орсы, жыла ў Нью-Ёрку. Выкладала ў беларускіх школах. Была сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіла ва ўправу і кіравала жаночай секцыяй Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі.

399 **Лявон Хвалько** (23.03.1905, в. Грыбоўшчына, цяпер Баранавіцкі раён Брэсцкай вобл. — 08.03.1995, Дарыен, Канектыкут, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1943 г. быў вывезены на працу ў Нямеччыну. Адтуль трапіў у Вялікабрытанію. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1948 г. стварыў аддзел арганізацыі ў Гемптан-Ловет. У 1950 г. стаў адным з заснавальнікаў і першым старшынёй аддзела ў Бірмінгеме, а потым быў сакратаром акруговага аддзела ЗБВБ. У 1956 г. сакратар Галоўнай управы ЗБВБ. Ад 1949 г. быў сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў, уваходзіў у дружыну ў Бірмінгеме. У 1958 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, потым у Стамфардзе (Канектыкут).

400 Магчыма, маецца на ўвазе **Нікадзім Лазоўскі** (24.09.1908, в. Мікалаева Дзісенскага пав. — ?), грамадскі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Кроўлі (*Crawley*) у Сасэксе. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі.

401 Маецца на ўвазе жонка Віталя Кажана.

Мерляку я вышлю Твой ліст. Аб ім Ты маеш поўную рацыю, бо і развал тут нашых цэркваў гэта ў вялікай меры дзякуючы яму. Пакойны стары Стагановіч заўсёды гаварыў: *«гнаць гэтага прахвоста з Рады»*.

Пару дзён таму я атрымаў ліст ад Старшыні др. Я. Сажыча. Ён праводзіць зімовы час у цёплай Флярыдзе. Піша, што па прычыне здароўя ён ня зможа быць прысутным на сьвяткаваньні 25-га Сакавіка, якое ў нас адбудзецца 28.III. у Нью Брансьвіку, але на яго просьбу будзе яго першы заступнік др. Барыс Рагуля. Паміж іншым, Сажыч меў сур'ёзную аварыю з аўтамашынай. Раней былі чуткі, што ён плянаваў сабраць нейкае маленькае паседжаньне радных падчас сьвяткаваньня й злажыць сваю дымісыю — падацца ў адстаўку. Так ці інакш, але карысьці зь яго ніякай. Які там Рагуля ёсьць, але заўсёды быў-бы лепш за Сажыча.

У нас месяц люты ў гэтым годзе больш халаднейшы, чымсьці нармальна. Часта ноччу мароз даходзіў да 10–15 градусаў па Цэльзію, бо хіба ведаеш, што Амэрыка ўжывае градусьнік Фарэнгайта.

У палове сакавіка трэба будзе пачынаць сеяць насёны некаторых агароднін, як салата, памідоры, перцы. У сваім падвале я трымаю шмат вазонаў розных кветак, якія пры помачы сьвету добра растуць і цьвітуць.

Шчыра жадаю табе ўсяго добрага. Пасьля 25 сакавіка напішу, як прайшло.

*

*Сакавік 17, 1993*

Дарагі Алесь!

Набралася трохі навасьцей, а таму й рашыў напісаць Табе. Перадусім самае галоўнае, як Ты сам чуешся, асабліва ў гэты час, калі пагода можа быць кепская?

Магчыма, і ў Вас там гаварылі аб зімовай буры, якая наведала ўсю ўсходнюю частку ЗША. Вялікі сьнег, сільны вецер, а на заканчэньне даволі вялікі дождж і ноччу (з суботы на нядзелю) усё гэта добра замерзла. І да сёньня яшчэ добра не раскапалася.

Я пры гэтым перасылаю Табе ліст да сяброў Рады й кароткую фінансавую справаздачу. У ЗША і Канаду ўсім сябрам я гэта выслаў сам, а ў сэктары паслаў скарбнікам з просьбай, каб яны зрабілі копіі й выслалі радным свайго сэктару. А так як я ня пэўны, што сп. Міхалюк гэта зробіць, то Табе я перасылаю. Як думаеш, ці гэта ідэя мая была добрая ці марнаваньне грошай на маркі й паперу???

Копію Твайго ліста да Прэзыдыюму К. Мерляку я выслаў.

Апошня я Табе пісаў, што старшыня грэе плечы ў Флярыдзе, але 10-га сакавіка атрымаў ад яго ліст ужо не з Флярыды, а з Дэтройту. Піша, што на вялікую просьбу Беларускага Народнага Фронту прыехаць у Менск на ўрачыстасьць 25 сакавіка рашыў паехаць і просіць пераслаць яму дзьве тысячы даляраў. Зразумела, што даляры я яму пераслаў і пажадаў добрых удачаў

у яго паездцы. Паехаць туды на 25 сакавіка, па-мойму, добрая ідэя, толькі адзін тут недахоп, што наш старшыня хоць і доктар, але ня вельмі вялікая асоба. Перасылаючы яму чэк, я таксама пераслаў Твой ліст-рэзыгнацыю з старшынства сэктару.

У нас 25 Сакавіка адбудзецца ў Нью Брансьвіку, бо там на месцы й свая царква і недалёка ад царквы добры гатэль, дзе ўжо мы праводзім сьвяткаваньне добрых некалькі гадоў. Кажуць, што будуць госьці зь Менску, але хто, я ня ведаю. Пазьней пасьля сьвяткаваньня Табе напішу.

Лявон Хвалько яшчэ ў шпіталі. За пара дзён, магчыма, я яго наведаю, бо цяпер за сьнегам няма там як ехаць, бо няма дзе машыну ставіць.

Цікава, як там у Вас пачтовая сувязь зь Беларусяй, бо ў нас нараканьні з усіх бакоў, што наогул лісты не даходзяць. Я маю там шмат крэўных і ўжо ад даўжэйшага часу ніякіх лістоў.

Дарагі Алесь, старайся нічым не праймацца, а глядзі самога сябе.

Трымайся.

*

*Травень 21, 1993.*

Дарагі Алесь!

Апошня гаворачы па тэлефоне Ты мне сказаў, каб я не сьпяшыў з адказамі на Твае апошнія два лісты. Я рашыў пачакаць на нейкі водгук старшыні Рады др. Сажыча аб яго паездцы ў Менск і тады напісаць. 10.V.93 я выслаў яму ліст, ня зусім для яго добры, бо прыпомніў яму, што ён-жа ўсётакі старшыня Рады, і як такі па сваім звароце з такога «гістарычнага» падарожжа ён абавязаны паінфармаваць усіх сяброў Рады аб выніках яго падарожжа. Урэшце 17.V.93 атрымоўваю ад яго ліст, копію якога перасылаю Табе. Прачытай і зрабі свой выснаў…

Ліст, перасланы з Флярыды, а значыцца, пасьля свайго павароту зь Беларусі замест заняцца ўпарадкаваньнем «урадавых» спраў ён паехаў у Флярыду качацца з бака на бок і грэць плечы. Я як скарбнік маю некалькі спраў, якія патрабуюць неадкладнага вырашэньня, а колькі іншых паважных спраў, але на ўсё ён глядзіць зусім абыякава. Ён праўду калісьці казаў: *«не выбірайце мяне, бо я ня здольны на гэта становішча»*.

Хоць коратка адказы на Твае апошнія лісты:

Пішаш, што хацеў-бы мець пісьмовае пацьверджаньне аб атрыманьні Тваёй рэзыгнацыі. Нармальна так, але ці сакратар Прэзыдыюму сп. Васіль Русак за доўгія гады свайго сакратарства ці напісаў нейкую паперачку, ці мае ён канцылярыю, улік сяброў Рады і так далей… я сумліваюся. Думаю, што штосьці падобнае і ў самога старшыні.

Дзякую за адрас Віктара Сенькевіча. Я зь ім ужо маю пісьмовы кантакт. Як ён быў у Эўропе, каса ад яго ніколі ня мела ані цэнта. Цяпер прыслаў 20.00 даляраў і абяцаў не забывацца.

У Мюнхэн я пасылаю ўсе фінансавыя справы сп. Урбану. Дагэтуль праводзіў зборку на лісту «Дар Сакавіка», але ніхто не плаціў сяброўскіх складак. Цяпер там толькі тры сябры, а гэта Павел і Ларыса[402] і Сенькоўскі.

Таксама цяпер і Ваш сэктар маленькі і даволі «пакалечаны» праз Тваё недамаганьне ды апошняе сур'ёзнае калецтва Янкі Міхалюка. Запраўды, вельмі цікава, як ён чуецца і як папраўляецца, ці ёсьць нейкая надзея, што ён паправіцца да такой ступені, што зможа штосьці грамадзкае рабіць. Паколькі мне ведама, яго сыны былі ў Паўдзённай Афрыцы, а цяпер дзе яны[403]? Ад сыноў гэтых каса ніколі нічога ня мела. Магчыма, сп. Міхалюк штосьці сабраў на «Дар Сакавіка», а як цяпер гэта атрымаць, калі ён у такім стане. Ён раней, будучы ў добрым стане, заўсёды сваю справаздачу перасылаў зь вялікім спазьненьнем, а цяпер??? Зноў-ж пытаньне — ці ў Англіі ёсьць добрыя кандыдаты, якіх можна было-б прасіць у Раду БНР, як на Тваю думку.

Так, вельмі прыемна, што запрашаеш у Лёндан, але ў мяне апошня штораз горш з вачыма. Нешта трэба рабіць, і ўжо маю назначаную візыту ў добрага вачнога лекара. Я маю кантакт лензы ў абодвух воках ужо больш дзесятку гадоў. Ня праціў-бы паехаць у Беларусь на гэтую сустрэчу, але праблема вачэй на перашкодзе.

Калі маеш доступ да «Голасу Радзімы», а апошня гэта ўжо даволі добрая газэта, то ў нумары 17 ад 29 красавіка ёсьць «гутарка» карэспандэнткі Чаркасавай з старшынём Рады БНР др. Сажычам. Па-мойму, як на яго, слабенькага палітыка, ён выйшаў не найгорш.

Калі чагосьці не напісаў, дык прыпомні.

*

*Верасень 9, 93.*

Дарагі Алесь!

Пачынаю ад гэтых Курылаў[404], бо я сам ніколі ня думаў, што ў іх наступіць такі сямейны скандал. Мерляк мне гаварыў, што ён Табе званіў і менш-больш добра Цябе паінфармаваў аб Курылах. Здаецца, Мікола Абрамчык меў рацыю, калі гаварыў Табе, што разбагацелі і… падурнелі ці як там.

У суботу 4.IX.93 у нас адбыўся Кангрэс БАЗА. Кангрэс гэты адбываецца што другі год, каб перавыбраць новую ўправу. Дэлегаты былі з усіх большых нашых асяродкаў, уключаючы Кліўленд і Дэтройт.

Усё праходзіла добра, калі гаварылася аб усім і нічым, але калі прышло да выбараў, дык і кандыдата на мейсца былога старшыні Антося Шукелойца

---

402 Маецца на ўвазе **Ларыса Урбан**, жонка гісторыка Паўла Урбана.

403 Янка і Лёля Міхалюкі мелі трох сыноў: Алеся, Віктара і Эдварда. У Паўднёвай Афрыцы пасяліўся Алесь Міхалюк. Віктар жыве і працуе ў Манчэстэры. Эдвард таксама некаторы час працаваў у Паўднёвай Афрыцы, але потым пераехаў у Шатландыю.

404 Маюцца на ўвазе Уладзімір і Аліна Курылы.

так і не знайшлося. Прапанаваныя кандыдаты (Ала Орса-Романо, Галіна Русак, Юрка Азарка, Янка Запруднік…) усе катэгарычна адмовіліся за выняткам Янкі Запрудніка, які заявіў, што прыме старшынства БАЗА, але адразу *«перастаю быць рэдактарам газэты “Беларус”»*. Да гэтага трэба ведаць, што Янка Запруднік як запраўдны гісторык-навуковец шмат аддае часу на розныя навуковыя працы й толькі для дабра беларускай справы.

Пасьля доўгай валакіды рашылі пакінуць старую ўправу на год часу, і за гэты час старшыня сп. А. Шукелайць павінен падрыхтаваць-знайсьці кандыдата на сваё месца. У нас, на жаль, кругом тая самая бяда, а гэта сур’ёзны недахоп добра падрыхтаваных маладзейшых людзей. А перад кангрэсам у тэлефанічнай гутарцы я радзіў Шукелайцю, каб ён сам падшукаў-дагаварыўся з кандыдатам на сваё месца, бо будзе клопат, і так яно сталася.

У нядзелю (5.IX) пасьля царкоўнай службы адбылася разьвітальная бяседа з Генадзем Бураўкінам, каторы быў апошнія тры гады прадстаўніком (галоўным) у Аб’еднаных Нацыях ад Беларусі. Гэта запраўды добры беларус, які трымаў зь беларусамі тут, у ЗША, вельмі блізкі кантакт. Дзе нейкая паважнейшая ўрачыстасьць, Бураўкін там бываў. Усе яго шкадуюць. Калі маеш доступ да «Голас Радзімы», то ў нр. 33 на 2-ой бачыне ёсьць зацемка аб зьменах у міністэрстве заграналічных спраў. На месца Бураўкіна назначаны, але яшчэ не зацьверджаны нейкі А. Сычоў[405], якога Бураўкін асабіста ня ведае.

Хацеў-бы, каб Ты мне парадзіў у справе скарбніка Вашага Сэктару Рады. Як думаеш, ці Янка Міхалюк далей можа быць ім ці не, а калі не, дык хто мог-бы скарбнікам быць?

[…]

Трымайся, дарагі Алесь.

*

*Студзень 29, 1994*

Дарагі Алесь!

Апошні Твой ліст з дня 26.XII.93 атрымаў 7.I.94, акурат на нашыя Каляды. Зразумела, што й папярэднія лісты: з дня 15.IX і 3.X.93 атрымаў.

Вельмі цікава, як стаіць справа з тваім новым памочнікам. Выглядае неяк падазрона, бо замнога ў яго паважных спэцыяльнасьцяў, бо й журналіст, і бібліятэкар і… а ў запраўднасьці, ці ён Табе памагае? З такімі людзьмі трэба быць асьцярожным.

Што да працы Прэзыдыюма Рады БНР, зразумела, Ты маеш поўную рацыю. Пачынаючы ад самога старшыні, а гэта самае галоўнае, і далей, а асабліва сакратар Васіль Русак і пальцам у боце ня кратаюць, як пагаворка кажа. Др. Сажыч ніколі не надаваўся і не надаецца на гэтае становішча, але ў нас

[405] **Аляксандр Сычоў** (нар. 1951, Гомель), палітык і дыпламат. Ад 1979 г. — на дыпламатычнай службе. У 1994–2000 гг. быў Пастаянным прадстаўнікам Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. У 2005–2011 гг. — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Аўстрыі.

заўсёды кругом тая самая бяда, а гэта недахоп людзей, хоць трохі здольных да працы. Таму й мая праца скарбніка не дае рэзультатаў, бо многія, калі адкрыта не гавораць, дык думаюць, як і Ты. Паміж іншым, сакратар Прэзыдыюма і яго жонка Галіна паважна залягаюць у справе аплаты сяброўскіх складак. І што-ж Ты думаеш — на мой ліст у справе аплаты залегласьцяў яны й не адгукнуліся. Што да звальненьня радных пэнсыянэраў ад падатку (калісьці пастанова XII сэсыі), то гэта пастанова была ануліраваная на XIII-ай сэсыі.

[…]

*

*Красавік 6, 94.*

Дарагі Алесь!

[…] Вельмі цікава ці хутчэй арыгінальна, што Табе сказаў у тэлефанічнай гутарцы др. Сажыч аб магчымых кандыдатах на старшыню: Ганько не падрыхтаваны… а др. Раіса разваліць Раду. Тут-жа пытаньне, а ў якім стане сёньня Рада БНР пасьля 12 гадоў яго старшынства. А як і дзе знайсьці адпаведнага кандыдата. Др. Б. Рагуля хіба быў-бы нядрэнны, а напэўна лепшы за Сажыча, але Рагуля хоча шукаць чалавека на старшыню Рады дзесьці там у Беласточчыне ці Менску. На маю думку, др. Раіса на сёньня найлепшы кандыдат. Так, мы ведаем, што яна можа разваліць, але, напэўна, нешта старалася-б рабіць. […]

Бязумоўна, вельмі добра з Твайго боку, што Кіпеля, а хутчэй яго Інстытут добра падтрымаў фінансава. Трэба сказаць, што абое Кіпелі гэта незамянімыя-вартасныя людзі, шкада, што ў нас няма больш ім падобных. Было-б нядрэнна, каб Ты мне падаў, колькі Ты ім падарыў. Для Твайго ведама — каса БНР за апошнія пяць гадоў (1988–1993) перадала БІНіМу 15,012.00 даляраў.

У свой час Ты пытаўся, калі й колькі было пераслана сп. Язэпу Арцюху на «Беларускі Агляд» — 17-а студзеня выслана 25.00 даляраў.

[…]

*

*18.IX.95*

Дарагі Алесь!

Самае галоўнае — як кратаешся? Пэўне-ж, у нашы годзікі можа быць усяк, раз лепш, раз горш. Я асабіста яшчэ паўбяды, але Люба чамусьці пасьля пераезду чуецца кепска. Мае паважныя болі ў правым боку сьпіны, магчыма, ныркі. А да гэтага кепска і тое, што тут яшчэ не абзавяліся лекарам — ужо дагаварыліся, але 1-ы візыт для Любы 11.X.95. Добра, што дачка тут на месцы, і яна розныя нашыя справы палагоджвае. Наша месца жыцьця вельмі спакойнае.

Для мяне асабіста працы тут хапае, бо і траву трэба касіць, розныя кустыкветкі давесьці да парадку, бо ўсе было недагледжана.

У апошняй тэлефанічнай гутарцы Ты гаварыў, што будзеш пісаць да Старшыні Рады, да Юзіка, як яго тут называюць. Паводле пастановы XXI-й Сэсыі наступная Сэсыя павінна адбыцца ў лістападзе 1995 г. (пратакол, бачына 7). Некалькі месяцаў таму я пісаў яму, каб ён падрыхтаваў парадак дня ў паразуменьні з Прэзыдыюмам ды разаслаў усім сябрам ува ўсе сэктары добра наперад, перад Сэсыяй, з просьбай, каб сябры належна выказаліся ў справах. Ці Сэсыя, на якую прыбывае некалькі сяброў з бліжэйшых асяродкаў, можа ўсё рашаць? Ці ён у стане штосьці падрыхтаваць, калі, як кажуць, ён рэдка калі бывае цьвярозы?

Аб палажэньні ў нашай Беларусі хіба гаварыць ня варта, бо горш ня можа быць. Цяжка спадзявацца на лепшае, так народ зьнішчаны камунізмам. Ня ведаю, чаму, але я тут беларускую перадачу «Свабоды» дабіраю лепш, чымсьці ў Стамфардзе. Праўда, бываюць дні, што нічога ня чуваць. […]

Як выглядае зь «Беларуса», то Вашае Згуртаваньне так-сяк рухаецца. Прыемна бачыць, што Лёля Міхалюк[406] і надалей актыўная жанчына.

Трымайся, дарагі Алесь!

Шчырыя Табе, Люба й Віця.

## ЛІСТАВАННЕ РАІСЫ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

### Ліст да Язэпа Сажыча

*12 лістапада 1992*

Яго Міласьці Старшыні Рады БНР

Др. Язэпу Сажычу

Вельмі Паважаны Спадар Старшыня:

Шчыра ўдзячная за запросіны, якія атрымала сяньня, на *«пашыранае паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР»* дзеля абгаварэньня і эвэнтуальных пастановаў у справе становішча Рады БНР да апошніх падзеяў у Беларусі. Згодна з Вашым пажаданьнем падаю ніжэй у гэтай справе свае думкі.

1. У вырашэньні важнага пытаньня: якое становішча мае заняць Рада БНР да апошніх падзеяў у Беларусі — усе сябры Рады БНР павінны ўзяць удзел. Значыць, трэба было-б склікаць СЭСІЮ РАДЫ БНР — нечародную, калі на чародную яшчэ ня час.

2. Ляпей было-б сьпярша паслухаць інфармацыю аб сучаснай сытуацыі ў Беларусі, што ёсьць у праграме паседжаньня, а пасьля выказаць сваё становішча, але й так сытуацыя ў Беларусі выдаецца яснай.

---

[406] **Алена (Лёля) Міхалюк** (нар. 1930), жонка Янкі Міхалюка, ад сярэдзіны 1960-х гг. жыла ў Лондане. У 1965–1970 гг. працавала гаспадыняй у Беларускай школе-інтэрнаце імя св. Кірылы Тураўскага. Актыўна падтрымоўвала БАПЦ у Вялікабрытаніі. Сябра Англа-беларускага таварыства. Пасля смерці мужа ў 1995 г. пераехала з Лондана ў Манчэстэр. У 1997–2013 гг. займала пасаду старшыні ЗБВБ.

Наколькі я арыентуюся, Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ў руках камуністаў, а калі й не, дык у руках ворагаў беларускай дзяржаўнай незалежнасьці. Урад Беларусі і яе парлямэнт у сваёй бальшыні шкодзяць нацыянальнаму адраджэньню Беларусі, тармозяць адраджэнскі рух, які праводзіць Беларускі Народны Фронт пад кіраўніцтвам сп. Зянона Пазьняка.

Цяперашні Ўрад і Вярхоўны Савет Беларусі ня хочуць дапусьціць да таго, каб Беларусь была незалежнай. **Цяперашні Ўрад Беларусі ёсьць чужы й варожы ідэалам Акту 25 Сакавіка** [тут і далей вылучана — Р. Ж-Г.].

Рада БНР павінна асудзіць дзейнасьць Ураду Кебіча і цяперашняга Вярхоўнага Савету Беларусі і разам з БНФ дамагацца рэфэрэндум, каб правесьці дэмакратычныя выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі й зьмяніць ейны цяперашні варожы нам урад.

3. **Беларускі народны Фронт** змагаецца за незалежнасьць Беларусі, змагаецца за **ідэалы Акту 25 Сакавіка, і Рада БНР павінна даць яму ўсімі магчымымі спосабамі падтрымку**.

4. Статут Рады БНР. Пар 2 кажа:

*«Правы Рады БНР вынікаюць зь неабмежаваных паўнамоцтваў дадзеных ёй Усебеларускім Зьездам (Кангрэсам) як свайму найвышэйшаму органу — Радзе Зьезду 31 сьнежня 1917…»* і

Пар. 3. ***«Паўнамоцтвы гэтыя трываюць, згодна з пастановай Усебеларускага Зьезду (Кангрэсу) 1917 г. да часу вольных выбараў Устаноўчага Сойму ў незалежнай Беларусі»***.

З гэтага вынікае, што Рада БНР ня мае права перадаваць сваіх паўнамоцтваў, *«дадзеных ёй Усебеларускім Кангрэсам як свайму найвышэйшаму органу»*, цяперашняму, варожаму ідэі Акту 25 Сакавіка, ураду Кебіча.

5. Рада БНР мусіць існаваць аж да асягненьня сапраўднай незалежнасьці Беларусі.

У 1925 годзе бальшавікі на г. зв. Бэрлінскай канфэрэнцыі прабавалі зьліквідаваць Раду й Урад БНР. Ім гэта, як мы ведаем, не ўдалося.

В. Жук-Грышкевіч, быўшы Старшыня Рады БНР, у артыкуле «Рада БНР ніколі не ліквідавалася», кажа: ***«Вельмі важна, каб Рада БНР існавала ў вольным сьвеце й надалей ды вяла барацьбу за вызваленьне Беларусі, бо фактам свайго існаваньня й барацьбы за Беларусь яна рэпрэзэнтуе праўную цягласьць незалежнай дзяржаўнасьці Беларусі, што вынікла з волі народу, і цягласьць змаганьня за ажыцьцяўленьне гэтай волі»*** («Камунікаты» Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР нр. 8 сакавік 1977).

І калі-б мы дапусьцілі да перадачы паўнамоцтваў Рады БНР цяперашняму чужому й варожаму Ураду Беларусі, мы зрабілі-б страшэнную памылку. Гісторыя асудзіла-б Раду БНР і кожнага з нас паасобку раднага як ліквідатара Рады і Ўраду БНР як здраднікаў.

Жыве Беларусь!

Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!

*Раіса Жук-Грышкевіч*

## Лісты да Янкі Запрудніка

*

*Бэры 26 травеня 1991 г.*

Др. Янку Запрудніку
ў Нью Ёрку, ЗША

Дарагі Янка.

Лічачы патрэбным, каб Рада БНР афіцыйна акрэсьліла свае адносіны да БНФ, сфармулявала сваю пазыцыю, я прапанавала на 20-ай Сэсіі Рады БНР да паданага парадку дня Сэсіі дадаць пункт: *«Акрэсьліць (сфармуляваць) адносіны Рады БНР да БНФ»*. БНФ свае адносіны да Рады БНР ужо акрэсьліў, а Рада БНР афіцыяльна сваіх да БНФ ня выказала.

Мяне турбавалі выказваньні аднаго палітыка з Таронта, які браў удзел у нарадзе прадстаўнікоў БНФ і палітыкаў Захаду, што адбылася летась у Беластоку. На маё запытаньне, ці быў на гэнай нарадзе Старшыня Рады БНР, асоба з Таронта, што была там, адказала: *«Не і добра!»*. І далей, маўляў, гэта й ляпей, бо Рада БНР і так *«як толькі сымбаль»* ужо ці не аджыла сваю рацыю быту. У той мамэнт мне аж дух заняло, але я нічога не адказала…

Гэты ўступ я напісала для выясьненьня, чаму хацела абавязкова ўставіць вышэй пададзены пункт у парадак дня 20-й Сэсіі Рады БНР. Пункт быў устаўлены, і я прапанавала падаць да агульнага ведама асьведчаньне, ці рэзалюцыю, 20-й Сэсіі Рады БНР наступнага зьместу:

*«Зварачаючы ўвагу на цяперашнюю палітычную сытуацыю ў Беларусі, 20-я Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 25 травеня 1991 г. у памешканьні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ў Нью Ёрку, ЗША, вітае ўтварэньне Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і поўнасьцю падтрымоўвае ягоную дзейнасьць, накіраваную на аднаўленьне дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*20-я Сэсія Рады БНР як найвышэйшы ворган Рады Беларускай Народнай Рэспублікі заяўляе, што:*

*1. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ёсьць найвышэйшая ўстанова і адзінае праўнае прадстаўніцтва сувэрэнных правоў беларускага народу, выяўленых у праватворчым Акце 25 Сакавіка 1918 г., зафіксаваным 3-ай Устаўной Граматай БНР.*

*2. Правы Рады БНР вынікаюць зь неабмежаваных паўнамоцтваў, дадзеных ёй Усебеларускім Зьездам (Кангрэсам) як свайму найвышэйшаму органу — Радзе Зьезду 31 сьнежаня 1917 г. і перададзеных апошнім вышэйшым пэрсанальным носьбітам гэтых паўнамоцтваў старшынём Рады БНР Васілём Захаркам Міколу Абрамчыку, зь ініцыятывы якога на грунце гэтага аднавілася дзейнасьць Рады БНР у экзылі ў сьнежні 1947 г.*

*3. Паўнамоцтвы гэтыя трываюць, згодна з пастановай Усебеларускага Зьезду (Кангрэсу) 1917 г. да часу вольных выбараў Устаноўчага Сойму ў незалежнай БНР.*

*4. Аснаўная мэта й заданьне Рады БНР — перахаваньне й выкананьне волі беларускага народу, выказанай у Акце 25 Сакавіка 1918 году, а гэта — адбудова незалежнай беларускай дзяржаўнасьці на ўсіх беларускіх землях усімі магчымымі й даступнымі спосабамі й дарогамі.*

*Калі прыйдзе час вольных выбараў Устаноўчага Сойму ў незалежнай Беларускай Народнай Рэспубліцы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) зложыць свае паўнамоцтвы на рукі Ўстаноўчага Сойму БНР.*

*20-я Сэсія Рады БНР жадае посьпехаў у працы Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" й дэкляруе сваю яму поўную падтрымку.*

*Жыве Беларускі Народ у змаганьні!*

*Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!*

*Прэзыдыюм 20-й Сэсіі Рады БНР.*

*Дадзена 25 травеня 1991 году ў Нью Ёрку, ЗША».*

Да прапановы гэтай рэзалюцыі былі розныя засьцярогі, прыкладам: *«Немагчыма цяпер дамагацца аднаўленьня дзяржаўнасьці Беларусі ў яе этнаграфічных межах...»*, але-ж Рада БНР ня можа зыходзіць з сваіх пазыцыяў, бо дзе тады была-б мяжа такім адступленьням?!

Сп. Ганько пратэставаў, што рэзалюцыя задаўгая, што цяпер трэба пісаць каротка, бо людзі ня маюць часу чытаць даўгіх пісанінаў. Я думаю, што ў гэтым выпадку трэба сказаць дакумэнтальна дакладна, бо гэта павінен быць дакумэнт.

Сп-ня Ала Орса-Рамано хацела, каб нашая заява адносілася ня толькі да БНФ, але й да іншых нефармальных арганізацыяў. Але-ж нам (прынамсі мне) невядомая пазыцыя іншых, хай сабе й вельмі патрыятычных нефармальных арганізацыяў. Ды яны не агульнанародныя, так сказаць. БНФ змагаецца за адраджэньне беларускай дзяржаўнай незалежнасьці, аб гэтым ён і заяўляе.

Сэсія і я ўважалі прасіць Вас, Янка, аканчальна зрэдагаваць разам з Сакратаром — сп. А. Шукелайцем — гэтую рэзалюцыю, ці як гэтае асьведчаньне Сэсіі назваць.

Дык вось высылаю Вам і сп. Шукелойцю вышэй запрапанаванае асьведчаньне 20-ай Сэсіі Рады БНР ды разам з Сэсіяй прашу вас абоіх зрэдагаваць яго ды вырашыць, ці падаваць яго ў «Беларусе» ці толькі запратакуляваць, як «тайны» дакумэнт. Мне здаецца, што трэба апублікаваць у «Беларусе», так пастанавіла й Сэсія, каб людзі ня думалі, што Рада БНР ужо аджыла свой век, сваю мэтазгоднасьць, што яна ўжо непатрэбная, мала важная, што, на жаль, выражаецца часам і ў адносінах да яе, да сэсіяў і некаторых нашых радных...

Часамі бярэ страх...

Спадзяюся, Вашая паездка ў Менск памысная, і Вы шчасьліва вернецеся ў прыгожы квітнеючы цяпер Мангасэт, у якім я мела шчасьце гасьціць — у спадарства Бартулёў[407] — апошнімі днямі.

З прывітаньнямі й найлепшымі пажаданьнямі,

*Раіса Жук-Грышкевіч, Сябра Рады БНР.*

*

*Бэры, 10 сакавіка 1993*

Дарагі Янка!

Учора атрымала «Зварот Рады БНР» — зьмястоўны, патрыятычны, прыгожы зьместам і стылем[408]. Вось гэта мае заўвагі. Праўда, у адным мейсцы тэксту я пачулася нявыразна, *uneasy*[409], там, дзе Вы пішаце пра *«распаленыя нацыяналізмам крывавыя міжэтнічныя канфлікты»*. Гэта так гаворыць Захад. І ў такіх выпадках я заўсёды сабе думаю: добра вам гаварыць, але каб хто ўзьлез на ваш карак, вы на яго пусьцілі-б ракету і лічылі-б, што справядлівасьць учынілі. Калі харваты страляюць у сэрбаў, дык не таму, што яны «недэмакратычныя», а таму, што хочуць быць гаспадаром на сваёй зямлі. Калі расеец узлазіць на галаву беларуса й кажа маліцца па-расейску, дык беларус зь ім не ваюе, бо думае, што так і трэба. Калі паляк узлазіць на галаву беларуса й кажа яму, што калі ты каталік, дык ты паляк і мусіш маліцца й гаварыць па-польску, дык беларус і тут не працівіцца, бо думае, што так і трэба, бо ў беларуса *«самая трывалая форма рабства — гэта рабства, што ўспрымаецца як нармальны стан, якое ўкарэненае ў глебе няверы ў свае ўласныя сілы, у глебе няведы свае гісторыі і свае нацыянальнае тоеснасьці»*, як Вы прыгожа сказалі сьпярша ў тэксьце «Звароту». Каб скінуць путы, нявольнік павінен быць гатовы й на *«крывавыя міжэтнічныя канфлікты»*. Таму ў «Звароце» можа лепш ня ўспамінаць пра іх. Разумею, яно то нібы й патрэбнае, каб падкрэсьліць значэньне дэмакратычнага характару Ўстаўных Граматаў БНР ды самой ідэі дэмакратычнай БНР. З гэтага пункту гледжаньня можа й трэба пра гэта ўспомніць, ды й таму, што Беларусь зашмат крывавіла, каб яшчэ крывавіць. Можна ў іншы спосаб змагацца з палякам і маскалём. Але адзін і другі паважае толькі сілу. Калісь дзесьці Быкаў выказаўся ў такім сэньсе, што каб выжыць, беларускі народ павінен быць гатовы даць такі адпор, які, прыкладам, Летува дала вайсковаму наступу Масквы. Думаю, Вы ляпей можаце судзіць, ці пакінуць тэкст «Звароту» такім, якім ён ёсьць, адносна *«крывавых этнічных канфліктаў»*. Я кажу толькі пра тое, што я адчула, чытаючы яго.

---

[407] Маюцца на ўвазе Франціш і Вера Бартулі.

[408] Маецца на ўвазе тэкст: Зварот Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да Беларускага Народу з нагоды 75-ых угодкаў абвешчаньня 25 сакавіка 1918 году незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі // Беларус. № 399. Сакавік 1993. С. 1.

[409] ***Uneasy*** (англ.) — неспакойны.

Вы добра сканкрэтызавалі: *«Жыве ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі»*. У прывітаньні Ўрачыстаму Сходу сьвяткаваньня 75-х угодкаў 25 Сакавіка ў Менск я напісала: *«Жыве Беларуская Народная Рэспубліка»*, думаючы пра ідэю БНР, але не сканкрэтызавала й сама пачулася нявыразна, можа, ім там ня будзе падабацца, а каб дадала адно слоўца «ідэя», разьясьніўся-б гарызонт. Слова мае вялікае значэньне, і ўменьне карыстацца ім — вялікі дар. […]

З найлепшымі пажаданьнямі й прывітаньнямі

*Раіса Ж.-Г.*

## Ліст А. Лашука

*Лондан, дня 20 лістапад 1992 г.*

Прэзыдыюм Рады БНР
у Нью Ёрку, ЗША.

З увагі на недахоп адрасу на бланцы ад Прэзыдыюма, якой паведамлена сяброў Рады БНР у Англіі, высылаю свае прапановы й заўвагі на адрас сп. В. Кажана, якога ўпаўнаважваю да адчытаньня ды перадачы Прэзыдыюму нарады.

Пасыўнасьць сяброў Прэзыдыюму на чале із Старшынём Рады, за выняткам Сакратара Фінансаў, які падаваў да агульнага ведама праз заклікі аб уплаце на Фонд БНР.

Асновай в/паданага недахоп кворуму на апошняй сэсыі сяброў Рады, якіх ад прыезду зьняхвоціла бязьдзейнасьць Прэзыдыюма.

Што тычыцца *«вынас агульнай пастановы ці рэзалюцыяў»*, то Прэзыдыюм можа вынесьці прапановы да прыняцьця й зацьверджаньня на чарговую сэсыю сяброў Рады. Таму трэба на нарадзе ўстанавіць парадак сэсыі, устанаўляючы дату скліканьня на сэсыю.

На чарговай сэсыі выбраць актыўных сяброў у склад Прэзыдыюма, каб быў дзейны. Рада павінна існаваць, каб праз Прэзыдыюм дапамагаць існуючай апазыцыі на Беларусі праводзіць змаганьне супраць існуючага ўраду ды камуністычных сяброў маючага там парлямэнту. Не аглядацца на Польшчу ці Ўкраіну, якія зьліквідавалі ўрады на эміграцыі — Польшчы, а Ўкраінцы праэктуюць штосьці такое правесьці. На чарговай сэсыі трэба выбраць новы склад ўпаўнаважаных на Фонд Крэчэўскага ды ўзяць пад кантроль гэты Фонд, кантралюючы рэвізійнай камісіяй Рады БНР.

На нарадзе дамагчыся ад пратакулянтаў апошніх 2-х сэсыяў, каб сьпісалі пратаколы, якія павінны быць дасланыя сябрам Рады або пазбавіць пратакулянтаў сяброўства Рады БНР за невыкананьне прынятых абавязкаў. Унесьці ў праэкт парадку сэсыі пункт із статута, што сябры Рады плацяць сяброўскія складкі бяз увагі, ці яны на пэнсыі, ці не працуюць. Сэктары могуць на месцы вырашаць аб уплаце, ці звольніць, знаходзячы фонд на пакрыцьцё аплаты. У склад Рады вербаваць малодшае пакаленьне, аб чым

я дамагаўся ад папярэдніх старшын дзесяцігодзьдзямі, адмаўляліся, што ня хочуць уводзіць зьмен. У праціўным выпадку каса Рады будзе пустой.

Жадаю плённых вынікаў на нарадзе.

З належнай пашанай,

*Сябра Рады БНР А. Лашук.*

## Ліст Кастуся Якуба

*7 сьнежня 1989 г.*

Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі

Зьвяртаюся да Вас за парадай.

Калі беларускія праваслаўныя япіскапы з часткай духавенства й вернікаў далучыліся часова да Расейскай Зарубежнай Царквы, то была складзена пісьмовая ўмова, што гэта ня зьліцьцё, а часовае далучэньне, прычым на правох асобнай Беларускай Праваслаўнай Мітраполіі. Я маю аб гэтым дакуманты (копіі) і арыгіналы.

Калі-ж Мітрапаліт Менскі і ўсяе Беларусі Панцялейман[410] памёр, і памёр Архіяпіскап Венедыкт[411], яго памоцнік, то Сынод Расейскай Зарубежнай Царквы скасаваў умову й пачаў жорсткі перасьлед праваслаўных беларусаў, належачых да Мітраполіі.

У 1951 г. у Трэнтане, Нью Джэрсы, ЗША была створана беларусамі царква Уведение в Храм Пр. Багародзіцы, служыў а. Янка Карась[412], прычым служыў

---

[410] **Панцеляймон** (Павел **Ражноўскі**, 27.10.1867, Кастрама, Расія — 30.12.1950, Нямеччына), епіскап Рускай праваслаўнай царквы. У 1939 г. прызначаны архіепіскапам Гродзенскім і Вялейскім. У гады нямецкай акупацыі ўзначаліў праваслаўную царкву ў Беларусі. Ад сакавіка 1942 г. — мітрапаліт Мінскі і Беларускі. У маі 1942 г. адхілены ад кіраўніцтва Беларускай царквой і сасланы ў Жыровіцкі манастыр праз канфлікты з прыхільнікамі аўтакефаліі. У красавіку 1943 г. быў вернуты ў Мінск, сабраў епіскапскі сабор, які абвясціў несапраўднымі рашэнні Усебеларускага царкоўнага сабора 1942 г. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Далучыўся да Рускай праваслаўнай царквы за мяжой.

[411] **Венедыкт** (Васіль **Бабкоўскі**, 28.02.(13.03.)1876 г. Завалач Пскоўскай губ. — 21.08.1951, Мюнхен, Нямеччына), епіскап Рускай праваслаўнай царквы. У 1937 г. прыняў манаства і быў прызначаны настаяцелем Жыровіцкага манастыра. Ад 1941 г. — епіскап Брэсцкі, вікарый Мінскай епархіі. Ад красавіка 1942 г. — архіепіскап Гарадзенскі і Беластоцкі Беларускай праваслаўнай царквы, экзарх Усходняй Прусіі. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, дзе далучыўся да РЗПЦ. Ад 1950 г. — архіепіскап Берлінскі і Нямецкі.

[412] **Янка Карась** (25.05.1909, Палтаўская губ. — 19.02.1997, Мілвіл, Нью-Джэрсі, ЗША), рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар. Быў рэпрэсаваны ў 1933 г. У 1941 г. быў мабілізаваны ў Чырвоную армію і трапіў у палон. Па сканчэнні Другой сусветнай вайны апынуўся ў амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1951 г. рукапакладзены ў святарства ў Расійскай праваслаўнай царкве за мяжой. У 1952 г. выехаў у ЗША. У 1952–1954 гг. быў настаяцелем царквы ў Трэнтане (Нью-Джэрсі).

бясплатна й на свае грошы арандаваў памешканьне пад багаслужбы. Царква была зацьверджана правячым архіепіскапам Виталием (Максименко)[413].

Беларусы вады нікому не замуцілі, хацелі толькі Богу маліцца, але расейскія япіскапы ашуканствам і правакацыяй разбурылі яе. Амаль 40 год зьвярталіся беларусы ў Сынод аб справядлівасьці і безь ніякіх вынікаў.

Вялікая колькасьць беларусаў знаходзіцца ў складзе «Амэрыканскай Праваслаўнай Царквы» (па-сутнасьці расейскай). Службы там на ангельскай мове, хоць большасьць беларусаў не разумеюць гэтыя службы.

Быў такі беларус а. архімандрыт Юльян (Троцкі), прыналежаў да гэтай царквы і жыў у падвале царквы ў Нью Ёрку. Яму было 84 гады, сьляпы на адно вока, ледзьве на нагах стаяў і ўжо на пэнсыі. Казаў мне, што яго там секлі, як сідараву казу, спэцыяльным бізуном і вельмі балюча. І яго хацелі спіхнуць у дом старэйшых. Але ён хацеў паслужыць беларусам і купіў хату ў Трэнтане, каб там зрабіць хатнюю царкву. Але расейцы спалохаліся, што беларусы могуць адыйсьці ад іх, і не далі гэтаму а. архімандрыту «отпускную грамоту», і ён быў вымушаны прадаць толькі што купленую хату, страціўшы на куплі-продажы тры тысячы даляраў. Зараз ён памёр.

Ці маглі-б Вы напісаць у Замежны Сынод запытаньне, па якой прычыне была разбурана царква беларусаў у Трэнтане Уведзеніе і чаму ня выпраўляюць гэтакае беззаконьне? Шмат беларусаў толькі ў Амэрыцы пазналі, што сапраўды існуе Бог і толькі ў Амэрыцы пераступілі парог царквы. І ім ня далі маліцца Богу.

Другое: можа-б, Папа Рымскі мог узяць часова пад апеку Мітраполію, але з тым, каб падамог купіць хату пад багаслужбы і каб сьвятар бясплатна служыў, з тым, як фінансава узмацнее, тагды сплаціць і нават з працэнтамі. Фактычна, зараз Беларуская Мітраполія існуе толькі на паперы, але людзі зь цягам часу сабраліся-б, я так мяркую.

Дзякую.

З пашанаю,

*сакратар Беларускага Праваслаўнага Камітэту Кастусь Якуб.*

## Ліст Барыса Рагулі

*Верасень 1996.*

Паважаны Сябра Рады БНР Сп…………

Апошнія падзеі ў Беларусі занепакоілі нашую дыяспару ды выклікалі патрэбу актывізацыі нашай грамадзкай і асабліва палітычнай дзейнасьці. Вынікам гэтага быў скліканы сход актыву, рэпрэзэнтаваны прадстаўнікамі амаль усіх арганізацыяў з мэтай распрацаваньня супольнай акцыі пад

Пазней, у 1954–1960 і 1980–1997 гг. — царквы ў Мілвіле (Нью-Джэрсі). У 1960–1970-я гг. быў настаяцелем храмаў у Нью-Брансвіку і Філадэльфіі.

[413] **Віталь** (свецк. **Васіль Максіменка**, 1873–1960), епіскап РПЦЗ, архіепіскап Усходне-Амерыканскі і Джэрзейсіцкі. Ад 1950 г. — сябра Архіерэйскага Сінода РПЦЗ.

сьцягам БНР. Канцэпцыя БНР вельмі жывая на Бацькаўшчыне ды зьяўляецца косьцю ў горле Лукашэнкі, які ўсімі сіламі стараецца зьліквідаваць беларускую дзяржаўнасьць. Гэты сход прыняў пастанову паклікаць камісію, якая апрацуе [ідэю] пашырэньня Рады БНР і яе актывізацыі. Старшыня Рады БНР даручыў мне перагледзіць і ўдакладніць склад Рады БНР. Многія адыйшлі ў вечнасьць, шмат хто па прычыне веку ці здароўя ня можа прымаць актыўнага ўдзелу, але надалей гатовы дапамагаць дасьведчаньнем і добрай парадай ды, магчыма, фінансава. Зноў-жа, некаторыя проста змарыліся й вырашылі пайсьці на адпачынак.

Гэтым прашу даць мне адказ, да якой катэгорыі Вы сябе залічаеце. Калі не атрымаем Вашага адказу да першага сьнежня 1996 г., будзем лічыць, што Вы выйшлі зь ліку сяброў Рады БНР. Рэзультат гэтага апытальніка дасьць камісіі падставу да дакааптаваньня новых сяброў у Раду БНР. Гэтым разам мы плянуем папоўніць рады Рады БНР прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў у Расеі, Польшчы, Прыбалтыцы, Чэскай Рэспубліцы, Украіне ды іншымі асяродкамі беларускай дыяспары. Магчыма таксама прадстаўнікамі зь Беларусі.

Шчыра дзякую за хуткі адказ.

За Старшыню Рады БНР

*Б. Рагуля.*

Да Прэзыдыюму Рады БНР

Ветліва прашу Вас звольніць мяне ад абавязкаў Раднага. Бяручы пад увагу мой век / здароўе, я змушаны да гэтага кроку. Я надалей буду падтрымоўваць акцыю Рады БНР, сьціраваную да рэалізацыі Акту 25 Сакавіка і дапамагаць у меру маіх магчымасьцяў.

*Подпіс*

Адрас і тэлефон

Да Прэзыдыюму Рады БНР

Гэтым прашу лічыць мяне надалей актыўным сябрам Рады БНР. Я сьведамы пагрозы страты незалежнасьці. Я астаюся верным Акту 25 Сакавіка і буду змагацца за права Беларусі заняць пачэснае месца між вольнымі народамі сьвету.

*Подпіс*

Адрас і тэлефон

## *Раздзел V*
## БІБЛІЯГРАФІІ

*Пададзеныя тут бібліяграфіі складзены на падставе працы Вітаўта і Зоры Кіпеляў «Беларускі друк на Захадзе», а таксама публікацый, прысвечаных Радзе БНР, у газеце «Беларус». Сціпласць пералікаў паасобных выданняў і артыкулаў адлюстроўвае рэальную актыўнасць Рады БНР у разгляданы перыяд. Бібліяграфіі з'яўляюцца лагічным працягам тых, што былі змешчаны ў папярэдніх кнігах.*

### ПААСОБНЫЯ ВЫДАННІ

**1. Пратакол 18-й чарговай Сэсіі Рады БНР, якая адбылася 30 жніўня 1986 г. у Беларускім селішчы «Полацак».** Кліўленд, 30 жніўня 1986. — 4 с.

Подпісы: А. Шукелойць, В. Русак — сакратары.

**2. Рада БНР. 19 звычайная чародная сэсія 28.I.1988. Пратакол.** Нью-Ёрк, 1988. — 6 с.

Дадаткі: Справаздача Старшыні Рады БНР, Акт Кантрольнай камісіі Рады БНР.

**3. Зварот Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да Беларускага Народу з нагоды 75-х угодкаў абвешчаньня 25 сакавіка 1918 г. незалежнасьці БНР.** Нью-Ёрк, сакавік 1993. — 4 с.

**4. Рада БНР. Пратакол 21-е чароднае Сэсіі Рады БНР, што адбылася 28-га травеня 1994 г. у Фундацыі П. Крэчэўскага, N. Y. C.** New York: БНР, 1994. — 8 с.

**5. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі.** New York — Vilnia, News Release, July 5, 1997. — 2 с.

Прэс-рэліз пра сесію Рады БНР у Вільні.

# БІБЛІЯГРАФІЯ МАТЭРЫЯЛАЎ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ НА СТАРОНКАХ ГАЗЕТЫ «БЕЛАРУС»

## 1983

**1. Акула К. Ушанавалі старшыняў Рады БНР (Таронта)** // Беларус. № 308–309. Студзень — люты 1983. С. 1.

**2. Прэзыдыюм Рады БНР, Управа БІНіМ, Галоўная Ўправа БАЗА, Рэдкалегія газэты «Беларус». Віншаваньне Др. Вінцэнта Жука-Грышкевіча з 80-мі ўгодкамі жыцьця й 60-мі ўгодкамі палітычна-грамадзкае дзейнасьці** // Беларус. № 308–309. Студзень — люты 1983. С. 3.

## 1984

**1. Праклямацыя Дня Беларускае Незалежнасьці губарнатарам штату Нью Ёрк Марыё Кўома** // Беларус. № 318. Красавік 1984. С. 1.

**2. Сажыч, Я. др. Старшыня Рады БНР. У Дзень Незалежнасьці** // Беларус. № 318. Красавік 1984. С. 1.

## 1987

**1. Вітаньне Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі др. Язэпа Сажыча зь 70-мі ўгодкамі жыцьця** // Беларус. № 338. Жнівень 1987. С. 3.

**2. Прывітаньне ад Прэзыдэнта Рональда Рэйгана ўдзельнікам сакавіковых сьвяткаваньняў** // Беларус. № 334. Красавік 1987. С. 1.

## 1988

**1. Праклямацыя мэра гор. Нью Ёрку** // Беларус. № 346. Красавік 1988. С. 3.

Эдвард Коч абвясціў 25 сакавіка 1988 г. Днём ушанавання Беларускай Незалежнасці.

**2. Прамова Старшыні Рады БНР на сьвяткаваньні 70-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі** // Беларус. № 346. Красавік 1988. С. 1.

**3. Прывітаньне ад Прэзыдэнта Рэйгана ў сувязі зь 70-мі ўгодкамі Беларускай Незалежнасьці** // Беларус. № 346. Красавік 1988. С. 1.

**4. Прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Маніфэст Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да 70-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году** // Беларус. № 345. Сакавік 1988. С. 1.

**5. Прэзыдыюм Рады БНР. Віншаваньне др. Вінцэнта Жука-Грышкевіча з 85-годзьдзем жыцьця** // Беларус. № 344. Люты 1988. С. 3.

**6. Сэсія Рады БНР (Нью Ёрк)** // Беларус. № 348. Чырвень 1988. С. 2.

На старшыню Рады БНР перавыбраны Язэп Сажыч.

**7. У сэктары Рады БНР** // Беларус. № 345. Сакавік 1988. С. 7.

## 1989

**1. Пікарда, Г. «Почему не состоялась БССР?» (Прамова на сьвяткаваньні ўгодкаў незалежнасьці БНР у Лёндане)** // Беларус. № 358. Красавік 1989. С. 2.

**2. Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш вітае з угодкамі Незалежнасьці Беларусі** // Беларус. № 358. Красавік 1989. С. 1.

## 1990

**1. 20-я ўгодкі сьмерці Прэз. М. Абрамчыка** // Беларус. № 371. Ліпень 1990. С. 8.

**2. Жук-Грышкевіч, Р. Памяці Вінцэнта Жук-Грышкевіча** // Беларус. № 367. Люты 1990. С. 6.

**3. Запруднік, Я. БНР — гэта ідэя (Камэнтар да матар’ялаў савецкага друку, прысьвечаных БНР)** // Беларус. № 369. Красавік 1990. С. 2.

**4. Запруднік, Я. Устаўныя Граматы Рады БНР і сучасныя падзеі на Беларусі** // Беларус. № 368. Сакавік 1990. С. 2.

**5. Дзінкінс, Дэвід Н., мэр. Праклямацыя Дня Незалежнасьці ў Нью Ёрку** // Беларус. № 369. Красавік 1990. С. 1.

**6. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Сакратарыят фінансаў. «Дар Сакавіка»** // Беларус. № 367. Люты 1990. С. 8.

**7. Сымболіка і аўтары марак БНР. (Паводле матар’ялаў брытанскага дасьледніка Гая Пікарда)** // Беларус. № 368. Сакавік 1990. С. 7.

**8. Філятэлістам пра войска БНР** // Беларус. № 376. Сьнежань 1990. С. 6.

Апісанне і рэпрадукцыя марак і паштовак БНР (The Postage Stamps of Russia, 1917–1923. Vol. 3. The Arvies and Post Offices, Parts 16–18. Russian Post Offices in the Levant and White Armies. Dr. R.I.Ceresa. January — March 1990. № 273. С. 67–82, 173, 177).

## 1991

**1. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Сакратарыят фінансаў. Дар Сакавіка** // Беларус. № 378. Люты 1991. С. 3.

**2. Спатканьне з Прэзыдэнтам Бушам** // Беларус. № 383. Кастрычнік 1991. С. 1.

У часе святкавання Тыдня паняволеных народаў у Мічыгане Язэп Сажыч меў магчымасць спаткацца з Джорджам Бушам.

## 1992

**1. Паседжаньне Рады БНР** // Беларус. № 396. Сьнежань 1992. С. 2.

**2. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Сакратарыят фінансаў. «Дар Сакавіка»** // Беларус. № 387. Люты 1992. С. 1.

**3. Сажыч, Я. др. Старшыня Рады БНР. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Прэзыдыюм. Сакавік 1992 г.** // Беларус. № 388. Сакавік 1992. С. 1.

Віншаванне з нацыянальным святам.

## 1993

**1. 75-годзьдзе БНР** // Беларус. № 400. Красавік 1993. С. 3.

**2. БНР і мандаты** // Беларус. № 400. Красавік 1993. С. 2.

Пётра Крэчэўскі, Аляксандр Цвікевіч.

**3. Зварот Рады Беларускай Народнай Рэспублікі да Беларускага Народу з нагоды 75-ых угодкаў абвешчаньня 25 сакавіка 1918 году незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі** // Беларус. № 399. Сакавік 1993. С. 1.

**4. Кажан, В. Сакратарыят Фінансаў Рады БНР**. **«Дар Сакавіка». [Заклік падтрымаць фінансава нацыянальна-вызвольныя й нацыянальна-адраджэнскія працэсы]** // Беларус. № 399. Сакавік 1993. С. 2.

**5. Праклямацыя мэрам гораду Нью Ёрку Дэйвідам Дынкінсам Дня Беларускае Незалежнасьці** // Беларус. № 400. Красавік 1993. С. 1.

**6. Рэзалюцыя ўрачыстага сходу ў Нью-Брансьвіку 28 сакавіка 1993 году, прысьвечанага 75-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі** // Беларус. № 400. Красавік 1993. С. 2.

**7. Старшыня Рады БНР у Менску** // Беларус. № 400. Красавік 1993. С. 2.

## 1994

**1. Віншаваньне зь 76-мі ўгодкамі Незалежнасьці БНР** // Беларус. № 411. Сакавік 1994. С. 1.

**2. Пётра Крэчэўскі як публіцыст і паэт. З архіваў БНР** // Беларус. № 417. Кастрычнік 1994. С. 4.

Публікацыя Сяргея Шупы.

**3. Рагуля, Б. 25-ае Сакавіка** // Беларус. № 412. Красавік 1994. С. 2.

**4. Рагуля, Б. Трымайце сьцяг БНР** // Беларус. № 410. Люты 1994. С. 1.

**5. Рэзалюцыя сьвяткавальнага сходу на адзначэньне 76-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, праведзенага ў Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., у нядзелю 27 сакавіка 1994 году** // Беларус. № 412. Красавік 1994. С. 3.

**6. Сажыч, Язэп. Старшыня Рады БНР. [Віншаваньне зь 76-мі ўгодкамі Незалежнасьці БНР]** // Беларус. № 411. Сакавік 1994. С. 1.

**7. Сакратарыят фінансаў Рады БНР. «Дар Сакавіка»** // Беларус. № 410. Люты 1994. С. 1.

## 1995

**1. Перадача Менску архіваў БНР** // Беларус. № 422. Сакавік 1995. С. 5.

Пётра Краўчанка, А. Міхальчанка.

**2. Праклямацыя мэра гор. Нью Ёрку Рудольфа Джульяні (Rudolph W. Giuliani). Абвешчаньне дня 25 сакавіка 1995 г. Днём Беларускай Незалежнасьці** // Беларус. № 423. Красавік 1995. С. 1.

**3. Прывітаньне ад Прэзыдэнта Клінтана** // Беларус. № 423. Красавік 1995. С. 1.

У сувязі з 77-й гадавінай БНР.

**4. Рэзалюцыя [беларусаў-канадыйцаў, удзельнікаў урачыстага сходу адзначэньня 77-х угодкаў абвяшчэньня БНР]** // Беларус. № 423. Красавік 1995. С. 4.

5. **Рэзалюцыя сьвяткавальнага сходу ў Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., 25 сакавіка 1995 на 77-х угодках абвешчаньня незалежнасьці БНР** // Беларус. № 423. Красавік 1995. С. 4.

**6. Шукелойць А., Старшыня БАЗА. Прывітаньне суродзічам на Бацькаўшчыне ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на 77-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі //** Беларус. № 422. Сакавік 1995. С. 1.

# *Раздзел VI*
# АСОБЫ

*У перыяд старшынёўства Язэпа Сажыча дзейнасць ад імя Рады БНР ажыццяўлялі, акрамя ўласна кіраўніка, тры асобы: Віталь Кажан, Барыс Рагуля і Янка Запруднік. Матэрыялы і нарысы, прысвечаныя менавіта ім і змешчаныя ў гэтым раздзеле.*

*Віталь Кажан*

## ЖЫЦЬЦЯПІС АМЭРЫКАНСКАГА БЕЛАРУСА[414]

Нарадзіўся я ў кастрычніку 1916 годзе ў невялікай вёсцы Балбекі, цяпер Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласьці. Продкі мае — былыя прыгонныя сяляне. Я маю цікавы арыгінальны дакумант 1833 года — дазвол памешчыка на жаніцьбу майму прадзеду Каятану. Імя майго дзеда Франціш. Ён памёр, калі мяне яшчэ на сьвеце ня было. Памятаю, што, яшчэ будучы малышом, я запытаў бабулю (удаву па Францішку): чаму наш дзед і прадзед мелі каталіцкія імёны? *«У тыя часы ня было ані праваслаўных, ані католікаў, а ўсе былі ўніятамі»*, — адказала бабуля.

Мой бацька як найстарэйшы з усіх чатырох братоў павінен быў бы стаць гаспадаром даволі вялікай гаспадаркі, але на прапанову дзядзькі Адама паехаў у Петраград. Дзядзька Адам быў нейкім там пісарам у царскіх канцылярыях. Пры дапамозе свайго дзядзькі мой бацька па некаторым часе навукі стаўся і бухгалтарам, і сакратаром. Па рэкамандацыі дзядзькі бацька атрымаў пасаду сакратара ў земскага начальніка, які жыў і меў сваю канцылярыю ў маёнтку Вянужжа, недалёка горада Дзісны. У той 1913 год горад Дзісна была цэнтрам уезда, жывым, рухлівы горадам. Трэба ведаць, што ў

[414] Тэкст быў упершыню надрукаваны ў скарочаным варыянце ў зборніку: Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый : матэрыялы 3-га міжнароднага кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый», 1 сесія — 21–25 мая, 2 сесія — 4–7 снеж., Мінск, 2000 г. / [Уклад. Т. Пятровіч; гал. рэд. А. Мальдзіс. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. — 308, [1] с. — (Беларусіка = Albaruthenica; кн. 17). Тут публікуецца паводле арыгінальнага машынапісу, які захоўваецца ў БДАМЛМ. Ф. 472. Воп. 1. Спр. 97. Арк. 159–168. Аўтарскі правапіс захаваны.

тыя часы земскі начальнік — гэта, як закон, быў вялікі памешчык і ўважаўся за царскага прадстаўніка на даны раён.

Пасьля развалу імпэрыі і заканчэньня Першай сусьветнай вайны бацька, будучы ўжо жанатым, вярнуўся на сваю бацькаўшчыну, у вёску Балбекі. Мама паходзіла з добра заможнай сялянскай сям'і. Калі, пасьля акупацыі Заходняй Беларусі, палякі пачалі арганізоўваць сваю польскую мясцовую адміністрацыю, мой бацька быў выбраны першым войтам нашай Гэрманаўскай гміны (як цяпер, то гэта сельсавет, толькі гміны былі большыя па абшары). Пасьля трох год працы быў звольнены, так як ня прыкладаў стараньняў быць добрым палякам. Пасьля войтаўства акрамя дагляду гаспадаркі ў сваіх Балбеках пачаў займацца гандлем. У паблізкай большай вёсцы Шкунцікі, дзе была праваслаўная царква, добрая пачатковая школа ды нават і вадзяны млын, бацька адкрыў магазын, у якім павінны былі быць розныя тавары, пачынаючы ад папяросаў, а канчаючы цукрам і соляй.

У нашай сям'і было нас чацьвёра: тры браты і адна сястра. Па старшынству я быў другім. На сёньня (сьнежань 2000 г.) у жывых толькі я застаўся. Польскую пачатковую школу наведвалі ў Шкунціках, яна была недалёка бацькавага магазына. Ад вёскі Балбекі, дзе жылі, адлегласьць — добрыя два кіломэтры. Ясна, хадзілі пяшком, а ўвосень ці вясной, у час паводкі, гэта была вялікая праблема. У такія часы прыходзілася сядзець дома. Зімой, вельмі часта бацька ехаў санкамі з канём і завозіў нас.

Польская пачатковая школа мела сем клясаў. У нашых Шкунціках было толькі пяць клясаў. І сёньня добра прыпамінаюцца тыя кур'ёзныя гады, калі мы, вучні, пачыналі вучыцца, ня ведаючы ані слова польскай мовы. Толькі ў часе лекцый чулася польская мова самога настаўніка, а, асабліва ў пачатковых клясах, вучні сядзелі ціхонька ды пабойваліся, каб настаўнік чагосьці не запытаў. У часе перапынку нідзе польскай мовы не чувалася. Настаўнікі сядзелі ў канцылярыі, а вучні, нармальна як дзеці, гулялі, шумелі, але польскай мовы сярод іх не чувалася, а толькі беларуская. Пачаткова ў гэтай школе былі два настаўнікі, муж і жонка, і абое разумелі беларускую мову. У клясе 4-й і 5-й настаўніцай маёй была маладая карэнная полька, якая беларускай мовы хіба раней не чула. Але вучні чацьвертай і пятай клясаў ужо маглі весьці гутарку і на польскай мове, хаця гэтая мова далёка была ад добрай польскай. І так у гадох 1924–1929 я наведваў шкунційскую школу. Вучні, якія наведвалі гэтую пяціклясовую школу ў вялікай меры на гэтым і заканчвалі сваю адукацыю. Частыя выпадкі былі, што па заканчэньні такой школы празь некалькі гадоў ужо і забываў [былы вучань] польскую завучаную ў такой школе, так як яна не ўжывалася, а толькі беларуская

Каб закончыць сем клясаў пачатковай школы, трэба было наведваць школу ў мястэчку Гэрманавічы, а гэта ад нашых Балбек добрых пяць кіломэтраў. Нашы бацькі рашылі мяне і старэйшага брата вучыць далей, а таму была нанятая для нас кватэра, бо кожны дзень хадзіць туды і назад пяць км зацяжка. Хаця ўлетку пры добрай паходзе часта хадзілі пяшком гэтых пяць км.

Гэтая сямігодка месьцілася ў прыгожым будынку-палацы памешчыка Шырана[415]. І сёньня (2000 г.) там месьціцца дзесяцігодка. Там цяпер ня толькі сярэдняя школа, але і музей Язэпа Драздовіча[416]. Здаецца, гэты палацык быў адноўлены і павялічаны. У гэтай школе было хіба каля дзесяці настаўнікаў і ў вялікай бальшыні гэта былі карэнныя палякі. У Гэрманавічах можна было пачуць польскую мову ня толькі ў школе, але і на вуліцы. Тут была гміна, якой усе працаўнікі мусілі добра ведаць польскую мову. Таксама паліцэйскі пастарунак, у якім начальнік паліцыі і ўсе паліцаі былі карэнныя палякі. А найбольшай апорай польшчыны гэта быў каталіцкі касьцёл. Ува ўсіх касьцёлах Беларусі пробашчамі парафіі былі толькі ксяндзы-палякі.

Трэба зьвярнуць увагу і на тое, што ў шкунціўскім школьным раёне ўсе жыхары, за выняткам некалькі жыдоў і некалькі каталікоў, былі праваслаўнымі. А ў Гэрманавічах без малага ўсе былі каталікі. У самім мястэчку Гэрманавічы было даволі многа сем’яў жыдоўскіх і трохі старавераў. Беларусы каталікі даволі лёгка паддаваліся паланізацыі. І старэнькія бабулькі свае пацёры зачытвалі з малітвінька на польскай мове. Падобры працэс адбываецца і сёньня, асабліва ў Гродзеньшчыне, дзе прыежджыя польскія ксяндзы стараюцца пераконваць беларусаў-каталікоў, што яны палякі.

У школьным годзе 1931/32 падходзіла заканчэньне гэтай сямігодкі і для нашых бацькоў паўстала праблема, а што далей рабіць з сынамі: ці трымаць дома на гаспадарцы, ці пасылаць на далейшую вучобу. Трэба ведаць, што гэтая далейшая вучоба ў Польшчы ня была бясплатнай. Найбліжэйшая дзяржаўная гімназія, якая знаходзілася ў Дзісьне, каштавала ў год 110 злотых, а гэта ў тыя часы былі вялікія грошы для селяніна. Добры гаспадар мог мець удоваль ежы ды трошкі грошы, кааб купіць патрэбнае штосьці з адзежы, абутку. У селяніна галоўнай крыніцай грашовага даходу было зярно, жыта ці пшаніца, калі залішку, або выгадаваная спэцыяльна на продаж жывёліна-цяля, сьвінёнак, авечка. У тыя часы ў Заходняй Беларусі ўсё прадавалася на пуды і для прыкладу адзін пуд жыта (адзін пуд = 16 кілаграмаў) каштаваў два злотых. А ў прадуктовым магазыне адзін кілаграм цукру каштаваў каля двух злотых. У той час Польшча прадавала цукар заграніцу толькі за 30 грошы. Чаму была такая вялікая розьніца, а гэта таму, што дзяржава накладала падатак на многія прадукты.

Праблема, што рабіць з сынамі не была такой простай. Былі розныя прапановы: трымаць дома на гаспадарцы ды памагаць бацьку ў яго таргоўлі, ці паслаць у нейкую тэхнічную школу — здабыць канкрэтную прафэсію. Апошняя прапанова адпадала з увагі на поўны недахоп месц працы, так

---

[415] Маецца на ўвазе доктар **Усевалад Шыран** (1906–1941). Пра яго гл. у публікацыях: Чыгрын, С. Легендарны доктар Усевалад Шыран // Ніва (Беласток). 2010. № 35. 9 жніўня. С. 9; Райчонак, А. Усевалад Шыран — легендарны доктар з Лужкоў // westki.info. 2 красавіка 2001.

[416] Маецца на ўвазе пакой-музей Язэпа Драздовіча, што нейкі час знаходзіўся ў будынку школы ў Германавічах.

як палякі зусім ня дбалі пра «Усходнія крэсы», як яны называлі Заходнюю Беларусь. Канчаткова было пастаноўлена адправіць сыноў у Дзісьненскую гімназію. У той час у Заходняй Беларусі была адна беларуская гімназія ў Вільні. Пачаткова гэтая гімназія была самастойнай, потым яе зрабілі філіялам польскай гімназіі, а перад самай вайной і гэты філіял зусім зьліквідавалі. Дырэктарам беларускай гімназіі быў Радаслаў Астроўскі[417], ведамы беларускі дзеяч. За часоў нямецкіх Р. Астроўскі быў Прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР). Пасьля ліквідацыі беларускай гімназіі Р. Астроўскага выслалі ўглыб Польшчы.

Пакуль мы паедзем у Дзісну, варта прыгадаць адно здарэньне з тых дзіцячых гадоў, зьвязанае зь Беларускай Грамадой[418]. Добра ведамы вялікі нацыянальны ўздым грамады ў Заходняй Беларусі. Бязумоўна, што ў Заходняй Беларусі працавала камуністычная партыя, ясна ў падпольлі. Зразумела, што гэтая камуністычная партыя мела добрую сувязь і добрую падтрымку Камуністычнай партыі Ўсходняй Беларусі. У той час кругом адбываліся агітацыйныя сходы-зборышчы сяброў-сымпатыкаў грамады. Такі сход адбыўся і ў нашай вёсцы, у доме нашай бабулі. Ён быў даволі людны і прайшоў спакойна. На другі дзень пасьля гэтага сходу ў вёску наехала шмат польскай паліцыі, якая адразу акружыла дом бабулі. Кагосьці ці штосьці гэтыя паліцаі шукалі, а ў канцы бабушку-старушку арыштавалі і павезьлі з сабою. Прычына арышту простая — гэта яе згода на сход Грамады. Завезьлі яе ў павятовы (раён) горад Глыбокае і пасадзілі ў турму. Што прадстаўнікі ўлады маглі даведацца ад старушкі, каторыя ня ведала і аднаго польскага слова? У людзей было вялікае абурэньне за такое нялюдзкае трактаваньне старухі.

Першая паездка ў Дзісну адбылася вясной, адразу па заканчэньні сямігодкі, па прычыне ўступных экзамінаў. Экзаміны прайшлі пасьпяхова, і мы з братам вярнуліся дамоў, каб улетку добра папрацаваць на гаспадарцы. У часе летніх канікулаў 1932 г. шчыравалі ў полі і адначасна рыхтаваліся да паездкі ў гімназію. Тыдзень перад 1 верасьня садзімся на добра наладаваны рознымі прадуктамі воз і са слязамі ў вачох пакідаем родную вёску. Вельмі шкадавалі маму, бо яна заўсёды вельмі клапацілася аб нас. Едучы празь вёску многія суседзі махалі нам рукамі, напэўна, жадаючы нам добрых посьпехаў. У канцы вёскі нас затрымаў дзед Янук, бацькаў хросны бацька, і, зьвяртаючыся да да бацькі, заявіў: *«Яська, я заўсёды ўважаў цябе за разумнага чалавека, а бачу, што Ты робіш глупства. Лепш было-б, кааб ты трымаў гэтых хлапцоў на сваёй гаспадарцы і напэўна пазьней набыў бы добры фальварак, а так што-ж.. толькі папсуеш іх»*. Чаму-ж так думаў ды гаварыў стары дзядзька Янук? Так, часткова ён меў і рацыю, бо чамусьці пры паляках, калі з моладзі

---

[417] **Радаслаў Астроўскі** (1887–1976), грамадска-палітычны дзеяч. У 1924–1936 гг. (з перапынкам) быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі.

[418] Маецца на ўвазе **Беларуская сялянска-работніцкая грамада** — палітычная партыя ў Заходняй Беларусі ў 1925–1927 гг.

хтосьці здабыў такую-сякую асьвету, то на гаспадарцы працаваць уважалася за паніжэньне, нібы саромеўся…

Першы школьны год у гімназіі (1932–1933) прайшоў у гімназіі вельмі добра. Другі год пачаўся нармальна, але па некалькіх месяцах навукі брат Ванька стаў паважна занепадаць з здароўем. Неадкладна бацька прыехаў у Дзісну і атрымаў ад гімназычнага лекара, а паміж іншым лекар быў беларус, параду забраць Ваньку дамоў, дзе можа быць лепшая над ім апека, і пасьля папраўы зможа вярнуцца ў гімназію. Поўнае вылячэньне брата заняло бязмала год часу і пасьля ўсяго гэтага ён у гімназію не вярнуўся.

У 1935 г., калі я быў у сёмай клясе, зусім нечакана бацькаў «бізнэс» быў камплетна зьнішчаны пажарам. У даволі вялікім доме акрамя магазыну была і добрая кватэра, у якой жыў мельнік з сваей сям'ёй. Мельніца вадзяная была недалёка гэтага дома. А трэба памятаць, што дзякуючы гэтаму магазыну мы змаглі паехаць у гімназію.

Варта яшчэ ўспомніць адну важную справу, якая датычыла многіх беларускіх вёсак ня толькі гміны Гэрманавіцкай, але і іншых раёнаў. Польскі ўрад пачаў ліквідаваць беларускія вёскі, пераводзячы іх на хутарную сыстэму. У гадох 1934–1936 у нашай мясцовасьці ўсе навакольныя вёскі былі ўжо ў хутарох. Пераход зь вёскі на хутары быў зьвязаны зь вялікай фізычнай працай ды паважным грашовым выдаткам. Кожны сам перавозіў-перабудоўваў усе свае збудаваньні ў вёсцы на новае месца — свой хутар. Паколькі мне ведама, у вялікай бальшыні сяляне з гэтага былі задаволеныя. Калі селянін жыў у вёсцы, то зямля была раскінутая па розных палях. Нармальна ў вёсцы была шнуравая сыстэма, разпаложаная ў трох палях. У хутарной сыстэме ўсю сваю зямлю селянін меў у адным кавалку і на ёй свае збудаваньні. Таксама бязмала кожная вёска мела так званыя сэрвітуты, а гэта кавалкі зямлі, якія не выкарыстоўваліся гаспадарча, а карысталася імі «ўся» вёска, як пасьбішчы, або зямля няўжытковая. Усе такія кавалкі-няўжыткі пры падзеле на хутары былі выкарыстаны.

У 1935 г. у Польшчы быў выданы закон аб тым, што кожная гміна павінна выдаць дзьве стыпэндыі ў год для здольных бяднейшых вучняў сярэдніх школ. Дзякуючы добраму знаёмству бацькі з гмінным начальствам я меў гэту гмінную стыпэндыю, будучы ў сёмай клясе, і потым у апошняй, восьмай клясе. Вышыня стыпэндыі была 100 злотых, а гэта бязмала хапала на аплату школы.

Вучні Дзісьненскай гімназіі ў бальшыні паходзілі з гэтай жа Дзісьненшчыны, Браслаўшчыны. З пункту гледжаньня этнаграфічнага пераважалі беларусы, але тут ёсьць гэта «але». Вучні-каталікі, хоць бы паходзілі зь беднай сялянскай беларускай сям'і, лічылі сябе палякамі. У гэтым быў вялікі ўплыў каталіцкага касьцёла і ксяндзоў. Пара гадоў я быў разам на кватэры з аднакласьнікам, каторы паходзіў зь вёскі з-пад Ёдаў. Часамі ў нас заходзіў спор на тэму нацыянальнасьці. На маё пытаньне, чаму ён лічыць сябе палякам, ён так адказаў: *«Я ня лічу сябе палякам, але падаць у анкетах школьных мушу, інакш не атрымаю дапамогі ані ад гміны, ані ад ксяндза…»*

Праваслаўныя вучні бязмала ўсе падавалі сябе беларусамі. Такі часопіс, як «Калосьсе»[419], які ў той час выдаваўся ў Вільні, і іншае беларускае друкаванае слова нармальна перадавалася з рук у рукі. З тых часоў мае добрыя сябры — Мілеця Андзілеўка[420], Мілеця Цытовіч, Адам Мацкевіч, Яшка Бабіч, Жэнька Сьпічонак, Аркадзь Качан і інш. не скрывалі сваёй беларускасьці. Гімназія выдавала свой часопіс — «Наш глос», які выходзіў нерэгулярна. У гэтым часопісе на працягу пару гадоў былі друкаваныя лацінкай на беларускай мове ў апрацоўцы вучня Мілеця Андзілеўкі песьні абрадныя: зь вясельля, хрэсьбін, дажынак, Купальля. Пасьля апошняй вайны Мілеці Андзілеўка быў прафэсарам матэматыкі ў польскім унівэрсытэце ў Беластоку.

Варта падаць рэлігійную прыналежнасьць майго чацьвертага класа (1932/33, мой першы год у гімназіі), а менавіта: рыма-каталікаў — 13, праваслаўных — 8, жыдоў — 6, караім — 1. Усяго 28.

Пры Польшчы для ўсіх маладых хлопцаў быў абавязак вайсковай службы. Набор нармальна праходзіў увосень. Кожную вясну дваццацігадовыя хлопцы (ахвотнікі маглі быць маладзейшыя) праходзілі праверку праз вайсковую камісію, якая для нашага раёна адбывалася ў мястэчку Лужкі[421]. У той час у Лужках былі вялікія кашары, у якіх стацыянавалі войскі пагранічча (цяпер Лужкі — невялікая вёска). Мне давялося праходзіць гэтую камісію акурат перад матуральнымі экзамінамі.

У траўні 1937 г. усе хлопцы-кандыдаты ў войска з той ці іншай гміны праходзілі камісію ў той самы час. Пры камісіі вайсковай мусіў быць прысутным і войт данай гміны. У праверачнай анкеце было пытаньне «нацыянальнасьць». Зразумела, я падаўся беларусам. Войт гміны гэта «запісаў» сабе і пры першай сустрэчы з маім бацькам даў яму наганяй, кажучы: *«Гміна давала твайму сыну стыпэндыю, чаму ж ён падаецца за беларуса, а не паляка...»* Гэта доказ, што палякі стараліся апалячваць беларусаў усімі магчымымі спосабамі.

Таксама цікавая справа з выкладаньнем праваслаўнай рэлігіі ў школах. За польскіх часоў урокі рэлігій, як каталіцкай, праваслаўнай і пратэстанцкай выкладаліся як абавязковы прадмет. У пачатковай школе ў Шкунціках урокі рэлігіі праводзіў сьвятар мясцовай царквы. Гэта быў старычок-расеянін. Што ён гаварыў, вучні мала чаго разумелі. Калі былі ў сямігодцы ў Гэрманавічах, то праваслаўнай рэлігіі ўрокаў не было, бо праваслаўных вучняў было замала. У гімназіі рэлігія была даволі цікавым прадметам, бо выкладчыкам быў малады сьвятар, толькі што закончыўшы Праваслаўную Акадэмію ў

---

[419] **«Калосьсе»** — літаратурна-навуковы часопіс, які выдаваўся ў Вільні ў 1935–1939 гг. У рэдкалегію ўваходзілі Мікола Шкялёнак, Янка Шутовіч і інш.

[420] Магчыма, маецца на ўвазе **Мілеці Андзілеўка**, пазнейшы дырэктар Лужкаўскай сярэдняй школы Шаркаўшчынскага раёна, які ў 1998 г. атрымаў медаль імя Ф. Скарыны.

[421] **Лужкі** — цяпер вёска ў Шаркаўшчынскім раёне, цэнтр сельсавета. Лужкам прысвечаны ўспаміны Васіля Стомы «Маё мястэчка» (Мінск, 2014).

Варшаве, у якой беларуская мова была важным прадметам. Гэты малады сьвятар выкладаў рэлігію па-беларуску, а толькі патрэбныя цытаты з кніжкі падаваў па-стараславянску. Але, здаецца, у 1935 годзе прыйшоў загад зь Міністэрства адукацыі з Варшавы, каб ўсе сьвятары ў Заходняй Беларусі выкладалі праваслаўную рэлігію толькі на польскай мове, ды і пропаведзі ў царкве гаварылі па-польску. А былі сьвятары, каторыя польскай мовы зусім ня ведалі, уключаючы нашага сьвятара ў Шкунціках. Што сталася ў нашай клясе ў гімназіі, калі сьвятар прыйшоўшы да нас ў клясу заявіў, што згодна загаду зьверху, ён абавязаны выкладаць нам рэлігію па-польску. Толькі кончыў сьвятар сваю гутарку, як наш аднаклясьнік Лёнька падняўся і зьвярнуўся: *«У знак вялікага пратэсту мы пакідаем гэтую клясу… І сябры ўсе за мной…»* І ў клясе застаўся сам адзін сьвятар. Але ясна, што гэтая акцыя пратэсту не магла зрабіць нейкі ўплыў на адмену ўрадавай пастановы.

У траўні 1937 г. адбыліся апошнія матуральныя экзаміны, якія закончыў я пасьпяхова. Лета правёў на працы пры гаспадарцы, а часамі гуляньнях ды сьвяточных фэстах з сваёй моладзьдзю. Можна сказаць, што гэта самы прыгожы кавалак жыцьця тых маладых гадоў. У пачатку верасьня 1937 г., маючы дармавы білет на праезд жалезнай дарогай да месца прызначэньня вайсковай службы, першы раз у сваім жыцьці саджуся на цягнік у Шаркоўшчыне і еду празь Вільню, Варшаву і да горада Быдгошч, дзе маю адбыць год абавязковай службы ў польскай арміі. Абавязковая служба ў польскай арміі трывала 18 месяцаў. Але для тых, хто меў сярэднюю асьвету або ўжо пачатую вышэйшую, служба трывала толькі 12 месяцаў. Знову ж, калі ў каго была сярэдняя асьвета, служба таго адбывалася ў спэцшколах, якія былі пры дывізіях. Школа такая называлася *«подхоронжувка рэзэрвы»*. У ей падрыхтоўваліся афіцэры, якія потым былі ў рэзэрве. Такіх афіцэраў рэзэрвы армія штонекалькі гадоў вызывала на перашкаленьне і азнаямленьне з чымсьці «новым». У «падхаронжоўках» час быў добра запоўнены заняткамі, як практычнымі на палігонах, так і тэарэтычнымі ў залях кашараў. Горад Быдгошч ляжыць на польскім Паможжу. Гэта частка тэрыторыі, у часы, калі Польшча была разьдзелена паміж Нямеччынай, Расеяй і Аўстрыяй, належыла да Нямеччыны. Там я меў вельмі добрага сябру Шурку, які вучыўся ў віленскай беларускай гімназіі і яе закончыў. Калі мы выпраўляліся зь ім ў горад, а гэта можна было зрабіць толькі ў нядзелю, ходзячы па вуліцах мы гаварылі па-беларуску. Калі міналі добрую групу жаўнераў, тыя, пачуўшы беларускую гутарку, адразу акружылі нас, бо бачылі, што мы з школы (мелі спэц. адзнакі), ды пачалі нас распытваць, чаму мы беларусы і на афіцэрскай школе. У гэтым Быдгошчы былі два палкі пяхоты, і жаўнерамі, прызванымі адбываць 18 месяцаў службы, бязмала 100 працэнтаў, былі беларусы. Гэта была палітыка палякаў, што ў вялікай бальшыні хлопцы зь Беларусі вайсковую службу адбывалі ў карэннай Польшчы. У часе адной практыкі я меў нагоду быць ў палку ў паўдзённа-заходняй Польшчы, недалёка нямецкае граніцы. Там ў палку былі амаль што адны ўкраінцы.

Асабіста ў мяне ў той час адно пытаньне не вылазіла з галавы: што ж буду рабіць па заканчэньні гэтай вайсковай службы? Праўда, дома пачалі справы наладжвацца на лепшае. Пасьля, калі зь вёскі ўсе будынкі былі перавезены на новы хутар, мае дамашнія, а асабліва брат Ванька, пачалі будаваць новы дом у Шкунціках на месцы згарэлага ў 1935 г. У мястэчку Гэрманавічы была каапэратыва (магазын розных тавараў), закладзены настаўнікамі сямігодкі, што я наведваў раней і які рабіў надзвычай добры бізнэс. Калі нашы закончылі будову дома ў Шкунціках, то была адкрыта філія гэрманаўскай каапэратывы. Кіраўніком гэтай філіі становіцца наш бацька, прадаўшчыцай — сястра Ларыса. З дому прыходзілі да мяне сыгналы, што пасьля вайсковай службы я змагу працягваць вучобу далей.

Але за пару месяцаў перад заканчэньнем службы ў Быдгошчы ў школе паявілася абвестка: *«Калі хтосьці з падхаронжых жадае пасьля заканчэньня гэтай пайсьці ў школу для пастаянных афіцэраў, просьба замальдавацца ў канцылярыі»*. Асабіста я гэтай абвестцы вялікай увагі не прыдаў, бо беларусаў ды праваслаўных, напэўна, не прынялі б. Чаму так сталася, я ня ведаю да сёньня. Службовы афіцэр школы кліча мяне і кажа: *«Камандант школы хоча гаварыць з табой»*. Звычайна сам камандант вызываў да сябе на гутарку, калі падхаронжы зрабіў штосьці кепскае, парушыў школьны рэгулямін. Аказваецца, ён у мяне адразу спытаўся, ці не жадаў бы я пайсьці ў школу для пастаянных афіцэраў, ды пры гэтым пахваліў мяне, што я добры вучань. Я яму на гэта адказаў коратка, што я як беларус і праваслаўны ня маю ніякіх шансаў быць туды прынятым. А ён на гэта кажа, што калі я дам згоду, то ён пастараецца дапамагчы, каб я быў прыняты. Я ня ведаю чаму, але я даў згоду.

Яго дапамога аказалася не пустой гаворкай, бо я быў прыняты ў афіцэрскую школу для сталай службы ў польскай арміі. Навіна гэтая хутка дайшла да маіх бацькоў. Бацька нібы і задаволены быў, а мама — катэгарычна не. Але я рашыў здабываць чын афіцэрскі.

Школа для афіцэраў пяхоты знаходзілася ў мястэчку Каморава (*Komorowo*), недалёка ад Варшавы. Там былі кашары, многа двухпавярховых мураваных будынкаў, у якіх калісьці памяшчалася цэлая дывізія царскай пяхоты, каб быць недалёка бунтароў-палякаў, пражываючых у Варшаве.

Вядома, што дысцыпліна там мусіла быць. На пачатку было больш тэарэтычных заняткаў, чым практычных на палях-палігонах. Але калі запахла вайной зь Нямеччынай, то стала наадварот — больш заняткаў практычных. Калі пачалася вайна ў 1939 г., я і яшчэ адзін падхаронжы былі высланыя ў Ліду, дзе пры палку пяхоты арганізавалася перашкаленьне падафіцэраў з рэзэрвы. Часта гэта ўжо былі добра стараватыя дзядзькі, а часамі нават і калекі — даўно ж былі ў войску. Зразумела, што з гэтага перашкаленьня нічога не атрымалася, так як 17 верасьня 1939 г. савецкая армія прыйшла Гітлеру на дапамогу і пачала займаць Заходнюю Беларусь. Камандзірам перашкаленьня падафіцэрскай групы быў салідны чалавек — маёр арміі. Усім змабілізаваным падафіцэрам адразу ён сказаў, каб забралі чамаданчыкі ды спакойна адправіліся ў свае дамы. Нас — інструктараў двух падхарунжых і

некалькі старых служакаў падафіцэраў забраў у сваю вайсковую машыну і паехаў на поўнач, у старану Літвы. Даехаў да Оранаў[422] на літоўскай граніцы і затрымаўся ў кашарах КОПу (Корпус аховы пагранічча)[423]. У гэтым КОПе ў вайсковых магазынах яшчэ было шмат прадуктаў уключаючы алкагольныя напіткі і табачныя прадукты. Усё гэта раздавалі жаўнерам.

У гэтых кашарах наш апякун-маёр згубіўся. Тут жа зусім нечакана я сустрэў добрага сябру зь Дзісеньскай гімназіі Сярожку, які быў змабілізаваны і ў гэтай суматосе таксама «згубіўся». Абое мы былі вельмі задаволеныя. Што нам рабіць далей — было відаць выразна, а гэта пяшком ісьці дамоў. Так мы пачалі падарожжа ў паўночна-ўсходнім напрамку, на Вільню. На дарозе такіх, як мы, аказалася шмат. На другі дзень нашага падарожжа мы сустрэлі савецкіх жаўнераў, якія паволі ехалі машынай у адваротным нам напрамку. Адзін зь іх, старэйшы, зьвярнуўся да мяне, назваўшы маладым афіцэрам, так як я быў адзеты лепш, чымсьці рэшта жаўнераў. Даходзячы бліжэй да Вільні, адзін з такіх, як і я, але які ішоў у адваротным кірунку, затрымаў мяне і папярэдзіў, каб быў асьцярожны, бо ў Вільні савецкія вайскоўцы пачалі «хапаць» афіцэраў ды іншых добра адзетых жаўнераў: садзяць у машыны і кудысьці адвозяць.

Тут мне пашанцавала, так як бацькі майго сябры Шуркі жылі на акраіне Вільні, пры нашай дарозе. Мы зь Сярожкам прасядзелі тут пара дзён, пакуль старэйшы брат Шуркі, працаўнік жалезнай дарогі, не ўстанавіў, што сьмела можна дабрацца да станцыі жалезнай дарогі, каб паехаць у нашу старану. Добра дабраліся да станцыі і паехалі. На станцыі Варапаева Сярожка накіраваўся ў Шаркоўшчыну, а я паехаў на Глыбокае (станцыя Крулеўшчына) і далей на Падсьвіньле, ля якога жыла мая любімая цётка.

Калі мы даехалі да Крулеўшчыны, аказалася, што трэба будзе даволі доўга чакаць на цягнік да Падсьвільля. Тут здарыўся выпадак, якога я не забываю. Увечары я спацыраваў каля станцыі пры слабенькім электрычным сьвеце, калі да мяне падыйшоў савецкі афіцэр. Я палічыў яго афіцэрам, бо быў ён даволі добра адзеты. На гэтай станцыі жаўнераў савецкай арміі кругом было многа. Гэты афіцэр пачаў распытвацца ў мяне аб жыцьці пад Польшчай, хто я, дзе вучыўся, што пляную рабіць. Я яму гаварыў праўду, так, як яно было. Трэба прызнацца, што ў мяне была добрая сымпатыя да ўсяго савецкага. Яшчэ будучы ў гімназіі, мы (маю на ўвазе вучняў-беларусаў) захапляліся радыёвымі перадачамі зь Менску, скуль часьценька падаваліся беларускія народныя песьні ў выкананьні добрых ансамбляў Ды ўрэшце ж — там была «вольная» Беларусь. Добрая савецкая прапаганда рабіла сваё… Гэты афіцэр гаварыў ціхенька і часта аглядаўся на бакі. Калі мы адыйшлі ў бязмала цёмнае месца, ён мне сказаў наступнае: *«Да, я замечаю, что вы всё-таки*

---

[422] Магчыма, маецца на ўвазе вёска **Араны** (цяпер Ваўкавыскі раён Гродзенскай вобласці).

[423] У Лужках стаяў 5-ы батальён Корпуса аховы пагранічча (польск. *Korpus Ochrony Pogranicza (KOP)*) — КОП «Лужкі».

*не понимаете, что мы вам прынесли… эта система — это ужас…»* І ў канцы даў мне параду: *«Молодой парень, как вернёшься домой, не валяй дурака, а сразу устраивайся на какую-либо работу…»* Гэту яго параду я вельмі добра запамятаў.

Да сваёй цёткі дабраўся добра і па некалькі днях быў адвезены дамоў у Балбекі. Вярнуўшыся дамоў, я меў на ўвазе параду афіцэра. Па некалькі днях адпачынку накіраваўся ў гміну ў Гэрманавічы свае, ды зьвярнуўся да інспэктара над школамі з просьбай аб рабоце — быць настаўнікам. Трэба зазначыць, што адміністрацыйны падзел у гэты час яшчэ быў «польскі». Савецкая сыстэма сельсаветаў і раёнаў была ўведзена толькі ў пачатку 1940 г. У гэтых Гэрманавічах мне пашанцавала, бо тымчасовым інспэктарам над школамі быў мой колішні настаўнік. Ён мне даў сьпіс школ, дзе патрабуюцца настаўнікі. Недахоп выкладчыкаў быў вялікі, бо многія настаўнікі-палякі ў час канікулаў ехалі ў сваю Польшчу і па прычыне вайны вялікая бальшыня зь іх ужо сюды не вярнуліся. Я выбраў пачатковую школу (чатыры клясы) у вёсцы Барсукі[424], якія былі ад майго дому ня больш двух кіламетраў. Афіцэрства маё пайшло ў няпамяць, і я станаўлюся настаўнікам. Першая інструкцыя для настаўніка была такая: вучы на якой хочаш мове — беларускай, польскай ці расейскай, падручнікі ўжывай, якія маеш ці якія здабудзеш. У мяне ня было ніякіх падручнікаў У даным выпадку я атрымаў добрую дапамогу ад ведамага беларускага навукоўца-патрыёты Янкі Пачопкі[425]. У яго была добрая беларуская бібліятэка. Ён узнагародзіў мяне некалькімі добрымі беларускімі падручнікамі і чытанкамі. Работа ў школе ў мяне пайшла адразу добрым ходам. Барсукі і навакольныя мясьціны — гэта быў вельмі добры раён. Як бацькі, так і іх дзеці дбалі аб школу. Заняткі вяліся на дзьве зьмены: рана — другая і чацьвёртая клясы, а па абедзе — першая і трэцьцяя. Я рабіў асаблівую ўвагу на матэматыку і беларускую мову. Рэзультат гэтага быў такі, што калі з маёй школы чатырохклясьнікі пайшлі ў пятую клясу ў Шкунцікі, то ўсе былі выдатнікамі па матэматыцы і беларускай мове.

Стаўся адзін выпадак, што вывеў маю школу ў лік найлепшай пачатковай у Шаркоўшчынскім раёне. У студзені 1941 года, у час вялікай зімовай буры,

---

424 **Барсукі** — цяпер вёска ў Лужкоўскім сельсавеце Шаркаўшчынскага раёна.

425 **Янка Пачопка** (26.10.1890, в. Летнікі Дзісенскага пав. Віленскай губ. — 26.05.1977, в. Малінаўка, цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобл.), праваслаўны і культурны дзеяч, удзельнік хрысціянскага руху пачатку XX ст., рэдактар, выдавец, пісьменнік, перакладчык, фалькларыст, аграном. У 1914 г. скончыў Варанецкую сельскагаспадарчую школу, пазней — трохмесячныя курсы па жывёлагадоўлі і малочнай гаспадарцы пры Віленскім таварыстве сельскай гаспадаркі. Служыў чыноўнікам Дэпартамента земляробства Віленскай губерні. У 1920-я гг. выдаў у Вільні шэраг кніг сельскагаспадарчай тэматыкі. У 1925 г. рэдагаваў і выдаваў у Варшаве рэлігійны двухтыднёвік «Праваслаўны беларус», ад чэрвеня 1925 г. — штомесячнік-дадатак, дзе публікаваліся царкоўныя казанні на беларускай мове. У 1930-я гг. жыў на ўласнай гаспадарцы. У 1939–1958 гг. працаваў аграномам. Быў блізкім сябрам Язэпа Драздовіча.

школу неспадзявана наведаў школьны інспэктар раёну Вячаслаў Катовіч. Ён быў запраўды заскочаны, калі застаў стопрацэнтовую прысутнасьць вучняў другой зьмены. Такая ж прысутнасьць была і на першай зьмене. Перад прыездам у маю школу гэты інспэктар наведаў дзьве школы, якія былі закрытыя па прычыне буры. Аб гэтым выпадку сп. Катовіч гаварыў потым на канфэрэнцыі ўсіх настаўнікаў раёну.

У 1941 годзе ў часе летніх канікул я плянаваў паехаць у Баранавічы на спэцыяльныя курсы настаўнікаў для павышэньня кваліфікацыі. Справа гэта аказалася ня так простай, як мне думалася. Кандыдат на гэтыя курсы мусіў быць правераны праз НКВД. Правяраў мяне энкавэдыст-грузін Лазебнікаў. Замест дазволу на курсы ён стаў рабіць захады перад загадчыцай раённага аддзелу адукацыі Стэльмахавай, каб тая мяне зусім звольніла з настаўніцтва. Зразумела, што тут мне пашкодзіла афіцэрская школа. Стэльмахава была таксама партыйная, але запраўды асоба высокай культуры. Асабіста мне яна сказала, што пакуль яна тут загадвае, ніякага звальненьня ня будзе.

Калі пачалася вайна, калі Гітлер дня 22 чэрвеня 1941 года атакаваў Савецкі Саюз, маё жыцьцё і праца сталі часта мяняцца, прыходзілася шмат што рабіць і шмат дзе бываць.

У часы летніх канікул 1941 года я часта наведваў Глыбокае, дзе беларусы пачыналі арганізаваць сваю адміністрацыю. Чагосьці канкрэтнага дабіцца ад нямецкіх ваенных уладаў было ня так проста. Пачатковыя нямецкія ўдачы на фронце замуцілі ім галовы, і яны спадзяваліся, што яшчэ пара месяцаў і вайна кончана, а яны гаспадары над усім і ўсімі. Падзел адміністрацыйны за часоў нямецкай акупацыі быў мяшаны. Уплыў палякаў на нямецкія вайсковыя ўлады быў паважны, а гэта празь перакладчыкаў, сярод якіх было шмат палякаў. Сельсаветы былі зьліквідаваны, а вернуты гміны польскіх часоў, але раёны засталіся. Галоўнае начальства на наш раён як нямецкае, так і беларускае знаходзілася ў горадзе Глыбокае. Глыбоцкі школьны інспэктарат выклікаў мяне і даручыў мне школу ў Ямне[426], гэта даволі далекавата ад мяне. Ямна знаходзіцца каля Стэфанпольля, па дарозе з Гэрманавіч на Дзісну, недалёка ракі Дзісенкі. Ямна — вялікі школьны абсяг з добрым вялікім будынкам школы, дзьвюма вялікімі клясамі. Перад вайной там працавалі чатыры настаўнікі. Аднаму там працаваць было не па сілах. Школьны інспэктар даў дазвол шукаць памочніка сярод трохі адукаваных мясцовых жыхароў. Такую дапамогу я знайшоў, жанчыну, якая пазьней стала добрай настаўніцай. У Ямне я адбыў школьны 1941/42 г. і больш туды не вярнуўся.

Беларусы прыкладалі шмат стараньняў, каб атрымаць ад немцаў дазвол на арганізацыю беларускіх вайсковых аддзелаў. У той час гэнэральны камісар Беларусі гэнэрал Кубэ[427] даў такі дазвол, але гэты дазвол ня быў узгоднены

---

[426] **Ямна** — цяпер вёска ў Германавіцкім сельсавеце Шаркаўшчынскага раёна.

[427] **Вільгельм Кубэ** (ням. *Wilhelm Kube*, 1887–1943), нямецкі палітычны дзеяч, у 1941–1943 гг. — генеральны камісар Генеральнай акругі Беларусь рэйхскамісарыята Остланд.

з Бэрлінам, з Розэнбэргам[428] ці Гімлерам[429]. Каб тварыць вайсковыя аддзелы, у першую чаргу трэба мець кадры — афіцэрскія і падафіцэрскія. У Менску былі арганізаваныя першыя афіцэрскія курсы, на якія я быў пакліканы ў пачатку жніўня 1942 г. На курсах аказалася прыблізна палова афіцэраў старэйшага веку — гэта былыя афіцэры царскай арміі. Курсы ўзначальваў гэнэрал Францішак Кушаль. У той час ён яшчэ быў маёрам. Стаўленьне ўсіх да курсаў было пазітыўнае, вычуваўся добры настрой. Праводзіць такія курсы было ня так проста, бо нямецкія вайсковыя ўлады глядзелі на гэта абыякава, ніякай дапамогі не аказвалі. Беларусы мелі толькі дазвол на паперы ад гэнэральнага камісара Кубэ, і больш нічога. Афіцэрскія курсы так-сяк закончыліся. Пачаліся на мясцох курсы для падафіцэраў. Я быў накіраваны, з старэйшым афіцэрам Садоўскім, праводзіць падафіцэрскія курсы ў Браславе. Калі ехалі з Шаркоўшчыны праз Ёды ў Браслаў, здарыўся выпадак, які мог абярнуцца ў трагічны для мяне. Недалёка ад Ёдаў быў бачны вялікі дым, але раптам з бакавой дарогі выяжджае даволі вялікі трачак і загароджвае нам дарогу. У машыне беларускія паліцэйскія, яны мелі чорныя мундзіры. З машыны вылазіць і ідзе ў наш бок высокі паліцай. Што за спатканьне! Да мяне ідзе мой добры сябра з гімназіі Юрка, зь якім разам складалі матуру. Мы цалуемся, а яго паліцаі глядзяць, як на дзіва. У той час мой сябра Юрка быў камандантам беларускай паліцыі ў Мёрах. Ён добра ведаў, што робіцца ў Ёдах і што пажар зроблены партызанамі і цяпер там партызаны. Значыцца я ехаў у рукі партызанаў. Што магло-б са мной стацца, каб я папаўся партызанам, ня варта аб тым гаварыць. Юрка апякаваўся маёй фурманкай, пакуль я ня выехаў на добрую дарогу.

Для курсаў у Браславе была адпушчана частка нейкага будынку. У вызначаны час зьявілася каля сарака падафіцэраў былой польскай арміі. Гэта былі ў вялікай бальшыні добра нацыянальна сьведамыя хлопцы і добра падрыхтаваныя падафіцэры. Цяжкасьці ў правядзеньні гэтых курсаў былі вялікія. У першую чаргу трэба было мець закватараваньне, правіянт, не гаворачы аб умундараваньні і такім-сякім узбраеньні. Мясцовыя ўлады, як нямецкія, так і беларускія, наогул ня былі паінфармаваныя аб гэтых курсах. Вельмі добрую дапамогу ў арганізацыі курсаў аказалі мясцовыя актывісты-беларусы. Па заканчэньні курсаў і арганізатары іх, і курсанты раз’ехаліся па сваіх дамах. Дазволеная камісарам Кубэ арганізацыя Корпуса беларускай самаахowы засталася толькі на паперы, бо далей курсаў афіцэрскіх і падафіцэрскіх больш ужо нічога не рабілася.

---

428 **Альфрэд Розенберг** (ням. *Alfred Rosenberg*, 1893–1946), нямецкі палітычны дзеяч, галоўны ідэолаг Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай работніцкай партыі (NSDAP), ад 1941 г. — рэйхсміністр па справах усходніх земляў.

429 **Генрых Гімлер** (ням. *Heinrich Luitpold Himmler*, 1900–1945), нямецкі палітычны дзеяч, рэйхсфюрар СС, у 1943–1945 гг. — рэйхсміністр унутраных спраў Нямеччыны.

У канцы лістапада 1942 года я пачаў працаваць у Глыбокім у акруговым аддзеле Беларускай народнай самапомачы (БНС) заступнікам старшыні і сакратаром. Старшынёй быў Нікандар Мядзейка[430]. Гэта арганізацыя рабіла шмат добрага для беларускай справы ўва ўсіх галінах нацыянальнага беларускага жыцьця. Але і тут у кожнай, нават дробнай справе трэба было мець дазвол ад немцаў, а бяда ў тым, што некаторыя немцы на ня-немцаў глядзелі як на «унтэрмэншаў»[431].

Кожная дыктатура трымаецца пры ўладзе пры помачы сілы-паліцэйскай сілы. Сталін меў НКВД потым КГБ, Гітлер меў СД ды і сёньня дыктатар Беларусі Лікашэнка мае тое старое КДБ. На ўсіх тэрыторыях, акупаваных немцамі, былі аддзелы гэтага СД. У Менску ясна-ж была кватэра СД, а на нашую тэрыторыю аддзел СД быў у Вялейцы. У некаторых асяродках немцы тварылі і беларускі аддзел, работнікі якога часта былі ўжываныя як перакладчыкі. Такі беларускі аддзел быў і пры СД у Вялейцы. Кіраўніком гэтага беларускага аддзелу была стары расейскі эмігрант, які сам сябе тытулаваў палкоўнікам. Нейкая беларуская справа для яго была зусім чужой, хоць часамі любіў балтануць «я тоже белоруссс». У гэтага палкоўніка працавала трох хлапцоў з Акінчыцавай школы[432]. Акінчыц[433] у той час жыў у Бэрліне і атрымаў дазвол ад немцаў шукаць беларусаў — былых жаўнераў савецкай арміі, якія трапілі ў нямецкі палон, ды вучыць нацысцкай ідэалёгіі.

Беларускі актыў, пачынаючы зь Менску, а канчаючы Вялейкай, заварушыўся, каб гэтага палкоўніка нэўтралізаваць ці хоць бы агранічыць яго нейкі ўплыў на нямецкіх урадоўцаў гэтага СД. Добра і сёньня ня ведаю, у каго паявілася ідэя, каб мяне паслаць у Вялейку ў гэты беларускі аддзел у якасьці сакратара да палкоўніка. Пад націскам з розных бакоў я даў згоду.

---

[430] **Нікандр Мядзейка** (28.08.1914, в. Панькі, цяпер Іўеўскі раён Гродзенскай вобл. — 06.12.1987, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Барунах да яе ліквідацыі ў 1932 г. Скончыў гімназію ў Вільні. У 1936–1939 гг. служыў у польскім войску. У 1939–1941 гг. працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Маладзечне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў школьным інспектарам у Маладзечанскім павеце, потым — у Лідскай акрузе. Ад лістапада 1942 г. да верасня 1943 г. кіраваў акруговай управай Беларускай народнай самапомачы ў Глыбокім. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне (французская зона акупацыі) скончыў універсітэт *UNRRA* з дыпломам інжынера меліярацыі. У лютым 1948 г. пераехаў у Францыю, дзе быў кіраўніком дэлегатуры БЦР. У красавіку 1954 г. разам з сям'ёй выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансвіку (Нью-Джэрсі). 04.09.1954 прызначаны першым віцэ-прэзідэнтам БЦР. Быў скарбнікам Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. У 1977–1987 гг. — прэзідэнт БЦР.

[431] ***Untermensch*** (ням.) — недачалавек, неарыец, прадстаўнік ніжэйшай расы.

[432] Відаць, маецца на ўвазе Вустраўская школа прапагандыстаў, арганізаваная Фабіянам Акінчыцам недалёка ад Берліна.

[433] **Фабіян Акінчыц** (1886–1943), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, рэдактар.

У пачатку 1943 г. я пераехаў у Вялейку, каб пачаць працу пры СД. Адразу ўбачыў, што сам адзін многа я тут ня змагу зрабіць. На маю просьбу даў згоду прыехаць да мяне мой добры сябра з гімназіі Яшка на функцыю перакладчыка. Ён ведаў нямецкую мову вельмі добра. Аб гэтай працы можна было б шмат гаварыць, але магу сказаць тое, што мы ўдваіх прынесьлі і зрабілі шмат добрага для нашых людзей. Пры гэтым аддзеле СД у Вялейцы працаваў немец, маючы высокую пазыцыю. Ён ведаў так-сяк расейскую мову, і, калі даведаўся, што я ведаю расейскую, ён стаў маім проста сябрам, я — яго настаўнікам расейскай мовы. Я сам ня ведаў і сёньня ня ведаю вельмі добра расейскай мовы, але ў параўнаньні зь ім я быў «прафэсар». Пры помачы яго нам удавалася не аднаго арыштаванага, нявіннага звольніць з турмы. Быў такі выпадак: раненька да мяне завітала трох сялян аж з-пад Докшыц. Яны казалі, што мне крэўныя па лініі майго дзеда, бацькі мамы, а факт, што мой дзед паходзіў з-пад Докшыц. *«Што вы хочаце, дзядзькі?»* — я пытаю. Адказ просты — з нашай вёскі немцы арыштавалі 15 чалавек і павезьлі ў Вялейку ў турму. Яны чулі, што я магу дапамагчы. Я пайшоў у канцылярыю да свайго немца і першае, што спраўдзіў ён, што — так, больш як 15 чалавек з-пад Докшыц сядзяць тут у турме. Якая валакіта і мітусьня была ў гэтай справе, але к вечару ўсе арыштаваныя былі на волі. Гэныя людзі былі арыштаваныя за сувязь з партызанамі, ясна, па злоснаму даносу, і такія людзі маглі быць адпраўлены на той сьвет.

А галоўная была ў нас удача, што хоць паволі гэта рабілася, але ў канцы 1943 года «палкоўніка» звольнілі наогул з працы. Не аднаму ён потым гаварыў: «… приехал к нам деревенский учитель и выдворил меня на улицу».

Пры СД у Вялейцы быў 13-ты батальён, які можна назваць сапраўды беларускім. Усе афіцэры, падафіцэры і жаўнеры былі маладыя беларусы-патрыёты. Толькі камандзір батальёна быў немец. На просьбу афіцэраў батальёна мне быў дадзены дазвол мець бяседы-гутаркі з жаўнерамі. Праводзіў я свае гутаркі ў групах па 20–30 жаўнераў. Тэму гутаркі выбіраў сам. Ясна, гэта былі тэмы бягучыя, нацыянальныя справы-праблемы. Гэтымі гутаркамі ўсе былі задаволеныя.

На мой погляд, з пункту гледжаньня нацыянальнага найлепшай, поўнасьцю беларускай была арганізацыя «Саюз Беларускай Моладзі». СБМ — арганізацыя, якая выхоўвала моладзь, як хлапцоў, так і дзяўчат, на добрых беларускіх патрыётаў. А ў прапагандзе савецкай гэтая арганізацыя прадстаўлена як такая здрадніцкая пранямецкая, а таму многія сябры гэтага саюзу (СБМ) пазьней пакаштавалі сталінскія лягеры, а некаторыя і загінулі. Я заўсёды падтрымоўваў і дапамагаў гэтай арганізацыі. Кіраўнік СБМ на Вялейскую акругу, мой мілы Пётра Сьценьнік[434], адразу пасьля вайны быў арыштаваны

---

[434] **Пётра Сценнік** (18.08.1920 — пасля 1945), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Дзісенскай гімназіі. У ліпені 1934 г. быў прызначаны кіраўніком Вілейскай акруговай арганізацыі СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Апекаваўся юнакамі ў лагерах

ў Чэхіі і расстраляны савецкім КГБ ці НКВД. У падтрымку СБМ я ня раз выступаў у сярэдніх школах, нават аж у Валожыне быў.

У сваіх выступленьнях-гутарках я гаварыў толькі аб беларускіх справах, нямецкіх ніколі ня кратӑў. Рэзультат гэтага быў такі, што аднаго разу выклікае мяне на гутарку кіраўнік аддзелу прапаганды і культуры пры Вялейскім гэбітскамісарыяце. Гэта быў, відаць, добра адукаваны і культурны немец, гаварыў ён даволі добра па-расейску. У кароткай гутарцы ён мне задаў пытаньне: *«Да, вы хорошо говорите, но почему вы никогда не вспоминаете нашей немецкой партии, нашего вождя Гитлера, который вас освободил?..»*

30 чэрвеня 1944 года мы пакінулі Вялейку, бо савецкія войскі хутка пасоўваліся на захад, а немцы хутка адступалі. Першы пункт затрымкі для працаўнікоў СД і для 13-га батальёна меў месца ў Прусах — Ортэльбург[435]. Тут адбылося незвычайнае здарэньне. Дзьве кампаніі 12-га батальёна ў поўным складзе пайшлі ў лес, каб ваяваць і супроць чырвоных, і гітлераўцаў. Гэтай справы, здаецца, да сёньня ніхто добра не дасьледаваў. З гэтага Ортэльбурга пачаўся рассыл нашых людзей у Нямеччыну, зразумела, на работу. Тут ізноў мне пашанцавала, бо ў рассылцы людзей на працу ў Нямеччшу вялікую ролю адыгрываў мой «добры» немец з часоў Вялейкі. Ён мне адразу сказаў: *«Выбірай, куды хочаш, накірую цябе — ды парадзіў: — дзесьці на поўдзень будзе найлепш»*. Маючы патрэбныя паперы і білет, адправіўся я цягніком у Лінц, прыгожы горад над ракой Дунай у Заходняй Аўстрыі. Едучы ў Лінц, я меў перасядку ў Вене.

У той час, калі я чакаў на наступны цягнік да Лінца, праз рупары паведамілі аб замаху на жыцьцё фюрэра Гітлера. Моцна гучала: *«Гітлер жыве! Хайль Гітлер!»* Прыехаўшы ў Лінц, адразу мусіў замальдавацца ў аддзеле працы (арбайтсамт[436]). Каля Лінца было многа фабрык, якіх прадукцыя накіраваная была толькі для вайны. На гэтых фабрыках былі дзясяткі тысяч «астарбайтэраў», работнікаў з Усходу. Найбольш было з Украіны. Я атрымаў накіраваньне ў адзін з большых лягераў для «остарбайтэраў» у якасьці перакладчыка пры галоўнай канцылярыі кіраўніцтва лягеру. Было ўлічана маё даволі добрае веданьне нямецкай мовы, ды польскай і расейскай… Праца была лёгкая. Кіраўніком гэтага вялікага лягеру быў былы афіцэр Вэрмахту, паважны інвалід (быў ранены на Усходнім фронце на тэрыторыі Беларусі). Даволі добра арыентаваўся ў палажэньні ў Усходняй Эўропе. Гаварыў, што ён па лініі маткі блізкі крэўны Гітлера, але ненавідзеў яго.

У канцы верасьня 1944 года я атрымаў «вызаў» у беларускі афіцэрскі зборны пункт у Бэрліне з дапіскай гэнэрала Кушаля: *«Прыежджайце, вы тут будзеце патрэбныя»*. Адразу прыняў дэцызыю ехаць, бо я тады ж быў

---

Працоўнай групы СБМ у Магдэбургу і інш. У 1945 г. у Чэхіі быў арыштаваны савецкімі спецслужбамі. Далейшы лёс невядомы.

435 Маецца на ўвазе горад **Шчытна** (польск. *Szczytno,* ням. *Ortelsburg*) — цяпер горад у Польшчы, цэнтр павета ў Вармінска-Мазурскім ваяводстве.

436 ***Arbeitsamt*** (ням.) — біржа працы, служба працы.

адзінокі ды яшчэ малады, меў толькі 28 годзікаў. У пачатку кастрычніка быў ужо ў Бэрліне. Адразу замальдаваўся на Вайсэнзэе[437], дзе мясьціліся канцылярыі БЦР (Беларускай Цэнтральнай Рады). Накіраваны быў на Ліхэнэрштрасэ[438], дзе ў школьных будынках было добрае месца для беларускіх афіцэраў і падафіцэраў Тут ўжо беларусы займалі пару вялікіх пакояў. У пакоі, дзе я памясьціўся, было каля дваццаці чалавек. Мой ложак быў побач з ложкам Аляксандра Крыта, пазьнейшага мітрапаліта БАПЦ у Амэрыцы[439]. У той час ён не выглядаў, прынамсі ў маіх вачах, на будучага вялікага сьвятара. Нашае жыцьцё тут было незайздроснае. Ніхто нічога чагосьці канкрэтнага не рабіў, толькі поўзалі па рэстаранах Бэрліна, шукаючы месца, каб за найменшую колькасць прадуктовых марак так-сяк пад'есьці. Выглядала і тут штосьці падобнае на тыя афіцэрскія курсы ў Менску. Немцы далі дазвол зьбіраць людзей, а больш нічога канкрэтнага. Вельмі часта ночы праводзілі ў бункерах, бо горад аліянты бамбілі. Асабіста мне не давялося доўга прагульвацца па Бэрліне. Гэнэрал Кушаль паклікаў мяне ў сваю канцэлярыю, якая знаходзілася пры БЦР на Вайсэнзэе, і запрапанаваў мне функцыю быць яго ад'ютантам. Зразумела, я згадзіўся. Тут можна было мець працы ўдоваль. Першай маёй задачай было шуканьне нашых былых вайскавікоў, былых жаўнераў Краёвай абароны, якія маглі дзесьці апынуцца ў Нямеччыне. Многія зь іх стараліся і самі навязаць-знайсьці сувязь з былымі сваімі камандзірамі. Бальшыня зь іх хацелі лепш быць у беларускіх вайсковых аддзелах, чым дзесьці працаваць на фабрыцы. Многія такія добраахвотнікі былі накіроўваныя ў «беларускую» брыгаду, якую ўзначальваў нямецкі гэнэрал Зіглінг[440]. Гэта нібы беларуская брыгада мела назоў «Брыгада Зіглінга». Яна знаходзілася ў паўдзённай Нямеччыне. Тут беларускія афіцэры і падафіцэры ніякага голасу ня мелі, усё было ў руках немцаў.

Мой бэрлінскі адрас хутка разыйшоўся і я стаў атрымліваць лісты-просьбы аб дапамозе перабрацца ў Заходнюю Нямеччыну. Асабліва шмат просьбаў

---

437 **Вайсэнзее** (ням. *Weissensee*) — гарадскі раён на паўночным усходзе Берліна, тут у апісаны час знаходзілася БЦР.

438 Магчыма, маецца на ўвазе **Ліхтэнэр штрасэ** (ням. *Lichtenauer Strasse*), што знаходзіцца недалёка ад Вайсэнзее і дзе ў будынку вайсковай камендатуры размяшчаўся вайсковы аддзел БЦР.

439 Маецца на ўвазе мітрапаліт Андрэй (Крыт).

440 **«Брыгада дапаможнай паліцыі "Зіглінг"»** (ням. *Schutzmannschaft-Brigade «Siegling»*) — «загародная брыгада», створаная ў тыле групы армій «Цэнтр» паводле загаду групенфюрара СС Курта фон Готберга, дадзенага ў канцы чэрвеня 1944 г. Брыгада мела задачай стрымліваць наступ савецкіх войскаў, пакуль немцамі не будзе адноўлены суцэльны фронт. Брыгаду сфарміравалі ў раёне Лангры (Польшча) з усіх ацалелых частак паліцыі з тэрыторыі Беларусі. Камандзірам быў прызначаны оберштурмбанфюрар СС і падпалкоўнік ахоўнай паліцыі Ганс Зіглінг. У жніўні 1944 г. на яе аснове была створана 30-я грэнадзёрская дывізія войскаў СС («2-я руская», «1-я беларуская»), якая дзейнічала да красавіка 1945 г.

было з Усходніх Прусаў, дзе было шмат нашых людзей, а бальшавіцкі страх прыбліжаўся. Вызаў, які пісаўся нашым вайсковым аддзелам, быў важкім дакумантам, бо быў ад нямецкіх вайсковых уладаў. Хто атрымаў гэты вызаў, бязь ніякіх перашкод атрымоўваў дазвол на выезд у Бэрлін, ці адразу ў брыгаду Зіглінга. У вызаве падавалася, што данная асоба паклікаецца на месца перашкаленьня афіцэраў, або падафіцэраў для беларускай брыгады. Праз гэтыя «школы» прайшло хіба добрых пара сот чалавек. Некаторыя прыяжджалі з сваімі сем'ямі.

Галоўным начальнікам вайсковага аддзелу пры БЦР быў гэнэрал Канстанцін Езавітаў[441], а яго падуладным гэнэрал Францішак Кушаль. Ад'ютантам Езавітава быў лейтэнант Аляксей Грыцук[442], зь якім я быў у добрых, сяброўскіх адносінах. У аддзеле працавалі дзьве сакратаркі, якія заўсёды мелі працы ўдоваль, бо чаго-чаго, а паперы псавалася многа.

Гэтыя нашыя высокапастаўленыя вайскавікі — Езавітаў і Кушаль — у той час былі ў вельмі дрэнных адносінах паміж сабой — яны не гаварылі паміж сабой, а канцылярыі іх былі толькі праз вузенькі калідорчык, адна напроціў другой. Розныя справы, а іх было шмат, палагоджвалі на пісьме праз ад'ютантаў.

Сытуацыя і настрой у Бэрліне штораз пагаршаліся. Па загаду «ост-міністра» Беларуская Цэнтральная Рада рыхтавалася да выезду, а куды? 6 лютага 1944 г. БЦР пакідае Бэрлін. Цягнік накіроўваецца на захад, а гэта ўзьнімае настрой сярод пасажыраў. 11 лютага 1944 г. цягнік затрымаўся ў малым

---

441 **Канстанцін Езавітаў** (05.11.1893, Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 23.05.1946, Мінск), вайсковы і грамадскі дзеяч. У Першую сусветную вайну праводзіў актыўную тлумачальную і арганізацыйную працу сярод жаўнераў-беларусаў Паўночнага фронту, быў абраны намеснікам старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік Першага Усебеларускага кангрэса ў снежні 1917 г., у лютым 1918 г. — вайсковы камендант Мінска. Народны сакратар па вайсковых справах, удзельнік абвяшчэння незалежнасці БНР. У 1919–1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. У 1921–1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў Рызе. У часе Другой сусветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У часе Другога Усебеларускага кангрэса быў абраны ў склад БЦР, у 1945 г. займаў пасаду кіраўніка вайсковага аддзела БЦР. Затрыманы СМЕРШ у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай версіі, памёр падчас следства ад сухотаў і дыстрафіі, паводле іншых звестак — расстраляны.

442 **Алесь Грыцук** (1910–1976), грамадскі дзеяч, літаратуразнаўца. Завочна скончыў Варшаўскі ўніверсітэт са ступенню магістра гісторыі. Удзельнік абароны Варшавы ў верасні 1939 г. Трапіў у палон. У часе нямецкай акупацыі кіраваў школьным інспектаратам на Беласточчыне. У 1944 г. — асветны афіцэр у БКА. Чытаў лекцыі па гісторыі ў 1-м кадравым батальёне БКА ў Берліне. У паваенны час быў адным са стваральнікаў Беларускага камітэта ў Аўстрыі. У 1948 г. пераехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Браў актыўны ўдзел у грамадскім і царкоўным жыцці беларусаў Канады.

гарадку Гэкстэры[443] ў Вестфаліі. З намі было пара «апекуноў» — немцаў з Ост-міністэрства, і яны заявілі, што тут наша месца. Усяго прыехала нашых людзей, здаецца, па-над 30. У бальшыні — работнікі БЦР, але некаторыя былі з жонкамі. У вайсковым аддзеле БЦР гэн. Кушаль з афіцэраў пакінуў мяне і Аляксея Васіленю[444]. Сам гэн. Кушаль паехаў у «брыгаду Зіглінга», а гэн. Езавітаў застаўся ў Бэрліне. І так наша праца для беларускай справы, пачатая ў часы нямецкага паходу на ўсход, прыйшла да сумнага заканчэньня. Наступіла поўнае беспрацоўе, няпэўнасьць і чаканьне, але чаканьне няведама чаго. Жахлівая вайна падыходзіла да заканчэньня. Выглядала, што на дарагую бацькаўшчыну ў бліжэйшым часе ня прыйдзецца вярнуцца, бо варочацца да бальшавікоў — гэта было б тое самае, што самому сабе выносіць сьмяротны прысуд.

Маючы час да разважаньня, мы прыйшлі зь сябрам Васіленем да высновы, што пасьля заканчэньня вайны нам прыйдзецца кудысьці эміграваць. Кудысьці выяжджаць аднаму будзе кепска. Трэба мець свайго спадарожніка, а карацей кажучы — трэба ажаніцца тут, пакуль яшчэ ёсьць свае дзяўчаты. Так я дагаварваюся з сакратаркай нашага вайсковага аддзелу Жэняй, а капітан Васіленя дагаварваецца з сваёй сымпатыяй. Мая сяброўка — праваслаўная беларуска родам зь Беластоку. 1 сакавіка 1945 г. гарадзкі судзьдзя Гэкстэра, у спэцыяльна да гэтага прызначанай прыгожай залі, нас, дзьве пары, «абвянчаў». Нават такое-сякое вясельле адбылося, бо на гэту аказію мы атрымалі экстра-купоны на ежу і нават на віно.

Некалькі дзён пасьля майго жанімства мяне вызваў да сябе Прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі. Вусна ён мне даў такія-сякія інструкцыі і пакунак

---

[443] **Гекстэр** (ням. *Höxter*) — горад у зямлі Паўночны Рэйн — Вестфалія ў Нямеччыне.

[444] **Аляксей Васіленя** (27.03.1899, в. Малая Бераставіца, цяпер Бераставіцкі раён Гродзенскай вобл. — 26.07.1978, Сіднэй, Аўстралія), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Гарадзенскім рэальным вучылішчы. Падчас Першай сусветнай вайны — у эвакуацыі. Скончыў рэжысёрскія курсы ў Новарасійску. Пасля Кастрычніцкага перавароту ваяваў у кавалерыйскім корпусе генерала Дзянікіна. У 1921 г. вярнуўся на радзіму, працаваў у Беларускім аб’езным тэатры да моманту яго ліквідацыі польскімі ўладамі. У 1927–1928 гг. — сакратар Палескага аддзела Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Пазней выконваў абавязкі сакратара беларускага пасольскага клуба «Змаганне». У часе нямецкай акупацыі — кіраўнік Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме, кіраўнік канцылярыі Галоўнага камандавання БКА, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, жыў у Берліне, займаў пасаду сакратара Прэзідыума Беларускай Цэнтральнай Рады. У лагерах *DP* рэдагаваў сатырычны часопіс «Смехам па галаве», у Гамбургу разам з С. Хмарам і М. Паньковым выдаваў сатырычны часопіс «Маланка». Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Актыўны ўдзельнік жыцця беларускай грамады ў Сіднэі. Адзін з арганізатараў Беларускага аб’яднання ў Новай Паўднёвай Валіі, у якім займаў розныя пасады. Шматгадовы распаўсюднік беларускага друку і сталы прадстаўнік газеты «Беларус» у Сіднэі.

папераў-дакумантаў і папрасіў, каб я усё гэта завёз ў Бэрлін і перадаў гэн. Езавітаву. Дня 15 сакавіка 1945 г. я выехаў у Бэрлін і даехаў туды даволі нармальна. У сталіцы Нямеччыны настрой быў вельмі кепскі, прыгнечаны, бо савецкая армія набліжалася да яго. Затрымаўся я ў гатэлі каля Тыргардэн, у якім звычайна ўсе беларусы затрымоўваліся. Беларусы і называлі яго «Беларускі гатэль». Склалася для мяне вельмі добра, бо ў гатэлі было пара беларусаў, і сярод іх мой стары сябра Мікола з падхарунжоўкі ў Быдгошчы (з 1937 г.). Гэтыя сябры паінфармавалі мяне, што адрас гэн. Езавітава, які мне даў Прэзыдэнт Астроўскі, больш не існуе — развалены бомбамі. З гэнэралам я гутарыў пару разоў і чым больш зь ім гутарыў, я пачынаў сур'ёзна пабойвацца, што з нашым галоўнакамандуючым штосьці не ў парадку. Ён паўтараў мне некалькі разоў, што гэта нічога, што савецкія гарматы ўжо чуваць у Бэрліне, але вайну Гітлер выйграе, *«толькі неразумны можа думаць, што Гітлер прайграе»* — так закончыў ён. У той час выехаць з Бэрліна, асабліва маладому мужчыну, ужо было проста немагчыма. Усе мусілі працаваць у падрыхтоўцы абароны сталіцы. З трудом мне ўдалося даказаць, што я пасланец ў важных вайсковых справах, на што я меў доказы-дакуманты. Дня 21 сакавіка я дабраўся да Гэкстэра — вярнуўся «дамоў».

Як ведама, дня 6 чэрвеня 1944 году арміі ЗША і Англіі высадзіліся ў Францыі і нягледзячы на супраціў немцаў, яны прасоўваліся на усход. Работнікі БЦР, седзячы ў мястэчку Гэкстэр (усіх зь сем'ямі было па-над 40 асоб) былі вельмі задаволеныя, што армія альянтаў пасоўваецца на Ўсход — да нас. Зусім нечакана для ўсіх БЦРаўцаў дня 1 красавіка 1945 года немцы з Ост-міністэрства, якія былі з намі (Гэр Мэнкэ і Гэр Шнайдэр) загадваюць як найхутчэй спакавацца і ехаць на жэлезнадарожную станцыю Гэкстэра. Ніякіх паясьненьняў, тлумачэньняў, а толькі *«шнэль... шнэль...»*.

Ад'яжджаем на Ўсход. З намі ўсімі едзе Прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі. Настрой ва ўсіх вельмі дрэнны, бон я ведама куды едзем, а галоўнае — чаму на Ўсход. Бачачы такую не выразную сытуацыю, Прэзыдэнт Астроўскі неафіцыяльна, паціхоньку радзіць сваім падуладным: *«калі хто з вас мае сваіх знаёмых па дарозе, кідайце гэты цягнік і на сваю руку...»*. Асабіста мне добра пашанцавала. Дня 5 красавіка 1945 года цягнік затрымаўся ў невялічкім гарадку Ашэрслебэн[445] у Саксоніі. З сваёй ранейшай перапіскі я ведаў, што мой добры сябра Уладзімір Бортнік «працуе» ў баўэра ў вёсцы Сыльда, якая зусім недалёка мястэчка. Разьвітаўшыся з усімі, я пакінуў цягнік. Мы з жонкай дабраліся да гэтай Сыльды бяз клопату, а чамаданчыкі ў нас у той час былі невялічкія. Сябра Валодзя быў вельмі задаволены з нашай сустрэчы, а мы таксама, што знайшлі добры прытулак. Сябра жыў з сваёй сястрой і з маладой дзяўчынай-суседкай з дому, у невялікім доміку, дзе было даволі месца і для нас.

Вялікая тройка (Рузвэльт, Чэрчыль і Сталін) на канфэрэнцыі ў Ялце падзялілі Эўропу, перадусім Нямеччыну. Саксонія, дзе мы аселі, адыходзіла

---

[445] **Ашэрслебен** (ням. *Aschersleben*) — горад у раёне Зальцланд у зямлі Саксонія-Ангальт Нямеччыны.

ў савецкую зону. Таксама было пастаноўлена, што ўсе грамадзяне СССР павінны вярнуцца дамоў грамадзяне былой Польшчы маюць права выбару — вяртацца дамоў, ці заставацца на Захадзе. Зразумела, мы, як былыя грамадзяне Польшчы, застаемся на Захадзе.

Пачынаецца шуканьне дарогі на Захад. Я зь сябрам Валодзем едзем у амэрыканскую камандатуру на наш раён. Там атрымоўваем патрэбную інфармацыю. Тыя, хто не жадае заставацца пад савецкай акупацыяй, павінны прыехаць у мястэчка Гэтштэт[446], дзе арганізуецца лягер для такіх, а пазьней будзе цягнік, які адвязе ўсіх на Захад. Пакідаем вёску Сыльда і едзем у той лягер. Дня 21 чэрвеня 1945 года цягнік, добра наладаваны, адыходзіць на Захад. Пасажыры ў цягніку ў вялікай бальшыні былыя грамадзяне Польшчы і балтыйцы. Савецкіх грамадзян на гэты цягнік не прымалі. Пасьля чатырох дзён маруднай язды цягнік затрымоўваецца ў невялікім гарадку Кэмптэн, непадалёк ад Альпаў і швайцарскай граніцы. У гэтым Кэмптэн[447] быў ужо даволі вялікі польскі лягер. Пры першай рэгістрацыі новапрыбылых адбыўся такі выпадак. Надыйшла чарга рэгістрацыі для нас беларусаў і я быў першы. Гутарка адбывалася на польскай мове. На пытаньне аб нацыянальнасьці я адказаў — «беларус». Рэгіструючая полька павышаным голасам заявіла, што гэты абоз толькі для палякаў, а больш для нікога. Я ёй на гэта: *«Пані мыляецца, гэта абоз для ўсіх былых польскіх грамадзян, а ня толькі для палякаў»*. Недалёка быў прысутны камандзір лягера і той у голас заявіў: *«Так, гэты пан мае рацыю»*.

Праз пару тыдняў пасьля такой рэгістрацыі вызываюць мяне да кіраўніка лягера і пасьля такой-сякой гутаркі кіраўнік прапануе мне становішча каманданта лягернай паліцыі. Я, як рабіць ня было чаго, гэтую функцыю прымаю. У міжчасе, як я, так і Валодзя, пачалі шукаць сваіх людзей. Хутка даведаліся, што ў вялікім лягеры для ДП (перамешчаныя асобы) Шляйсгайм[448], каля Мюнхэна, арганізуецца беларуская група. І так не давялося доўга быць камандантам паліцыі, дня 1 ліпеня 1946 года я паведамляю каманданту лягера, што заўтра пакідаю яго. На нанятым трачку 2 ліпеня мы пераехалі ў Шляйсгайм. Мы, гэта значыць я з жонкай і Валодзя зь сястрой. Тут ужо была паважная група нашых людзей. У гэтым лягеры пераважна былі славяне: расейцы, украінцы і беларусы.

Толькі пасьпеў так-сяк уладзіцца ў гэтым лягеры, як мне прапануюць функцыю заступніка каманданта паліцыі. Паколькі расейцаў была бальшыня, камандант быў расеец, ды нібы барон фон Штайн-стары, эмігрант зь Югаславіі. Функцыю прымаю, бо гэта-ж было платна. Усе работнікі лягернай адміністрацыі атрымоўвалі грашовую плату ад УНРА (міжнародная аргані-

---

[446] **Гетштэт** (ням. *Hettstedt*) — мястэчка ў раёне Мансфельд у зямлі Саксонія-Ангальт Нямеччыны.

[447] **Кемптэн** (ням. *Kempten*) — горад у акрузе Швабія ў зямлі Баварыя Нямеччыны.

[448] **Шляйсгайм** (ням. *Schleißheim*) — горад у Баварыі каля Мюнхена. Тут пасля Другой сусветнай вайны дзейнічаў лягер для перамешчаных асобаў, дзе жылі больш за сотню беларусаў і працавалі беларускія навучальныя ўстановы.

зацыя, якая апякавалася ўсімі ДП у лягерох). У гэтым лягеры наша сям'я павялічылася, бо дня 7 лютага 1947 году нарадзілася ў нас дачка Ларыса.

На ўсход ад лягера Шляйсгайм, у бок Чэшскай Рэспублікі, у мястэчку Остэргофэн[449] быў арганізаваны лягер ДП, у якім жылі толькі беларусы. Там пачала выходзіць тыднёвая газэта «Бацькаўшчына»[450]. Рэдактарам яе быў др. Станіслаў Станкевіч[451], па настойлівай просьбе якога я пераехаў у Остэргофэн, каб адразу пераняць функцыю адміністратара «Бацькаўшчыны». Зразумела, што ўсе такія грамадзкія функцыі былі бязплатныя. Гэтая функцыя ўзваліла на мяне шмат работы. У тыя часы на выдаваньне газэты ці часопісу трэба было мець дазвол — ліцэнзыю ад акупацыйных амэрыканскіх уладаў (у амэрыканскай зоне). Яна дазваляла і куплю паперы. На аплату паперы, друкаванне і рассылку газэта мусіла мець свае грошы. Акурат зьбіраньне іх і было работай адміністратара. Праўда, у лягерох у бальшыні людзі ня мелі работы. Але, нягледзячы на цяжкасьці, «Бацькаўшчына» выходзіла рэгулярна — штотыднёва.

У кастрычніку[452] да функцыі адміністратара газэты прыдалі мне функцыі сакратара Беларускага нацыянальнага камітэту ў амэрыканскай зоне[453]. Дадалася й функцыя каманданта лягернай паліцыі. У канцы кастрычніка 1948 г. мусіў адбыць двухтыднёвыя курсы камандантаў паліцыі ДП-лягероў. Курсы адбываліся ў г. Штутгарце. Жонка прэзыдэнта Рузвэльта Элеанора наведала гэтыя курсы. Ад імя ўсіх курсантаў я меў гонар яе вітаць.

У чэрвені 1949 г. усе беларускія лягеры ў амэрыканскай зоне былі ліквідаваны, а жыхары іх пераведзены ў адзін вялікі лягер у вялікія кашары

---

449 **Остэргофен** (ням. *Osterhofen*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Баварыя, на чыгуначнай лініі Рэгенсбург — Пасаў. У 1946 г. тут быў створаны беларускі *DP*-лагер, насельніцтва якога складала больш за 400 чалавек.

450 **«Бацькаўшчына»** — газета беларускіх эмігрантаў, што выходзіла ў Остэргофене, потым у Мюнхене, у 1947–1966 гг. рэдактарамі былі Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч.

451 Маецца на ўвазе **Станіслаў Станкевіч** (1907–1980), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. скончыў гуманістычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1936 г. абараніў доктарскую дысертацыю «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі». Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюза, рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка». У 1937–1938 гг. стажыраваўся ў навучальных установах Югаславіі і Балгарыі. У 1939–1941 гг. выкладчык у Наваградскай педагагічнай вучэльні. Падчас нямецкай акупацыі — бурмістр Барысава (1941–1943), намеснік прэзідэнта БЦР на Баранавіцкую акругу (1944). Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэса. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 гг. у Нямеччыне рэдагаваў берлінскую газету «Раніца». Ад 1947 г. — радны БНР. У 1948–1962 гг. — рэдактар газеты «Бацькаўшчына» (Мюнхен).

452 Відаць, маецца на ўвазе 1948 г.

453 **Беларускі нацыянальны камітэт** быў заснаваны ў Рэгенсбургу ў 1945 г. для прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў у амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны.

ў горадзе Розэнгайм[454], на поўдзень ад Мюнхэна. Адразу пасьля пераезду туды я рашыў рыхтавацца да эміграцыі — выехаў у горад Ульм[455] на трохмесячныя курсы ангельскай мовы. Разам са мной на гэтых курсах былі сябры: Антось Адамовіч, Чэслаў Ханяўка[456] і Янка Цупрык[457]. Курсы былі пастаўлены на вельмі добрым узроўні, і курсанты здабылі добрыя падставы ангельскай мовы.

У кастрычніку 1949 г. у Розэнгайме адбылася IV сэсыя Рады БНР. На гэтай сэсыі дасюлешні скарбнік Рады БНР Сымон Кабыш (Сымон Кандыбовіч[458]) перадаў мне гэту функцыю, якую я маю да сёньняшняга дня безь перапынку.

Жыцьцё ў лягерох ДП ня было зайздросным, асабліва калі браць пад увагу памяшканьні. Часта ў адным пакоі жылі па дзьве сям'і. Але, нягледзячы на няўзгоды і цяжкасьці, ніякіх нараканьняў ня было, а ведама чаму: калі табе кепска тут, то едзь дамоў. Галоўны клопат быў, як, дзе і калі ўладзіцца на сталае жыцьцё. Хоць паволі, але пачалася эміграцыя ў краіны вольнага

---

[454] **Розенгайм** (ням. *Rosenheim*) — горад у Баварыі, на паўднёвы захад ад Мюнхена, дзе ў чэрвені 1949 г. — жніўні 1950 г. дзейнічаў беларускі лагер *DP*.

[455] **Ульм** (ням. *Ulm*) — горад на Дунаі, у зямлі Бадэн-Вюртэмберг Нямеччыны.

[456] **Часлаў Ханяўка** (26.05.1909, Рыга, Латвія — 02.07.1988, Саўт-Рывер, ЗША), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі і на агранамічным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Браў актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Берліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-я гг. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы. Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, адзін з заснавальнікаў і сябра ўправы Нью-Джэрсійскага аддзела арганізацыі.

[457] **Янка Цупрык** (18.02.1913, Слонім, цяпер Гродзенская вобл. — 21.09.1983, Саўт-Рывер, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. Скончыў Навагрудскую беларускую гімназію, Варшаўскі ўніверсітэт. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі). Працаваў хімікам у аддзеле нуклеарнай медыцыны ў фірме «Сквіб» у Нью-Брансвіку. Быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, браў удзел у кангрэсах беларусаў Амерыкі, належаў да парафіі Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы.

[458] **Сымон Кабыш** (да эмігр. **Кандыбовіч**, 20.07.1890, в. Старыца Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі раён Мінскай вобл. — 17.09.1971, Мюнхен, Нямеччына), грамадскі дзеяч, гісторык. Ад 1926 г. — сябра ЦК КП(б)Б, у 1931–1933 гг. — кіраўнік справаў СНК БССР, у 1935 г. — начальнік Наркамхарчпрама СССР пры СНК БССР. Падчас Другой сусветнай вайны — сябра Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, Беларускай Цэнтральнай Рады (кіраўнік фінансавага аддзела). Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. У Нямеччыне быў у Беларускім нацыянальным камітэце. У 1948–1949 гг. — міністр фінансаў Рады БНР. Ад 1954 г. працаваў у беларускай секцыі Радыё «Вызваленне» («Свабода»), ад 1963 г. — у Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене. Даследаваў пытанні эканамічнай гісторыі. Ад 1956 г. быў рэферэнтам Сакратарыята Рады БНР па пытаннях народнай гаспадаркі.

заходняга сьвету. У першую чаргу меліся на ўвазе ЗША, Канада, Аўстралія, а нават і Бразылія, Аргэнтына. Амэрыканскі ўрад і Кангрэс добра бачылі, што ЗША павінны дапамагчы ў разьмяшчэньні ўцекачоў, пражываючых у ДП-лягерох Нямеччыны. Пасьля доўгіх дэбатаў Кангрэс прыняў «Акт ДП»[459], падпісаны прэзыдэнтам Трумэнам[460], ён стаў законам, які даваў права прыняць у Амэрыку 500 тысяч уцекачоў зь Нямеччыны.

Зразумела, каб атрымаць дазвол на выезд у ЗША, трэба было прайсьці амэрыканскую спэцкамісію, якая правярала фізычны стан кандытата ды і палітычнае мінулае. Кандыдат на выезд мусіў таксама мець ужо забязьпечаную кватэру і месца працы. На апошнія два патрабаваньні камісія, відаць, ня зьвяртала асаблівай увагі, а гэтаму — добры прыклад з майго асабістага жыцьця. Др. Янка Станкевіч, які быў ужо ў Амэрыцы, у Нью-Ёрку, прыслаў мне адрас кватэры і фірмы, дзе я магу мець працу. Калі я прыехаў у Амэрыку 21 сьнежня 1950 г, затрымаўся на Манхэтэне — 325 Іст 100 стрыт. Адрасы, прысланыя мне др. Станкевічам, былі фікцыйныя — толькі для камісіі іміграцыйнай у Нямеччыне. Напрыклад, фірма, якая мелася мне даць працу, ужо некалькі гадоў наогул не існавала — адрас яе быў узяты з старой, неактуальнай тэлефоннай кніжкі.

У пасьляваенны час уладзіцца на працу ў ЗША ня было так простай справай. У вялікай бальшыні фабрыкі працавалі для вайны, а для пераходу на іншую прадукцыю быў патрэбен час. Тады на 86 вуліцы (Манхэтэн) была нямецкая агенцыя працы, і дзякуючы ёй я хутка ўладзіўся на прадпрыемства, дзе галоўнымі кіраўнікамі былі немцы. Фабрычка гэтая, «Карп мэтал Ворк», была ў Брукліне.

У час вайны і адразу пасьля яе ў ЗША была вельмі актыўная камуністычная партыя. Яе першы сакратар разьяжджаў добрай лімузынай з шафёрам і асабістымі ахоўнікамі. Як цяпер стала ведама, праца камуністычнай партыі ў ЗША была фінансавана мільёнамі даляраў, якія «ахвяроўвала» Масква.

На фабрыцы, дзе я ўладзіўся, была рабочая пракамуністычная юнія[461]. Новапрыняты рабочы пасьля трох месяцаў працы мусіў абавязкава ўступіць у гэту юнію. Такі дагавор працоўных з прадпрыемствамі ў той час быў нармальны. Я заявіў, што я ўцёк ад камуністаў не на тое, каб, прыехаўшы ў Амэрыку, падтрымліваць камуністаў праз аплату юнійных складак. Галоўны супэрінтэндант-немец угаварваў мяне, каб я застаўся працаваць, аднак я гэту фабрыку пакінуў. Раней я ўжо ведаў, што недалёка ад Нью-Ёрку ў Стамфордзе, штат Канэктыкут, жыў мой сябра зь Дзісенскай гімназіі Аўген Протас[462]. Я навязаў зь ім сувязь, у хуткім часе пераехаў у Стамфорд і ўла-

---

[459] Відаць, маецца на ўвазе **Акт аб перамешчаных асобах** («*Displaced Persons Act*»), прыняты Кангрэсам ЗША 25 чэрвеня 1948 г.

[460] **Гары Трумэн** (англ. *Harry S. Truman*, 1884–1972), амерыканскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, 33-і прэзідэнт ЗША ў 1945–1953 гг.

[461] Маецца на ўвазе прафсаюз (англ. *union*).

[462] **Аўген Протас** (28.08.1915, Забалоцце Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Мёрскі раён Віцебскай вобл. — 02.06.1995, Стэмфард, ЗША), грамадскі

дзіўся ў фабрыцы, дзе і мой сябра працаваў. У пачатках праца не належала да лёгкіх, але ненайгорш платная ды даволі пэўная, бо гэта была ведамая, добрая кампанія — «Пітніў-Боўс». Апошнія шэсьць гадоў работы ў гаспадарчым аддзеле я быў фурманам, мог хадзіць пад гальштукам. Бязмала пасьля трыццаці гадоў працы, 1 лютага 1980 года, пайшоў на пэнсыю.

Але… у гэтым Стамфордзе 20 сакавіка 1952 года жонка Жэня нарадзіла сына Аўгена, а 30 мінут пасьля нараджэньня яго сама адыйшла ў вечнасьць. У той час, калі толькі пачалося нармальнае жыцьцё, такое няшчасьце нялёгка было перажыць. Сам застаўся з двума малымі дзецьмі: дачцэ Ларысе было пяць гадоў, а сыну Аўгену — адзін дзень. У гэтай вельмі дрэннай сытуацыі я атрымаў запраўды добрую дапамогу ад мясцовай амэрыканскай жаночай арганізацыі. Трэба было зьмірыцца з здарыўшайся бядой і думаць аб далейшым жыцьці. Зусім прыпадкова я даведаўся, што ў горадзе Вустэр, штат Масачусэтс, жыве з сваім бацькам Люба Пронька, якую я добра ведаў з дому — Шаркоўшчынскага раёну. Навязаў зь ёй лучнасьць, і на маю прапанову яна згадзілася выйсьці замуж за мяне, удаўца. 18 кастрычніка 1953 году адбыўся наш шлюб у Беларускай аўтакефальнай царкве ў Нью-Ёрку. Абрад вянчаньня выканалі ўладыка Васіль і айцец Віктар Войтэнка[463].

Жыцьцё сямейнае і праца па лініі грамадзкай пайшлі нармальнай дарогай. У 1955 г. на суполку з спадарствам Галякамі[464] купляем двухфамілійны

---

дзеяч. У 1937 г. скончыў гімназію ў Дзісне, пасля чаго адбыў тэрміновую службу ў польскім войску, кароткі час працаваў у мясцовай адміністрацыі, перад самай нямецка-польскай вайной зноў мабілізаваны. Трапіўшы ў нямецкі палон, працаваў у баўэраў ва Усходняй Прусіі. У часе нямецка-савецкай вайны вярнуўся дамоў. Па вайне апынуўся ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Стэмфардзе. Сябра БАЗА, старшыня ўправы Стэмфардскага аддзела арганізацыі.

463 **Віктар Войтанка** (на эміграцыі **Васілеўскі**, 06.11.1912, фальв. Мачульня Наваградскага пав. — 25.04.1972, Самерсэт, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч, лекар, сын Сцяпана Войтанкі. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага царкоўнага сабора. Ад 1943 г. — акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. — доктар-інспектар Беларускай краёвай абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945–1949 гг. жыў у паўднёва-заходняй Нямеччыне (Бадэн-Вюртэмбэрг, французская зона акупацыі). Удзельнік з’езда беларускіх святароў і грамадскіх дзеячаў, прыхільнікаў Рады БНР (5 чэрвеня 1948 г.), на якім была адноўлена БАПЦ. Ад 1950 г. жыў у штаце Нью-Джэрсі, ЗША. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, яго Нью-Джэрсійскага аддзела. Пасля смерці бацькі ў 1968 г. вырашыў стаць святаром і быў высвячаны 15 чэрвеня 1969 г. Служыў у парафіі царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку (Нью-Джэрсі), заснаванай ягоным бацькам.

464 Маюцца на ўвазе Леанід і Раіса Галякі. **Леанід Галяк** (31.10.1910, Вільня — 03.04.1980, Стэмфард, ЗША), грамадскі дзеяч, юрыст. У 1930–1935 гг. вучыўся на хімічным, а пазней юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. У часе нямецкай

дом. Зь Любай нажылі дзьве дачушкі: у 1954 г. нарадзілася Маргарыта, а ў 1957 г. — Юльля. Месца, дзе мы жылі, было ўжо замалое. 5 чэрвеня 1958 г. мы самі, бязь ніякай суполкі, купілі двухфамілійны дом на дзьве кватэры, у якім на першым паверху была вялікая кватэра, на другім малая. Гэта малая была зданая пад рэнту. Пры доме быў добры сад і агарод, які мы заўсёды выкарыстоўвалі для вырошчваньня рознай агародніны.

Маючы чацьвёра дзяцей школьнага ўзросту, трэба было зараньня думаць ня толькі аб іх узгадаваньні, але і аб іх адукацыі. Усе нашыя намаганьні і стараньні накіроўвалі, каб усім дзецям даць вышэйшую асьвету. У той час і ў недалёкай будучыні чалавек без вышэйшай адукацыі ня меўся б лёгка. Хаця мая заработная плата на фабрыцы ня была найгоршай, але правесьці праз каледж чацьвёрку было зацяжка. У 1954 годзе акрамя фабрычнай працы я пачынаю свой бізнэс — маляванне дамоў навонкі і ўнутры. Гэта рабілася пасьля фабрычнай працы, у час канікул ды і ў сьвяточныя дні. Улетку звычайна я меў некалькі работнікаў, часта гэта былі студэнты. Ад 1954 года і да 1984 было выканана 570 работ. Дзякуючы гэтаму ў нас ня было праблемаў у аплаце за навуку сваім студэнтам, а былі ж гады, 1975 і 1976, калі адначасна ў каледжы вучылася па трое. Трое закончылі Конэктыкут Стэйт Юнівэрсіты і адна — Брыджпорт Юнівэрсіты.

Здаецца, што мы, я і мая спадарожніца Люба, можам ганарыцца сваімі дзяцьмі. Усе яны былі добрымі вучнямі ў школах і сёньня зьяўляюцца добрымі людзьмі. Таксама важнае, што яны ўсе жывуць у добрай дружбе-сяброўстве паміж сабой і нас, бацькоў ужо старых, паважаюць і шануюць. І яшчэ — усе яны добрыя хрысьціяне і добра ведаюць, што яны беларускага паходжаньня, і вельмі важна тое, што ўсе яны з намі, бацькамі, заўсёды гавораць толькі па-беларуску. Мы, бацькі, таксама гаворым з сваімі дзяцьмі толькі па-беларуску. Тут можна прыпомніць такі выпадак. У 1954 г., калі нашай найстарэйшай, Ларысе, было сем гадоў, у нас былі госьці. Ларыса гаворыць да нас па-беларуску. Госьць-жанчына кажа, што кепска мы робім, што зь ёй гаворым па-беларуску, бо будзе мець клопат у школе з ангельскай. Сёньня нашыя чацьвёра з вышэйшай асьветай і зь веданьнем беларускай мовы і, ня маючы ў школах клопату з ангельскай, з усяго гэтага задаволеныя. А ў той жанчыны цяпер дзьве дачкі, якія ня маюць вышэйшай асьветы і зусім ня ведаюць беларускай мовы.

---

акупацыі працаваў юрыстам у Мінскай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944–1945 гг. — супрацоўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх журналістаў на чужыне і выдання «Летапіс беларускай эміграцыі». Ад 1949 г. жыў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў ды першы рэдактар газеты «Беларус» (1950–1951). Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у 1953–1956 гг. уваходзіў ва ўправу Стамфардскага аддзела арганізацыі. У 1955 г. выйшаў з Рады БНР, а ў наступным годзе і з БАЗА. Аўтар «Успамінаў» (выдрукаваныя ў 2 тамах у 1982–1983 гг.).

Як я раней успамінаў, у 1949 г. мне была перададзеная каса Рады БНР. Нягледзячы на сваю занятасьць, я заўсёды выконваў гэту функцыю старанна і добра, што раблю да сёньня. Таксама заўсёды браў актыўны ўдзел у нашым грамадзка-палітычным эміграцыйным жыцьці. Хіба добра і належна ацаніў маю працу свайго часу Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, надаючы мне рангу маёра, а пазьней, 15 лістапада 1976 году, рангу гэнэрал-маёра. З удзячнасьцю прыняў гэтую добрую сымболіку.

*Лістапад 2000 г.*

## БАРЫС РАГУЛЯ

Адной з ключавых фігураў у Радзе БНР часоў Язэпа Сажыча быў Барыс Рагуля. На яго ўскладалі надзеі як на магчымага пераемніка, будучага старшыню. Але на гэтую пасаду ён так і не згадзіўся, хоць і адыграў у палітычным жыцці беларускай эміграцыі 1990-х адметную ролю.

Асоба нешараговая, можа, адна з найбольш контраверсійных на эміграцыі, Барыс Рагуля вядомы дзякуючы ўспамінам уласным ды іншых, артыкулам, прысвечаным яго дзейнасці ў часе Другой сусветнай вайны. Таму тут мы пададзім яго біяграфію толькі ў агульных рысах, асобных дэталях, каб магчыма было зразумець, што за чалавек перадвызначыў сучасны стан Рады БНР.

Барыс Рагуля нарадзіўся 1 студзеня 1920 г. у вёсцы Турэц Наваградскага павета (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці). Бацька памёр, калі сыну было паўтара года, і Барыс застаўся ўдвух з маці, адчуванне блізкасці з якой суправаджала ўсё яго дзяцінства і юнацтва. Разам з ёй пераехаў у Любчу, дзе жылі бабуля з дзядулем, тут скончыў школу. У гэты ж час маці скончыла курсы медсёстраў у Варшаве і ўладкавалася на працу ў Наваградскім шпіталі.

Будучы намеснік старшыні Рады БНР згадваў: *«Жылі мы з маці ўдваіх у малюпасенькім пакойчыку пры шпіталі. Ня дзіва, што я пачуваўся ў шпіталі як дома і з малых гадоў прызвычаіўся да мэдыцыны»*[465]. Маці расказала хлопцу, што бацька вельмі хацеў, каб ён стаў лекарам, і атрыманне медыцынскай адукацыі стала для Барыса Рагулі найважнейшай мэтай, да якой ён ішоў праз розныя перашкоды.

Ва ўспамінах пра дзяцінства дзеяча ёсць цікавы эпізод, звязаны з тым, што шпіталь знаходзіўся побач з турмой: *«Першым нелегальным актам барацьбы была дапамога ў ліставаньні зь вязьнямі. Акенцы камэраў выходзілі на шпітальны двор. Аднойчы на вуліцы да мяне падыйшоў незнаёмы, які прадставіўся сябрам маёй маці, і папрасіў дапамогі. Я мусіў падбіраць загорнутыя ў запіскі каменьчыкі, якія выкідалі праз вокны зьняволеныя, і*

[465] Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. Менск, 1999. С. 12.

*перадаваць іх яму. Пасьля мне давялося перадаваць цыдулкі і з волі ў турму, а гэта ўжо была сур'ёзная рызыка»*[466]. Гэтак ад пачатку шпіталь і турма сталі знакавымі месцамі для Барыса Рагулі. У 1928 г. «за антыпольскую дзейнасць» быў арыштаваны дзядзька Васіль Рагуля, і малы Барыс з маці адведвалі яго ў турме.

Ад малых гадоў хлопец заангажаваўся ў беларускія справы. Пачалося са збірання вучняў для беларускай гімназіі ў Навагрудку. Змаглі знайсці нават 45 чалавек (трэба было 35), аднак гімназію ўсё роўна зачынілі і давялося працягваць навучанне ў польскай. Аднакласнікамі Барыса Рагулі былі Язэп Сажыч, Уладзімір Набагез і Янка Гутар. Усе яны даволі добра вучыліся і мелі мару пра далейшую, ужо ўніверсітэцкую асвету.

У 1938 г. Барыс Рагуля паспяхова здаў іспыты і паступіў у Віленскі ўніверсітэт паводле квоты для прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў. Ён згадваў, як паведаміў маці гэтую добрую навіну і яны сталі танчыць разам у сваім маленькім пакойчыку. Аднак радасць была нядоўгаю. Наваяўлены студэнт быў вымушаны замест лекарскай адукацыі атрымоўваць вайсковую: разам з іншымі беларусамі ён быў скіраваны ў афіцэрскую школу ў Зэмбруве. Не атрымаўшы магчымасці вучыцца на лекара, Барыс Рагуля вырашыў скарыстаць нагоду, каб займець добрую вайсковую адукацыю. Сяржантам у чэрвені 1939 г. ён скончыў згаданую навучальную ўстанову і быў прызначаны ў 42-і полк у Беласток. Пачатак Другой сусветнай вайны сустрэў як камандзір эскадрона ва Усходняй Прусіі, але ўжо 17 верасня 1939 г. апынуўся ў нямецкім палоне. Момант акружэння немцамі ён згадваў як адзін з самых прыніжальных у жыцці: *«На раніцу 17 верасьня, калі мы трапілі ў нямецкае акружэньне, у маім узводзе заставалася толькі 37 чалавек з 60. У другі раз за вайну мне стала сапраўды страшна. Польская прапаганда сьцьвярджала, што немцы палонных не бяруць, а ўсіх забіваюць. Але выйсьця не было. "Гэндэ гох!" — крычалі нам немцы. Я пацалаваў свой навюткі, харошы бэльгійскі рэвальвэр і выйшаў ім насустрач з узьнятымі рукамі. Гэта быў момант страшэннай ганьбы»*[467].

Цягам больш як паўгода Рагуля правёў у лагерах для ваеннапалонных. Узімку ў саракаградусны мароз ён з некалькімі іншымі зняволенымі спрабаваў уцячы, аднак праз пяць дзён быў схоплены і вернуты ў лагер. Пасля некалькіх няўдалых спробаў улетку 1940 г. Барыс Рагуля ўсё ж здолеў збегчы з палону, нелегальна перайсці савецкую мяжу і вярнуцца да маці ў Навагрудак. Аднак вяртанне на радзіму прынесла расчараванне: *«Мая маці намалявала вельмі сумную карціну ў дачыненьні да становішча ў краіне. "Вызваленьне" прынесла толькі савецкую акупацыю. І яна была больш небясьпечнай і шкоднай, чым папярэдняя польская акупацыя. Палякі, прынамсі, паважалі грамадзянскія правы беларусаў. Пад палякамі мы, ува ўсякім разе, маглі выбіраць сваіх прадстаўнікоў, друкаваць кнігі, пэрыядычныя*

[466] Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём… С. 13.
[467] Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём… С. 16.

*выданьні, выказваць патрыятычныя настроі. Але, калі прыйшлі саветы, людзі пабачылі сапраўдны твар камунізму й бальшавізму. Заможныя сяляне, шмат настаўнікаў, былыя актывісты, палітыкі бясьсьледна зьніклі. Паўсюдна панавала маўчаньне й страх, і нават сямейныя зборкі сталі нейкімі штучнымі. Усе так баяліся абмяркоўваць падзеі, што нават членам сям'і ніхто не давяраў»*[468].

У гэтай сітуацыі Барыс Рагуля, што ўсё яшчэ не адмовіўся ад мары атрымаць медыцынскую адукацыю, зрабіў спробу паступіць у Львоўскі ўніверсітэт, дзе на той час вучыліся яго былыя аднакласнікі Язэп Сажыч і Янка Гутар. Аднак час падачы дакументаў ужо прайшоў, і малады чалавек, вярнуўшыся ў Наваградак, вырашыў пакуль уладкавацца на працу настаўнікам нямецкай мовы ў Любчы, каб на наступны год падаваць дакументы на медыцынскі факультэт у Львоў.

Працаваць у школе, дзе ішла русіфікацыя, давялося нядоўга. Натуральнае жаданне размаўляць і выкладаць па-беларуску выклікала насцярожанасць адміністрацыі. Да таго ж нелегальны пераход мяжы стаў вядомы савецкім карным органам, і 20 студзеня 1941 г. Барыс Рагуля быў арыштаваны НКУС па абвінавачанні ў шпіянажы. Праз турмы ў Наваградку і Баранавічах ён апынуўся ў мінскай «амерыканцы», дзе і быў неўзабаве прысуджаны да расстрэлу:

*«Напрыканцы траўня альбо ў пачатку чэрвеня ўвайшоў ахоўнік і загадаў ісьці за ім. Мяне прывялі ў незнаёмы пакой, дзе за сталом сядзелі тры гэбісты. Мне загадалі сесьці. Адзін зь іх узяў аркуш паперы й пачаў чытаць услых. Ён назваў маё імя, дату нараджэньня, а потым абвесьціў абвінавачаньне ў шпіянажы, арганізацыі шпіёнскага кола на карысць Нямеччыны, распаўсюджваньні антысавецкай прапаганды, падрыхтоўцы ўзброенага паўстаньня ў Беларусі, а таксама прыгавор да расстрэлу. Гэныя словы зьвінелі ў мяне ў вушах. Мне было дваццаць гадоў, і мяне зьбіраліся забіць за злачынствы, якіх я ніколі не рабіў. Я толькі вярнуўся на радзіму, каб вучыцца далей і стаць лекарам. Няўжо, гэта й было злачынствам? Другі гэбіст спытаўся, ці маю я што сказаць. Я адказаў, што ўжо ўсё паведаміў ім. Тады ён загадаў мне падпісаць прыгавор. Я спытаўся, ці азначае гэта прызнаньне ў пералічаных злачынствах. Гэбіст адказаў, што ў загадзе напісана, што я азнаёмлены з абвінавачаньнямі. Ён дадаў, што я буду расстраляны ўзводам. Я падпісаў. Тады мне паведамілі, што я маю трыццаць дзён, каб напісаць Сталіну прашэньне аб памілаваньні й зьмяненьні прыгавора на дваццаць пяць гадоў у працоўным лягеры. Да мяне вярнулася надзея. У мяне было яшчэ трыццаць дзён…»*[469].

Паратункам стаў пачатак нямецка-савецкай вайны. У часе эвакуацыі зняволеных у Чэрвень «смяротнік» Рагуля, выдаўшы сябе за іншага, здолеў уцячы. Пешкі дабраўшыся да Любчы, былы вязень даведаўся, што

---

[468] Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём… С. 64.
[469] Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём… С. 106.

22 чэрвеня ад нямецкай бомбы ў часе эвакуацыі шпіталя ў Наваградку загінула яго маці. Гэта быў наймацнейшы ўдар. Перавёзшы цела маці з Наваградку ў Любчу ды пахаваўшы побач з бацькам, цягам колькі месяцаў Барыс Рагуля змагаўся з дэпрэсіяй.

Аднак жыццё працягвалася. Праз нейкі час дзякуючы размовам з былымі аднакласнікамі, дзядзькам Васілём ды іншымі беларусамі малады чалавек стаў умацоўвацца ў надзеі зрабіць нешта карыснае для адраджэння беларускага нацыянальнага жыцця з дапамогай немцаў. Бачыўшы ўжо польскую і савецкую акупацыі, беларусы не былі схільныя моцна давяраць і немцам, але скарыстаць з пэўных магчымасцяў забеспячэння нацыянальных патрэбаў было варта. З пазіцый сённяшняга часу складана ацэньваць той выбар, перад якім апынуліся жыхары акупаваных тэрыторый, дзе шчыравалі польскія і савецкія партызаны, а кіравалі немцы, і нікому не было асаблівай справы ўласна да беларусаў і іх патрэбаў.

Увосень 1941 г. Барыс Рагуля ўладкаваўся на працу перакладчыкам пры гебітскамісары Наваградка. Займеўшы давер у нямецкага кіраўніцтва, ён стаў часам уплываць на прыняцце рашэнняў і, сярод іншага, дамогся адкрыцця ў Наваградку настаўніцкай семінарыі. Кіраўніком адукацыі Наваградскай акругі стаў Аляксандр Орса, а сам Рагуля выкладаў нямецкую мову і ваенную падрыхтоўку.

Паводле ўспамінаў дзеяча, рэальнае стаўленне немцаў да беларусаў (і наогул насельніцтва з Усходу, «остаўцаў») як да людзей ніжэйшага гатунку, якое Рагуля пабачыў у часе паездкі ў 1942 г. па Нямеччыне, моцна сапсавала яго адносіны з нямецкім кіраўніцтвам: *«Пасьля паездкі ў Нямеччыну і майго адкрытага незадавальненьня станам беларускіх работнікаў, вывезеных туды, пагоршыліся мае стасункі зь нямецкімі ўладамі. Мяне ўсё радзей запрашалі на сходы, дзе патрэбен быў перакладнік. Нешта дайшло да камісара наконт маёй сапраўднай дзейнасьці, і ў траўні 1942 г. мяне скінулі з пасады перакладніка, пазбавіўшы ўсіх прывілеяў і картак на харчаваньне, цыгарэты і алькаголь»*[470].

У чэрвені ж 1942 г. Барыс Рагуля ўдзельнічаў у заснаванні нелегальнай Беларускай незалежніцкай партыі, якая мела на мэце змаганне за ідэалы БНР і здабыццё беларускай дзяржаўнай незалежнасці. Дзеля гэтага меркавалася стварыць сетку беларускіх патрыётаў, якія б уплывалі на сітуацыю на акупаваных немцамі тэрыторыях.

Паводле ўласных успамінаў, у 1943 г. Барыс Рагуля быў выкліканы да Генеральнага камісара Беларусі Курта фон Готберга і атрымаў дазвол арганізаваць беларускую вайсковую адзінку. Ужо праз месяц у Наваградку дзейнічаў знакаміты «швадрон», стваральнік якога згадваў: *«У 1943 г. камісар* [Траўб] *запрасіў мяне да сябе і сказаў, што яны няправільна ахрысьцілі наш рух і прапанавалі стварыць вайсковую адзінку. Я паставіў жорсткія*

[470] Юрэвіч, Лявон. Жыцьцё пад агнём… С. 143.

*ўмовы: поўная незалежнасьць ад мясцовых уладаў, аніводнага нямецкага афіцэра! Праз два дні быў гатовы самалёт, які павінен быў даставіць мяне у Менск, каб я гаварыў з генэральным камісарам. Той пытае: "Якія вашы ўмовы?" — "Ніякага нямецкага ўмяшаньня!". Чаму гэта было так важна? Таму што да немцаў ніхто не пажадаў бы ісьці! Я сказаў немцам, што мне павінны даць коні і зброю, і за два тыдні я пастаўлю вайсковую адзінку. Мне адказваюць: "Гэта рызыкоўна!" Але ж я ўсё добра ведаў сам. Калі прыехала праверка, мае людзі былі ўжо ў полі на занятках. Тады я пачуў: "Цяпер мы бачым, што вам не патрэбныя ніякія нямецкія афіцэры". Пад уладай немцаў я б нічога не рабіў, хай самі робяць!»*[471].

Складана верыць у тое, што Барыс Рагуля мог высоўваць немцам нейкія ўмовы. Наогул, наконт Наваградскага эскадрона напісана ўжо даволі шмат і прыхільных, і крытычных тэкстаў[472]. Стаўленне да гэтай акцыі і з боку беларускага актыву было далёка не адназначным. Некаторыя, як той самы Аляксандр Орса, лічылі, што Рагуля падстаўляе беларускую моладзь (пераважна навучэнцаў настаўніцкае семінарыі) пад магчымае пакаранне з боку савецкай улады, якая мела ў хуткім часе вярнуцца. Сам жа арганізатар ацэньваў значэнне эскадрона так: *«Галоўная роля ў тым, што беларускі жаўнер ахоўваў свой народ! Менавіта ахоўваў, а не перасьледаваў. У ваколіцах Наваградку, у вёсках, маіх хлопцаў прымалі як сваіх дзяцей. Гэта была шчырая любоў паміж простым народам і жаўнерамі. І тады я пераканаўся, што, калі б мы мелі сваё войска, яно было б прыкладам аховы беларускага насельніцтва. Нас было ўсяго 150 чалавек, і швадрон нядоўга праіснаваў, але ролю для беларускага народу адыграў, лічу, адметную і пазытыўную»*[473].

Акрамя арганізацыі «швадрону», з актывізацыяй беларускай дзейнасці ў Генеральнай акрузе Беларусь, Барыс Рагуля стаў намеснікам Беларускай цэнтральнай рады ў Наваградку, камендантам Беларускай краёвай абароны. У савецкія часы ён быў адным з яскравых прыкладаў калабарантаў у вачах гісторыкаў і ідэолагаў, што пісалі пра ваенныя падзеі.

Але Барыс Рагуля быў не толькі «дзеячам», але і звычайным чалавекам. Яму было крыху больш за дваццаць гадоў, ён быў поўны жадання знайсці сябе, рабіць нешта карыснае, жыць і кахаць урэшце…

Менавіта ў часе акупацыі Барыс Рагуля спаткаў сваё каханне на ўсё жыццё. Ім сталася Людміла, сястра былога аднакласніка і сябры Янкі Гутара.

---

[471] Народжаны ў кашулі // Адзінец, Аляксандр. Беларуская эміграцыя: Скрыжаваньні лёсаў. Менск, 2005. С. 506.

[472] Гл.: Чэмер, А. «Рагулінцы» ў змаганьні // Беларуская газэта. № 44. 3 чэрвеня 1944; Чуев, Сергей. Проклятые солдаты. Москва, 2004; Романько, О. Коричневые тени Полесья. Москва, 2008. С. 216–227; Грыбоўскі, Юры. Наваградскі эскадрон Барыса Рагулі — вядомае і невядомае // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 30. 2008. С. 101–114; Блінец, Андрэй. Яшчэ раз пра Наваградзкі эскадрон // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Мінск, 2011. С. 657–681.

[473] Народжаны ў кашулі. С. 506–507.

Яны былі знаёмыя з дзяцінства, але толькі ў 1941 г., калі Барыс пабачыў дзяўчыну пасля доўгага перапынку, зразумеў, што хоча мець яе сваёй жонкай. *«…Калі яна прыйшла да мяне, я быў проста ўражаны. Я ледзьве пазнаў яе: высокі лоб, даўгія цёмныя валасы, каса з руку, тонкія бровы, вялікія вочы, у якіх іграў вясёлы агеньчык, прамы рымскі нос, сьвежая, як персік скура, грацыёзная шыя. Высокія грудзі, гатовыя вырвацца на волю зь цеснага станіку, уздымаліся пры дыханьні, і пад сукенкаю выдзяляліся смочкі. У яе была вузкая талія і маленькая, але вельмі харошая дупка, а спаднічка абцягвала сьцёгны. Я глядзеў на яе затаіўшы дыханьне і ня мог вымавіць ні слова. […] Яна была ва ўсім таленавітая: які прыгожы быў у яе голас, сьпявала, танцавала, а да чаго яна была пекнаю ў беларускім народным строі! А галоўнае, што ў яе быў разумны твар і прамы нос, нетыповы для славянскай расы (нос быў хутчэй нардычны), і гэта прычароўвала мяне. Але ёй было толькі шаснаццаць і яна была занадта маладая»*. Непаўналецце Людмілы адсоўвала рэалізацыю мары пра сужэнства. Аднак улетку ж 1944 г., калі абое апынуліся перад лёсавызначальным выбарам — з’язджаць ці заставацца, бацькі Людмілы блаславілі яе і адпусцілі на выгнанне з Барысам Рагулем. Царкоўны шлюб узялі ўжо ў Варшаве, пасля чаго маладых на нейкі час раз’ядналі ваенныя падзеі.

Падрабязнасці таго часу не захаваліся ва ўспамінах Барыса Рагулі. Вядома толькі, што ён быў у «Дальвіцы», а ў траўні 1945 г., пасля капітуляцыі Нямеччыны, адшукаў сваю Людмілу ў мястэчку Заалфельд у Цюрынгіі, дзе апынулася невялікая група беларускай моладзі. Менавіта сюды і прыбылі Барыс Рагуля і Язэп Сажыч, каб зноў аб’яднацца з каханымі. За пару дзён да прыходу саветаў (Цюрынгія трапіла ў савецкую акупацыйную зону) беларусы паспелі перабрацца ў Гюнфельд у амерыканскай зоне, адкуль мусілі таксама хутка пераехаць у Марбург, ратуючыся ад рэпатрыяцыі.

Уладкаваўшыся ў гэтым горадзе, вядомым сваім універсітэтам, Барыс Рагуля пайшоў да дэкана медыцынскага факультэта, каб паспрабаваць трапіць на навучанне. Вынікам размовы стала тое, што магчымасць стаць студэнтамі была забяспечаная для 30 беларусаў і беларусак. У той дзень Барыс Рагуля зноў, як некалі з маці, з радасці таньчыў у невялічкім пакоі са сваёй жонкай. Далей дзеяч згадваў: *«…пайшоў да Язэпа Сажыча з добрай весткай. Зараз-жа пачалі плянаваць, як знайсьці кандыдатаў. У першую чаргу, Язэп выбраўся на поўнач шукаць нашага старога сябра Валодзю Набагеза. Недзе знайшлі Толіка Бразоўскага, Міхася Жыліка, Міхася Сокала. Паведамілі лягеры ў Міхэльсдорфе і Остэргафэне. Адтуль прыехалі Арэшка й Жытко. У Марбургу далучыўся да нас Лызлаў, які быў вельмі адзінокі, ён страціў нагу ў часе вайны. Гэта быў вельмі інтэлігентны сын расейскага эмігранта ў Парыжы. Ён хутка ўключыўся ў нашую групу ды пазьней шмат нам дапамог пры арганізацыі хору. Ён быў вельмі добры піяніст і акампанаваў нашаму хору на піяніне. Далучыліся да нас Зоя Жалязоўская ды яшчэ адна дзяўчына, якая лічыла сябе беларускай. Юрка Мазура, яго сястра Таня ды*

*Вара, Язэпава жонка, дапоўнілі нашую групу. Пазьней таксама на мэдыцыну прыехаў Гайдзель. Зь лягеру Ватэнштэт — Раіса Жукоўская»*[474].

У выніку ў Марбургу стварыўся беларускі студэнцкі асяродак, а на яго аснове — Беларускае студэнцкае згуртаванне, на чале якога стаў, зразумела, Барыс Рагуля. Ён жа ўзначаліў у 1946 г. і наваствораную Цэнтралю беларускіх студэнцкіх арганізацый, якая аб'яднала суполкі ў розных універсітэтах не толькі Нямеччыны.

Першым часам жыццё ў Марбургу было матэрыяльна вельмі складаным. Студэнты, паколькі не жылі ў лагеры для перамешчаных асобаў, не атрымоўвалі дапамогі ні ад амерыканскіх акупацыйных уладаў, ні ад UNRRA і мусілі задавальняцца выключна харчовымі карткамі. Ежы заўсёды не хапала. Магчыма, і праз гэткія абставіны маладую сям'ю напаткала няшчасце: Людміла на шостым месяцы цяжарнасці страціла дзіця. Выйсці з дэпрэсіі дапамагла вучоба. Рагулева жонка змагла ў 1946 г. паступіць на фармацэўтычны факультэт універсітэта.

У 1946 г. матэрыяльнае становішча студэнтаў крыху палепшала дзякуючы дапамозе *UNRRA*. І хоць сродкаў заўсёды не хапала, моладзь жыла вельмі актыўна, ладзіла свае вечарыны, нават недалёкія вандроўкі. Пазней былыя студэнты згадвалі гэты час як ці не самы вясёлы і цікавы ў сваім жыцці.

У той жа час у паваеннай Нямеччыне сталі арганізоўвацца беларускія лагеры *DP*, паўставалі разнастайныя грамадскія арганізацыі, наладжвалася выданне часопісаў і газет. Паступова пачынаўся і палітычны падзел эмігрантаў. Барыс Рагуля пазнаёміўся з Міколам Абрамчыкам і падтрымаў ідэю аднаўлення Рады БНР. Праўда, як і скаўты, студэнты намагаліся заставацца па-над палітычным расколам эміграцыі. Больш за тое, яны нават спрабавалі замірыць супрацьлеглыя бакі: *«У 1947 мы вырашылі паспрабаваць аб'яднаць дзьве палітычныя групы і склікалі зьезд актыву абедзьвюх палітычных груповак у Марбургу. Унівэрсытэт адвёў прыгожую залю, і думалася, што ўжо адно гэта дапаможа ахаладзіць гарачыя галовы і дайсьці да нейкай згоды ці кампрамісу. Два дні дыскутавалі, здавалася, былі блізкія да паяднаньня, але на гэтым толькі і засталося. Разьехаліся дый надалей абкідалі адны адных балотам. Шкада, бо й там і тут былі шчырыя патрыёты, але ня мелі дасьведчаньня ў прынцыпах дэмакратыі, ня ўмелі шанаваць думкі апанентаў і падпарадкавацца выбранай бальшынёй управе аж да наступных выбараў. А ў нас было так: мяне ня выбралі старшынёй — я выходжу з арганізацыі і засноўваю новую партыю ці арганізацыю. Гэтае зьявішча было і ёсьць характэрнае дла ўсіх эміграцыяў, ня толькі беларускай»*[475].

У 1948 г. у Нямеччыне адбылася грашовая рэформа, што вельмі моцна ўдарыла па студэнтах. Трэба было або знаходзіць знешнюю фінансавую падтрымку, або адмаўляцца ад навучання. У гэтай сітуацыі Барыс Рагуля

---

474 Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Выд. 2. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. С. 17–18.

475 Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. С. 35.

звярнуўся па дапамогу да Міколы Абрамчыка, і той паведаміў, што ў Бельгіі ёсць каталіцкі ўніверсітэт, дзе вучыцца моладзь розных нацыянальнасцей. У выніку ў ліпені 1948 г. Барыс Рагуля, разам з Янкам Жыткам і Міхасём Жылікам, зноў нелегальна перайшоў мяжу і скіраваўся ў Лювен, каб дамовіцца пра магчымасць навучання там беларускіх студэнтаў.

Дзякуючы ўласнай настойлівасці, а таксама дапамозе епіскапа Слосканса, айца Роберта ван Кавелярта ды кіраўніка інтэрната для хлопцаў Лювенскага ўніверсітэта айца Жардэна ўжо напрыканцы 1948 г. беларускім студэнтам былі зробленыя візы і забяспечанае навучанне.

*«Хутка перад Новым, 1949 годам мы апынуліся ў Лювэне. Пачалася вучоба... Мне залічылі тры гады мэдычнай школы ў Марбургу і прынялі на чацьвёрты курс. Янка Жытко пайшоў на хімію, а Жылік разам са мною — на мэдыцыну. Людміла паступіла на чацьвёрты курс фармацэўтыкі на флямандскі адзьдзел. Флямандская мова бліжэй да нямецкай, і яна спадзявалася, што будзе лягчэй прыстасавацца да гэтай мовы. Новыя абставіны, чужая мова... Колькі энэргіі патрацілася на вывучэньне моваў! Дома гаварылі пабеларуску, далей — польская, пасьля — нямецкая, француская, ды пазьней прыйшлося пераключацца на ангельскую, але ўжо ў сьнежані апанавалі даволі мову, каб разумець даклады і свабадней карыстацца францускімі падручнікамі. Кажуць, што кожная мова — гэта дадатковае акно ў сьвет, але часам замнога вокнаў таксама не зусім зручна... Усім нам прыйшлося нясоладка. Праўда, яды хапала, але працаваць і вучыцца было складана»*[476].

Неўзабаве ў Лювене з’явіўся і Беларускі студэнцкі дом, дзе жылі каля 20 беларусаў. Тут жа на першым паверсе была зала для зборак і агульных мерапрыемстваў, абедаў і вячэраў. З часам у Лювен сталі прыбываць новыя беларускія студэнты. Пазней быў здабыты і большы будынак, актывізавалася грамадскае жыццё, быў арганізаваны Беларускі студэнцкі хор.

У 1950 г. намаганнямі таго ж Барыса Рагулі на навучанне ў Лювен з Вялікабрытаніі прыехалі сябры знакамітай «Дванаццаткі». Наогул, ад 1948 да сярэдзіны 1950-х гг. у Лювене вучыліся каля паўсотні беларускіх студэнтаў. І гэта быў вынік актыўнай дзейнасці найперш менавіта Барыса Рагулі. Каб знайсці сродкі на навучанне моладзі, ён нават трапіў на аўдыенцыю да Рымскага Папы Пія XII. З гэтай падзеяй быў звязаны цікавы эпізод, які ілюструе матывацыю Барыса Рагулі. Прыехаўшы ў Рым незадоўга да прызначанай аўдыенцыі, малады чалавек спатыкаўся з вядомым беларускім дзеячам прэлатам Пётрам Татарыновічам, які даваў яму пэўныя інструкцыі, як паводзіцца ў часе аўдыенцыі. У адказ на словы «Папа падасьць табе руку, ты можаш, калі хочаш, пацалаваць пярсьцёнак, а тады ён дасьць знак падняцца» Барыс Рагуля імпульсіўна адказаў: *«Я магу яго пацалаваць куды хочаце, абы ён даў стыпэндыі нашым студэнтам»*[477].

---

[476] Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. С. 54.
[477] Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. С. 68.

Апантанасць Барыса Рагулі ідэяй навучання беларускіх студэнтаў не заўсёды станоўча ўспрымалася ўдзельнікамі беларускай грамады. Акрамя закідаў, што ён прадаўся Ватыкану, раздаваліся сумневы і адносна мэтазгоднасці марнавання сродкаў, бо далёка не ўсе, хто паступаў ва ўніверсітэт, былі здольныя скончыць навучанне і потым застацца дзейнымі ў беларускім жыцці. Аднак ужо тое, што намаганнямі Барыса Рагулі змаглі атрымаць вышэйшую адукацыю Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Запруднік, Паўла Урбан, Янка Жучка, Раіса Жук-Грышкевіч і іншыя, выглядае добрым апраўданнем усіх пакладзеных на гэта высілкаў.

Адначасова з навучаннем і дзейнасцю на карысць студэнтаў Барыс Рагуля заангажаваўся і ў агульнае палітычнае жыццё беларускай эміграцыі. І тут ён быў гэткі ж мэтаскіраваны. Дзеля адстойвання беларускіх інтарэсаў ён гатовы быў на любыя авантуры. Так ад самага пачатку Барыс Рагуля быў радным БНР, трымаў сувязь з Міколам Абрамчыкам. У 1953 г. менавіта ён удзельнічаў у знакамітай Вісбадэнскай канферэнцыі, дзе прадстаўнікі расійскай эміграцыі спрабавалі дамовіцца з прадстаўнікамі «нярускіх» народаў аб стварэнні супольнага антыкамуністычнага руху. Стаўленне да нарады і яе вынікаў былі неадназначныя ў шэрагах радных, і подпіс Барыса Рагулі пад выніковым дакументам спарадзіў сур’ёзны крызіс у Радзе БНР.

У міжчасе намаганні па забеспячэнні вышэйшай адукацыяй сябе і іншых студэнтаў-беларусаў сталі прыносіць рэальны плён. У 1950 г. Людміла Рагуля скончыла фармацэўтычны факультэт і ўладкавалася на працу спачатку асістэнткай прафесара, а пазней ў фармацэўтычнай фірме. Усё гэта значна палепшыла фінансавы стан Рагуляў, дазволіла пераехаць з агульнага студэнцкага дома на прыватную кватэру. Да таго ж яны змаглі забраць да сябе з Нямеччыны дзядзьку Барыса — Васіля Рагулю.

1 студзеня 1951 г., якраз на народзіны мужа, Людміла ў шпіталі, дзе той праходзіў стажыроўку, нарадзіла дачку Рагнеду. У тым самым 1951 г. і Барыс скончыў медыцынскі факультэт Лювенскага ўніверсітэта, знайшоў працу. У хуткім часе сям’я папоўнілася яшчэ і сынам Вітаўтам.

Студэнты заканчвалі навучанне і ўладкоўвалі сваё далейшае жыццё. У той жа час атрымоўваць новыя стыпендыі стала амаль немагчымым, дый трэба было вызначацца з уласнай будучыняй. Пасля розных захадаў па пошуку працы за акіянам Барыс Рагуля атрымаў запрашэнне ў інтэрнатуру ў шпіталі Святога Язэпа ў канадыйскім Лондане. У снежні 1954 г. сям’я Рагуляў выехала з Бельгіі на сталае жыццё ў Канаду.

Ужо напрыканцы снежня Барыс Рагуля пачаў сваю працу інтэрна ў лонданскім шпіталі. Людміла ж цалкам занялася выхаваннем дзяцей. Было багата складанасцяў з авалоданнем ангельскай мовай на ўзроўні, неабходным для здачы прафесійных іспытаў і атрымання лекарскай ліцэнзіі. Аднак заўсёдная мэтаскіраванасць і настойлівасць спрацавала і тут. Лекар згадваў, як пры здачы іспыту па анатоміі, каб не наблытаць англамоўныя назвы органаў, стараўся карыстацца лепш знаёмымі яму лацінскімі, а на іспыце па біяхіміі замяніў амаль цалкам тэкст адказу на пытанні хімічнымі формуламі.

Апошняе вельмі ўразіла экзаменатара, які ўпершыню сутыкнуўся з такой сітуацыяй.

Смеласць і настойлівасць прынесла плён. Ужо ў 1956 г. Барыс Рагуля, не спыняючы працу ў шпіталі, змог адчыніць сваю прыватную лекарскую практыку. З дапамогай стрыечнага брата Міхаіла, які пазычыў частку грошай, ён набыў дом, на першым паверсе якога быў арганізаваныя прыём хворых, а на другім — жылыя памяшканні. Так доктар Рагуля стаў сямейным лекарам, даволі папулярным сярод імігрантаў праз сваё валоданне рознымі мовамі[478].

З часам сям'я Рагуляў далей пашыралася. Нарадзіліся яшчэ двое сыноў: Уладзімір і Андрэй. Барыс жа з апантанасцю займаўся прафесійнай дзейнасцю. Ён зацікавіўся прэвентыўнай медыцынай, стаў праводзіць навуковыя даследаванні ў галіне дыягностыкі ракавых захворванняў, выступаў на медыцынскіх канферэнцыях, публікаваўся ў навуковых часопісах. З часам ён быў абраны кіраўніком Лонданскай медыцынскай асацыяцыі.

У невялікім антарыйскім Лондане яшчэ ад 1950-х гг. Барыс Рагуля стаў піянерам змагання з паленнем. Гэтай яго актыўнасці папярэднічаў выпадак, калі ён зайшоў у шпітальны пакой да пацыенткі, якая нядаўна перажыла інфаркт, і, удакладняючы яе стан, запаліў цыгарэту (на той час ён сам паліў). Пацыентка папрасіла ў яго цыгарэту таксама, калі ж лекар стаў яе ўшчуваць, што ў яе стане нельга паліць, яна адказала, каб і ён тады спыніў паліць перад ёй, бо калі яна не павінна паліць, то і ён не мае гэтага рабіць. У той самы дзень, 3 траўня 1957 г., Барыс Рагуля выкінуў свае цыгарэты[479]. Больш за тое, ён распачаў барацьбу з паленнем у медыцынскіх установах.

Ва ўспамінах лекара ёсць эпізод, як аднойчы ён прыйшоў у палату да сваёй пацыенткі, стан якой пагоршыўся праз тое, што суседзі па пакоі і іх госці палілі. Барыс Рагуля запатрабаваў ад медсястры, каб яна забараніла ў пакоі паленне і забяспечыла здаровыя ўмовы для яго пацыента, аднак маладзенькая медсястра саромелася рабіць заўвагі наведнікам. Тады Барыс Рагуля прыгразіў, што ён зазвоніць у рэдакцыю мясцовай лонданскай газеты і паведаміць пра нядбайнасць, якая забівае яго пацыента. І лекар меў сапраўдны намер зрабіць гэта. Пагроза падзейнічала, паветра было ачышчанае, а ў хуткім часе адміністрацыя шпіталя наогул забараніла паленне на яго тэрыторыі[480]. У 1970-я гг. у Лондане было забаронена наогул паленне ў медыцынскіх установах.

Барыс Рагуля сам даследаваў уплыў цыгарэтаў на лёгкія чалавека і праводзіў прафілактычную працу сярод пацыентаў. У сваёй прыёмнай ён павесіў вялікі плакат з выявай лёгкіх курыльшчыка і здаровага чалавека. Да таго ж лекар не прымаў пацыентаў, якія паляць, хоць для прыватнай практыкі гэта часам магло быць і нявыгадна.

---

[478] Against the Current: Memoires of Boris Ragula. McGill-Queen`s University Press, 2005. P. 117–125.

[479] Against the Current: Memoires of Boris Ragula. P. 132.

[480] Against the Current: Memoires of Boris Ragula. P. 134–135.

Рагуля прапагандаваў сярод пацыентаў здаровы лад жыцця, паспяхова займаўся прафілактыкай раку, некаторы час быў кансультантам Канадскага ракавага таварыства (Canadian Cancer Society). Аднак напрыканцы 1960-х ён сам ператварыўся ў пацыента, мусіў лекавацца ад сухотаў.

Дзеяч меў актыўную жыццёвую пазіцыю, цікавіўся новым, скарыстоўваў магчымасці для пашырэння сваіх ведаў. Прыкладам, ён ўдзельнічаў у даследаванні медычнага абслугоўвання эскімосаў, правёў некаторы час на канадскай поўначы. Дзякуючы гэтай паездцы Барыс Рагуля пазнаёміўся з генерал-губернатарам Канады Рональдам Мічэнерам.

За сваю прафесійную і грамадскую актыўнасць у 1984 г. Барыс Рагуля быў узнагароджаны прэміяй Глена Соера, заснаванай у 1970-я Медыцынскай асацыяцыяй Антарыа. Гэта было безумоўнае прызнанне яго заслугаў перад канадыйскім грамадствам.

Прафесійная занятасць, неабходнасць забяспечваць вялікую сям'ю на гады істотна абмежавалі беларускую грамадскую актыўнасць Барыса Рагулі. Праўда, ён ад самага прыезду ў Канаду быў сябрам мясцовага Згуртавання беларусаў. У 1970-я, калі дзеці сталі ўжо пераважна самастойнымі, Рагуля быў адным з заснавальнікаў і ў 1973–1989 гг. кіраўнікоў Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, даваў ахвяраванні і ўваходзіў у Фонд выдання беларускіх падручнікаў, заснаваны Вінцэнтам і Раісай Жук-Грышкевічамі. Ад 1971 г. быў намеснікам старшыні Рады БНР, хоць і не выяўляў доўгі час у Радзе асаблівай актыўнасці па-за сяброўскімі складкамі.

На пачатку 1990-х Барыс Рагуля заангажаваўся ў дзейнасць па дапамозе ахвярам Чарнобыльскай аварыі. Ён адгукнуўся на ініцыятыву Івонкі Сурвілы па стварэнні адпаведнага фонду і спрыяў аздараўленню беларускіх дзяцей у Канадзе. У ходзе адмысловай акцыі «Аперацыя Беларусь» дзясяткі беларускіх дзяцей прайшлі стаматалагічнае і іншыя абследаванні ў часе свайго побыту ў Канадзе. Акрамя таго, Барыс Рагуля наладзіў сувязі з мінскай дзіцячай стаматалогіяй, сабраў значную суму грошай і перадаў іх на набыццё абсталявання: *«Мы спрычыніліся да гэтага, урад таксама даў сродкі, мы сабралі 60 тысяч даляраў. Нашыя лекары туды езьдзілі і дапамагалі арганізаваць працу паліклінікі»*[481]. Таксама ён дамогся атрымання штогод адмысловай стыпендыі для стажыроўкі беларускіх дантыстаў у Канадзе. Праўда, сам так Беларусь і не адведаў, пабываў толькі ў Вільні.

У часы, калі відавочнай стала няздольнасць Язэпа Сажыча да актыўнай дзейнасці, менавіта Барыс Рагуля ўзяў на сябе рэалізацыю ідэі абнаўлення Рады БНР. І яму сапраўды ўдалося прыцягнуць у Раду новыя сілы, прадстаўнікоў новай эміграцыі і беларусаў з розных рэгіёнаў беларускага замежжа, у тым ліку і постсавецкага. Упершыню Рада адначасова папоўнілася больш як 20 новымі раднымі. Да таго ж Барыс Рагуля ў сярэдзіне 1990-х паспрабаваў зноў пасадзіць за стол перамоваў прадстаўнікоў Рады БНР і БЦР, і хоць

---

[481] http://www.svaboda.mobi/a/790871.html.

прынцыповых вынікаў гэта не мела, сама рашучасць у вырашэнні гэтага пытання вартая павагі.

Нягледзячы на гэткую актыўнасць і наяўнасць безумоўных амбіцый, Барыс Рагуля не пагадзіўся на пасаду старшыні Рады БНР. Як відаць, ён не баяўся браць на сябе адказнасць, тым больш што ў 1990-я ўжо выйшаў на пенсію. Тлумачэнне згаданага парадаксальнага рашэння, магчыма, палягала ў тым, што дзеяч ўсведамляў неадназначнасць успрымання сваёй асобы ў Беларусі. У 1990-я гг., калі стала аднаўляцца цікавасць да БНР і калі Рада магла адыграць пэўную ролю ў працэсах дэмакратызацыі на Бацькаўшчыне, ёй не пайшло б на карысць атаясамленне з Барысам Рагулем як старшынёй. Мінулае часоў Другой сусветнай наўрад ці дадало б і дзеячу, і Радзе прыхільнікаў у Беларусі. Усведамленне гэтага факта і прымусіла Барыса Рагулю адмовіцца ад уласных амбіцый і знайсці для Рады іншага старшыню.

Наогул жа можна лічыць, што Барыс Рагуля паспяхова рэалізаваў сябе і ў прафесійным, і ў сямейным плане. У яго з Людмілай, якую ён шчыра кахаў праз усё жыццё і называў сваім галоўным натхненнем, падтрымкай і апірышчам, выраслі чацвёра дзяцей і ўсе добра ўладкаваліся ў жыцці: *«Дачка працуе настаўніцай у Атаве, адзін з сыноў таксама аддаў сябе пэдагагічнай справе. Двое другіх паехалі ў ЗША, дзе працуюць лекарамі. Іх, канечне, цікавіць, што робіцца ў Беларусі. Аднак такога патрыятызму, як у нашага пакаленьня, у іх няма»*[482]*...*

У 1990-я Барыс Рагуля адгукнуўся на прапанову запісаць ягоныя ўспаміны. У выніку з’явілася кніга «Беларускае студэнцтва на чужыне», следам — праца Лявона Юрэвіча «Жыцьцё пад агнём» на падставе ўспамінаў стваральніка Наваградскага «швадрона» пра жыццё да і падчас Другой сусветнай вайны. У 2005 г. у выдавецтве манрэальскага Універсітэта МакГіл пабачыла свет і англамоўная кніга ўспамінаў Барыса Рагулі «Against the current» («Супраць плыні»). Праўда, сам аўтар, відаць, не паспеў яе пабачыць. Ён памёр 21 красавіка 2005 г. у тым самым канадскім Лондане ў правінцыі Антарыа.

## ЯНКА ЗАПРУДНІК

Ад сярэдзіны 1950-х гг. заўважнае месца ў Радзе БНР займаў Янка Запруднік. Яму неаднаразова прапаноўвалі стаць старшынёй, але ён адмаўляўся, пакідаючы за сабою дзялянку сакратара інфармацыі. І пры гэтым ён рабіў часам болей, як увесь астатні Прэзідыум, проста таму, што меў моцнае пачуццё адказнасці і разуменне важнасці той ці іншай справы або моманту. Гэтае пачуццё, напэўна, уласцівасць характару, а магчыма, і вынік тых жыццёвых сітуацый, у якія дзеяч трапляў ад маладосці і якія выхоўвалі ўсведамленне адказнасці не толькі за сябе, але і за іншых, за беларускую справу.

---

[482] Народжаны ў кашулі. С. 508.

Янка Запруднік (ад нараджэння Сяргей Вільчыцкі) нарадзіўся 9 жніўня 1926 г. у Міры (цяпер Карэліцкі раён). Дзед яго — Сцяпан Вільчыцкі, трымаў сваіх двух сыноў (Міколу, бацьку Сяргея, і Ягора) і іх сем'і моцна пры сабе. Нават пасля яго смерці ў 1937 г. еднасць захоўвалася, хоць і жылі браты ў розных хатах. Пасля прыходу саветаў над Вільчыцкімі павісла пагроза вывазу ў Сібір. 20 чэрвеня 1941 г. сям'ю дзядзькі Ягора нават забралі на станцыю, але, агледзеўшыся, што гэта толькі частка Вільчыцкіх, спыніліся. Пачатак нямецкага наступу і зусім зблытаў планы НКУС. У выніку Сяргей Вільчыцкі змог у 1942 г. скончыць у Міры школу і паступіць у прагімназію ў Баранавічах, а далей — у гандлёвую школу тамсама.

Улетку 1944 г. за плячыма быў трэці курс школы, а наперадзе няпэўнасць. Набліжаўся фронт і сябрам Саюза беларускай моладзі вяртанне савецкай улады не абяцала нічога добрага. 30 чэрвеня, нават не заязджаючы ў Мір, каб развітацца з бацькамі, Сяргей Вільчыцкі выехаў з Баранавічаў на Захад. Разам з сябрам Вадзімам Сурко для выезду ён запісаўся ў дапаможную службу Люфтвафэ: *«Пераначавалі мы ў Альбэртыне ў лягеры вышкаленьня беларускіх юнакоў. Там назаўтра нам далі ўніформу нямецкіх "памочнікаў авіяцыі" (Luftwaffehelfer), пасадзілі на цягнік і — бывайце бацькі й сябры, бывай малая й вялікая Бацькаўшчына, бывай, увесь мой сусьвет! Апрача Міра ды Баранавічаў, я нідзе ня быў. Зьведаў толькі адзін раз на школьнай экскурсіі Стоўпцы, за 20 кілямэтраў ад Міра, ды пару разоў езьдзіў з бацькамі на сенакос над Нёмнам, што знаходзіўся за 14 кілямэтраў ад дому»*[483].

Адысея пачалася з будавання баракаў пад Уроцлавам, потым навучання абыходжанню з зеніткамі ды супрацьтанкавай зброяй у розных вайсковых адзінках. За месяц да капітуляцыі немцы дазволілі далучыць беларускіх хлопцаў-«памочнікаў» да дывізіі «Беларусь» пад кіраўніцтвам Франца Кушаля. Так, разам з іншымі ў канцы красавіка 1945 г. у Баварыі каля горада Кам Сяргей Вільчыцкі трапіў у палон да амерыканцаў. Кам — Рэгенсбург — Плятлінг: 13 месяцаў палону: *«Там, седзячы за дротам у балоце, мы зь Дзімам упяршыню даведаліся, што гэта — сапраўдная смага (без вады пасьля салёнае кансэрвы); атрымалі некалькі разоў ад сваіх амэрыканскіх ахоўнікаў па сьпіне дошкаю: трэба было прабягаць паміж радоў скрынак з кансэрвамі, хапаць працягнутую табе амэрыканцам банку й тут жа ад другога атрымліваць удар дошкаю па сьпіне. Гэтак разраджалася напружаньне ў пераможцаў, якое накапілася за гады вайны»*[484].

Ад рэпатрыяцыі выратавала нараджэнне на польскай тэрыторыі. Іншыя ваеннапалонныя былі адпраўленыя на Усход, а Сяргей з сябрамі ў канцы траўня 1946 г. былі вызваленыя і атрымалі права бясплатна праехаць цягнікам у любы пункт амерыканскай акупацыйнай зоны. Быў абраны Рэгенсбург, дзе

---

[483] Запруднік, Янка. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць аб дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946–1957 гг.). Нью-Ёрк: БІНіМ, 2002. С. 21.

[484] Запруднік, Янка. Дванаццатка… С. 22.

на той час ужо існаваў беларускі лагер для перамешчаных асобаў. Праўда, былых ваеннапалонных у такія лагеры не прымалі, таму, каб далучыцца да «сваіх», давялося змяніць прозвішча. У выніку замест Сяргея Вільчыцкага з'явіўся Янка Запруднік, а сябра Вадзім Сурко стаў Уладзімірам Цвіркам. Так пачалося лагернае жыццё.

У Рэгенсбургу, а пазней і ў Міхельсдорфе, куды пераехаў беларускі лагер, хлопец атрымаў магчымасць зноў вучыцца. Тут дзейнічала Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, Янка Запруднік скончыў яе ў 1947 г. У часе навучання была цікавасць і да спартовых заняткаў, скаўтынгу і іншага. Аднак найвялікшым жаданнем з'яўлялася атрыманне вышэйшай адукацыі, справа якой ускладнялася адсутнасцю сродкаў. Так паўстала ідэя выехаць на заробкі ў Вялікабрытанію і паўстала знакамітая «Дванаццатка», гісторыя якой добра выкладзеная ў адпаведнай кнізе.

Можна ўявіць, наколькі моцным было жаданне вучыцца і вялікім — энтузіязм у тых дванаццаці маладых хлапцоў, каб выправіцца на цяжкую працу ў вугальныя капальні: *«Па сямёх тыднях трэнінгу мы навучыліся хадзіць пад зямлёй так, каб ня стукацца галавою ў папярэчкі, набылі крыху навыкаў з кіркаю, шуфлем, ваганэткамі, узрыўчаткай, пракладаньнем рэек ды рознымі прыхваткамі вуглякопскай прафэсіі. Цяжка было прывыкнуць трымаць сэрца на сваім месцы ў часе, калі ліфт, апускаючыся ў шахту, пасьля кароткага павольнага руху, раптам правальваўся ў бездань. За два зь нечым гады чалавек так і ня прывык да гэтага ныраньня ў прорву…»*[485].

Яшчэ больш уражвае тое, наколькі вялікае было імкненне рабіць нешта беларускае, прыкладам — выдаваць часопіс. Сёння нумары таго часопіса «Наперад!», друкаванага на заробленыя, заашчаджаныя ўласныя грошы, у вольны ад цяжкай працы час, успрымаюцца як помнік моладзевага энтузіязму і трывалай нацыянальнай самасвядомасці. А рабілі яго звычайныя хлопцы, са сваімі звычайнымі жыццёвымі патрэбамі. *«Я працую ўжо на акорд. Праца цяжэйшая. Прыходзіцца часам прапацець да нітачкі. Заробак крыху лепшы. Цяпер ужо буду працаваць чатыры дні на тыдзень, а дзень у школе. Магу пазволіць сабе два разы на ўікэнд у кіно, а рэшта часу — часапіс, навука, карэспандэнцыя й сяды-тады што-небудзь грамадзкае. Ну, бачыш, што няма калі пра душу думаць, ня то што пра поўную, але й пра пустую»*[486]…

У 1948 г. жыццё ў паваеннай Брытаніі не было асабліва лёгкім, як і праца ў вугальных капальнях Сярэдняй Англіі. Але ў Янкі Запрудніка, як і іншых хлопцаў «Дванаццаткі», хапала сілаў і на выданне часопіса, і на грамадскую дзейнасць, арганізацыю ці ўдзел у нацыянальных імпрэзах, рэпрэзентацыю беларусаў перад брытанцамі ці прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў. Тут жа былі спробы займацца і паэтычнай творчасцю, вынікі чаго можна знайсці на старонках таго ж часопіса «Наперад!» — вершы пад псеўданімам Сяргей Ясень належаць Янку Запрудніку.

---

485 Запруднік, Янка. Дванаццатка… С. 68.
486 Запруднік, Янка. Дванаццатка… С. 78.

Недзе праз год пасля прыезду ў Брытанію ў сябраў з’явілася і надзея на паступленне ва ўніверсітэт. Праўда, не ў гэтай краіне, а ў бельгійскім Лювене. Намаганнямі Барыса Рагулі ўдалося забяспечыць сябрам «Дванаццаткі» не толькі месцы студэнтаў, але і візы ды магчымасці пераезду.

У сакавіку 1950 г. Янка Запруднік апынуўся ў Лювене, каб пачаць навучанне на гістарычным факультэце Каталіцкага ўніверсітэта. *«Абставіны й атмасфэра ў Лювэне былі вельмі спрыяльныя добраму настрою й адчуваньню пэрспэктывы. У роскашы мы ня жылі, але матарыяльна былі забясьпечаныя — кватэрай, харчамі, невялікімі грашыма на неабходныя разьезды, штодзённыя патрэбы ды сякі-такі культурны адпачынак.*

*Трэба сказаць, што мы, дванаццаткаўцы, адразу ж як бы растапіліся ў шырэйшай грамадзе. Ужо не праводзілі сваіх традыцыйных зборак, ня было гутаркі пра “трыё”, не засядала рэдкалегія “Напераду”. Справа выдаваньня часапісу наагул прыціхла дзеля занятасьці іншымі безадкладнымі заданьнямі. Засталося між намі толькі цеснае сяброўства й аднадумства, якое давала сябе адчуць часамі на нашым шырэйшым студэнцкім форуме, на якім, пэўна ж, не абыходзілася без разыходжаньняў і груповак»*[487]. Праўда, адаптаваўшыся да вучобы і студэнцкага побыту, сябры аднавілі і выданне часопіса, і ранейшую грамадскую актыўнасць — загуло беларускае жыццё. Быў заснаваны Беларускі студэнцкі хор пад кіраўніцтвам Міколы Равенскага, праваслаўны прыход. Ладзіліся нацыянальныя мерапрыемствы, канцэрты (прычым не толькі ў Лювене). Актыўная жыццёвая пазіцыя трымала Янку Запрудніка ў цэнтры арганізацыі студэнцкага жыцця.

*«У нас тут старая баланда: ладзім вечары, паседжаньні; ходзім ад часу да часу на рэфэраты, у кіно, у кафэйку; залажылі нядаўна новую арганізацыю, ці лепш сказаць, прадоўжылі сваю студэнцкую — колішнія лювэнскія студэнты, цяпер дыплямаваныя дахтары й інжынэры, згуртаваліся ў сваё собскае стада й назвалі сябе “Акадэмікусам”. Падумаць толькі, што й нас гэткі лёс чакае… Да нас мае прыехаць недзе ў палавіне сакавіка сп. Конюх з Рыму, каб нам памагчы сваім басам справіцца з канцэртамі. Ну вось, крышку разрыўкі будзе.*

*Калі разлічуся із студыямі насуха, дык магчыма пад’еду ў Мюнхэн. Але да гэнага шчасьця яшчэ прыдзецца шмат мазгоў пасушыць, бо ні экзаменаў, ні мэмуару /дыплёмнай працы/ абмінуць ня ўдасца»*[488].

У Лювене, рыхтуючы дыпломную працу на тэму Люблінскай уніі, Янка Запруднік упершыню спрабаваў сябе ў навукова-даследчай працы. Збіраючы матэрыялы ў бібліятэках Парыжа, Бруселя, Рыма і іншых, ён спадзяваўся, што і доктарскую будзе пісаць па той самай тэме ў хуткім часе. Аднак лёс вырашыў інакш.

---

[487] Запруднік, Янка. Дванаццатка… С. 117–118.

[488] Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны. Мае лісты 1952–1959 гг. Універсітэт у Бельгіі, газета «Бацькаўшчына», радыё «Вызваленне / Свабода» ў Мюнхене і Нью-Ёрку. Мінск: Лімарыус, 2015. С. 50.

Яшчэ дапісваючы дыпломную, малады чалавек атрымаў запрашэнне на працу ў нядаўна створанай Беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне» ў Мюнхене.

*«Ну вось і новы парог перад носам. Фармальна, праўда, справа яшчэ не зусім скончана, але прадчуваю, што трэба ставіць яшчэ адну кропку й пачынаць новы сказ зь вялікае літары.*

*Сяньня здаў дыплёмную працу (якраз пасьпеў на апошні дзень). Дэлібэрацыя*[489] *будзе недзе за два-тры тыдні, але я яе й чакаць ня буду, бо трэба выяжджаць у Мюнхэн.*

*Учора зь Мюнхэну атрымалі вельмі сумную вестку: трагічная сьмерць сябры Карася /Леаніда/, які працаваў галоўным сьпікерам у беларускай сэкцыі радыё "Вызваленьне". Прычыны забойства пакуль што невядомыя, але ўся гэтая справа мае выразныя рысы палітычнага тэрору. Гэтая балючая страта сябры кранае ўсіх нас невымоўным жалем, але не застаецца нічога іншага, як заступіць яго пастолькі, паколькі гэта наагул магчыма»*[490].

Як толькі разлічыўся з універсітэтам, Янка Запруднік выехаў у Нямеччыну і акунуўся ў адносна новы для сябе занятак — радыйную справу: *«Восем гадзін адседжваю на працы. Маю доступ да "Звязды" й "Советской Белоруссии" й крыху часу, каб займацца імі. Спэцыялізуюся на беларускіх пытаньнях (савецкіх), і запраўды працаваць ёсьць над чым. Работа ў радыё бывае часам банальная, але з усіх магчымых магчымасьцяў, уважаю, гэтая пакуль што найлепшая для далейшага фармаваньня ведаў»*[491].

Аднак займацца выключна працай на радыё ініцыятыўнаму маладому чалавеку было немагчыма. У выніку ўзаемазвязанымі аказаліся праца і на радыё, і ў газеце «Бацькаўшчына», а таксама намаганні актывізаваць беларускае грамадскае жыццё. *«Думаў з новага году пачаць крыху з дактаратам вазіцца, дык мусіць прыдзецца адлажыць, хоць буду старацца не зацягваць надоўга з чаканьнем. Па самой працы ў радыё, дык можна было б і жыць яшчэ, але ж тут сорак спраў зараз і хвароба яе ведае, за якую хватацца. Дык вось усяго пакрысе й турзаю: то скрыпт на радыё пішу, то кампіляцыю якую ў "Бацькаўшчыну", то ліст ад імя расшатанае адміністрацыі, то яшчэ якую трасу»*[492]. Янка Запруднік зноў апынуўся ў цэнтры арганізавання беларускага жыцця: то ён ладзіў вялікі беларускі канцэрт на 25 Сакавіка ў Мюнхене, то выдаваў калядныя паштоўкі… Узяўся за занядбаную адміністрацыю газеты «Бацькаўшчына», часам даводзілася самому і тэксты пісаць, і займацца тэхнічнай падрыхтоўкай нумара, каардынаваць рассылку кніг, выдаваных у Мюнхене. У шматлікіх лістах Янкі Запрудніка з таго часу пастаянна прысутнічае матыў няспыннай занятасці: *«На гэты месяц назьбіралася столькі справаў, што аж галава кружыцца, бо ня ведаю, за*

[489] Цырымонія фармальнага заканчэння курса навучання.
[490] Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны… С. 59–60.
[491] Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны… С. 64.
[492] Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны… С. 68.

*што ўзяцца. Да Сакавіка хочам падрыхтаваць таксама салідны зьместам і падвойны нумар "Бацькаўшчыны", а тут з матар'ялам хоць ты гвалт крычы. Збоку прысылаюць вельмі мала, і баюся, каб не заламацца. [...] Што ж, трэба лезьці із скуры, каб ратаваць сытуацыю. Стась робіць запраўды, як вол, а мы да баразны яшчэ ніяк не прывыклі, хоць таксама не разгонішся пры гэтай нагрузцы. За месяцаў пару сытуацыя палегчае, але ж, каб тады з другога канца вяроўка не парвалася...»*[493].

Нельга было забывацца і на асабістае жыццё. Яшчэ ў Лювене Янка Запруднік заручыўся з даўняй сваёй сяброўкай Вольгай Харытончык. Напрыканцы 1954 г. яны ажаніліся, а праз год нарадзілася першая дачка Ніна. З'явілася болей клопатаў, але і працы не паменшала. Мары пра дактарат заставаліся нерэалізаванымі. *«Бяда адна, што тут такая навала працы, што й дыхнуць няма калі. Я, калі ехаў у Мюнхэн, дык думаў за якія два гады зрабіць тут свой дактарат, аднак цяпер аказваецца, што, калі так і далей будзе, дык нічога не зраблю. Адна толькі газэта займае палову вольнага часу»*[494].

З часам прыйшло ўсведамленне неабходнасці больш сур'ёзна вызначацца з ўласнай будучыняй. Побыт у Мюнхене, нягледзячы на наяўнасць сталай працы, успрымаўся ўсё ж як часовы. Усё больш думалася пра далейшую навуковую працу. Тым больш што прыйшло ўсведамленне: няспынная ўласная занятасць — справа зусім не часовая. *«Я як успомню пра вечны лювэнскі галёп, а цяпер як пагляджу на гэткі ж мюнхэнскі, дык прыходжу да высновы, што галёп гэты не ў абставінах, а ў натуры самога чалавека ляжыць»*[495].

У 1957 г. Янку Запрудніку ўдалося вырвацца з «мюнхенскага галопу», каб перабрацца ў «нью-ёркскі». 20 сакавіка 1957 г. разам з сям'ёй ён пераехаў у ЗША. Тут адпачатку не было сталай працы, але ледзь не ад наступнага пасля прыезду дня Янка Запруднік ужо меў занятак — рыхтаваць інтэрв'ю з беларусамі для радыё. Да таго ж ён працягваў пісаць для газеты «Бацькаўшчына» і для мюнхенскага Інстытута вывучэння СССР. Адначасова актыўна абжываўся у грамадскім жыцці. Яго энергічнасць звяртала ўвагу суайчыннікаў і амаль адразу стала ўздымацца пытанне абраць Янку Запрудніка старшынёй Беларуска-амерыканскага задзіночання. Але прагматызм усё ж перамог.

У лісце да прэзідэнта БНР Міколы Абрамчыка дзеяч пісаў: *«Апошнім часам даведаўся, што маю кандыдатуру фарсуюць на старшыню БАЗА. Уважаю, што гэта зашмат. Ад грамадзкае працы я ніколі не ўцякаў, але што зашмат, то зашмат. Тут жа атмасфэра такая, што будуць вярнуць столькі, колькі прыймаць будзеш, і таму я арганізую сабе цяпер абарону. Выбары мяне на старшыню БАЗА былі б крокам вельмі нерацыянальным і неразумным. Ад грамадзкае работы я так ці йнакш нідзе ня дзенуся, але затое нехта іншы ўвільне ад яе — гэта раз. А па-другое, я магу рабіць рэчы, якіх іншы ня зробіць. Адначасна я хачу тут заняцца крыху малодшымі, у*

493 Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны... С. 78.
494 Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны... С. 140.
495 Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны... С. 70.

*якіх справы йдуць надзвычай туга. У такім паглядзе на справу я пераканаў Адамовіча, Шукелайця, Тулейку і буду пераконваць увесь кангрэс БАЗА, калі там дойдзе да мае кандыдатуры на старшыню або ў управу (мяне ўжо ўсьпелі тут дэлегатам на гэты кангрэс выбраць). Калі не паможа пераканаьне, я проста катэгарычна адмоўлюся, бо я хачу рабіць урэшце тое, што мне падабаецца і што я лічу патрэбным, а ня тое, што мне накідаюць (у Мюнхэне, прыкладам, абставіны на мяне накідалі шмат работы тэхніча-адміністрацыйнае, але тут — ня Мюнхэн). Я ўважаю так, што калі б мне ўдалося зрабіць па лініі супрацоўніцтва з Інстытутам добрую працу з галіны нашае гісторыі (цікавіць мяне асабліва апошні пэрыяд яе — канец XIX і XX ст.), дык гэта магло б мне адкрыць дарогу, ці прынамся аблягчыць яе, у кірунку да амэрыканскіх дасьледніцкіх установаў»*[496].

Хутка сям’я Запруднікаў папоўнілася яшчэ адной дачкой Верай, а Янка атрымаў сталую працу ў Амерыканскім камітэце вызвалення, а таксама на падрыхтоўцы беларускіх радыёперадачаў у Нью-Ёрку (тут працаваў да 1991 г.). У грамадскім плане дзеяч вырашыў актывізаваць мясцовую моладзь, а таксама ўзяўся за выданне адпаведнага часопіса «Беларуская моладзь». У 1960 г. ён ініцыяваў выданне марак, прысвечаных угодкам Слуцкага паўстання. Акрамя таго, працягваў пісаць тэксты для газеты «Бацькаўшчына» і пачаў для газеты «Беларус», удзельнічаў у працы БІНіМа, БАЗА, ЗБМА, Рады БНР. Здаецца, што гэткая актыўнасць не зусім рэальная для аднаго чалавека. Але бібліяграфія з больш як 400 артыкулаў, а таксама пратаколы розных арганізацый пацвярджаюць — усё магчыма:

*«Я. Запруднік паінфармаваў пра сваю дзейнасьць як сакратара інфармацыі Рады БНР, зазначыўшы, што ў некаторых выпадках цяжка правесьці лінію падзелу між работай яго як сакратара і як прыватнае адзінкі, калі да яго зварачаюцца чужынцы або свае па матэрыялы пра Беларусь.*

*Галоўнае, што было зроблена па лініі інфармацыі, гэта:*

*1. Удзел у беларускім замежным друку (з артыкуламі й матэрыяламі да гісторыі й справы БНР) “Запісы БІНІМ”, “Беларус”, “Навіны зь Беларусі”, “Беларуская Моладзь”, а таксама адмысловыя выданьні Рады БНР (“Бюлетэнь Рады БНР” і інш.).*

*2. Выданьне супольна з др. Жуком-Грышкевічам лістоўкі да “Экспо-67”*[497]*, рыхтаваньне рэзалюцыяў пры нагодах кангрэсаў і сьяткаваньняў ды іншага інфармацыйнага матэрыялу пра Беларусь для англамоўнае публікі.*

*3. Асабісты ўдзел у вядзеньні кангрэсаў, зьездаў і культурна-асьветных урачыстасьцяў.*

---

[496] Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам Старшынём Рады БНР // Запісы БІНіМ. № 33. Нью Ёрк — Менск, 2010. С. 248.

[497] Маецца на ўвазе ўлётка *«Byelorussian Brainwashing at EXPO 67»*, якая распаўсюджвалася на Сусветнай выставе ў Канадзе. Галоўная ідэя: Беларусь — калонія Расіі.

*4. Дбаньне аб належным інфармаваньні беларускага грамадзтва на бацькаўшчыне праз заходнія радыястанцыі.*

*5. Дапамога беларускім эміграцыйным асяродкам у ладжаньні нацыянальных сьвяткаваньняў праз пасыланьне ім рэфэратаў і літаратурна-музычных праграмаў на магнітафонных істужках.*

*6. Дапамога навуковым матэрыялам беларускім і іншанацыянальным дасьледнікам беларускага пытаньня»*[498].

З часам у ЗША атрымалася заняцца нарэшце і доктарскай дысертацыяй. Першапачаткова тэма меркавалася як «Першая сусветная вайна і рэвалюцыя», але з часам, са знаходкаю адпаведных дакументаў праца пераарыентавалася на палітычную барацьбу за Беларусь у расійскай Дзяржаўнай думе (*«Political struggle for Byelorussia in the tsarist State Dumas (1906–1917)»*). Абароненая дысертацыя была ў 1969 г. ва Універсітэце Нью-Ёрка. У гэты ж час, 1967–1975 гг., паралельна з працай на радыё, Янка Запруднік чытаў курс гісторыі Беларусі ў Куінз-каледжы Нью-Ёркскага ўніверсітэта, а таксама ў Калумбійскім універсітэце.

У 1963–1969 гг. Запруднік рэдагаваў перыёдык «Навіны зь Беларусі» (агляд савецкага друку), што выходзіў у Нью-Ёрку як выданне Амерыканскага камітэта вызвалення (пазней Камітэта Радыё «Свабода»). Усяго пабачылі свет 143 нумары. На пачатку 1970-х ён заснаваў выданне англамоўнага бюлетэня *«Facts on Byelorussia»*, пазней рыхтаваў англамоўныя старонкі ў газеце «Беларус». Пасля смерці Станіслава Станкевіча ў 1981 г. дзеяч узяў на сябе цалкам рэдагаванне газеты «Беларус» і цягам чатырнаццаці гадоў займаўся і гэтай справай.

Нягледзячы на пастаянную занятасць, якую пацвярджае і багатая карэспандэнцыя, Янка Запруднік паступова, мэтаскіравана рэалізоўваў свае навуковыя планы, ішоў да сваіх мэтаў. У 1980 г. ён сумесна з Томасам Бэрдам выдаў каментаваныя тэксты «Мужыцкай праўды» і «Лістоў з-пад шыбеніцы»[499]. У 1982 г. з’явілася невялікая брашура «Спадчына бацькоў “Агледзіны”» да 100-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа[500]. Пазней ужо ў Беларусі выйшаў адмысловы «эміграцыйны» выпуск зборніка «З гісторыяй на “Вы”», укладзены Янкам Запруднікам[501].

---

[498] Пратакол 10-ае Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, праведзенае 13-га красавіка 1968 г. у Нью Ёрку // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 363–364.

[499] Паўстаньне на Беларусі 1863 году: «Мужыцкая Праўда» й «Лісты з-пад шыбеніцы» = The Uprising in Byelorussia: «Peasants’ Truth» and «Letters from beneath the Gallows». Тэксты й камэнтары. Нью Ёрк: Фундацыя ймя Пётры Крэчэўскага, 1980. — 71 p.

[500] Запруднік, Янка. Спадчына бацькоў: «Агледзіны». Да 100-годзьдзя ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Нью-Ёрк: Беларус, 1982. — 30 с.

[501] З гісторыяй на «Вы»: Артыкулы, дакументы, успаміны / укладанне і ўводнае слова Я. Запрудніка. Вып. 3. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — 348 с.

Яшчэ ў 1950-я ён згадваў пра жаданне напісаць англамоўную папулярную гісторыю Беларусі. З часам выйшлі *«Belarus at a Crossroads in History»* — «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях» (1993 г. — па-англійску, 1996 г. — па-беларуску), а таксама «Гістарычны слоўнік Беларусі» («*Historical dictionary of Belarus*», 1998).

На пачатку 1990-х Янка Запруднік упершыню наведаў Беларусь. Дапамаглі навуковыя кантакты. З кожным наступным наведваннем іх рабілася ўсё болей. А паездкі былі гэткімі ж насычанымі, распісанымі па гадзінах, як і амерыканскае жыццё. Ён удзельнічаў у навуковых канферэнцыях, з’ездах беларусаў свету, зразумела, адведваў сваякоў.

Напэўна, толькі ад сярэдзіны 1990-х інтэнсіўнасць працы паменшала. На гэты час адбыліся змены і ў асабістым, і ў прафесійным плане. У 1987 г. пасля цяжкай хваробы памерла жонка Вольга. У 1991 г. скончылася праца на радыё: Янка Запруднік выйшаў на пенсію. У 1995 г. у жыцці з’явілася новая спадарожніца Надзея Кудасава. Разам з тым інтэлектуальная дзейнасць працягвалася. Выйшаў альбом «Беларускія мастакі ў замежжы»[502], кніга, прысвечаная «Дванаццатцы», пазней «Беларускім фестывалям»[503]… Паміж гэтым артыкулы, публікацыі, канферэнцыі, з’езды, падарожжы…

Некаторыя шкадавалі, што за журналісцкай ды грамадскай актыўнасцю Янка Запруднік закінуў паэтычную творчасць, іншыя наракалі, што праз тое самае менш, чым мог бы, зрабіў як навуковец. Аднак разам з тым ён стаўся адным з сапраўдных апірышчаў беларускага жыцця на Захадзе. На ім завязваліся самыя розныя справы, ён падтрымоўваў і высоўваў самыя розныя ініцыятывы, праз яго адбываліся кантакты метраполіі з дыяспарай. Ён, побач з сям’ёй Кіпеляў, стаў адным з тых важных камянёў, на якіх трымалася беларуская дзейнасць у ЗША.

Змест свайго жыцця Янка Запруднік акрэсліў у адным інтэрв’ю, дадзеным у Беларусі ў 1993 г.: *«Я знайшоў сэнс жыцця ў службе свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне, беларускай справе. Гэта надае майму жыццю дамэтнасць і прыносіць духовае задавальненне»*[504]…

---

502 Запруднік, Янка. Беларускія мастакі ў замежжы = Belarusan artists abroad: Памяткавы альбом пра 25 гадавых выставаў беларускага мастацтва і народных вырабаў у Беларускім грамадзкім цэнтры ў Саўт-Рывэры (1973–1997 гг.). Bridgewater; Somerset, 2001. — 52 с.

503 Zaprudnik, Jan. Belarusian festivals and exhibitions in New Jersey: political information through the language of art (1948—2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948—2011 гг.). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. — 198 p.

504 Янка Запруднік: «Я знайшоў сэнс жыцця ў службе свайму народу» // Голас Радзімы. № 25 (2375). 23.06.1993. С. 3.

*Раздзел VII*

# ХРОНІКА ДЗЕЙНАСЦІ РАДЫ БНР (1982–1997)

*Хроніка складзеная на падставе дакументаў Рады БНР, а таксама публікацый «Камунікатаў Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі» і газеты «Беларус».*

**27 лістапада 1982 г.** — 17-я сесія Рады БНР, што адбывалася ў памяшканні Фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью-Ёрку, абрала старшынёй Рады БНР Язэпа Сажыча. Прысутнічалі 23 радных, што рэпрэзентавалі сектары Рады БНР у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Францыі, Бельгіі, Заходняй Нямеччыне і Вялікабрытаніі.

**15 студзеня 1983 г.** — Канадскі сектар Рады БНР наладзіў у царкоўна-грамадскім цэнтры ў Таронта сустрэчу з новаабраным старшынёй Рады БНР.

**10 красавіка 1983 г.** — старшыня Рады і першы заступнік др. Б. Рагуля наведалі Жук-Грышкевічаў у Бэры (Канада). Вінцэнт Жук-Грышкевіч перадаў Я. Сажычу пячатку, бланкі, спісы радных і іншыя дакументы.

**3 верасня 1983 г.** — пасяджэнне Прэзідыума Рады БНР у Нью-Брансвіку (Нью-Джэрсі), на якім былі разгледжаныя арганізацыйныя, фінансавыя і палітычныя пытанні Рады БНР.

**15 кастрычніка 1983 г.** — пасяджэнне сябраў Прэзідыума і радных БНР з Еўропы (Англіі, Францыі, Нямеччыны і Іспаніі) у Лондане ў прысутнасці Язэпа Сажыча. Пазней таксама спатканне і нарада старшыні Рады БНР з падсектарам у Бельгіі і адведанне Ніны Абрамчык у Парыжы.

**1 верасня 1984 г.** — нарада сябраў Рады БНР у часе Сустрэчы беларусаў Амерыкі ў Кліўлендзе (Агаё).

**10 кастрычніка 1984 г.** — удзел Я. Сажыча ў спатканні з прэзідэнтам ЗША Рональдам Рэйганам у Дэтройце (Мічыган).

**16 лістапада 1984 г.** — старшыня Рады БНР з сябрамі Прэзідыума прысутнічалі на ўрачыстасці адзначэння 65-х угодкаў Урада УНР у выгнанні.

**20 лістапада 1985 г.** — спатканне Я. Сажыча з прэм’ерам польскага эміграцыйнага ўрада Казімежам Сабатам.

**30 жніўня 1986 г.** — 18-я сесія Рады БНР, што адбывалася ў беларускім цэнтры «Полацак» каля Кліўленда (штат Агаё). Прысутнічаў 31 радны.

**28 траўня 1988 г.** — 19-я сесія Рады БНР, што адбывалася ў памяшканні Фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью-Ёрку. Прысутнічалі 20 радных.

**28 лістапада 1988 г.** — пасяджэнне сектара Рады БНР у Нью-Джэрсі.

**27 траўня 1990 г.** — у царкве Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку адбылася паніхіда ў памяць прэзідэнта Міколы Абрамчыка. У жалобнай акадэміі выступалі: Я. Сажыч, А. Шукелойць, Я. Запруднік.

**Лета 1991 г.** — у часе святкавання Тыдня паняволеных народаў у Мічыгане Язэп Сажыч меў магчымасць спаткацца з Джорджам Бушам.

**24 траўня 1992 г.** — 20-я сесія Рады БНР, што адбывалася ў памяшканні Фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью-Ёрку.

**28 лістапада 1992 г.** — пашыранае пасяджэнне Прэзыдыума Рады БНР у Нью-Ёрку.

**Сакавік–красавік 1993 г.** — візіт Я. Сажыча ў Мінск. Удзел у святкаванні 25 Сакавіка.

**28 траўня 1994 г.** — 21-я сесія Рады БНР, што адбывалася ў памяшканні Фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью-Ёрку.

**4–5 ліпеня 1997 г.** — 1-я сесія Еўрапейскага сектара Рады БНР у Вільні.

**30–31 жніўня 1997 г.** — 22-я сесія Рады БНР, што адбывалася ў Нью-Брансвіку (Нью-Джэрсі).

# ІМЕННЫ ПАКАЗНІК

# ЗМЕСТ

**Гардзіенка, Н.**
Г20 Рада БНР (1982–1997) : Падзеі. Дакументы. Асобы / Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 224 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 28).
ISBN 978-985-7119-91-2.

Кніга «Рада БНР (1982–1997): Падзеі. Дакументы. Асобы» (28-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») прысвечана дзейнасці беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва ў эміграцыі часоў кіравання Язэпа Сажыча (1917–2007). Выданне з'яўляецца храналагічным і зместавым працягам папярэдніх: «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы» (Мінск, 2013) і «Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы» (Мінск, 2014). Тут публікуюцца пратаколы, дакументы з дзейнасці Рады БНР 1980-х — пачатку 1990-х гг., ліставанне, бібліяграфія, хроніка, біяграфічныя нарысы пра асобных дзеячаў. Гістарычны нарыс адлюстроўвае асноўныя кірункі і праблемы працы беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва на эміграцыі ў даволі складаны і супярэчлівы перыяд, калі эміграцыйныя ўрады суседніх народаў спынілі сваё існаванне.

**УДК 329(476)"1982/1997"(093.2)**
**ББК 66.68(4Беи)**

Навукова-папулярнае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны
Кніга 28

**Гардзіенка** Наталля, **Юрэвіч** Лявон

**Рада БНР (1982–1997):**
*Падзеі. Дакументы. Асобы*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Наталля Гардзіенка
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Дызайн вокладкі Анатоля Лазара
Карэктар Міраслава Шавыркіна

Падпісана да друку 14.10.2015. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 37,67. Ул.-выд. арк. 13,74.
Наклад 200 асоб. Замова 445.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.